# Маладосць

**6**

**Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны ілюстраваны часопіс**

**(679) ЧЭРВЕНЬ, 2010**

**Выдаецца з 1953 года**

Галоўны рэдактар
**Раіса БАРАВІКОВА**



**Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова**
**«Літаратура і Мастацтва», г. Мінск**

## У НУМАРЫ:





Тэхнічнае рэдагаванне і камп'ютэрная вёрстка *Святланы СТАРАВЕРАВАЙ*
Стыльрэдактар *Яна ЯВІЧ*

Рэдакцыя не ўступае ў перапіску з чытачамі, не рэцэнзуе і не вяртае дасланыя рукапісы.
Пры передруку спасылка на «Маладосць» абавязковая.

Адрас рэдакцыі: 220005, Мінск, пр. Незалежнасці, 39. Тэлефоны: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72.

Падпісана да друку 06.06.2010. Фармат 84×108 $^{1}/_{16}$. Папера афсетная. Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 15,12.
Ул.-выд. арк. 14,70. Тыраж 2553 экз. Заказ 1363.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79.
ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009 г.

Часопіс «Маладосць» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі РБ. Рэг. нум. 16.


**maladost@bk.ru**

**Заснавальнікі — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;**
**грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;**
**рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»**



# ФОРМУЛА ПАЧАТКУ ДЛЯ ПРАЦЯГУ

*Амаль заўжды пасля чарговага працоўнага адпачынку штосьці здараецца... Вяртаешся ў Мінск, а тут і вестка... На гэты раз — сумная. У Маскве пайшоў з жыцця паэт Андрэй Вазнясенскі. З яго імем звязана цэлая эпоха, найперш у расійскай паэзіі, але гэтая эпоха нейкім чынам тычыцца і нас. Ва ўсялякім выпадку, старэйшых пакаленняў айчыннай літаратуры, чыё станаўленне адбывалася ў былой агульнай краіне СССР. Туды, у тое даўно прамінулае жыццё і вяртаюся гэтымі днямі, згадваючы, што тымі часамі Андрэй Вазнясенскі часта наведваў Беларусь, і не толькі дзеля літаратурных вечароў у філармоніі, куды даводзілася літаральна прарывацца. Славуты паэт Расіі неаднойчы прыязджаў у нашу краіну проста на адпачынак, вельмі цаніў і любіў паэзію Рыгора Барадуліна, ды, напэўна, і сябраваў з ім, тут, як правіла, спрацоўвае прынцып — магутны талент шукае магутнага таленту. У тую ўжо далёкую эпоху былі плеяды, сузор'і магутных талентаў, як у рускай паэзіі, гэтак і ў нашай, пра што нярэдка цяпер згадваюць як пра феномен. А можа, за гэтым феноменам хаваецца нейкая заканамернасць?*

*Што я маю на ўвазе? Паглядзела адну з тэлеперадач, прысвечаных Андрэю Вазнясенскаму, дакладней яе паўтор, таму што перадача была запісана ў 2002 годзе, дзе паэт чытаў свае вершы, а пра яго творчасць і вытокі гэтай творчасці разважалі знакамітыя рэжысёры Юрый Любімаў і Марк Захараў ды пісьменнікі з эпохі Вазнясенскага. Так, паэзія — энергія (трэба думаць, касмічнага паходжання, той самы Божы дар), і нават не кожны паэт носіць у сабе гэтую энергію, таму і знікаюць многія імёны пасля свайго зямнога жыцця, але я зусім не пра гэта. Як гэта ні дзіўна, фенаменальнаму ўзлёту цікавасці да паэзіі, увогуле да літаратуры і ўсяго мастацтва папярэднічае цёмная, змрочная формула пачатку... Гэтак было ў сярэднявеччы: пасля страшных часоў інквізіцыі — эпоха Адраджэння. Творы мастакоў той эпохі і ў нашым часе, па вялікім рахунку, не маюць цаны. Ды і ў больш блізкім да нас часе. Некалькі дзесяцігоддзяў забаранялася згадваць не тое што творы, нават імёны Пастарнака, Ахматавай, Булгакава, Ясеніна, Зошчанкі... Але ж існуе ісціна: напісанае застаецца! Сотні разоў адкуль заўгодна выкрэслі імя, але за гэтым імем — творчы багаж, і ён рана ці позна дойдзе да чытача. Тым больш што і сам чытач прагна чакае гэтага: забаронены ж плод салодкі! У часы так званай хрушчоўскай адлігі адчыніліся ўсе шлюзы. І адразу ж адбыўся маленькі сусветны выбух цікавасці да літаратуры, які распаўсюдзіўся і на іншыя краіны, ва ўсялякім выпадку сацыялістычнага лагера. Помню, у сярэдзіне шасцідзесятых Міколу Федзюковічу, які тады быў студэнтам Літаратурнага інстытута, пашчасціла ў Драгічыне купіць томік вершаў Барыса Пастарнака (адзін з першых выдадзеных у дзяржаўным выдавецтве), дык у інтэрнаце літінстытута студэнты ў чаргу запісваліся, каб узяць у Міколы гэты томік хаця б на ноч, таму што ў Маскве набыць яго было немагчыма, усё раскуплялася імгненна, можа нават на кніжных складах. Чалавечая цікавасць — рэч ненатольная. Людзі нібыта прачнуліся, раскрылі вочы, азірнуліся вакол сябе і пабачылі тое, што нельга было не пабачыць. Аказваецца, у паэзіі ўжо даўно выспела новае пакаленне: Андрэй Вазнясенскі, Яўген Еўтушэнка, Бэла Ахмадуліна, Булат Акуджава, Роберт Раждзественскі... Гэта ў рускай паэзіі, а ў нашай — Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Анатоль Вярцінскі, Ніл Гілевіч, Уладзімір Караткевіч, Пятрусь Макаль, Янка Сіпакоў... Шасцідзесятыя гады мінулага стагоддзя называліся часамі кніжнага буму. Праўда, дзесьці ўжо завязваўся так званы застойны час, парасткі якога жнём і дагэтуль. Ці не адтуль уся гэтая забаўляльнасць многіх тэлепраграм?! Людзі страцілі густ і меру. Хто ўжо задумваецца над тым, што толькі вялікае мастацтва жыве вечна. Дайшлі ж да нас і Гамер, і Катул, і Вергілій… Наш час таксама пакіне нешта для многіх і многіх стагоддзяў, дык пры чым тут цёмная формула пачатку, якую, на вялікі жаль, ствараюць самі людзі?!*

*Ужо ў іншых вымярэннях душа Андрэя Вазнясенскага, а яго паэзія засталася на Зямлі, і, трэба думаць, будзе жыць вельмі доўга. Жыццё ж працягваецца. У гэтым чэрвені спаўняецца семдзесят пяць гадоў выдатнаму беларускаму паэту Васілю Зуёнку. Яго творчасць таксама бярэ пачатак з таго зоркавага часу шасцідзесятых. Ён і сам у беларускай паэзіі з зоркавай плеяды. І мы, цяперашнія маладосцеўцы, шануем не толькі яго паэзію, але яшчэ добра помнім і пра тое, што ў свой час ён не адзін год узначальваў наш часопіс. Рэдакцыя «Маладосці» сардэчна віншуе Васіля Васільевіча Зуёнка з высокім юбілеем, жадае моцнага здароўя і новых творчых здабыткаў у славу нашай айчыннай паэзіі.*

*З найлепшымі пачуццямі —* Ф. Баравікова



*Юрась Шамецька нарадзіўся ў 1965 годзе ў Мінску. Скончыў Мінскі радыётэхнічны інстытут. Да 1997 года жыў і працаваў у Мінску. Цяпер жыве ў Атаве (Канада). Працуе вядучым дызайнерам праграмнага забеспячэння карпарацыі Стэнлі (Stanley Works). Друкаваўся ў перыядычным друку, альманаху «Беларус». У «Маладосці» — упершыню.*

Юрась ШАМЕЦЬКА

# ПРАЎДА — У ЛЕТНЯЙ ПРАЗРЫСТАСЦІ

* * *

Цёплы вечар абудзіцца,
Супакоіць туманам, —
Усё добрае збудзецца,
Тое ўсё, пра што марым.

Подых восені журыцца
Там, дзе дрэў сілуэты...
Усё добрае збудзецца,
Незалежна ад мэты.

Чырвань клёнаў астудзіцца,
Птушкі ўдаль адлятаюць, —
Усё добрае збудзецца,
Не састарыцца памяць.

Па-за клёнамі вуліца
Зноў напомніць аб нечым...
Усё добрае збудзецца,
Будзе шчырым і вечным.

**НЫРАЮЧЫ ГЛЫБЕЙ
У ВОЗЕРА АНТАРЫЮ**

Вечар у верасні — цёплы і ветлы,
Ля пад’езда суседкі сядзяць.
Я на балконе, дзе песцяцца кветкі,
Кніжку адкрыю і буду чытаць.
Будзе усё, як калісьці —
Стомлена падае лісце.

Я паспрабую заплысці глыбей,
Каб разглядзець дасканала
Шалік дарогі і проста людзей
Не абмінутага небам квартала.

Вецер на смак і салодкі, і горкі,
Дрэвы старыя, бялізна, вяроўкі.

Кожнаму праўда свая і пятля,
Кожнаму ў сталасці мудрыя спевы...
Бачу узор маладога галля,
Чорныя вокны, пацёртыя сцены.
Час адыходзіць, і цяжка знайсці
Шлях, па якому нам трэба ісці.

Я не шукаю вытокаў жыцця,
Восенню неба нахіліцца нізка...
І зразумела, што праўда уся —
Ў летняй празрыстасці, ў вуліцах Мінска.
Клічуць натоўпы мяне — у натоўпы,
Толькі адно — немагчыма застацца,
І, каб пазбегнуць кесоннай хваробы,
Трэба вяртацца.

## ХЛОПЧЫК

Калі я вярнуся?
Не ведаю, можа, к зіме.
І горад астылы, поўны спакою,
Цёмны,
Забыты,
Зімовы,
Будзе належаць мне.

Дрэвы вялікія, дужыя,
Наладжаны на цішыню...
Недзе на вуліцы хлопчык знаёмы,
Стрыманы,
Бескаляровы,
Сустрэнецца —
Не абміну.

Спытаюся, як яго справы,
Убачу вочы і чуб,
І шапку, што мама вязала,
(Нітак яшчэ не хапала...)
Пазнаю...
Бо гэта цуд...

Упэўнена зразумею,
Што хлопчык гэты ёсць я...
Грукатам трамвай мне ў такт —
Цяжкім,
Каваным,
Сонным —
Пацвердзіць, што гэта так.

Калі я вярнуся?
Ведаю, гэтай зімой, —
Адчую мой горад знаёмы,
Прыгожы,
Нястомлены,
Новы, —
Той хлопчык будзе са мной.

## НАБЛІЖЭННЕ ЗІМЫ

Халадае...
Птушка, якая садзілася на паркан
і спявала мне,
болей не прылятае.

Ападае
Апошняе лісце. Збіраю яго,
Аб леце ўспамінаю.

Вечарэе...
Цішыня спрыяе холаду.
У каміне распальваю агонь,
Які добра грэе.

Мару
Быць надзейным і шчырым.
Усё астатняе маю.
Хоць птушка, якая была маёй,
болей не прылятае.

## ПАРЫЖ

— Парыж, твае музейныя вуліцы
стамляюць
Увечары. Мы п’ём віно, сядзім пад Вежай, —
Добрае віно ды з добрай ежай
Даюць надзею і акрыляюць.
Гэта як у Шагала,
які не падабаўся ўладзе.

Апынуўся тут, а не ў Віцебску.
А мы без ідэяў
Блукаем па залах бясконцых музеяў,
Без патрэбы ў перакладзе.
Парыж, ты — прастора свабоды,
расчыненая жыццём,
Вялікая фора музея без яскравых неонаў,
З Нотр-Дамам, духам Напалеона,
Монай Лізай пад куленепрабіўным
шклом.
Разумею толькі тут, што свабода —
гэта жаданне
Не перашкаджаць іншым і быць
самастойным.
Бульвар Сант-Жэрмен выглядае
прыстойна,
Як яго апісваў Хэмінгуэй у чаканні
прызнання.
Увечары, едучы ў метро, назіраю
французаў:
Старэйшы, яна не здаецца нотнай, —
Ён абдымае яе пяшчотна.
А мне хочацца верыць, што ён не лузер.
Горад мяняе каляровыя малюнкі,
Хуткасць — больш за дваццаць
чатыры кадры,
Ты не згубішся на Манмартры,
Бо выйдзеш да Мулен Руж з любога
кірунку.
Парыж, застацца з табой немагчыма, —
Мы едзем дамоў, у наш далёкі
і дзіўны край,
Дзе холадна, і выраі птушак завуць
неспакоем у рай...
Бывай.

* * *

Дні вераснёўскія натхняюць
Сказаць, хай не ў апошні раз,
Што я цябе цяпер кахаю,
Як і тады, у даўні час.

Мы будзем жыць у спадзяванні, —
Бог не разлучыць болей нас,
Дасць нам знайсці выратаванне,
Як і тады, у даўні час.

Святлом пяшчотным млее сонца,
І недзе зноў іграюць джаз,
Прарочаць шчасце і раскошу,
Як і тады, у даўні час.

Час крочыць шпарка і нястомна,
І дасць сказаць яшчэ не раз,
Што я цябе цяпер кахаю,
Як і тады, у даўні час.

## ДНІ

Дні складаю ў тузін старых газет.
Некалі пажадаю вярнуцца,
Каб пагартаць падзеі...
Газета — гэта вельмі стары Інтэрнет,
Дзе можна знайсці, па колькі мянялі леі.
Леі — гэта румынская валюта,
Да якой у мяне няма ніякіх спраў.
Хвалююся, што буду рабіць у лютым, —
Крызіс давіць, каб ніхто не спаў.
Дні пралятаюць... Абама абяцае белае, —
Чакаю, калі скончацца чорныя дні зімы.
Стараюся згуртаваць мэту жыцця ў цэлае,
Гэта — бязглузда, як вядзенне вайны.
Дні — толькі падстава нешта рабіць, —
Усё вырашана непрадказальным «рокам»,
Не хочацца быць філосафам,
хочацца проста жыць,
Каб глядзець, як хвалююцца дрэвы
навокал.

Арцём АРАШОНАК



# ЯНЫ НЕ ЧЫТАЛІ БУЛГАКАВА

***Накіды з жыцця***

***Прысвячаецца Віктору***

*Ідучы на кухню,* ён зусім не думаў, што ўбачыць яе ў такім настроі.

— Адыдзі! Я другі раз алей праліваю, — не адводзячы вачэй ад пліты, усхліпнула яна.

— Гэта ўсё з-за чортавых чаравікаў з рознакаляровымі матылькамі на стэльках! — закрычаў ён.

Пара новага абутку праляцела праз кухню і ўдарылася аб сцяну. Мужчына з жанчынай селі, доўга маўчалі.

— Я прыйшоў сказаць, што да тэлефона Аннушку прасілі, — нарэшце прамовіў ён.

— Яны не прадставіліся?

— Прадставіліся. Званіў нейкі Булгакаў.

Мужчына з жанчынай зноў замоўклі, слухаючы шыпенне алею на патэльні ды як бразгочуць трамваі пад вокнамі.

## МОРФА

Дзверы ў кватэру былі адчыненыя. На падлозе ляжаў Морфа. Ён быў абсалютна голы — шырокая, у пупырышках спіна, ногі-ласты. Здавалася, што перад табой аграмадная жаба. Буйныя слёзы каціліся з яго вачэй. Рукі сціскалі блакітны пластмасавы таз, у якім ляжалі кандомы, напоўненыя вадой. У кожным латэксным шары плаваў цацачны салдацік.

— Усё вакол загінула, — пачаў Морфа, убачыўшы мяне, — нас чакае самая жудасная кара. Гэта я... я заразіў усіх грыпам! Не свіным, а жабіным!

— Морфа, а як жа рускія, што на мінулым тыдні скідвалі недаабіраную бульбу з паветранага шара на рагу Задунайскай і Мікалаеўскай? Яны ўратаваліся?

— Не! Не! Яны таксама загінулі! Але ад грыпу птушынага! Ква-ква! Я — жаба! З гэтых гумавых ікрынак народзіцца новае чалавецтва! Але мы гэтага не пабачым! А-а-а-ква-ква-ква!

— Ідзі ты да шыбеніка! Лепей маску начапі!

Я развярнуўся і сышоў дахаты. У маім пакоі было цёпла, алюмініевы радыятар ціха гудзеў у дуэце з імбры-

*Арцём Арашонак нарадзіўся ў 1981 годзе ў Віцебску. Скончыў Віцебскі дзяржаўны універсітэт імя П. М. Машэрава па спецыяльнасці «Нямецкая і англійская мовы» (2004). Пераклаў на беларускую мову кнігу Германа Гесэ «Сідхартха», а таксама асобныя творы Эрыха Фрыда, Эрыха Марыя Рэмарка, Генрыха Бёля, Ірмы фон Бадмерсгоф, Рамоны Лінке, Ханса Крупы і іншых. Аўтар кніг «Сэнр'ю», «Суткі без цябе». У «Маладосці» — упершыню.*

кам, белая кошка спала на кніжнай паліцы. Я піў гарбату з цукрам і чытаў СМС ад Агнешкі:

«You are a flame. Keep warming. But don’t burn my wings»[1]. Было ціха. Прыгадваўся спектакль «Пігмаліён» з кастрычніка, афішы і кава, сябры Агнешкі — хірург з-пад Полацка, які ажаніўся з пакістанкай Горы, а цяпер жыве ў Рэйк’явіку. Усмешка з’явілася на маім твары — чалавечыя лёсы могуць перакрыжавацца, як віцебская Замкавая вуліца і рэйк’явікская Грэцісгата, знікнуць за даляглядам дымнай бухты, каб потым зноў замігцець уначы тысячамі агеньчыкаў.

Ідылію парушыў Морфа-жаба. Ён нячутна зайшоў у пакой і зароў на вуха:

— Яе трэба забіць, гэтую дрэнь! Ква-ква! Гэта кошкі разносяць грып! — таўстазадая фігура накіравалася да паліцы. — Зараз мой язык паспрабуе гэтае пухнатае насякомае! Ква-ква!

— Не чапай! — першым ударам я заехаў Морфу ў патыліцу.

Ён павольна павярнуўся, але замест агрэсіі на яго твары была дабрыня.

— Хочаш, я буду чмялём? Альбо матыльком? — сказаў ён ціха.

— Я хачу, каб ты быў матыльком!

— Цягні прасціны.

Праз гадзіну мы з Морфам імчалі па вуліцы. Падаў першы восеньскі снег, Морфа махаў крыламі з ільняных прасцін і крычаў:

— Я кахаю цябе! Кахаю! Чуеш?! Кахаю!

— Ква-ква! — адказваў я. — Ква-ква!

Праз месяц ён памёр у бальніцы. Не, не ад свінога грыпу, а ад пнеўманіі. Не трэба было бегаць па горадзе з голым азадкам. Памёр Морфа, Морфа Менелай — вы думаеце, яго мянушка ад назвы прыгожага матылька? Не! Ад прозвішча Марфёнак. Што таксама трохі дзіўнавата для паўночнай Беларусі! Крыху морфію ў парадаксальным свеце...

## КАРОЛЬ ЭЛВІС

— Хадзем з намі, мы памінаем Курта Кабейна, — з сумнай жаўтазубай усмешкай на зялёным фоне вясны прашаптала яна.

— Не, — казаў ён і глядзеў на яе чорнакашульны абрыс у запыленай перспектыве вуліцы.

— Хадзем з намі, мы памінаем Джымі Хендрыкса, — зялёнымі вуснамі прашаптала яна.

— Не, — казаў ён і глядзеў, як яна знікае ў натоўпе старых.

Часам узнікала жаданне пракласці аналогіі даўжынёй паралельных рэек трамвая, якім ехаў ён на работу, але яно адразу знікала за прахадной. Знікала разам з доўгімі вечарамі і снегападам. Зімой. Пасля Каляд у доме пахла хвояй і святам.

— Сёння нехта памёр? — спытала яна, выцягваючы з кішэні цэлафанавы пакет з рэштамі клею. — Чаму ты маўчыш? Чаму не спяваеш?

— Сёння мой дзень нараджэння! Я — кароль Элвіс! — нацягваючы ёй на галаву пакет і заклейваючы вакол шыі скотч, адказаў ён.

Канвульсіі. Цеплыня. Гваздзікі. Кроплі віна.

Яна прынесла гваздзікі на нараджэнне караля! Ёй так здавалася.

Ён сядзеў у прамерзлай машыне «хуткай дапамогі» і глядзеў на яе нежывое цела. Побач ляжала гітара. Ён нешта спяваў сабе пад нос і плакаў — чортаў каменедрабільнік з завода жалезабетонных канструкцый.

[1] «Ты — полымя. Трымаеш цяпло. Але не апальваеш мае крылы» *(англ.)*.

## DROP PARIS[1]

***Парыж! Для мяне не было слова больш прыгожага.***
Марк Шагал

Парыж быў казачна прыгожым у стразах вераснёўскага дажджу. Кроплі густога чырвонага віна павольна сцякалі на дно фужэра. Мы сядзелі ў Кафэ дэ Флор і разглядалі тонкія лініі эскізаў — дрэў, парасонаў, аўто, афрыканак, падсвечанага ліхтарамі Пале Бурбон.

— Уяўляю, калі ў нас будзе свой дом — вялікі, прыгожы, утульны, напоўнены дзіцячым смехам, — сказала яна.

— Ён абавязкова будзе ў нас, трэба кропельку пачакаць, — пагадзіўся я, выцягваючы паштоўку. — Ты хацела дзядулю на дзень нараджэння адправіць кропельку Парыжа.

Яна ўзяла паштоўку і хуткім, роўным почыркам напісала. Кропля атраманту.

Наша каханне ціха гайдалася на хвалях восеньскай Сены. Мы былі шчаслівымі, едучы па начной сталіцы на таксі. Таксіст-араб імчаў па лужах. Паўсцёртыя дворнікі сціралі з шыбы брудныя кроплі. Нашы сны былі рознакаляровымі, як вітражы Сент-Шапель.

Мы прачнуліся ў Віцебску — пасярод бруду, аб'едкаў і хаосу. На кухні крапаў незакрыты кран. Нашы спустошаныя позіркі былі прыкаваныя да мазаічнага, стракатага дывана на шэрай сцяне. Парыж быў толькі сном, толькі словам.

— Кропні яшчэ, — сказаў я.

— Drop Paris, — ціха адазвалася яна.

## ЯКОГА КОЛЕРУ КРЫЛЫ АНЁЛАЎ

Мы заўсёды былі разам — яна і я, і анёлы-ахоўнікі нашы.

— Якога колеру крылы анёлаў? — спытаў я, калі мы хаваліся ад дажджу пад вялікім кустом.

— Зялёныя, — адказала яна, выціраючы кроплі дажджу з майго лба.

— Якога колеру крылы анёлаў? — спытаў я, калі мы збіралі пераспелыя грушы за Дзвіной, а матылькі сядалі на салодкія пальцы.

— Рознакаляровыя, — адказала яна.

— Якога колеру крылы анёлаў? — спытаў я, калі мы глядзелі навіны па тэлевізары.

— У іх няма крылаў, — адказала яна і расплакалася.

Медсястра падышла і выключыла тэлевізар.

— У анёлаў белыя крылы, — прашапталі мы адно аднаму, калі разыходзіліся па сваіх палатах.

## ВАЎЧКІ

Спелі гарбузы на віцебскай ускраіне. Спалі сабакі ля шматсямейных баракаў. Стары кітаец слабай рукою маляваў палымяных багамолаў, маляваў палахлівых дзяўчат. Рэдкая барада блытала яго песню. У вялізнай скрыні ляжалі малюнкі,

[1] Кропля Парыж *(англ.)*

веery, рамкі пад фотаздымкі, сцяжкі міфічных краін, парасоны, паветраныя драконы, паштоўкі, пакецікі з салодкім рысам-лако і кітайскія ваўчкі.

— Добрай раніцы, спадар Янг Гонг, — віталася шпалаўкладчыца, бессаромна абмываючы свае пышныя грудзі на калідоры.

Стары моўчкі ківаў, зачыняў на ключ дзверы і ішоў на рынак, несучы за спінай вялізную скрыню. Вечарам ён вяртаўся — вясёленькі, у танцы, перакульваючыся, бы ваўчок. Шпалаўкладчыца прытуляла яго побач з сабою на ложку.

Гады міналі, як вежы Вялікай сцяны. Барак рассялялі. Стары Янг заставаўся адзін. Сумным вяртаўся з рынку дадому, доўга глядзеў у вакно, на стосы паперы, скрыню з нераспраданым таварам і засынаў. Палымяны багамол — апошняе, што бачыў паважаны Янг халоднай жнівеньскай ноччу. Пад абгарэлым каркасам ложка стаяла цалюткая скрыня з ваўчкамі. Віцебская шпалаўкладчыца плакала.

## АПЕЛЬСІНЫ І АГНЕШКА

Праца ў пасёлку — на адзіным малакаперапрацоўчым заводзе — была не вельмі складанай, больш складанай была адсутнасць Інтэрнета. Агнешка штодня дасылала мне паштоўкі, частка з якіх знікала на мясцовай пошце. Аднойчы дачка начальніцы паказала мне маркі — польскія, з штэмпелямі Варшавы: «Мне іх мама адарвала ад канвертаў».

Я нічога не сказаў.

Быў жнівень з белай, як вялікі кругляк сыру, поўняй. Пад высокім начным небам драўляны барак, у якім жыў, больш не падаваўся мне сумным. Да таго ж, у кішэні была паштоўка ад Агнешкі. Я адчыніў дзверы ў кватэру. За сталом, сярод пустых бутэлек, разам з суседам сядзеў тоўсты п’яны мужык у асляпляльна белай кашулі. На лаве стаяў расчынены кофр, поўны апельсінаў. Я павітаўся і, як трус, наблізіўся да кофра. Мужык адразу наліў гарэлку — мне шклянку, сабе шклянку. Я адразу выпіў і схапіўся за апельсін.

— Не-не-не! Так не пойдзе! — сказаў незнаёмец у асляпляльна белай кашулі. — Так не п’юць! На цябе непрыемна глядзець! Піць трэба павольна, з усмешкай на твары, каб табе было прыемна і людзям таксама.

Я выпіў яшчэ, каб атрымаць апельсін, і зірнуў на мужыка. Ён выпіў сваю шклянку павольна, няспешна паставіў на стол, зірнуў на мяне і сказаў: «Цяпер можаш узяць апельсін».

Я ўзяў, але адчуў неверагодную немач — пахіснуўся, усё плыло перад вачыма: сцены, старая шафа, белая кашуля. У кішэні ляжала паштоўка ад Агнешкі. Мужык і мой сусед падхапілі пад рукі і паклалі на ложак.

Раніцай мужык (ён аказаўся дырэктарам кішынёўскага завода, прыехаў да сваёй жанчыны на поўнач Беларусі) знік — разам з апельсінамі. Адзіны апельсін, які выкаціўся з маёй далоні ўначы, я знайшоў пад ложкам. У кішэні ляжала паштоўка Агнешкі: «Я надушыла паштоўку новай парфумай. Спадзяюся, табе спадабаюцца яе цытрусавыя ноткі». У барачным пакоі было свята.

## MICHAEL JACKSON IN MEMORIAM

Я не ведаў, як ёй паведаміць пра смерць Майкла Джэксана, калі забіраў з вар’ятні, я думаў, што гэта можа прывесці да чарговага зрыву. «The Girl Is Mine» гучала ў плееры.

— Наша каханне — нямы фільм. Усё зразумела без слоў, — сказала my girl нарэшце.

Я прамаўчаў.

— Я пераспала з санітарам, — сказала яна, — цяпер у маім спісе 42 мужчыны.

Я зноў прамаўчаў.

Насустрач нам ішлі дэсантнікі. Я падлічыў — іх было 41. У думках я ўявіў сябе амерыканскім спецназаўцам і перастраляў, заплюшчыўшы вочы, усіх — бязлітасна, з кантрольным стрэлам у лоб.

— Я хачу зрабіць рытвінкі на падбародку, як у Джэксана, — заявіла яна, папраўляючы бінт на руцэ.

Я зноў прамаўчаў.

— Чаму ты маўчыш? Ты мне здраджваеш? Га? Ты мне здраджваеш? Скажы!

Я зноў прамаўчаў.

Яна раззлавалася і пачала крычаць на мяне пасярод вуліцы: «Падонак! Дзярмо! Ненавіджу цябе! Ты атручваеш мне жыццё!»

У думках я пракруціў «The Girl Is Mine» Джэксана перад тым, як нешта сказаць.

— Майкл Джэксан памёр.

Яна расплакалася.

— Наша жыццё — не нямы фільм, а порна альбо баявік. Усё адно зразумела без слоў, — сказала яна скрозь слёзы.

Я прамаўчаў. У думках я ўявіў сябе ўрачом Караля тэхна — крышталікі атруты ў піва — бязлітасна, з кантрольным пацалункам у лоб.

Мне не хацелася, каб яна думала яшчэ пра кагосьці акрамя мяне.

## ПУЦЕПРАВОДНАЯ ПАЕЗДКА

***Усім, хто мае вентыль***

### I

— Смех — гэта самы лепшы транспарт, — заявіў я Агнешцы, калі яна разглядала глобус, абклеены маленькімі люстрачкамі. — Кожны мінак — твой сябар!

— Матацыкл? Цягнік? Вазнічка? Фургон з блакітнымі бліскавічнымі маячкамі і надпісам «Ambulance»? — спытала яна.

— Не, смех — гэта нарты. Мая псіхатэрапеўт пагаджалася з маім меркаваннем, што я — лепшы ў Віцебску каюр. Пятнаццаць суседскіх маламутаў цугляліся ў чыгуначную дрызіну — падарожжа па закінутых за дывановым камбінатам рэйках. Хаця гэта не больш чым прыдумка...

— Смех — гэта самы лепшы транспарт, — з усмешкай паўтарыла Агнешка. — Смех — гэта пуцеправодны транспарт. У цябе ёсць вентыль. У выпадку чаго магчыма перакрыць непатрэбнага «сябра».

Мы засмяяліся і ўключылі ваду на кухні. Вячэрняе сонца зіхацела ў тысячы люстрачак.

### II

«Паважаныя пасажыры, не забывайце, што падчас руху транспарту здараюцца непрадбачаныя сітуацыі. Заўсёды будзьце ўважлівымі і асцярожнымі. Прытрымлівайцеся правіл карыстання грамадскім транспартам. Трымайцеся за поручні, прымайце меры для асабістай бяспекі!» — голас у дынаміку змоўк.

Трамвай павольна каціўся па сонным Віцебску. На вагоннай шыбе мігцелі кроплі дажджу. Белы плафон і матылёк. Агнешка спала на плячы. У пустым вагоне — сланечнікі. Цыганы ішлі па ўскраіне — прамоклыя да душы. Яшмавыя сады. У сонным адзінстве. Ззянне шыферных дахаў. Апірышча хмельнавернага гараджаніна не Бог, а жэрдка акаселага плота.

Агнешка спала на плячы. Спеў цыганоў у дынаміку. Добрая ноч. Жыццё. Жыццё. Жыццё.

## МОЙ МАЛЕНЬКІ ПРАФЕСАР

Далоні Агнешкі — цёплыя, пяшчотныя. У іх — спакой. Мы сядзім у абдымку на тэрасе майго дома і п’ём гарбату. Вечар. Цёплы летні вечар. На стале агромністы матылёк — разгорнуты пасярэдзіне альбом вялікага андалузца. Мой голас гучыць ціха. Запальваю святло. Бясколерны лак на пазногцях Агнешкі. Зіхаценне. Злятаюцца начныя матылькі, начніцы. Віцебская ўскраіна.

— Над імбрыкам — моль іржаная, а на тваім плячы — металавідка гама, — кажу я.

Агнешка ўсміхаецца:

— Мой маленькі прафесар.

Яе ўсмешка і словы — з дзяцінства — словы дзіцячага доктара. Мне было год пяць. Я сядзеў у кабінеце і расказваў пра італьянскі жывапіс. Урач казала: «Мой маленькі прафесар!» Са мной у кабінеце быў яшчэ адзін хлопец. Ён быў крыху старэйшым за мяне. Ён збіраў пласцінкі памерлых кампазітараў. Яму падабалася, як круцяцца чорныя вінілавыя дыскі. Мелодыя не мела значэння. Не ведаю, чаму нас збіралі ў кабінеце разам — можа, каб мы пасябравалі, можа, каб нас проста «збагрыць». Хлопец мне не падабаўся за змрочнасць, мне падабалася доктар — яе ціхі, як наддзвінскі ветрык, латышскі акцэнт, яе белы халат, яе кнігі, якія я выстройваў у акуратныя шэрагі, а потым чытаў адну за адной.

— Мой маленькі прафесар, — аддавалася ў сэрцы рэхам.

Прайшло шмат год.

Агнешка хутаецца ў шырокі бялютка-льняны шалік. Добразычлівасць у позірку. Шчырасць. Мне хораша — хораша з гэтай жанчынай. Патрэба ў прыстасаванасці да грамадства адпадае сама сабой. Да яе стасункі я мог падтрымліваць толькі з віртуальнымі сябрамі. Я магу патэлефанаваць Агнешцы а трэцяй ночы, і яна не будзе злавацца. Яна пажадае мне дабранач — па-беларуску, і па-ісландску таксама.

Мы сядзім у абдымку на тэрасе майго дома і п’ём гарбату. Раніца. Цёплая летняя раніца. На стале агромністы матылёк — закрыты альбом вялікага андалузца. Хутка восень прыйдзе. Віцебская ўскраіна.

## ДЗЯЎЧЫНКА З ЛЯЛЬКАЙ КОКЭСІ

Паўстанне. Супярэчлівасць. Цыгарэта. Шэрае паліто. Піцерская набярэжная. Ціхі пошум восеньскіх хваляў. Сувенірная палатка. Салдацік. Я — гандляр. Свет адзіноты. Паштоўкі дабрыні. Не адправіў.

Календары кахання. Ніводнага дня з яго не пражыў.

Мельхіёравыя лыжачкі шчасця. Рассыпаў.

Астылая гарбата.

Матрошкі-працяг — саду маўчанне, цвікі.

Дом мой — гэта далоні. Пальцы злучаюцца ў дах.

Гарбата. «Для бульбаша такая работа — счастье».

Вусны піражніцы-бабы-хмары. «Дурак — ты и божий человек». Нязлобна.

Мінакі. Мабільнікі. Метро. Маразы.

Японская сям’я. Кубік крыштальны і Эрмітаж. Дзяўчынка з лялькай кокэсі. Дорыць. Быць папяровым веерам у яе руках. Хочацца. Free sample only without commercial value.

Вечар. Лігаўскі. Падваротня. Італьянец. Смартфон. Блакітныя сполахі-ніткі ў шэрым мяху двара. Удар. Глухі. Салдацкі.

Лялька кокэсі ўмее плакаць. Яна ўмее старэць.

Перакупшчыкі на Садовай. Сярод наркаманаў. Смартфон здаю амаль за бясцэнак. Бутэлька гарэлкі. Хлеб. Пакой. Праспект пад акном, як шырокая стракатая стужка ў валасах японскай дзяўчынкі. Ноччу чую яе смех. Гэта смяецца лялька кокэсі. Лялькі кокэсі ўмеюць смяяцца.

## ІСЛАНДСКАМОЎНЫЯ. БЕЛАРУСКАМОЎНЫЯ
**(чытаць шэптам)**

Агнешка прыехала акурат перад «Славянкай» — чырвоная ад загару — бутэлька віна — прастуда.

Раніцай перад вокнамі гатэля я вытаптаў на свежаразрытай (перад прыездам галоўнага) зямлі: Ég elska þig. — Я кахаю цябе — па-ісландску.

Мае першыя крокі па скандынаўскай мове.

Гарачае сонца-валун кацілася па фіялетавых снягах аблокаў.

Агнешка, апранутая толькі ў чорны з чырвоненькімі банцікамі бюстгальтар, моўчкі глядзела на мяне. Мы адзіныя, хто размаўляў за апошнюю сотню год у Віцебску па-ісландску. Беларускамоўных было непараўнальна болей. Мы радаваліся.

У мяне быў ліст пурызмаў — я чытаў яго шэптам, — асабліва вось гэтае слова:

leigubíll
leigubíll
leigubíll
leigubíll
leigubíll
таксі
таксі
таксі
таксі
таксі

Гаваркія віцебскія таксісты не зразумелі б мяне...

Калі ўбачылі феерверк, мы разам з Агнешкай крыкнулі: «Eldfjall»!

Ніхто не выпраўляў памылак.

## НІТКІ

Продкі мае добра шыць ды фарбаваць тканіну ўмелі — талаўскія штаны ды кашулі рабілі. Ніткі рамі, змоткі льну ляжаць у скрынях. Падрамнікі.

Часам з шарсцяных нітак раблю цацкі — цацкі без твару, — сем лялек на канапе з ружовымі языкамі півоняў. Водары. Прасціраныя аблокі-пампоны на сонечных вяроўках.

## ПІВОНІ

Трамвай-клумба. Бясконцы віцебскі дождж. Лета прыпынкі. На падлозе ружовыя пялёсткі півоняў — квіткі прыроды-кандуктара. Мне трапіў шчаслівы квіток — белы бутон.

## РУБІНАВЫ СОМ

Мы былі як два мурашы ў капюшоне бурштынавай поўні — моўчкі чакалі на беразе. Моўчкі чакалі, калі з'явіцца рубінавы сом — прыгожая старасць.

## РУСАЛКА І АЛЯКСАНДР РЫБАК

Яе — маленькай русалкі — пакой быў падобны да батыскафа. Маленькае акенца-ілюмінатар, аднастайнае скрыгатанне металу за сцяной, СМС, што прыходзілі на тэлефон, быццам санарныя пінгі. Яна сядзела моўчкі і, мыючы плаўнік у тазіку, абыякава глядзела на сцяну — астранерціны, пеліканавыя вугры, срэбраглавы, даўганосыя хімеры праплывалі побач — яна ўзяла мабільны — цёмна-блакітны, як акіянічная бездань, экран вабіў. Яна націснула — лічбавыя сполахі азарылі прыгожанькі твар — адкрылася СМС: «Подключиться на роуминг — легко! Отправь СМС на номер 111!»

Русалка адклала мабільны ўбок і працягнула свае няспешныя абмыванні, густая пена пахла гранатам — ёй падабаўся гэты водар, яна ніколі не бачыла, як квітнеюць гранаты. Партрэт Аляксандра Рыбака вісеў у яе над самым ложкам.

— God natt, min Salmo Salar![1] — казала яна яму перад сном.

## БАТАН І РЫБКА

***Памяці Жака Іва Кусто***

Ён называў яе Рыбка, і яна б магла пакрыўдзіцца, калі б не кахала яго. Што і казаць, ёй гэта нават падабалася. Яны сядзелі вечарам і глядзелі на месяц — тлусты, гнілазубы батан і пласкарылая рыбка.

— Я вельмі моцна кахаю цябе, — казаў батан, — я хачу, каб мы былі адзіным цэлым, каб мы былі адзіным арганізмам.

Рыбка моўчкі выслухала гэта.

— Ведаеш, ёсць такія рыбы — вудзільшчыкі Caulophrynidae, — працягваў батан, — яны жывуць на вялікай глыбіні. Самец знаходзіць саміцу ў абсалютнай цемры па паху ферамонаў — як мы з табою, — прычэпліваецца да бока саміцы сваімі вострымі зубамі. Хутка ён зрастаецца з саміцай вуснамі і языком, а яго сківіцы, зубы, вочы і кішэчнік рэдуцыруюцца так, што ў рэшце рэшт ён ператвараецца ў просты прыдатак, які выпрацоўвае семя. Яго харчаванне залежыць ад крывяноснай сістэмы саміцы. Цікава! Праўда?

— Ты сам маленькі прыдатак, — грэбліва кінула Рыбка, — але я кахаю цябе. Пацалуй мяне.

Батан пасунуўся бліжэй, пацалаваў дзяўчыну ў шчаку, а потым са злосці ўкусіў да крыві. Праз тры дні ён зрабіўся неразлучным з ёю.

Рыбка была вельмі задаволеная, бо яна ведала, што на целе саміцы можа быць да трох самцоў.

---

[1] Дабранач, мой высакародны Ласось! (*нарв.-латынь*).

## НОВЫ ДЗЕНЬ

Рыжскі трамвай. Ускраіна. Кандуктар і пупавіна білетаў, трэшчынамі бетонных пліт крычаць трушчобы — так нараджаецца новы дзень.

## ІМПЕРАТАР У ПАМАРАНЧАВАЙ КАМІЗЭЛЬЦЫ

Была летняя ноч. Грузавы трамвай з пяском ехаў па Смаленскай вуліцы, асыпаючы дах блакітнымі электразнічкамі. На яшчэ цёплым ад дзённага сонца насыпе сядзелі двое — мужчына і жанчына. Яны маўчалі. У кожнага былі свае ідэі — простыя, як панелі дамоў.

Мужчына выцягнуў з-пад памаранчавай камізэлькі цыгарэту і запаліў. Шчаслівая ўсмешка з’явілася на яго вуснах, калі ён зірнуў на неба.

— Выходзь за мяне замуж, — сказаў мужчына, — я — імператар Тунтурыі.

— Не магу, — сцішана адказала жанчына, — я ўжо замужам — замужам за Богам.

Трамвай спыніўся на Зеленагурскай. Мужчына і жанчына саскочылі з пясчанага насыпу і ўзялі кувалды. Імператар Тунтурыі і жонка Бога будавалі 10-ю лінію віцебскага трамвая.

## РЫБА

Мне падабаецца класці запечаную ў фользе рыбу ў пясок. Вогарскі селянін Ён Даніэльсан — ісландскі прадзед Агнешкі — цягнуў амаль паўтонны валун са свайго поля. «Ісландскі селянін з валуном і рыбай» — чырвоная кашуля на небе, блакітным, нібы сцяг Ісландыі, — цяжарныя авечкі-аблокі.

## БЭЗ. АГНЕШКА. АЙГІ

Агнешка паставіла апошнюю квецень у маленькую вазу з рознакаляровага шкла. Мы глядзелі, як дагарае камель бэзу ў бляшанай печцы, удыхаючы дым, і пілі віно. Ільняныя хусткі мыла ў бэзавым прысаку суседка на Полацкай — няма грошай на парашок, толькі алюмініевы дрот ды вераб’і. Дождж ноччу ліў. Мы спалі. Пахла фарбай, палатном — і блакітным бэзам. Раніцай металічным прутом разграбаў прысак і кідаў свае рукапісы. Усё згарэла, як бэзу камель. Толькі пераклад верша з Айгі застаўся. Агнешка спала.

### ДА СВЯТА Ў ДЗЯЦІНСТВЕ. Генадзь Айгі.

(Марку Шагалу: радкі, што накідаў да Яго выставы,
якая не адбылася; Масква, 1967)

о ружа дзяцінства!
ты — вогнішча:
вогневаротам аддалены
у гаманлівым свяце сям’і! —
цябе
прыснілую
дарую:
Ш а г а л у:
усхваляваннем
*1967*

## ЛАСТАЎКІ

{
} }
}
{

Раніца. Дысплей мабільнага тэлефона. Ластаўкі. Ластаўкі. Ластаўкі. У кожнай яе СМС.

*02.06.2009.*

## СОН ПАД СТРЭЛЫ САЛЮТУ

Птушкі і малітоўныя сцяжкі на схіле ўсходнім, мы ішлі басанож у фіялетавых, як кветкі палісандру, накідках. На галоўнай плошчы ты танчыла, ліў дождж: «Рэжце! — крычала ты ўсміхаючыся. — Рэжце мяхі шэрага неба!» Мне падабалася выціраць кроплі з тваіх чорных броваў і залацістую гліну з каленяў.

«Каханне маё», — шаптала ты над шчакою. А дзесьці застаўся Віцебск — цюльпанава-ранішні, з крыкамі трамвайных кандуктараў.

— Ты кахаеш мяне?

— Так...

— Ты кахаеш мяне?

— Так...

— Ты кахаеш мяне?

— Так...

— Ты кахаеш мяне?

— Так...

За дзвярыма разбітай кухні сусвету спала дзяўчынка-каханне. Старыя балкі ды імбрык з гарачай гарбатай. Маўчанне. Сон у целе цнатлівым. Стрэлы ўначы — праявы свабоды.

## ЦЮЛЬПАНЫ

Фужэры-цюльпаны нагадвалі аб вясне — «Максім Трыёль» і рэстрэта на пялёстках нашых языкоў. Мы глядзелі на горад праз тонкае шкло — на каньячны заход сонца — на вінаград вячэрніх аблокаў. У пакоі гудзеў тэлевізар — вялі цюльпаны.

## БЕЛЫ ДЫМ НАД БЛАКІТНЫМ БЭЗАМ

Дом з аканіцамі ў Прасмушках выглядаў матыльком у квеценях бэзу. Пахла кавай. Мы сядзелі з Мухамадам — студэнтам віцебскага медінстытута — і палілі кальян.

— Яблыневы муэсэль, — выпускаючы клубы белага дыму, сказаў госць, — мёд і тытунь, больш нічога.

— Так-так... Хочаш яшчэ кавы?

— З вяршкамі, калі ласка.

На сподках разам з шакаладам ляжалі блакітныя суквецці. Дзед Мухамада быў знакамітым дэгустатарам цыгар — фумелье[1] — белыя віхуры яго старасці.

Белы дым уздымаўся над блакітным бэзам. Па вуліцы праехала жоўтае таксі.

— Два дні таму дзьмухаўцы былі жоўтымі, — сказаў Мухамад, — сёння белыя, як віхуры майго дзядулі.

Я моўчкі пахітаў галавою і выпусціў вялікі клуб дыму над блакітным бэзам.

Мы сядзелі цэлы вечар моўчкі.

— Шчасце, калі сябар умее маўчаць, — сказаў Мухамад на развітанне.

— Шчасце, калі сябар умее слухаць, — адказаў я.

## ГОЛЕМ З ВІЦЕБСКАЙ УСКРАІНЫ

С. адпачываў на шэрай ад тарфянога пылу і гліны прасціне. У пакоі было цёпла, пахла смажаным карэннем дзьмухаўцоў. Сонечнае святло трапляла на шырокі, груба збіты стол, на якім ляжалі парцалянавыя, васкавыя і пергаментныя пялёсткі, змоткі меднага дроту і стары прас на вуголлі. Масніцы старога дома рыпелі. Расчыняліся дзверы. Шклярніца размаўляла па тэлефоне на кухні.

— Ён — голем! Так, голем! Мне часам сорамна за яго! — крычала яна ў слухаўку.

С. узняўся, апрануў кашулю і выйшаў на двор. Луг перад домам быў жоўтым ад дзьмухаўцоў. Па вузкакалейцы везлі торф.

— Трымай, Голем, — крыкнуў машыніст і кінуў пакецік цэйлонскага бісеру.

С. схапіў яго, паклаў у кішэню, вярнуўся дадому і сеў за стол. Праз паўгадзіны шклянка была гатовая — ні сколіны, дасканала. Шклярніца ўвайшла ў пакой, несучы бутэльку Barbaresco.

* * *

Яны сядзелі і з асалодаю пілі віно, узгадваючы сваю маладосць — Голем і шклярніца з віцебскай ускраіны.

## УСКРАІНА

Агнешка Бергман прыслала паштоўку з Тамперэ — чорны атрамант на блакітным кардоне, прызнанне па-фінску: «Minä ja sinä. Rakastaa»[2]. Пачуццяў replay мне было неабходна, бо знаходзіўся другі месяц у блакадзе белага аркуша. Заснежанае поле віцебскай ускраіны. Апошняе, што я бачыў перад тым, як страціць прытомнасць, — вежа Смараторг у ісландскім Коўпавогюры. Са мной быў перакладзены верш з Рамоны Лінке:

пад тваёй скурай
ты напісаў
нарэшце
мінулі месяцы
дні
так шмат тугі

[1] Дэгустатар цыгар.

[2] Ты і я. Каханне *(фін.)*.

тваe радкі
між імі
прастора
думкі мае
твой водар
мары мае
твой канструктывізм
мае пачуцці
мне хацелася б
быць з табою
калі зоркі ўзыходзяць
калі поўня
хавае свой твар
і калі мора
робіцца цішэй

Па спіне з пошумам успамінаў пранеслася хваля цеплыні. Я ляжаў на снезе і глядзеў на далягляд. Па віцебскай ускраіне ехалі лесавозы — спілаваныя гадзіны, тыдні і месяцы, што не пісаў Агнешцы. Пад швэдрам завібрыравала старая «Нокія». Я зірнуў на дысплей: «Minä ja sinä. Rakastaa»*, — было напісана ў СМС. Я распрастаў рукі. У сіняй робе на чыстым снезе я зрабіўся падобным на фінскі сцяг. Агнешка была пад маёй скурай — яе вочы, быццам азёры.

## КІЕЎ І АГНЕШКА

Вагон на Варшаву стаяў на запасным пуці Оршы-Цэнтральная. Голас дыспетчара рассыпаўся крумкачовым гарканнем над платформай і патануў у здушлівым керханні бяздашніка.

— У нас яшчэ гадзіна, — адпіваючы каву, сказала Агнешка.

— Так, — хутаючыся ў шэрае паліто, прашаптаў я. — Як табе гатэль?

— Усё проста цудоўна, — дзявочы язычок датыкнуўся верхняй губіны і зняў некалькі салодкіх кропель. Вугальны пах платформы зблытаўся з ранішняй парфумай. Чорныя бровы над блакітнымі валявымі вачамі, збялелы ад п’янак і маіх прыпадкаў твар здаваліся мне ранкам яшчэ больш казачнымі, яшчэ больш прыгожымі.

— А-г-н-е-ш-к-а Б-е-р-г-м-а-н, — працягнуў я, — унучка шведскага гандляра, твая бабуля трымала ў Вавэры краму, д-з-і-ў-н-а. Ты прыехала ў Беларусь пісаць пра Караткевіча. Д-з-і-ў-н-а.

Мы моўчкі пілі каву з тэрмакубкаў, час сыходзіў, я не прасіў прабачэння — толькі ўзгадваў блакітныя прасціны, запэцканыя чырвоным віном, аршанскага гатэля і пекнае, гарачае цела польскай студэнткі. Час мінаў. Агнешка прысела бліжэй і ўзяла мяне за руку: — Памятаеш, нас выперлі з табой з начлежкі кіеўскага манастыра побач з кубінскай амбсадай з-за таго, што я — каталічка? Ты цягнуў мой кофр, мы цалаваліся на скураным сядзенні таксі і апоўначы слухалі блюз ля «Залатых варот». Ты піў віно і казаў, што кахаеш мяне.

— Так-так, — ціха сказаў я. — Кохам тэбе!

Вагоны прычэплівалі да маскоўскага экспрэса.

У нас не было больш часу.

У нас быў Кіеў — адзін на дваіх.

## ТОЕ, ШТО МЯНЕ СУПАКОЙВАЕ

Яна мыла бялізну ў блакітнай, як яе вочы, вадзе, калі я вярнуўся дадому.

— Ненавіджу цябе! — заявіў я з парога. — Ты — гнюснае стварэнне!

Яна моўчкі працягвала мыццё — у паветры быў тонкі водар каштанаў і жаночага цела.

— Ты атручваеш мне жыццё, — не сунімаўся я.

Яна моўчкі зірнула ў мой бок, уздымаючы блакітную пену над тазікам.

— Вымятайся на ўсё чатыры бакі, — закрычаў я і схапіў таўшчэзны том «Эрмітаж», каб садануць ёй па галаве.

— Ды заціхні ты, прыдурак! — крыху грэбліва сказала яна і выліла ваду мне ў твар. — Чуеш па радыё — Пахельбель? Давай паслухаем разам!

Мы сядзелі і слухалі Пахельбеля. Блакітныя кроплі, як пацеркі яе караляў, цяклі па маім твары — я быў спакойны — класічная музыка і вада мяне супакойваюць. Так-так, асабліва вада, калі яна пахне водарам каханай жанчыны.

Па радыё перадавалі канцэрт акардэаністаў.

## НАРМАЛЁВА

«Гэта нармалёва», — сказала маці, калі я пятую хвіліну разглядаў яе фотаздымак на тэлефоне.

«Гэта нармалёва», — сказаў сябар, калі я пятую гадзіну разглядаў яе фотаздымак на тэлефоне.

«Гэта нармалёва», — сказаў доктар, калі я пятыя суткі разглядаў яе фотаздымак на тэлефоне.

Кнопка ZOOM павялічвала подпіс «КАХАННЕ», дзявочыя танюткія рысы. Лічбавыя кубікі вуснаў. Лічбавыя кубікі сцёгнаў. Лічбавыя кубікі жывата.

«Гэта нармалёва», — сказалі пацыенты, што сядзелі са мной у двары і зазіралі праз плячо.

«Гэта ненармалёва, — сказала птушка з майго фотаапарата на тэлефоне. — Калі ласка, патэлефануй ёй пазней».

## ДЗІКАЕ ХВАЛЯВАННЕ КАРАЛЯ ПТАХАЎ

Белы аркуш, як белы абрус у «Da Vinci», ружовыя кветкі кактуса — ружовыя пялёсткі бюсцье. Цішыня... Цішыня... Цішыня... Малюнак. Шчаўчок імбрыка палохае. Гляджу на малюнак — хваляванне — дзікае хваляванне караля птахаў — яе тонкія лініі. Ноч.

## СПАДАР ВАНГ

Спадар Ванг хутаўся ў паліто, якое я купіў яму на «Кантыненце», піў гарэлку, чхаў кожны раз, калі шклянка зноў ставілася на стол, зноў піў, сумна пазіраў на шэрыя аблокі і маўкліва хітаў галавой.

У вялізнай місе ляжаў халодны рыс. Мы бралі яго пальцамі і ляпілі камячкі. Сцяна закінутага малаказавода была ўсеяна белымі зярняткамі.

— А цяпер падыдзі да сцяны, — сцішана сказаў спадар Ванг.

Я прытуліўся спінай да вільготнай атынкоўкі. Вецер лашчыў мае валасы. Рэвалюцыя кававых бабоў гудзела тысячамі млынкоў у маёй душы.

«За свабоду Тыбета! За гарбатавы дамок Лаашэ!» — мой крык патануў у глыбокай шахце завода.

Спадар Ванг не кінуў у мяне вараным рысам — ён зноў выпіў гарэлкі, чхнуў і папрасіў навучыць маляваць лазурныя аблокі.

Маляванне акварэллю на руінах малаказавода было любімым заняткам для спадара Ванга ў восеньскім Віцебску.

## БАРЖЫ ЧАСІН

Па Дзвіне вязуць пясок баржамі — адпрацаваныя секунды сонечнага гадзінніка.

## 99 АБІСІНСКІХ КОТАК

Упершыню ўбачыў абісінскую котку, калі быў у Егіпце — было холадна, аўтобус спыніўся ў пустэльні, і мы з ахоўнікам грэліся ля вялізнага радыятара аўтобуса.

— Глядзі, котка, — сказаў ахоўнік па-англійску.

— Так, — глыбока каўтаючы дым, адказаў я, — вельмі прыгожая.

— Абісін, — пазіраючы ў далягляд, прашаптаў ахоўнік.

«I LOVE YOU, MY ABISSIN GIRL», — запісаў я ў занатоўніку.

Сёння я разглядаў котак на начной сарочцы сваёй дзяўчыны — і падлічыў іх, бо не спалася — роўна 99 і адна ABISSIN GIRL.

«I LOVE YOU, MY ABISSIN GIRL», — прашаптаў ёй на вуха.

99 абісінскіх котак лавілі мышку і вартавалі сон.

## ШЫЙНЫЯ ХУСТКІ

Я ляжаў у яе абдымках і, цяжка дыхаючы, глядзеў на лёгкія, празрыстыя шалікі і шыфонавыя накідкі на стале. Мне падабаліся лаканічныя лініі дзявочых, вельмі прыгожых грудзей пад шалікам, крыху агрэсіўныя пацалункі нашых вуснаў.

— Ш-а-к-а-л-а-д, к-а-р-а-мель, — шаптаў я, — ман-да-рын, а-а-арэх, с-у-н-і-ч-н-ы дж-дж-э-м для абаіх і крыху дэсерту.

— Ты вельмі прыгожы пасля пацалункаў, — адказала яна, гледзячы мне ў вочы. — Джордж Брумель мусіў нарадзіцца ў Віцебску! Віцебскія мужчыны не носяць шыйныя хусткі. Толькі жанчыны...

— Я хачу быць тваёй шыйнай хусткай. Адчуваеш мой водар?

— Так... Файна! Вельмі ўзбуджальна... Кляйн даказаў, што водар не мае полу.

— Галоўнае — жаданне, і Кельвін Кляйн авалодае майстэрствам Джорджа Брумеля...

— Галоўнае — жаданне, і цэлы свет будзе насіць саламяныя капялюшыкі.

Мы грэліся ў ваннай і пілі маладое іспанскае віно, мы размаўлялі пра Бога і Мадыльяні. Жаданне пагаварыць было нашым жаданнем.

## АРГЕНЦІНСКАЕ ВІНО І ЧОРНЫ ХЛЕБ

У нас было аргенцінскае чырвонае «El pastor» і чорны хлеб. Жанчыны шукалі нас і зрывалі першыя кветкі за ратушай. Сярод нас быў адзін банкір. Ён дакладна ведаў, што крызіс скончыцца, абавязкова скончыцца — мы былі беспрацоўнымі і

пілі аргенцінскае віно. Жанчыны шукалі нас, бо ведалі, што крызіс нарэшце скончыцца. Банкір сумна глядзеў на афішу — яму падабалася французскае кіно, але ў нас ужо не было грошай, каб купіць самыя танныя квіткі.

## ПАНЧОХІ

Жаночыя панчохі сохнуць над каларыферам. Дождж за вакном. Водар знаёмы ў пакоі. Цёпла пад коўдрай з вярблюджай воўны, пахне зямлёю і першымі касачамі за ратушай. Марк Леві, «Между небом и землёй», на пісьмовым стале.

* * *

Апошнім часам я зрабіўся таксама ціхмяным — мне падабаецца шукаць добрыя вочы ў натоўпе. Я хачу дасягнуць чаго-небудзь у гэтым жыцці, хаця я яшчэ не вызначыўся дакладна — чаго.

## НЕБА КАЛАБРЫІ

Пісаў пра неба Калабрыі, якое ніколі не бачыў. Рассыпаў сухую блакітную гуаш на падталы снег. Але самага галоўнага мне не хапала — яе вачэй. Яе вочы таксама не бачылі неба Калабрыі.

## ДВОЕ

«Мы зробім гэты свет больш яскравым», — сказала яна, ведаючы, што я люблю рэкламу.

«Мы зробім той свет больш яскравым», — сказаў я, ведаючы яе празмерную набожнасць.

## СНЕГ І САМАЛЁТ

Ідзе снег. На фоне вячэрніх аблокаў грузавы самалёт. Ён узлятае...

## ЧАРАВІЧНЯ НА НІЖНЯЙ ПЯТРОЎСКАЙ

Святы Георгій з акраўкаў у чаравічнай майстэрні на Ніжняй Пятроўскай — шкляныя боцікі, срэбраныя цвічкі, цясляныя падэшвы. Мне падабаецца прыходзіць увечары, калі ў паддашку гучаць мелодыі Роберта Планта і Рычы Блэкмора. Піць каву і слухаць Led Zeppelin, калі за вакном падае снег.

## ВЕТРАНАЯ ВУЛІЦА

Няма больш млына на Ветранай вуліцы, толькі твой дом, з каванымі ружамі над уваходам, застаўся. Ружы пахнуць red petal і кавай. На тваёй кухні аднастайна гудзе кававы млынок.

## ДВОРНІК ВАСІФ

Птушкі клявалі на сметніцы марожаныя абрыкосы. Дворнік Васіф не праганяў іх, сядзеў на бардзюры і піў гарбату. Яго вейкі і піялу ўпрыгожваў снег. Я падышоў да сметніцы і разагнаў птушак. Абрыкосы былі вельмі смачнымі, прыемна халадзілі язык, п’янілі. Васіф спачатку вылаяўся на мяне, а потым пачаставаў гарбатай і падараваў пакецік сонечнага кумкату і пурпурова-чорнай куманікі. У Васіфа было пяць дачок і ніводнага сына.

* * *

Я скраў у «Віцебскіх прадуктах» бутэльку «Cato Negro», нарэзку вяндліны і аддаў іх студэнту за Смаленскім рынкам. Мне хацелася намаляваць яго вочы — вочы вялікага М. Але не змог — ён прынес мне букет калаў у падарунак.

Я сказаў, што гэта кветкі памерлых. Ён заплакаў. І я не змог намаляваць яго вочы.

## ДРОБЯЗЬ

У левай кішэні была тысяча рублёў, у правай кішэні была тысяча рублёў. На тысячу з левай кішэні мы купілі салёнага пячэння, на тысячу з правай кішэні мы купілі шакаладных танцораў.

Сусветны крызіс растае на нашых языках.

Таццяна ДУБОЎСКАЯ



*Таццяна Дубоўская нарадзілася ў 1987 годзе ў вёсцы Папшычы Глыбоцкага раёна Віцебскай вобласці. Цяпер студэнтка 5 курса факультэта беларускай філалогіі і культуры Віцебскага дзяржаўнага універсітэта імя П. М. Машэрава па спецыяльнасці «Літаратуразнаўства». Друкавалася ў газеце «Літаратура і мастацтва». У «Маладосці» друкуецца ўпершыню.*

# БЯСЧАССЕ І БЯЗМЕЖЖА

* * *

чалавек бяжыць наўздагон
чужым слядам
часам спыняецца каб убачыць
свае
але на месцы сваіх — цень чужых
слядоў
якія сцёр час
чалавек бяжыць наўздагон самому сабе

* * *

адлічваю крокі
ў бясконцасць
якая — яшчэ далёка перада мною
якая — ужо далёка па-за мною

* * *

чалавечым лёсам
кіруе
бясчассе і бязмежжа
каб спазнаць
іх
чалавеку дадзена жыццё
наколькі гэта мала
і
наколькі гэта шмат
чалавек не ведае
ды
і не можа ведаць
бо
чалавечым лёсам
кіруе
Бог

* * *

блукаю ў сівым тумане
дзе даўно змерзлі зоры
у асеннім дажджы
што заімжэў лугі
па бясконцай далечыні
дзе анямела рэха
па чужой зямлі
стаптанай да крыві
па вятры золкім
не шкадуючы сябе
блукаю
каб
знайсці
і надалей
шукаць
і не знайсці
урэшце
сябе

* * *

праз халады і сцюжы
б'ецца цеплыня
яна ратуе
нават нежывое
сэрца

у бясконцасці і нямоце
шэпча голас
ён павяртае
з віражоў
на дарогу

ад радасці і шчасця
коціцца сляза
яна гаркотаю
сваёю
гоіць раны

праз вятры і дажджы
даносіцца малітва
з небыцця
святой
на жаль
не вечнай
Маці

* * *

зіма ў снегападах
восень у лістападах
лета ў зарападах
вясна ў промнепадах
яны губляюцца ўва мне
і зноўку знаходзяцца
і гэта ёсць маё жыццё

* * *

прамяні кветак
упалі на твар
і зліўшыся з ім
у пацалунку пяшчоты
непрыкметна растварыліся
ў маленькія складачкі ля вачэй
і ва ўдзячную ўсмешку за Вясну

* * *

калі падае першы снег
ён дорыць святло надзеі
ўсяму жывому і нежывому

калі засцілае зямлю
саграе ўсіх
сваёй жарснай гарачынёй

калі растае
выратоўвае
нават нявартых яго —
жыццём

а многія
бачаць
у ім
проста
зіму

Уладзімір ЦІШУРОЎ

# СВЕТЛАЯ

## *Аповесць*

*Прабачце мне, даруйце,* мае жаданні… Раней я ішоў вам насустрач, хацеў, каб вы жылі, адчувалі радасць існавання і не паміралі, толькі што нарадзіўшыся. Так было раней, калі мне было дваццаць і крыху больш. Я мог купіць на апошнія грошы ў чыгуначнай касе мінскага вакзала квіток да Ашхабада і паехаць… Паехаць у той незнаёмы і таямнічы горад, вуліцы і дамы якога бачыў толькі на экране тэлевізара ці на вялікім экране кінатэатра. «Што гэта за горад? Які ён? Якія там вуліцы, людзі, трамваі, аўтобусы, базары, тэатры?» У галаве нараджаліся тысячы пытанняў. І здавалася: прыеду туды і ўсё пабачу, адчую, і пытанні, знайшоўшы адказы, не будуць мяне тачыць, як шашаль точыць здаровае дрэва і робіць яго хворым. Мяне мала хвалявала, не страшыла, што ў кішэні пасля набыцця квітка заставаўся ўсяго адзін памяты і вельмі ўжо загарэлы савецкі рубель. Я ехаў у зялёным цягніку насустрач жаданню. Са звычайнага савецкага грамадзяніна пераўвасабляўся ў падарожніка, першаадкрывальніка. Так мне здавалася. Бо калі штосьці для сябе ўпершыню адкрываў — адкрываў для ўсіх. Паўтару: так здавалася. Але ў Ашхабад я паеду ў 1986 годзе. А вось у верасні 1984-га вырашыў з'ездзіць у славуты каўказскі курортны горад Сочы. Ад некага пачуў, што на пачатку восені там, у Сочы, пачынаецца «аксамітны сезон». Дапытваўся ў знаёмых, што ж гэта за сезон такі… Адзін з паўхвіліны падумаў і адказаў: «Ну як ты не разумееш? Гэта час такі на моры ачмуральны! Садавіны поўна — еш, аб'ядайся! Вада ў моры мяккая, цёплая — добра!» Мне ўяўляліся яблыкі і памідоры на нячыстым, чамусьці бляшаным стале з увагнутасцямі. Уяўляліся і зеленаватыя гронкі паўднёвага вінаграду на базары, яшчэ, па-нямецку кажучы, усялякіх «обстаў», і за імі — няголены чарнявы хітраваты каўказец-гандляр, і мае светлыя пачуцці ўмомант шарэлі… Базарныя плошчы, хай там многа чаго ёсць, чаго няма ў нас у Беларусі, мяне не захаплялі. Найбольш рамантычным падаваўся пейзаж мора, прыбярэжжа са скаламі, шэрымі, чорнымі камянямі, якія, пакорліва ўткнуўшыся галавой у якую гару ці бераг, як пакрыўджанае малое ў матчын падол, цярпліва ігралі сваю пейзажную ролю, калі можна так сказаць. Але вось



*Уладзімір Цішуроў нарадзіўся ў 1966 годзе ў вёсцы Навапруддзе Круглянскага раёна Магілёўскай вобласці. Скончыў Круглянскую СШ. Пасля службы ў войску вучыўся ў Маскоўскім і Магілёўскім педуніверсітэтах. Працаваў фізкіраўніком у школе, у Мінскім абласным музычным таварыстве. Аўтар кніг вершаў «Бярозавы шлях», «Выслухай вецер», кнігі прозы «Першая струна» і іншых.*

мора з ярка-блакітнай вадой (здаецца, яе так пафарбавалі нябачныя мастакі) трымаецца зусім незалежна і эгаістычна ад тых самотных прыбярэжных камянёў, пяску і беднай горнай расліннасці. Хоць слова «мора» і адносіцца да ніякага роду, але мне падаецца гарэзлівай дзяўчынкай-падлеткам, якая ганарыцца гэтай гарэзлівасцю і магчымасцю напоўніцу пагарэзаваць. Бывае на моры такі час, калі хвалі вытанцоўваюць адна перад адной, як балерыны пад нячутную музыку нябачнага музыкі. Шэра-зеленаватая коўдра марскога туману па-бацькоўску заклапочана захінае ад некага мора. Мо ад злога вока ці яшчэ ад чагось? Невядома… Вось такія асацыяцыі ўзнікалі ў час гаворкі з якім знаёмцам пра мора. І ў дадатак прыгадвалася вельмі лірычная пранікнёная песня пра мора ў выкананні Юрыя Антонава:

Море, море — мир бездонный,
Пенный шелест волн прибрежных.
Над тобой встают, как зори,
Над тобой встают, как зори,
Нашей юности надежды…

Яна гучала з многіх вокнаў мінскіх рабочых і студэнцкіх інтэрнатаў і, мусіць, мела ролю агітатара: каб людзі, усё кінуўшы-рынуўшы, імчалі да мора.

А перад паездкай у Сочы меў шмат няздзейсненых жыццёвых планаў. У красавіку таго ж года ўладкаваўся на працу ў адно мінскае будаўнічае ўпраўленне. Тое, што скончыў два з паловай універсітэцкія курсы (амаль незакончаная вышэйшая адукацыя ў чалавека), кадравіка не цікавіла. Не цікавіла і тое, што паўтара года адбаярыў фізкіраўніком у васьмігодцы з драўлянымі сценамі і такімі ж жыццёвымі сцэнамі. Карацей, інтэлігент, прадстаўнік разумовай працы на вачах кадравіка і іншых прысутных ператвараўся ў простага рабочага-будаўніка. Чамусьці хацелася на той час пажыць у вялікім горадзе, дзе столькі моладзі, столькі спакус, столькі захапленняў. Калейдаскоп падзей, знаёмстваў, сустрэч!.. Хуткі рытм жыцця!.. Гэта не тое, што самота вясковага жыцця, дзе кожны дзень — адны і тыя ж аблічча, размовы аб надзённым. Чырвоныя твары вясковых хлопцаў, мужчын, а часам і жанчын… Туга, самота, аднастайнасць…

Я проста хацеў уцячы з вёскі і пажыць у вялікім горадзе. А кім і дзе працаваць?.. Што ж, калі бяруць толькі на будоўлю, дык я згодзен! Абы толькі застацца ў сталіцы. Інтарэсу да будаваных нашай брыгадай аб'ектаў не меў. Што брыгадзір загадваў, тое і рабіў. Загадваў капаць яму — капаў. Загадваў памагчы пагрузіць лісты бляхі на машыну «ЗіЛ» — грузіў. Праўда, неяк проста ў кабіне прыйшло натхненне: пачаў складаць вершы і запісваць шэрым алоўкам на аркушыку шэрай паперы. І да таго распісаўся, што, прыбыўшы назад, схаваўся ў цёмным калідоры аб'екта, які будавалі, і працягваў вершапісанне. «Во, паглядзіце — паэт!» — засмяяліся белабрысы брыгадзір і яго памочнік, убачыўшы мяне ў цёмным калідоры з алоўкам у руцэ. І тут муза мяне пакінула — не любіць чужога вока.

Улетку вырашыў працягваць вучобу на журфаку. Намеснік дэкана абяцаў узнавіць мяне на курсе. Я быў на вяршыні радасці, што зноў стану студэнтам. Ды абяцальнік шэрым дажджлівым днём нечакана сказаў: «Вы спазніліся…» Незразумелы нейкі чалавек гэты намеснік: учора казаў, што я прыйшоў у час, а сёння… Канечне, я быў непрыемна ўражаны. Шэрым было надвор'е ў той дзень, шэрым зрабіўся настрой. Да таго ж напрыканцы ліпеня, маючы спадзяванне, што буду вучыцца, звольніўся з будоўлі. Хоць звольніўся з бударганізацыі, але начаваць працягваў у іх інтэрнаце. А куды было падзецца беднаму was будаўніку?

На час майго ад'езду ў Сочы ў Мінску было не такое ўжо і восеньскае надвор'е. З раніцы, праўда, на гараджан дыхала холадам ночы, а апоўдні і сонца магло наведаць бетонныя тратуары, асфальтаваныя вуліцы горада. А заадно і сыпнуць святла

на бледныя пажоўклыя твары гараджан. Але мяне ўпарта клікаў «бархатны сезон», настойліва, спакусліва, як нешта нязведанае і амаль райскае. Цягнік Мінск — Сочы ў параўнанні са мной да мора выбірацца не спяшаўся. Яшчэ ўдзень вагоны стаялі на запасных рэйках, не маючы аніякага інтарэсу да мяне і іншых пасажыраў. Яны, стомленыя, драмалі. Удзень? А што зробіш, такая ў іх была служба: уначы ляцець праз цемру да якога горада, а ўдзень драмаць. Да вечара, да часу адпраўлення цягніка паветра ў горадзе так прагрэлася, што гараджане паздымалі з сябе цёплае адзенне і выглядалі па-летняму. І дрымотны вагон за дзень таксама прагрэўся. Было ў ім цёпла і ад прысутнасці жанчын. Паветра ў вагоне, акрамя таго, што цёплае, было яшчэ і сухое. На чыста вымытай падлозе разасланы доўгі палавічок. І заклапочаная правадніца выглядала па-хатняму. Ад яе паўнаватай постаці веяла жаноцкасцю, раўнавагай, задаволенасцю жыццём. Ды правадніцкі клопат змушаў яе бегаць па вагоне туды-назад, правяраць квіткі, адказваць на бясконцыя, часам недарэчныя пытанні пасажыраў. Адразу адзначыў высокі ўзровень абслугоўвання. Фіранкі на вокнах чыстыя, свежыя, з нейкімі выявамі. Гэта не тое, што ў цягніку Баку — Масква, у якім неяк давялося ехаць, — усё бруднае. А тут раскладзеныя коўдры чыстыя, пасцельныя рэчы белыя і пахнуць пральным парашком і хвояй. Нармальны пах! Адно мяне цікавіла — ці будуць падаваць гарбату з цукрам і пячэннем. Для беларусаў і тых жа правадніц неяк было не ў правілах прапанаваць пасажыру кубак гарбаты… Не нацыянальны напой. Пасадка ў вагон прайшла ціхамірна, без спрэчак, лаянкі, пагроз з боку правадніцы здаць кагось у міліцыю. Пасажыры гаманілі па-хатняму, махалі на развітанне тым, хто заставаўся на пероне. Мяне ніхто не праводзіў.

Два вялікія вежавыя дамы жаўтлявага колеру насупраць вакзала нечым нагадвалі два караблі, якія сохлі на сушы. На вакзал не глядзелі, а спачувальна — адзін на аднаго. Унізе, ля дамоў, ішлі, кожны па сваім клопаце, гараджане.

…Цягнік грукатаў жалезнымі коламі па рэйках, а яны ў адказ гулі, вымаўляючы толькі адзін галосны гук: «У-у-у…» Некаму жаліліся… Мяккая цемра абступала цягнік, і ён спяшаўся праз яе, праз лясы, балоты і сухадолы Беларусі да горада Сочы. Ноч холадам пасажыраў не трывожыла, не калола іхнюю чуллівую скуру. Правадніца, развейваючы па вагоне пахі свежага адзення і кветкавых духоў, заклапочана праходзіла то ў адзін канец вагона, то ў другі — да службовага купэ. Пасажыры ўладкаваліся пад белымі прасцінамі і сінімі коўдрамі на сон-дрымоту, а правадніца такога сабе дазволіць не магла. На кожным прыпынку яе чакаў службовы тамбур, і яе жоўты, скручаны вакол дрэўка сцяжок павінен быў бачыць дзяжурны кожнай станцыі. Як добра пачуваць сябе ў вагоне, калі бачыш дзейны клопат правадніцы.

Не памятаю нічога адметнага, калі праязджалі Гомель, Калінкавічы ці іншыя беларускія гарады. Затое запомніўся ўкраінскі горад Крамянчуг. Жоўтыя, моцна нагрэтыя сонцам сцены вакзала на некалькі паверхаў выглядалі стомленымі і абыякавымі да пасажыраў, цягнікоў. Чыгуначны вакзал нагадаў мне ўкраінца, абпаленага сонцам, высмаленага, хударлявага… Там і прырода, і людзі вельмі адрозніваліся ад нас. Не было той запаволенасці ў рухах, не было скупога сонца, нашай шэрай прахалоды. Мне хацелася выскачыць з вагона ў цёплае крамянчугскае паветра на перон вакзала і падарыць хаця б усмешку братам-украінцам! Але вагонная разамлеласць так апанавала мяне, такая ленасць і абыякавасць авалодалі мной, што не хапіла сілы выйсці з вагона для здзяйснення гэтай мары. Потым цягнік асцярожна стукаў коламі па стыках рэек на вузкім і доўгім мосце, паабапал якога была толькі вада Крамянчугскага мора. Пасля даведаўся, што наш сівы Дняпро ля названага горада так шырока разліваецца, што займеў назву не абы-якую, а *мора*! І аніякіх

табе жарцікаў, толькі мора! Паветра было напаленае, як метал, і мела шаравата-попельны колер. Інакшы колер і быць не мог, бо набліжаўся задушны крамянчугскі надвячорак. Загадкавай была зеленавата-сіняя вада таго мора, і над ёй папялілася паветра. Ад вады падымаўся халадок, але на яго тут жа зверху апускала свае крылы цёплае паветра надвячорка. І ў акно вагона то ўрывалася некалькі кубоў гарачага ветру, то які кубік прахалоды. І ад гэтага перападу тэмпературы на руках некаторых пасажыраў ускоквалі пупырышкі. Пасля Крамянчуга цемра схавала ўвесь астатні ўкраінскі водна-пясчана-стэпавы пейзаж.

Керчанскі праліў уздрыгваў марскімі хвалямі і пазіраў на нас і цягнік незадаволена, адчужана. Хвалі ганяліся адна за адной, нібы адна ў другой нешта забрала, як гэта бывае між дзецьмі ў дрэннай сям'і. Вагоны з аднаго берага на другі перапраўляліся на пароме, які ад цяжару апускаўся ў ваду і сеяў сумненне ў грудзях пасажыраў наконт сваёй трываласці. Асабліва ў жанчын. Іх стомленыя дарогай твары ў страху палатнелі.

На моры быў шторм. Але ў праліве чуліся толькі яго адгалоскі.

Цягнік Мінск—Адлер праз Сочы і спяшаўся, і цягнуўся да сваёй мэты разам з пасажырамі без нечага паўтара сутак. Пасля другой ночы, праведзенай у вагоне, які, нягледзячы на сваю прыбранасць і санітарную чысціню, надакучыў, прачнуўся я на досвітку. Досвітак, вядома ж, бывае туманны, санлівы, не абуджаны рухам машын, людзей і цягнікоў. І наш цягнік на станцыі Джанкой мала каго пабудзіў. На перон выйшаў у чырвонай фуражцы дзяжурны па станцыі. Невысокі, хударлявы каўказец з хлапчуком неяк сіратліва-няўтульна пачуваліся ў гэты досвіткавы час, калі астатнія паўднёўцы эгаістычна спалі пад цёплымі коўдрамі ў цёплых ложках. Чаго было ўдосталь на поўдні былой краіны СССР, дык гэта цёплага паветра і прасторы. Вось яна, перад табой: хочаш — ляці, калі маеш крылы, хочаш — бяжы, калі не маеш дыхавіцы ды лішняй вагі, а хочаш — тэпай пешкі… Нічога на названай станцыі мяне асабліва не ўразіла, я патупаў туды-назад па пероне і шмыгнуў у цёплы вагон з нашымі беларускімі нацыянальнымі прыкметамі і частковым ужо духам. Пацягнула на сон, пад прасціну і коўдру, і я жаданню не пярэчыў, тым больш гадзіннік паказваў усяго 5 гадзін раніцы.

Мне сніўся сталічны горад Мінск, будупраўленне, кадравік з жоўтым, як у манаха, тварам і мужчыны з будбрыгады разам з хітрым, ціхмяным выпівохам-брыгадзірам. Сюжэт сну быў няяркі, невыразны, сцэны плылі адна за адной, як у невясёлым кіно.

Курортны горад Мінеральныя Воды мяне асабліва нічым не ўразіў. Пузатыя курортнікі сноўдаліся туды-сюды па шэрых тратуарах, і цяжка было вызначыць, хто яны — украінцы, рускія, літоўцы ці каўказцы. Уразіла будыніна ля вакзала з урачыстымі, таксама жоўтымі, калонамі на фасадзе, крыху меншымі, чым у Вялікім тэатры оперы і балета ў Маскве. Толькі каланада нагадвала праяву культурную, астатніх прыкмет не было. Праваднiца на маё запытанне паведаміла, што гадзіны праз дзве будзем ля мора. Цягнік выгінаўся, як змей, між высокіх, пакрытых кустамі, дрэвамі, рознай раслiннасцю Каўказскіх гор у іх паўночнай, прытуапсінскай частцы. Туапсе — курортны горад. Музычны строй слова, глухі-заглушаны, вясёлых асацыяцый не выклікаў. Дзве гадзіны для мяне цягнуліся, як дзве вечнасці. Сон не браў, газеты і кнігі прачытаныя, з суседзямі ўсё перагаворана, адно свежыя ўражанні можна было ўзяць адтуль, знадворку, а відаць былі толькі крутыя схілы гор. Звычайны горны пейзаж.

Урэшце, калі запас майго чакання выветрыўся і зноў захацелася прыкласці стомленую галаву да маленькай вагоннай падушкі, цягнік вынырнуў з прамежжа гор да прасторы. Я проста адчуў гэту прастору, бо яна і ў грудзі мае пасялілася і напаўняла іх свежым салодкім паветрам. Зірнуў у акно налева — ля падножжа зялё-

най гары вынырваюць з зяляніны дрэў чырвоныя дахі гарадскіх дамоў, пабеленых, акуратных. Пад кафэшным парасонам за столікам сядзіць жанчына ў лёгкім стракатым адзенні, насупраць — яшчэ адна, пэўна, сяброўка. А там яшчэ нехта…

І такая ва ўсім бесклапотнасць, ціхмянасць, што хоць ты вазьмі і ад радасці кінься ў скокі ў душным вагоне. Зірнуў направа — і дыханне перахапіла ад здзіўлення: у акно вагона глядзела блакітная шырокая прастора мора. Лёгка гойдаліся хвалі, і ўздоўж берага белай тоўстай вяроўкай цягнулася паласа марской пены. Над сінім морам высіўся блакітны туман. Дымка! Кажуць, дзівос на свеце не бывае… А я ў той момант у праўдзівасць выразу не паверыў. Аказваецца, дзівосы ёсць на свеце! І адно з іх — вось яно, перад табой! Неба са сваім блакітам, чысцінёй, наяўнасцю яркіх фарбаў мору прайграе. Яно падаецца выліняллым, малаўражлівым, як адзежына, якую апякала сонца. Пабег у тамбур, высунуўся, каб дыхнуць туапсінскага курортнага паветра. Адначасова не перастаю глядзець на цуд-мора. Хвалі бягуць і бягуць да берага, нібы кожная спяшаецца да некага ў абдымкі. Але толькі чмокнуўшыся з пяском, вельмі жоўтым, прамытым хвалямі, ныхрае назад у прадонне. Я пакінуў жалезны вагон, перабег жалезныя цяжкія чорныя рэйкі і па схіле — да мора. Хвалі беглі да мяне, я — да іх! Прывітанне! Вітанне! Віта! Скінуўшы трыко і кашулю, пабег у ваду. Яна празрыстая, відаць жоўтае дно… І вада калышацца, гойдаецца — няма спакою! Цёплая, крыху пашчыпвае скуру пэўным запасам солі. Марская шыр, паверхня бяжыць пад самы небакрай, і там абалонка неба апускае сваё крыло ў ваду, і здаецца, за ёй ужо мора няма. Праплыў некалькі метраў, пачуў сябе пясчынкай у свеце і моры. І яшчэ адчуў цяжар цела — калода нейкая, а не цела. «А раптам цягнік пойдзе далей без мяне? Што тады будзе?» — мільганула ў галаве. Зірнуў уверх — цягнік сапраўды, не дачакаўшыся мяне, няспешна пайшоў далей уздоўж мора да Адлера. Тут давялося праявіць хуткасць. Адно баяўся зачапіцца нагой за які выступ ці шпалу і бразнуцца белым адзеннем аб чорныя прамасленыя шпалы. Свой вагон дагнаў. Бландзінка-правадніца глядзела, як бягу, і скаліла зубы. Хаця ў тыя хвіліны мне патрэбна было спачуванне і падбадзёрваючае слова: «Ну! Ну!» Ну хаця б: «Но-о!» Але не здзеклівае выскалянне. «У-у-у, бландзінка!» У аднастайнасці службы яна, мусіць, шукала разнастайнасці і знайшла. Гэта была сцэна, як я даганяў цягнік Мінск — Адлер!

«Вось прыеду ў Сочы, а дзе там жыць? Кватэру, жытло трэба шукаць. Плаціць трэба». Інтуіцыя падказвала, што мае шэсцьдзесят савецкіх рублёў у кішэні дазволяць пажыць ля мора дзён восем-дзесяць. «Але дзе ж потым узяць грошай на зваротны квіток? Ага, дам тэлеграму маці, каб выслала. Маці, мама, — надзейны тыл, у тым ліку і фінансавы, для вандроўніка сына. Дзякуй, мама!»

Да Сочы ўздоўж мора цягнік наш цягнуўся крыху хутчэй, чым чарапаха з імем Клу.

Пасля абеду па горадзе Сочы гуляў празрысты цёплы вецер. Ён некуды спяшаўся ці нешта шукаў, страціўшы. А можа, яму ўвогуле надакучыла кватараваць у Сочы і хацелася збегчы, толькі куды — не ведаў. Вось і тармасіў людзей: каго за руку, каго за чуб ці шырокую спадніцу: «Куды мне падзецца? Куды паляцець?» Але анікому не было справы да яго. Вяртаючыся назад, хочацца адзначыць, што стройная бландзінка правадніца, калі мы, пасажыры, каго апекавала сваёй увагай і клопатам, выходзілі з вагона, развітвалася з сумам на мужным, строгім праваднічым абліччы. Звыкліся, парадніліся за час падарожжа. А няўжо з роднымі можна развітацца без жалю? Шэры камячок суму пры развітанні з бландзінкай сядзеў пэўны час і ў маёй душы.

— Дзякуй вам! Да пабачэння! Дзякуй вам… Прыязджайце, назад разам паедзем… — казалі ёй пасажыры, у тым ліку і я. Бывай, бландзінка, дай бог табе любові і кахання! Астатняе знойдзецца ў жыцці.

Сочы нечым нагадваў і каўказскі, і расійскі гарады. Дамы розных вышыньпаверхаў — бялявыя. І — дрэвы, дрэвы, дрэвы… На вуліцах уздоўж тратуараў, у садках гараджан і на схіле гары Каўказа. Тое ж можна сказаць і пра кветкі. Кветкі, кветкі, кветкі на клумбах розных форм і памераў уздоўж тратуараў. Дробныя і буйныя, раскошныя і не вельмі… Тратуар пад нагамі не шэры, а бялявы, як падлога ў закрытых памяшканнях розных устаноў нашых гарадоў. Тое, што ў Сочы на вуліцы, у нас — у памяшканні. Гэта здзіўляла. Але калі даведаўся, што ў Сочы адпачывалі ва ўласных летніках кіраўнікі дзяржаў, дык здзіўленне прапала. Першым асобам дзяржавы — усё найлепшае! У Сочы адзін добры чалавек параіў мне пашукаць жытло за горадам. Там танней. Даехаў да станцыі Лоа. Што азначае назва, з якой мовы слова, — для мяне было загадкай. У бабуль, якія прадавалі кветкі ля станцыі, спытаў — да каго звярнуцца наконт часовага жытла. Дамаўляцца давялося з паўнаватай пажылой татаркай, якая больш вывучальна мяне разглядвала, чым размаўляла. На словы была скупая. На ўсмешку таксама. Аблічча было насупленае, вельмі ўжо задуменнае, нібы, ідучы па сцежцы да свайго дамка, рашала шахматную задачу.

У калідорчыку і бакоўцы, дзе было светла, чыста і стаялі два ложкі, адразу весела заявіў:

— Во тут я буду спаць!

Бабуля насуплена мовіла:

— Нет, здэс занята… Я іншае табе месца знайду…

Спытаў, колькі плаціць за суткі.

— Два рублі пяцьдзесят капеек.

«Мно-ога», — падумалася. Патаргаваліся, сышліся на двух рублях. Татарка павяла мяне ў садок, да яблыні. Пад ёй стаяў ложак з высокімі металёвымі спінкамі. На ім — старая ватовая коўдра з працёртай тканінай. Белыя плямы ваты выбіваліся з-пад тканіны. Замест матраца таксама была разаслана коўдра. Душа мая пайшла ўніз да каленяў і костачак ля ступні. І чорны холад воўчыўся ў маіх грудзях. Гэта быў пратэст. Ён гатовы быў узвыць перад пажылой татаркай і вымавіць: «Вы што?! Тут начаваць?»

— Не бойся, тут добра спаць, ноччу цёпла, жара, спі тут, не бойся, — улагоджвала старая.

Але воўк-пратэст ірваўся з маіх грудзей, каб укусіць татарку ці пачаць лаянку, вымаўляючы абразлівыя словы — маім языком, вуснамі і розумам.

«А куды падзецца? Хутка звечарэе. На вакзале ж спаць не будзеш. Які там сон? Застануся тут пакуль што…» І воўк-пратэст з мяне нябачна выскачыў і пабег шукаць іншую душу ў сочынскім наваколлі.

— Грошы наперад! — загадала татарка.

— Рублёў пяць дам.

— Мала, — сказала татарка.

«У-у, скупоцця, у-у, хапуга», — да мяне вярнуўся воўк-пратэст і ўзвыў гэтымі словамі.

— Вазьміце, — даў татарцы дзесятку.

— Пашпарт давай! Міліцыя правярае, — запатрабавала жаўтлявая гаспадыня з рудымі кропкамі-вяснушкамі на звялай скуры, у бляклых крывых лініях маршчын. І я аддаў пашпарт.

З пачуццём агіды, пасядзеўшы на так званым ложку для адпачываючага хвілін пяць, пайшоў да мора і ўвогуле пазнаёміцца з наваколлем. Сонца не было. Падалося, яго скрала ці мо купіла і схавала, каб потым прадаваць за грошы, гаспадыня-татарка. Затое было цёпла, хоць хадзі без адзення, і краявіды выклікалі інтарэс, захапленне, роздум. Тут нібы пачыналася новае жыццё! Прывітанне, новае жыццё!

Вузенькі масток на бетонных палях цягнуўся ад берага ў марскую прастору над вадой метраў на сорак. На ім можна было спыніцца і глядзець з вышыні на марскі пейзаж. Купалася ля берага дзятва, смуглявыя падлеткі. Былі і бялявыя, славянскага, рускага паходжання. Ныруцавалі з ніжняга яруса мастка ў хвалі — гулялі ў даганялкі. Смяяліся, захопленыя гульнёй, вада па іх сцякала ручаямі. Рускія і нярускія падлеткі мелі паміж сабой сяброўства, паразуменне, роўнасць. Гэта радавала. Дацямна шпацыраваў па беразе мора. Прыгадваў вычытанае і пачутае ад некага, што чыгунку ўздоўж мора да Сочы будаваў Аляксей Пешкаў, будучы пісьменнік Максім Горкі. Пясок, камяні, скала, жара, задуха, і юнак з кіркай у руках б’е з размаху па камянях… — такім уяўляўся мне Пешкаў. Яго прывід блукаў недзе тут, у падгор’і, над рэйкамі чыгункі, і маўчаў. З маўчуном аб чым пагамоніш?..

Вячэраць давялося ў курортнай сталоўцы з вялікай верандай, зацененай раслінай уюнком, дзе была бялявая бетонная падлога, як тратуар у Сочы. Мясныя стравы былі пад вострым каўказскім соусам. Нутро ад яго пякло агнём. Крэсіва, а не страва! Але мой малады страўнік і крэсіва не баяўся, гэтак жа як і астатняга вострага, смачнага. З мора біў брыз з халоднымі паветранымі патокамі, і разамлелыя целы жанчын і мужчын з дзецьмі і без іх пакрываліся пупырышкамі. Іншых кідала ў дрыжыкі, калі стаялі ў чарзе. За стол на верандзе ўжо аніхто вячэраць не сядаў, ішлі ў закрытую залу. Смачна есці!

Да свайго ложка пад яблыняй у дворышча скупой татаркі прыйшоў упоцемках. Скура на руках і спіне гарэла, у нагах пасялілася стома. Распрануўся, залез пад тоўстую коўдру. Паверхня цвёрдая, чужая, нібыта залубянелая. Начное жыццё на станцыі Лоа ціхмянасцю не вызначалася. Пранізліва сігналілі легкавікі, да слыху далятаў шорхат, шум, чуліся адрывістыя словы, воклічы, жаночы смех… Раптам пачыналі ляскатаць на стыках рэек колы цягніка, які праходзіў праз станцыю. І ўсё гэта я чуў, слухаў міжволі, нібы па загадзе нейкага злога, незычлівага да мяне духу. Сон быў не сон, а дрымота з частым прачынаннем. І гэтак я драмаў да 11 гадзін раніцы. Надрамаўшыся, падняўся з пачварнага ложка, апрануўся і патэпаў да мора. На пляжы народу — як на кірмашы. Толькі што аніхто нічога не прадае. Нудыстаў не было. Адпачываючыя, вядомая рэч, хто купаўся ля берага, хто загараў, прыпаўшы да пакрывала, разасланага на марской гальцы ці на дашчаным тапчане, аддана, расслабляльна. Мора падміргвала мне яркімі блікамі на грэбнях хваляў, дураснічала. «Зaverabліваеш ты, мора», — хацелася сказаць. Дазволіў сабе выкупацца ў салёнай вадзе, схаладнець у ёй. Пасля гэтай працэдуры прыемна было грэцца на сонцы і ляніва назіраць за тымі, хто знаходзіцца побач, навідавоку. Недалёка ад мяне загаралі дзве дзяўчыны — туркменкі ці узбечкі. Размаўлялі не па-руску. Ляжалі на жываце, бесклапотна падымалі ўверх ногі, мякка білі пальцамі па жвіры. Размаўлялі, пазіралі праз вузкія шчыліны вачніц на адпачываючых. Гадзіны праз дзве да іх падышлі два хлопцы — таксама з Сярэдняй Азіі. Доўга ля дзяўчат не забавіліся. Спрабавалі ля іх сядзець, ляжаць-загараць, але бачна было, што пачувалі сябе як не ў сваёй талерцы. Пакінулі іх і пайшлі прэч. Твары ў хлопцаў былі тоўстыя і вельмі загарэлыя. Думалася, што яны працуюць у шашлычнай ці гандлююць мясам. Дзяўчаты асаблівай цікавасці ў мяне не выклікалі. Маю ўвагу прыкавала да сябе стройная светлавалосая маладая жанчына, якой на выгляд было гадоў трыццаць. Прадстаўніка моцнай паловы чалавецтва ля яе не было. Побач былі дзве крыху старэйшыя жанчыны. Да іх падыходзіў чарнявы лысаваты мужчына. Пэўна, муж адной з жанчын. Па яе рухах, хадзе, манеры размаўляць адзначыў, што яна з інтэлігенцыі. «Мо актрыса ці выкладчыца якой ВНУ». Калі яна ішла да бірузовай вады, загарэлая, стройная, міжволі любаваўся яе прыгажосцю. Адметным было і тое, што калі плавала, дык заплывала ў мора так далёка, што яе галава на паверхні вады

была ледзь-ледзь бачна. «Смелая! Адчайная! Спартсменка!» Калі выйшла з мора, па скуры беглі тонкія бліскучыя раўчукі — сцякала вада. Яна сморгала далікатным прамым невялікім носам, нахілілася над пакрывалам, каб разаслаць яго на жвіры. Не клалася, не падала ніцма на яго, а сядала — тварам да сонца і мора. Пазірала на свае поўныя, круглыя і прыгожыя ногі, нібы слухала, як іх сагравае сонца. Так напаўлежачы і сядзела на пакрывале, размаўляючы з чарнявай сяброўкай. Мне думалася, што яна прыехала з Кіева альбо Харкава.

Як заўсёды гэта са мной бывае, падысці да прыгожай жанчыны не хапала смеласці, дый хваляванне спараджала спазмы горла. А гэта вам не жарцікі — падысці да жанчыны і маўчаць як вады ў рот набраўшы.

І другую ноч мне давялося правесці пад старой залубянелай коўдрай на ложку пад яблыняй… Спалася ўжо лепей, глыбей — пэўна, прывыкаў. Але такія ўмовы мяне абражалі, прыніжалі. Раніцай звярнуўся да бабуль з кветкамі:

— Дзе знайсці жытло?

— А што вас там не задавальняе, не падабаецца?

— Падабаецца, але, можа, што лепшае ёсць на свеце…

— Вунь на пероне армянка стаіць, падыдзіце да яе, яна бярэ кватарантаў.

Армянка была сямейнай спакойнай жанчынай і, нават стоячы на пероне, выглядала па-хатняму проста. Няважна, што ніжняя сківіца была вузкая, вострая, нос — гарбаценькі, аднак не гэта прываблівала ўвагу. У словах, выразе вачэй, самой размове адчувалася дабрыня, увага да прыезджага. Душа мая адчувала і дыхала прыязнасцю да армянкі.

Мы накіраваліся да яе дома. Ішлі доўга, як падалося, і ўсё ўгору. Тратуар быў асфальтавы, па ім ездзілі і хадзілі. Дом армянкі стаяў па правую руку ад дарожкі, быў вастраверхі і неаднапавярховы. Мураваны падвал быў як бы першым паверхам дома. Тыльная левая частка падмурка вышынёй два метры наглуха прыткнулася да долу гары. А правая, ад двара, дзякуючы крутому схілу была адкрытая, і ў ёй былі ўладкаваны вокны. У двары пад высокім дрэвам стаяла чорная «Волга». Палову падвальнага памяшкання займаў гараж, другую — кватаранты. Над падвалам жыла сям'я армянкі: муж, два сыны, яшчэ нехта з радні. Мне спадабалася, што ў двары панаваў спакой. Размаўлялі гаспадары спакойна, зычліва, гэтак жа, як і астатнія сямейнікі. Усе тут былі задаволеныя жыццём і запрашалі іншых пажыць разам з імі. За грошы толькі. На гарышчы дома таксама былі пакоі для кватарантаў. Было іх каля шасці. Толькі столь у тых пакоях была нахіленая, бо над столлю — схілы даху. Пры ўваходзе ў пакой у поўны рост стаяць было можна, але ля супрацьлеглай сцяны ў поўны рост не станеш — трэба нагінацца. Аднак ля той сцяны звычайна стаяў ложак, а навошта ляжачаму чалавеку высокая столь? Армянка спакойна падымалася па жалезных сходах на гарышча з прасцінай, коўдрай і падушкай у руках, каб паказаць мне месца для адпачынку. Гэта быў ложак злева ад увахода — за паркалёвай шырмачкай. Шырмачка была чыстая, белая, як і душа армянкі.

— Вось тут вы будзеце адпачываць, — паказаўшы на ложак пад схілам даху, сказала мне.

— Колькі вам плаціць?

— Рубель…

«Рубель дык рубель», — душа мая не пратэставала.

Пасля абеду зноў пабег да мора. Зноў убачыў тую жанчыну, якую лічыў акцёркай. Зноў у кампаніі з чарнявымі… Сядзелі вельмі блізка ля вады. Бачна было, што і ў кампаніі жанчына-акцёрка пачувае сябе няўтульна. Быў на ёй нейкі знак самоты ці няўмела схаванай тугі. А з якой прычыны — невядома. Жанчына з блакітнымі вачыма і з брывамі колеру спелай пшаніцы ў кампаніі доўга не забавілася — нечака-

на пакінула яе. На беразе мора зрабілася пуста-пустэльным. Галасы іншых людзей да мяне даляталі аднекуль здалёк, былі чужыя, аддаленыя.

Прыкмеціў тых дзвюх туркменак. Яны ляжалі на пакрывале моўчкі, не размаўлялі, пэўна, не было аб чым. Зноў да іх падышлі чарнявыя хлопцы і на гэты раз пабылі ля іх вельмі мала — хвілін дзесяць. Пайшлі прэч ад негаваркіх зямлячак незадаволеныя. Падышоў да дзяўчат.

— Такія хлопцы, — кажу, — здаровыя, тоўстыя! Што гэта вы з імі не сябруеце?

Адна з дзяўчат уважліва паглядзела мне ў вочы, сказала:

— Нам белы трэба, белы…

— А што гэта такое — «белы»?

— Ну як ты не разумееш… гэта… гэта такі… белыя валасы, вочы блакітныя… Хлопец!

— А-а-а, — засмяяўся, — цяпер ясна. Любіце рускіх хлопцаў?

Туркменкі ў адказ толькі ўсміхнуліся.

Стройная бялявая жанчына-акцёрка назаўтра з’явілася на пляжы яшчэ ў ранішнім тумане. Пляж быў бязлюдны. Скінула з сябе халат, кінула на каменьчыкі і пайшла да вады. Я быў другім чалавекам, што прысутнічаў у той ранішні час ля мора. Жанчына паплыла кролем туды, здавалася, на другі бераг мора, якога і не відаць было. Я скінуў верхняе адзенне і таксама паплыў следам. «Вось у моры мо пазнаёмімся і пагамонім!»

Акцёрка плыла хутка, і мае намаганні наблізіцца да яе хаця б на якіх пяць метраў былі беспаспяховымі. Гнаўся за ёй з усёй сілы, але галава яе на паверхні вады так і заставалася зводдаль. У пагоні аддаліўся ад берага так, што, калі азірнуўся, мяне апанаваў страх: «Не даплыву назад. Сілы няма…»

Спрабаваў плысці спакойна, з меншай тратай энергіі… Але стома абвіла рукі, ногі, рабіла іх непаслухмянымі. Страх, калі ты на вадзе, — не сябар табе, а вораг. Так і не параўняўшыся з загадкавай жанчынай, адно жадаў — як даплысці да берага. Яна таксама плыла да берага, але збоку і зводдаль ад мяне.

Першасная радасць бліжэй пазнаёміцца з незнаёмкай цяпер перарасла ў абурэнне. І цікавасць да паненкі ўжо прапала. Лічыў, жорстка са мной абышлася, холадна, абыякава. Яна выйшла з мора на бераг першай. Абцерлася махровым ручніком, накінула на сябе халат і пашыбавала шырокімі спартыўнымі крокамі прэч з берага.

Я выйшаў з мора і ледзь не ўпаў ад стомы на пясок. Сеў на каменьчыкі, адно жадаючы — прыйсці ў сябе, адпачыць ад доўгага плавання ў пагоні за акцёркай.

Каханне, любоў, увага патрэбныя чалавеку на працягу ўсяго жыцця. Таму выраз Аляксандра Пушкіна «Любви все возрасты покорны» стаўся геніяльным, бо ў любым узросце чалавеку патрэбны любоў і ўвага. Як ва ўзросце дваццаці гадоў, так і сямідзесяці! А мне на час адпачынку ля Сочы, ля Чорнага мора было… дакладней, да трыццаці яшчэ многа не хапала…

Сама армянка падалася мне больш ласкавай, зручнай для розных перамоў, чым той ложак і месца, якое выдзеліла на гарышчы. Хаця… што казаць — за зручнейшае месца і плаціць трэба было не «рубель», а два! Але не гэта галоўнае. Кажуць, чалавек — істота сацыяльна-біялагічная. З біялагічным аспектам, здаецца, многае зразумела, тут маецца на ўвазе чалавечы арганізм — скура, валасы, мышцы, унутраныя органы… А сацыяльны аспект — гэта іншы аспект. Прасцей кажучы, чалавеку цяжка жыць без людзей. Яму хочацца пагаманіць, пазнаёміцца з незнаёмымі людзьмі, пра штосьці даведацца, распавесці пра сябе. Мая цікаўнасць да людзей не служыла мне на той час дрэннай службы.

На другі ж дзень кватаравання ў армянкі, пасля абеду, купання ў моры і зага-

рання, пазнаёміўся з адпачываючымі, што займалі лепшыя пакоі ў доме. Іх было трое: смуглявы вусаты нясмелы мужчына ў спартыўным трыко гадоў пад сорак і дзве жанчыны. Адна з іх — худзенькая, чарнявая, у акулярах, якая нагадвала мне дзесяцікласніцу, — была яго жонкай. Другая — яго сястра — была святлейшая, з кароткай стрыжкай, але поўная, з пукатым жыватом, як у спраўнай кабеты, і акруглымі формамі ўсёй постаці. Гаварыла з украінскім акцэнтам, смела, напорыста і неяк па-прасцецку. Нечым нагадвала мне ўкраінскую пышную, аб'ёмную круглую булку. Вусаты мужчына быў верталётчыкам, яго жонка — выхавацелькай у дзіцячым садку, а круглая працавала загадчыцай аптэкі. Складанасць яе працы была ў тым, каб няпраўду выдаваць за праўду. Прывязуць у аптэку дэфіцытныя лекі, прыходзіць хворы чалавек, просіць: «Дайце, прадайце…» Зірне на яго загадчыца аптэкі — хворы, бедны, невысокага сацыяльнага статуса — і скажа: «Няма лекаў». Затое мясцовым так званым тузам — у аптэцы ўсё было. І з чорнага ўвахода.

— Вой, ды як жа мне ўсё гэта надакучыла, — жалілася круглая, — ноччу не сплю, усё думаю… А што я думаю? Сама не ведаю… Ды гары яно гарам! А не спіцца… Ды вось сабралася і паехала, думаю: можа, тут трохі лягчэй будзе. Мо сон спакайнейшы будзе… Дачка мая ўжо вялікая вырасла, самастойная — мамы не слухае. Пакінула дома, у мамы… Хай мама глядзіць…

Верталётчык быў негаваркі, на мае пытанні пра палёты на верталёце, пра хуткасць, вышыню адказваў двума-трыма словамі, а так усё нешта думаў сам сабе і думаў…

Ля водаправоднай калонкі пасярод двара армянкі на невысокім зэдліку стаяў напоўнены чырвонай вадкасцю двухлітровы слоік. «Што ж там у слоіку? — цікавіла мяне. — Мо сок які ці кампот».

— Гэта віно, — адказаў на маё пытанне муж армянкі, хударлявы, ціхмяны мужчынка. Ён сцішана сядзеў у цяньку ля вугла дома з выглядам, нібыта зрабіў важную, неабходную справу для сям'і і цяпер мог дазволіць сабе шматгадзіннае сядзенне ў цяньку.

— А колькі, — кіўнуў на слоік з віном, — градусаў?

— Ну колькі, колькі? — армянін доўга паўтараў слова і ўрэшце звярнуўся да жонкі, якая была на кухні: — Ніно, во чалавек пытае, колькі градусаў віно.

Армянка нешта сказала па-армянску мужу, потым мне:

— Шмат не будзе, градусаў дзесяць, можа, больш…

— Ці чуў? — звярнуўся да мяне гаспадар.

Доўгая і хітрая размова наконт спіртовай моцы віна мне не спадабалася. Але вырашыў задаць апошняе пытанне.

— А колькі каштуе?

— Што? Бутэлька? Адзін рубель…

— А два літры — чатыры?

— Ну канечне!

Дарэчы тут сказаць, што віно было з выспелага восеньскага вінаграду. З натуральнага вінаграднага соку. А такога я ніколі ў жыцці не спрабаваў на смак. А карцела пакаштаваць — якое ж яно, віно з вінаграднага соку. Праўда, гаспадар двара дадаў потым, калі купляў:

— Ты ведаеш, яно яшчэ нямоцнае, яшчэ не выхадзілася. Два тыдні толькі.

Але я быў згодны пакаштаваць і двухтыднёвага.

З выгляду малагаваркі і незгаворлівы верталётчык пасля роздуму пагадзіўся разам са мной пакаштаваць віна. Якое ж было віно на смак? Спачатку нагадала звычайны саладкаваты хатні кампот. «Фі-і, дык гэта не віно, а амброзія, кісель нейкі», — паддаўся расчараванню. Але хвілін праз пяць пасля першай пробы з

галавы маёй паўцякалі ўсе жыццёвыя праблемы і думкі. Галава нібыта апусцела. Цягнула на смех, на шчырую размову з вусатым кампаньёнам.

— Не, у гэтым віне нешта ёсць, — сказаў я.

— Так, ёсць, — боўтнуў галавой вусаты.

— У нас у Беларусі віно не нацыянальны напой, — кажу.

— А які нацыянальны?

— Ты ведаеш, яблыкі не кожны год ураджай даюць, ды іх і не так шмат у нас… Вось, памятаю, мая хросная з соладу самагонку гнала. Чыстая, моцная… Сама толькі прыгубіць — і зморшчыцца.

— Чаму?

— Арганізм такі. Не магла піць. Там мужыкі з вёскі прыйдуць да яе з раніцы: кум там, ды з ім ягоны кум… «Дай, Хведараўна, сто грам». А пілі шклянкамі. Моцныя мужыкі былі… Потым гармонік у рукі — і пайшоў: «Й-эх!.. Когда б имел златые горы и реки, полные вина, всё отдал бы за ласки-взоры, лишь ты владела б мной одна!» Як зайграе гэты кум, усе — у скокі! І дзень — скокі. Карова ў хляву мычыць, свінні пішчаць, а Хведараўна: «Ды пайшлі яны к… чорту!» Бедна жылі, а дружна! У яе сямёра дзяцей было…

— Колькі?

— Сямёра! У шасцідзесятыя грошай у калгасе не давалі — не было, а пяцёра дзевак — абутку няма, не хапала на ўсіх… Дык нейкія боцікі зялёныя жаночыя па чарзе насілі. Сёння ў школу адна ў іх ідзе, заўтра — другая, а тая дома на печцы сядзіць…

Вусаты ківаў галавой.

Пасля другога кілішка маё сяброўства з верталётчыкам паглыбілася. Ён зусім мала распавядаў пра сябе, вызначаўся паводзінамі контрразведчыка — меней гаварыў, болей слухаў.

— А ты, выпадкова, у контрразведцы не служыш? — урэшце спытаў.

— Ды не, што ты! — усміхнуўся вінавата той.

Хоць віно і не было выхаджанае, але ж хмель у ім быў і пайшоў па нашых артэрыях да самай галавы. Мусіць, за нашай бяседай назіралі жонка і сястра верталётчыка. Ім таксама захацелася пакаштаваць вінаграднага. Праўда, яны нейкі час вагаліся, смяяліся, як ад казытання па пятках, але ўсё ж далучыліся да нас. Першай — аптэкарка. Выпіла і не зморшчылася.

— Дык то ж не віно! — сказала. — Ды пасля такога віна і не закусваюць… Слабае…

— Дык ты на нас паглядзі! — сказаў вусаты. — Ці па нас не відаць, што гэта віно?

— Ды якія вы мужыкі!.. Так, адна назва! Скура ды косткі.

Адчуў, як да маіх чырвоных шчок дадалося чырвані. Рэзкае выказванне аптэкаркі з Украіны аднёс да сябе.

— Затое не жарка! — кажу ў апраўданне. — А то некаторыя сядзяць, і з іх пуцікі плывуць!

— А што такое «пуцікі»?

— Што? Гэта ручайкі такія. Па целе бягуць і бягуць — з тоўстага цела, — правёў указальным пальцам па тонкай сукні, па спіне аптэкаркі.

— Пуцікі, смешна…

Бяседа наша зацягнулася надоўга. Разыходзіцца па сваіх пакойчыках не хацелася. Сонца схавалася за горы. І небасхіл над імі свяціўся залатым пылам. У гарадку Лоа змерклася нечакана. Вецер не знаходзіў сабе месца, залятаў у двор армянкі, нібы аб нечым страчаным хацеў запытаць у нас, і потым кідаўся ўверх, да кроны дрэва сярод двара і вышэй. Неспакойна ён сябе паводзіў…

Што ж было далей? Працягваць вечаровы адпачынак у двары армянкі было ўжо нязручна. Нехта з нас прапанаваў пайсці на бераг мора. Настрой вечара, надвор'е можна было вызначыць радком з верша Сяргея Ясеніна: «Вечер чёрные брови насупил…» Прыхапіўшы з сабой шасціструнную гітару і купіўшы ў армяніна двухлітровы слоік нявыхаджанага, нявыбраджанага віна, накіраваліся на бераг мора. Вецер быў сухі і надзвычай цёплы, і зноў жа яму не было спакою. Прастора між небам і зямлёй нібыта сціснулася. Жыхары Прымор'я ведаюць, што гэта прыкметы далейшага штармавога надвор'я. На пляжы было пуста, высокія марскія зацемненыя хвалі надзвычай хутка беглі з мора і не міралюбна плюхаліся аб пясчаны бераг, а з адчайным шумам і рокатам, нібы ішлі на бераг у атаку ваяры.

Гітара ў маіх руках зазвінела. Песню на вершы шатландскага паэта Роберта Бёрнса, якую ў маладыя гады любіў выконваць расійскі спявак Аляксандр Градскі, заспяваў і я: «Наш старый дом! Хорошо нам будет в нём!» Мроілася, што я не адзін у тым доме, са мной побач аптэкарка. Спяваць дапамагала жонка верталётчыка. Захмялелая, сядзела па-цыганску на каменьчыках і глядзела на мяне праз акуляры, як на зорку эстрады. Песень у маім рэпертуары было нямала, большасць з іх — усім вядомыя эстрадныя 80-х гадоў мінулага стагоддзя. Аптэкарка парывалася пайсці купацца ў бушуючае мора. Брат адгаворваў. Мора пацямнела так, што хвалі былі ўжо не бачныя, адно чуўся іх шум, падобны на выбух узрыўнога прыстасавання. Але аптэкарка была жанчынай смелай, рашучай. Нягледзячы на нашы ўгаворы, скінула з сябе лёгкі халат, яшчэ нешта з жаночых прычындалаў кінула на пясок. Я толькі паспеў убачыць, як яна нырнула ў цёмную сцяну вады — высокую чорную хвалю. Праз секунду белая постаць знікла з відавоку. Верталётчык занепакоіўся, глядзеў, седзячы ля жонкі, на сапраўды ўжо чорнае мора. Я таксама занепакоіўся: як у такі шторм можна купацца, занясе яшчэ куды. Глядзелі на чорныя хвалі і чакалі аптэкарку. Прайшла хвіліна, другая, але жанчына з мора, з яго чарнаты на бераг так і не выплыла. Кінуліся да вады. Чарговая высокая хваля ледзь не накрыла з галавой і нас.

— Ва-а-а-ля-а! — закрычаў брат. — Вы-плы-вай! Дзе ты?

— Ва-а-ля-а! Ва-лю-ха-а-а! — закрычала жонка.

Мора выкідвала на бераг чорную ваду ў выглядзе высокіх хваляў, але Валі не было. Крычалі мы і клікалі аптэкарку даволі доўга, як нам падалося. «Прапала, патанула… — заныла ўва мне страшная здагадка. — Што нарабілі… Навошта яе пусцілі ў мора ў шторм?»

— Ну во, ну во, во, — прамаўляла жонка верталётчыка, ужо пачынаючы плакаць.

— Можа, збегаць у службу выратавання, да выратавальнікаў? — спытаў брата.

— А дзе гэта?

— Дзесь тут павінны быць.

— А можа, яны ноччу не працуюць?

— Ды не можа быць!

— А бог яго ведае, што рабіць!

— Трэба шукаць выратавальнікаў, Коля, трэба! — заплакала жонка.

Я ўжо зрабіў некалькі крокаў, каб бегчы шукаць на беразе службу выратавання, ужо складаў у галаве сказы, каб мяне хутка зразумелі. З цемры над нябачным морам шухнула на бераг чарговая высокая хваля і адкацілася назад. У гэты момант паперадзе наступнай хвалі я ўбачыў аптэкарку. Яна стомлена перастаўляла ногі ў вадзе. Чарговая хваля сцяной была гатова абрынуцца на аптэкарку, але тая страху не праявіла, не пабегла ад яе. Хваля толькі кранулася яе спіны і апала, набегшы на пясок. У постаці Валі асабліва вызначаўся пукаты жывот. Пра жаночыя грудзі вель-

мі многа сказана прыгожых праўдзівых слоў. Валя выйшла з мора без бюстгальтара. Мо яна і нырнула туды гэтак? Яна не закрыла грудзі рукамі, як гэта робяць многія жанчыны. Яна выходзіла з мора, з сапраўднага чорнага мора. І мы не ведалі, ці ёсць у яе сэрцы страх, жуда…

— Валя, што ты робіш?! — закрычала на яе жонка верталётчыка. — Ты што, загінуць хочаш? Ты што-о?

— А што?.. Захацела — пакупалася… — холадна і спакойна, як русалка ці жыхарка вадзяного царства, прамовіла аптэкарка. — Што вы баіцёся?

Мне падумалася, што аптэкарка проста іграе ролю смелай жанчыны, а ў самой душа ў пятках! Але яе спакойны голас змяніў маё меркаванне. Яна так і не прыкрыла рукамі свае грудзі, падышла да нас.

— На, вазьмі апраніся, — жонка верталётчыка працягнула ёй халат, азірнулася на мяне: ці гляджу на амаль не апранутую жанчыну. — Вой, ды я і забылася, што ў нас у кампаніі нежанаты хлопчык ёсць, — неяк, як не ад сябе, выказалася аптэкарка і ўзяла з рук чарнявай халат.

Вясёлы наш настрой з моманту, калі аптэкарка рынулася ў мора, прапаў. Яго, мусіць, забрала мора. Мы пабрылі да дома армянкі. Светлы халат на Валі зрабіўся мокрым, бо нацягнула на мокрае цела. Верталётчык з жонкай пайшлі ў свой пакой, Валя і я засталіся ў двары. Яна пажадала закурыць цыгарэту. Пачаставаў яе сваімі, з фільтрам. У маёй галаве лётаў выраз Аляксандра Пушкіна: «Любви все возрасты покорны! Её порывы благотворны…» Калі Валя, пакурыўшы, паднялася з лавачкі, мы аказаліся вельмі блізка адно ля аднаго. Я прыхінуў жанчыну да сябе — яна была халодная, мокрая, як русалка. Да таго ж — абыякавая…

— Што, паабдымацца захацеў? — прамовіла Валя спакойна, раўнадушна, нібыта я пажадаў нечага такога, што для яе не мае значэння. І сама яна не мае да гэтага інтарэсу.

Контраргументаў у мяне не знайшлося.

На другі дзень мае знаёмыя пачалі пакаваць сумкі і чамаданы. Іх чакала праца, родныя кватэры ў горадзе блізу Запарожжа.

На шостыя суткі майго сочынска-лоаскага адпачынку стаў падумваць аб вяртанні ў восеньскую дажджлівую Беларусь. Усё ж такі набліжаліся першыя дні кастрычніка, і з лёну пры абцярэбліванні павінна сыпацца кастра, адкуль і назва месяца. А разасланы лён любіць дождж\ык і сонца, тады лепш прэе і лягчэй паддаецца апрацоўцы. Але на станцыі Лоа блізу Сочы дыханне восені амаль не адчувалася. Сонца, забраўшыся пад самы купал неба, пякло і без таго высушаную паверхню гор і ўзбярэжжа няшчадна. Часам здавалася, што знаходзішся не ля мора, а ў добра напаленай лазні ў нескупога гаспадара-беларуса. У такі спякотны час сочынскія распаўнелыя жанчыны хаваліся ў цень пад якое дрэўца і насоўкай махалі на сябе, каб крыху ахаладзіцца.

Як і было задумана спачатку, на шосты дзень адбіў на Магілёўшчыну маці тэлеграму з кароткім тэкстам: «Вышли тридцать». Сэнс яна разумела, бо і раней дасылаў тэлеграмы з такім тэкстам. Маці заўсёды палохалася маіх тэлеграм. Але круглявая паштарка супакойвала яе:

— Не пужайцеся, Іванаўна, усё з вашым сынам добра, толькі грошы просіць…

Прысеўшы на крэсла ў хаце, маці казала:

— Ну, сынок… І куды гэта ён заехаў, чаго? Што там яму трэба?

Слепаватая паштарка, прыжмурыўшы вочы, шукала на тэлеграме зваротны адрас.

— Дык гэта ён вам, Іванаўна, з нейкага горада… з Со… з Сочы нейкага тэлеграму адбіў…

— Сочы! Ого! А дзе гэта такі горад? Ці далёка?

— А халера яго ведае… Далёка, мусіць, раз аж трыццаць рублёў просіць.

— Ну, прыедзе — я яму д-дам чосу! — пагражала маці мне пакараннем. — Так, а дзе ж грошы ўзяць? Пачакай, Хведараўна, трэба ж паслаць мальцу, а то прападзе там!

Калі не было сваіх, маці магла пазычыць грошы ў знаёмых, грашавітых людзей, тут жа ўручыць іх Хведараўне.

— Нат-ка табе грошы, Хведараўна, паслухай мяне, я цябе таксама калі паслухаю, пашлі ты яму туды. А то прападзе там, шкада ж мальца, гадавала, расціла…

Паштарка, уздыхнуўшы, клала грошы ў кішэню жаночага пінжака, сядала на службовы веласіпед і ехала далей па вёсцы, маючы клопат ужо і пра мяне, сочынскага адпачывальніка.

Грашовы перавод ад маці атрымаў на другі дзень пасля тэлеграмы — тэлеграф працаваў аператыўна. Атрымаўшы грошы, нейкі час адчуваў сорам і віну перад маці. Аднак рэчаіснасць дыктавала свае ўмовы. На прысланыя грошы трэба было купіць квіток да Мінска, а ён каштаваў больш за дваццаць савецкіх рублёў, ды за пасцель — рубель, за гарбату з пячэннем — яшчэ нешта… Карацей, бязгрошы — ты нехарошы.

Пасля віны і сораму адчуў радасць, што ў мяне ёсць мама, якая гатова аддаць апошняе, абы толькі я вярнуўся да яе жывы і здаровы. З пачуццём радасці падышоў да рэкламнага шчыта мясцовага кінатэатра. Тэматыка фільмаў — пераважна пра курортныя раманы… Кінатэатр быў невялікі — будыніна вузкая, доўгая, больш падобная да вясковага клуба. Але гэтую прыкмету хавалі дрэвы і густое перапляценне галін вакол установы. Яркія крыклівыя рэкламныя шчыты на фасадзе, як ля сапраўднага гарадскога кінатэатра, па хітрых дзеяннях мясцовых культработнікаў і павінны былі давесці клуб да рангу кінатэатра ў вачах адпачывальнікаў. У кінатэатр мне не захацелася. Тым больш аднаму… Які інтарэс? Няма інтарэсу, адна самота з маркотай. І тады накіраваўся да шапіка, дзе прадаваліся касеты з запісамі песень зорак эстрады. З музычнай калонкі далятаў да слыху хрыплаваты знаёмы голас з картавінкай — літару «р» картавіў — «Вечно одна ты почему, где твой медведь?» Тэкст песні палічыў грубаватым, алегорыя, паэтычны вобраз, якім служыў з рудой поўсцю Міхаіл Іванавіч, падаўся няўдалым. «Нейкі грубы намёк…» — падумалася. Пабыў ля так званага кінатэатра, паслухаў песню, у свядомасць пачала пракрадацца думка: тут, на станцыі Лоа, ёсць праявы невысокай культуры. Тут жа прыгадалася сквапная татарка, непрыбранае смецце, агрызкі кавуноў, яблыкаў, звялыя, сапсаваныя памідоры… Усё гэта валялася пад нагамі на базарчыку. І па ўсім гэтым, не абыходзячы, некуды спяшаліся мясцовыя і прыезджыя людзі. Праўда, хто-ніхто ад гэтага малюнка моршчыў твар у агідзе. Над перапоўненымі сметніцамі лятаці чорныя тоўстыя перакормленыя мухі і жаўтлявыя восы.

І тады я вырашыў наведаць Сочы, каб там для сябе штось з культурных мерапрыемстваў знайсці. Блукаў па горадзе доўга. Зноў чамусьці мроіўся малады Алёша Пешкаў з кіркай у руках. Думалася: а дзе ён жыў? Мо во ў гэтым невысокім белым доме (бачна было, што стары)… А мо вунь у тым двухпавярховым, збудаваным з горнага каменю накшталт застылай цвёрдай вапны? Адкрытых сонцу вуліц у Сочы мала, усе хаваюцца пад шатамі высокіх з цёмнай карой дрэў. Суцэльная затененасць. Клопат аб тым, каб прыезджы адпачывальнік не зваліўся з ног ад сонечнага ўдару. Паветра было настолькі лёгкае і цёплае, што нават не верылася, што такое ёсць на свеце. Паблізу таго месца, дзе блукаў, знаходзілася былая дача Іосіфа Сталіна — светла-шэры асабняк-катэдж з калонамі на парадных ганках… Даволі прымітыўныя ляпныя аздобы, без фантазіі, не надавалі дому той вагі і значнасці, якую меў сам былы правадыр народаў СССР. Было ля таго катэджа пустэльна,

бязлюдна. Адно шумелі дрэвы ды з вокнаў выступала цемрыва, нібы дзённае святло ў тое лецішча не патрапляла. Тут жа паблізу недзе было лецішча генсека ЦК КПСС Леаніда Брэжнева. Той будыніны не ўбачыў, дый вялікага інтарэсу не было. Стрэчны чалавек расказаў, што блізу берага мора ёсць лецішча і выдатнай спявачкі Сафіі Ратару. Зусім нечакана натрапіў на рэкламны шчыт. Адна з рэклам паведамляла, што ў невялікай зале на такой-та вуліцы заўтра павінен адбыцца канцэрт аўтара-выканаўцы Талькоўскага. На рэкламе — фота артыста: сядзіць на камені, побач гітара… Такое культмерапрыемства ў мяне выклікала інтарэс. Не пашкадаваў рубель з капейкамі — купіў квіток, праўда, на галёрку. Пачатак канцэрта — у 17.00. Чаму так рана? Мо так трэба, думалася. Вечар і наступны дзень прайшлі ў чаканні. Прыехаў у Сочы — ад станцыі Лоа пяць прыпынкаў на электрычцы — за некалькі гадзін да пачатку канцэрта. Зноў блукаў па горадзе, па ўжо знаёмых вуліцах. На вакзале купіў порцыю марожанага. Яно плавілася на вачах, яго немагчыма было есці палачкай — толькі піць салодкую белую вадкасць.

У невялікай канцэртнай зале было не так ужо і горача. Дзіва! Апошні рад крэслаў даволі моцна ўзвышаўся над папярэднімі. Аматараў аўтарскай песні ў Сочы аказалася не так ужо і мала. Пустых месцаў не было. А што Талькоўскі, як ён выглядаў, які яго партрэт? Што я мог бачыць з галёркі? Быў ён чарнявы, смуглявы, з хрыплаватым ад частага спеву голасам, у белай кашулі і джынсах. Гітара — звычная, канцэртная. Вёў канцэрт вольна, аб нечым распавядаў, потым спяваў. У яго выкананні гучалі песні Юрыя Візбара, Булата Акуджавы, Уладзіміра Высоцкага, Аляксандра Гарадніцкага і ўласныя. Розум, мудрасць, значнасць слова і думкі ў песнях былі адчувальныя і відавочныя. Што і прымушала гледачоў напоўніцу ўспрымаць тое, што чулася з калонак узмацняльніка. Канцэрт быў вельмі душэўным, выклікаў станоўчыя эмоцыі, суперажыванне драмам лірычнага героя. Таўставаты бялявы юнак-слухач яшчэ з пачатку канцэрта падключыў мікрафон уласнага магнітафона да мікрафоннай стойкі на сцэне — для запісу. Артыста гэта прыемна ўсхвалявала, менавіта ўвага да песень, якія будзе выконваць пад гітару. Канцэрт доўжыўся паўтары гадзіны, а слухачы залу не пакідалі, ім хацелася яшчэ і яшчэ… У фінале канцэрта Талькоўскі выканаў песню ўласнага сачынення пра маці. Песня кранула шчырасцю пачуццяў, любоўю і вінаватасцю лірычнага героя перад маці. Як усё гэта мне было знаёма — да драбніц! Знаходзіў у песні свой лёс і маё стаўленне да маці.

Чаму канцэрт пачаўся ў 17 гадзін? Таму, што ў 19 артыст паўтараў яго — выконваў гастрольны фінансавы план, і трэба было канцэрт паўтараць. Цяжка даецца кавалак хлеба артысту, бо адну і тую ж песню трэба спяваць і спяваць мо сто, мо дзвесце разоў…

Так ужо здарылася, што нешта рана ў той вечар пачало цямнець. Пакуль чакаў электрычку на вакзале Сочы, пакуль ехаў, сяйво цемры ўжо добра-такі запоўніла прастору. Аднак па-ранейшаму ў адкрытыя вокны вагона ляцеў шырокім снапом цёплы паўднёвы дух… У электрычцы насупраць мяне сядзела маладая пара з малым хлапчуком гадкоў чатырох. Бялявая вёрткая маладзічка вяла спрэчку з тоўстым чарнявым мужам.

— Што я абавязаны? Што я павінен?.. — з холадам да жонкі выказваўся муж.

Яна ад гэтых слоў аж перасела на суседнюю лаўку, да мяне. Хлапчук румзаў, муж вінаваціў жонку, што дрэнна глядзіць за малым і дрэнна выхоўвае, бо чаму ён у такі лагодны вечар плача. Маладзіца, мусіць, саромелася мяне, старалася маўчаць, не сварыцца з мужам у грамадскім месцы.

— Што ты мяне пытаеш: «Дзе быў учора? Дзе начаваў?» Гэта мая справа… Дзе хачу, там і буду начаваць! Табе якая справа?

Бачыў, як збялела жанчына, зеленаватыя цені леглі на твар, але яна не зрывалася на крык. Моўчкі, цярпліва прымала мужавы халодныя, прыніжаючыя яе годнасць словы. Быць сведкам сямейнага разладу непрыемна, цяжка. Шкада было прыніжаную маладзіцу, хлапчука, які ў тыя хвіліны падаваўся сіратой пры жывых бацьках. Муж выказваў непрыязь, нелюбоў да жонкі — словы ляцелі порцыямі — і час ад часу пазіраў на яе, правяраючы, які эфект ад халодных вольнаказаковых слоў. Я міжволі ўзненавідзеў таго маладога мужа. «На што ж яна, гэтая бяляначка, мо нават зямлячка, з Беларусі, купілася, выходзячы замуж за гэты кавалак лёду ў абалонцы мужчыны? Мо захацелася пажыць у курортным горадзе, у прыгожых абставінах? Мо выгоды якія прадбачыла тут для сябе, багацце якое: машыну, кватэру, мэблю? А потым заявіцца на радзіме перад сярмяжнай публікай і казырнуць машынай, адзеннем, наяўнасцю кватэры ў Сочы?»

Нямы сведка чужой сямейнай спрэчкі, я падняўся з лаўкі і пайшоў у тамбур, хоць да станцыі Лоа было яшчэ два прыпынкі. Чамусьці думалася, што бялявая не такая ўжо і спраўная, гладкая маладзіца-зямлячка.

На гарышчы дома армянкі, дзе было шэсць пакояў са схіленай уніз, да вышыні ложка столлю, лёс паднёс мне новых суседак. Пакуль шпаркай хадой дайшоў ад станцыі да дома, падняўся па металёвых сходах на так званы трэці паверх, шэрасць вечара зрабілася гусцейшай, амаль непрагляднай. У калідорчыку цёмна… Лямпачкі там не было прадугледжана. Чую: за маім ложкам, у пакойчыку за фанернай сценкай нехта ціха размаўляе, варушыцца. Каб неяк разрадзіць нялоўкасць, гучна кажу:

— Вітаю!

— А хто гэта там? — чую мяккі дзявочы голас. У ім — шчырая цікаўнасць, без страху.

— Ну хто? Сусед ваш…

Маё белае курортнае адзенне, выдатны загар і яшчэ тое-сёе зрабілі, мусіць, станоўчы эфект на высокую дзяўчыну. Яна прыветна засмяялася.

— А-а, сусед! Што так позна? А мы думаем: хто ж тут у нас па суседству? Оля, глядзі, сусед прыйшоў!

У цемры другую дзяўчыну я добра не разгледзеў, хоць яна і высунула галаву з-за шырмы, каб паглядзець на суседа. Заўважыў толькі, што яна была смуглявая і загарэлая, бо яе аблічча было цямнейшае за змрок у калідоры, рыс твару нельга было ўбачыць і вызначыць нешта адметнае.

— Прывітанне, — павіталася Вольга.

Мне тут жа захацелася назваць яе Воляй. Голас прагучаў меладычна, як такт таленавітай лірычнай п’есы, да прыкладу, Пятра Чайкоўскага «Вальс кветак». У адным толькі гэтым прывітанні ўлавіў спакой, упэўненасць і выхаванасць маладой асобы. Пасля прывітання галава яе знікла за шырмай.

Я не ведаў, што рабіць. Легчы спаць? Але нібыта рана яшчэ. Пайсці на вуліцу? Дык позна…

— Ці не хочаце з намі чаю папіць? — прапанавала высокая дзяўчына, голас якой быў хрыплаваты, як пасля плачу ці выкуранай цыгарэты. Прытым не адной, а бог ведае колькіх.

— Чаю? Чай я люблю. Дзякуй…

У пакойчыку дзяўчат гарэла лямпачка мінімальнага напружання. Уздоўж сцяны, насупраць увахода, стаяў ложак, і на ім сядзела ў хатнім халаціку, які завязваўся поясам, дзяўчына па імені Воля. Чарнявыя валасы, кароткая стрыжка, смуглявы твар без, скажам так, асаблівых прыкмет. Рысы твару звычайныя. Толькі зеленаватыя вочы ўважлівыя, пільныя, разумныя. Зменлівасць настрою перадавалі вочы: калі смяялася, з іх, здавалася, сыпаліся іскаркі, як кроплі расы. Халат не меў гузі-

каў, ніжнія полы разышліся ад яе нечаканага руху і адкрылі смуглявыя гладкія ногі вышэй каленяў. Дзяўчына здымала са спінкі ложка свае дзявочыя прычындалы, якія ў прысутнасці хлопца не павінны быць навідавоку. Яна, як заўважыў, не саромелася, як малое дзеўчанё, адкрытых вышэй каленяў ног. «Ну дык што? — казаў яе позірк. — Ну і адкрыліся, што тут страшнага?»

Мяне запрасілі прысесці. Потым Люда (так звалі высокую) прынесла чайнік, заварыла чай. І ўвесь гэты час размаўлялі, знаёміліся.

— А вы адкуль, з якога горада? — спытала Люда.

— Я з Беларусі…

— А-а, ведаю, там у мяне ў Гомелі цётка жыве. Даўно, праўда, не была ў яе.

— А вы адкуль? — спытаў дзяўчат.

— З Масквы, — адказала Люда.

— Адпачыць прыехалі, — дадала Воля і ўздыхнула.

— Нешта здарылася? Уздыхаеце…

— Ды тут было… не хочацца ўспамінаць… Нас хацелі… згвалціць. Прыдуркі нейкія…

— На пляжы?

— Ды не, у кватэры. Мы ж перад паездкай сюды зараней дамовіліся наконт кватэры праз аднаго знаёмага. Ён у Маскве жыве, а ў яго тут таксама знаёмыя. Яны і прапанавалі двухпакаёвую кватэру. Там нейкая бабка жыла ці якісь бабыль. Карацей, кватэру перад нашым прыездам ачысцілі… Ну, мы і прыехалі, як дуры прыперліся, не ведаючы куды…

— А што? Кватэра ёсць — жыві, адпачывай! — кажу.

— Ды калі б так, — пярэчыла Воля.

— Ну, першую ноч яшчэ спалі спакойна… А потым чуем, ноччу нехта ключом дзверы адмыкае. У мяне валасы дыбам! Ну, думаю, абрабуюць, заб'юць!

— Не жартачкі, — мовіла Воля, глынуўшы чаю.

— Дык а хто лез, адмыкаў?

— А чорт яго ведае, хто там быў… Мы ўсю ноч не спалі. Добра, што я паспела закрыць, — там яшчэ нейкі замок на дзвярах быў… Оля прапанавала міліцыю выклікаць, але я вырашыла, што неяк абыдземся. Раніцай патэлефанавалі знаёмаму, пытаем: «Каму ты ключ ад кватэры даў? Да нас ноччу нейкія перліся, спаць усю ноч не маглі, калаціліся ад страху». «Ды ну-у, — гаворыць, — нікому не даваў». Паабяцаў, што больш ніхто ламіцца не будзе… Вось і разбярыся. А нам што рабіць?

— А-а, дык ён сябе выдаў! — усклікнуў я. — Значыць, ведаў ці здагадваўся, хто ламіўся. Вы ж дзяўчаты маладыя, а каўказцы любяць масквічак.

— Любяць ці не любяць, а нам такое каханне не трэба!

— Так! — дадала Воля.

— Каб ноччу ў дзверы ламіцца, ламаць дзверы… А нам потым адказвай, за рамонт плаці. А на чорта нам такое, скажы?

— Ды канечне…

— Бярыце печыва, — прапанавала Воля, — можа, яшчэ чаю наліць?

— Дзякуй. Чай люблю. Тым больш з вамі…

— Дзякуй, — Люда ўсміхнулася задаволена.

За час размовы і назіранняў мне чамусьці ўпарта думалася, што Люда, хоць і не носіць заручальнага пярсцёнка на безыменным пальцы правай рукі, але ўжо не дзяўчына. Штосьці было ў яе паводзінах разбітное. У размове выкарыстоўвала тую лексіку, якой выхаваная дзяўчына не карыстаецца. Тым не менш Людміла праяўляла гасціннасць, шчодрасць, зычлівасць да мяне, і я працягваў гасцяваць. Найбольш

гаварыла Люда, а Воля ўважліва сачыла за гамонкай, нібы баялася, што сяброўка скажа нешта няправільна, не так, як было.

— Ну вось, на трэцюю ноч зноў нейкі шумок, шэпт каля ўваходнай дзверы. Ну які тут сон? Выклікалі міліцыю. Прыехалі ў дзве гадзіны ночы, праверылі нашы дакументы. «Хто, ды адкуль, ды навошта тут, дзе дазвол на пражыванне…» І пайшло-паехала… Нас, праўда, не забралі. Назаўтра патэлефанавалі знаёмаму, сказалі: дзякуй за жытло, але мы адпачываць сюды прыехалі. А ён нам: «Справа ваша, я не вінаваты».

— А грошы, якія зараней заплацілі, вярнуў?

— Хм, верне ён, — іранічна мовіла Люда. — Гэта такі жлабіна, што свет не бачыў. Сабраліся і з’ехалі. І во патрапілі сюды, да вас у суседзі, — Люда засмяялася.

— А хто гаспадыню параіў?

— Ды нейкія бабкі з кветкамі. Яна добрая жанчына. Спакойная такая. І муж добры. У іх дзве «Волгі».

З юначых гадоў прыкмеціў, што жыхары Каўказа, каб недзе казырнуць сваёй заможнасцю, набывалі не «Жыгулі» ці «Масквіч», а «Волгу». Выхаваны ў строгай савецкай маралі, дзе імкненне да заможнасці лічылася заганай, нягледзячы на павагу да сям’і армян, у гэтым сэнсе ім добрую адзнаку не ставіў, умоўна кажучы.

— Столькі кватарантаў, — мовіў. — Яны за дзень каля сарака рублёў зарабляюць… А за год…

— Можа, нават і больш, — дадала Люда.

— Калі б мала зараблялі, «Волгу» не купілі б…

— Угу… — падтакнула Воля.

А мой наручны гадзіннік у жоўтай аправе з механічным заводам няўмольна цікаў і ўжо паказваў на 23-ю гадзіну. Размова ў нас, як кажуць, клеілася, і мне здавалася, што з дзяўчатамі мы знаёмыя даўно.

— А мне з масквічамі ў арміі добра служылася, — сказаў. — І пасля арміі вучыўся ў Маскве на падрыхтоўчых курсах педінстытута.

— Якога? — спытала Воля.

— На вуліцы Радыё — у будынку былога інстытута «благородных девиц».

— Скончылі яго?

— Не.

— Чаму?

— А нейкае расчараванне найшло. Нас размяркоўвалі на Дальні Усход, у Аймякон, а там зімой — мінус пяцьдзесят!

— Баяўся абмарозіцца… — натужна засмяялася Люда.

— Ды не, проста інтарэс да работы ў школе прапаў. З трэцяга курса пайшоў. Праўда, у інстытуце мяне навучылі адкрыта выказвацца, навучылі культуры мыслення, культуры мовы. З арміі прыйшоў у сцены інстытута — два месяцы сядзеў моўчкі і толькі слухаў, як выступаюць хлопцы-масквічы. У нас там былі такія, хто ў Маскоўскі універсітэт не паступіў, — не хапіла каму аднаго бала, каму паўбала… Адна дзяўчына ў нас была з сям’і дыпламата. Як пачне гаварыць пра літаратурнага героя ці нейкія гістарычныя моманты асвятляць, — заслухаешся… У іх дома шафы кнігамі забіты, а ў мяне — пяць-дзесяць кніжак.

— Дык ты сядзеў і слухаў? — пасміхнулася Люда.

— Спачатку. А потым выкладчык кажа: «Што вы ўсё сядзіце і маўчыце? Падыміцеся і вякніце што-небудзь». А я ў арміі, акрамя загадаў, нічога асабліва і не чуў… Ну, статут там вывучаў. Я развучыўся талкова разважаць і нават баяўся гаварыць шмат… Пасля арміі доўга не мог спакойна ездзіць у грамадскім транспарце: калі хтосьці за спінай стаіць — у мяне ўжо нервы напружваюцца: здаецца, што зараз

урэжа кулаком ззаду… У арміі так рабілі стараслужачыя. А вось хлопцы з Масквы такіх подласцей не рабілі. Праўда, маладых у руках трымалі.

— М-да, нявесела… — Люда прыкурыла цыгарэту, прымружыла вочы, гледзячы паўз Воліну галаву. Тая, закрываючы рот, пазяхнула, паглядзела на сяброўку.

— Вы, можа, ужо спаць збіраецеся? — спытаў.

— Ды час ужо позні, — мовіла Люда. — Стаміліся мы за дзень, наматаліся, а яшчэ там спакою не давалі. Вы прабачце, а дзе тут у іх туалет?

— Унізе, злева ад сарайчыка.

— Галаву звернеш па гэтай лесвіцы…

— Унізе святло гарыць.

— Дзякуй, што паклапаціліся, — выказала падзяку ў адрас гаспадароў дома Люда.

Падзякаваўшы за пачастунак, пакінуў дзяўчат. Успаміны пра службу ў войску настрой мне, канечне, сапсавалі. І навошта толькі ўзгадаў? Было — прайшло, быллём парасло! Але ж вось з-пад былля прабілася… Стома адольвала і мяне. Праз якую хвіліну ўжо ляжаў пад коўдрай. Прасціна пахла саленаватым водарам мора. А можа, гэта цела маё ці валасы прасаліліся і гэтак пахлі? Ад гэтага паху я зноў уявіў прастору над морам, тумановую, бяскрайнюю. І крыкі чаек — некага аклікалі… Мо чайка аклікала другую? Чутно праз тонкую фанерную сценку, як дзяўчаты аб нечым паўшэптам размаўлялі, смяяліся. Потым зарыпелі матрацы, і ўсталяваўся адносны спакой. Бо ў суседніх пакоях адпачывальнікі яшчэ не ўгаманіліся. «Нашы галовы літаральна ў дваццаці сантыметрах адна ад адной, — падумаў, прыгадаўшы лагодную Волю. — Яна ж легла галавой да мае. Калі размаўлялі паўшэптам з Людай, выразна чуў яе голас». Мне не важна было, аб чым яна там гамоніць, а важна тое, што яна тут ёсць. «Хай гамоніць хоць усю ноч!» — з радасцю пажадаў сабе.

Гэта была першая хваля маёй таемнай радасці, што Воля ёсць, што побач. А мо ўжо другая хваля? Першай была тая, калі сказала: «Прывітанне!» Хай гэта будзе другая. Ці так важна? Абы яны былі!.. І чуў сябе так, нібыта я лёг, выспаўся і прачнуўся. Прыгадваючы дзяўчыну, і стомы пазбавіўся.

— Оля, ты спіш? — урэшце ціха спытаў.

— Не сплю… А што?

Як і меркаваў, яна легла спаць на ложак галавой да маёй галавы.

— Што вы заўтра будзеце рабіць, куды пойдзеце?

— Не ведаю… Напэўна, да мора, на бераг.

— А мне ўжо надакучыла…

— Дык ты тут даўно… А мы — нядаўна. Хочацца пагрэцца, — шаптала смуглявая Воля, — на пясочку.

— А Люда дзе працуе?

— У магазіне.

— Загадчыцай?

— З чаго ты ўзяў?.. Прадаўцом.

— А-а.

— Табе тут падабаецца?

— Ды быццам нічога…

— У параўнанні з шумнай Масквой, натоўпам тут, канечне, усё інакш… Поўдзень! О пальмы поўдня!

— Ты, напэўна, сам вершы пішаш…

— Бывае… Але штосьці не тое.

— Нічога, падрасцеш…

— Оля, я табе нешта хачу сказаць… Толькі заўтра… Добра?

— Ладна. А пра што?
— Ды там ёсць нешта такое…
— Дзе «там»?
— Ды ўва мне…
— А-а…
— Мне штосьці спаць не хочацца… А табе?
— Але ўжо позна — трэба спаць.
— Трэба, Федзя, трэба…
— Які Федзя?
— Ды гэта ў мяне звычка так казаць.
— А-а. Спакойнай ночы, — пажадала Воля.
— Табе таксама…

У вушы мае паплыла густая салёная ціша. У цішыні чуўся шэпт самой цішыні, як зычлівай варажбіткі. Цішыня высілася нада мной і над усім гарадком. Звыкаўся з гэтай цішшу і думаў: Воля засынае, і ёй сняцца блакітныя гуллівыя хвалі, якія ў бесклапотнасці падскокваюць уверх. І крыкі чаек над імі.

Маё сэрца абвявалі чары спакою. У грудзях не было ні болю, ні трывогі, ні трывожных дум. Няўжо такі спакой з-за размовы і прысутнасці Волі? Няўжо? Над адказам на гэтае пытанне не трэба было ламаць галаву. Так! «Якая ты чароўная, якая ты добрая чараўніца, Воля!»

Наступны дзень майго адпачынку ля Чорнага мора не нашчодрыў святла і сонца. Мусіць, аднекуль з паўночных краёў — Скандынавіі, Прыбалтыкі ці поўначы Расіі, дзе ўжо панавала восень, — і сюды даплывала яе пахмурнасць. Хаця асаблівай хмарнасці на небе не было. Блакітная абалонка неба хавалася за суцэльнай шэрай посцілкай развеяных выраўнаваных аблокаў. Тым не менш надвор'е па-ранейшаму было цёплым, і на пляжы ў чаканні сонца сядзелі і ляжалі на лёгкіх коўдрах, а нехта нават і купаўся, адпачывальнікі. Хвалі мора па-ранейшаму беглі да берага, спрабавалі ўзбегчы на яго як мага вышэй і знікалі ў жаўтлявым пяску, які нейкі час блішчэў вільгаццю і кроплямі-расінкамі вады. Некалькі секунд нагадваў дыван з яркімі бліскаўкамі.

На пляж, як заўсёды, прыйшоў адзін. Учарашнія знаёмыя дзяўчаты раней за мяне выйшлі з дому армянкі. Яшчэ ранішняя прахалода асядала на плечы, хапалася за адкрытыя рукі і ногі сваімі вільготна-халоднымі далонямі, а яны ўжо пабеглі да мора. Я дазволіў сабе схадзіць у знаёмую сталоўку паснедаць. Тое снеданне цвёрдым камяком сядзела ў страўніку, не раўнуючы як камень. «Снеданне камянямі, каменнае снеданне…» — адзначыў мой нічым не затлумлены мозг. На знаёмых дзяўчат я патрапіў на пляжы неяк нечакана і адразу, без доўгага пошуку. Усё ж такі я не быў абыякавы да таго, дзе яны знаходзяцца. Нягледзячы на «каменнае снеданне» і адпаведнае пачуванне, падышоў да дзяўчат павітацца. Сарамлівасці ўва мне на той момант было, як кажа пісьменнік Уладзімір Арлоў, напоўніцу. Душа мая нагадвала толькі што народжаны вясной зялёны ліст, тонкі, празрысты, яшчэ не агрубелы… Словы, якія казаў дзяўчатам пасля прывітання, падаваліся пустымі, нязначнымі. Яны выкупаліся ў моры, Воля сядзела на пакрывале, накінуўшы на плечы махровы ручнік. Вусны пасінелі, твар здрабнеў і пацямнеў, нібы з яго выпілі хараство. Да таго ж яе час ад часу трэсла. Люда стаяла на беразе на поўны рост — пэўна, каб паказаць сваю мажнасць і самой штось убачыць. Я спачуваў Вользе і адзначаў шчодрасць прыроды, якая ўзнагародзіла Люду гладкай, акруглай, стройнай, высокай постаццю.

Палічыў неабходным быць на пляжы не ў іх кампаніі, а крыху зводдаль. Настрой быў негаваркі, а маўчаць з дзяўчатамі не будзеш, і тэм для размоў як быццам бы

не было. Схаванае ў шэрых аблоках сонца ўсё больш выразна і ярка паказвала сваё круглае аблічча. Усім адпачываючым, мусіць, вельмі хацелася, каб сонца зусім ужо вынырнула з аблокаў. І гэта яму ўдалося недзе к дванаццаці гадзінам дня. Жоўтаружовае святло сонца адразу разагнала шэры слой паветра над пляжам, морам. Услед за людзьмі па пляжы плылі іх цёмныя цені. Плылі і не адставалі. Рух людзей і рух ценяў па пляжы ажывіўся. Адразу ля шапіка, дзе прадавалі цёплую «Баржомі» і жоўты ліманад, утварылася чарга, гэтак жа як і ля пункта пракату катамаранаў і надзіманых матрацаў. Воля, мусіць, сагрэлася, бо калі Люда прысела, каб з'есці чарговы бутэрброд з каўбасой, дык яна паднялася з каменьчыкаў. Нічога асаблівага ў яе постаці не было — звычайная стандартная постаць дзяўчыны, якой за дваццаць. «Чаму ў яе такая смуглая скура? Мо хтось з бацькоў ураджэнец Сярэдняй Азіі? Трэба папытаць». Але зноў жа смеласці, жадання не было. Хацелася маўчаць, глядзець на мора, на публіку, што загарала. Але ж нейкі магніт у Вользе быў, бо нягледзячы на маё нежаданне гаманіць, усё ж раз-пораз і вельмі ўважліва пазіраў на яе. Яна стаяла бокам да мяне, тварам да сонца і мора. Бачыў: Воля на пляжы не сумуе. Па-першае, ёсць сяброўка — практычная, смелая, вынаходлівая. Па-другое, мой прыязны заклапочаны позірк, мусіць, ствараў ёй пэўны камфорт. Але гэта было з вобласці маіх здагадак.

Найбольш весела паводзілі сябе на вадзе тыя, хто ўзяў напракат катамаран — водны веласіпед. Заплыўшы ў мора, яны некаму крычалі, махалі рукамі і смяяліся. Звонкі смех ляцеў да берага — смяяліся дзяўчаты, хлопцы. Я вырашыў раскашэліцца, узяць напракат катамаран і прапанаваць Вользе пакатацца. Пралічыў, колькі застанецца ў кішэні грошай, ці хопіць на квіток дадому. Аказалася, хопіць. Пакіраваўся да пункта пракату. Нейкі вялы, стомлены малады чарнявы мужчына, працаўнік пракату, так пацягнуў тры рублі з маёй рукі, што разарваў банкноту. «Цяжкая рука ў пракатчыка», — падумаў.

Калі пад'ехаў на катамаране да дзяўчат, тыя не паверылі вачам.

— Давайце садзіцеся! — кажу. — Катайцеся!

Вялікага жадання і ахвоты яны не праявілі, але месца на водным веласіпедзе занялі. Я адчуў вялікую адказнасць за тое, каб прынесці радасць суседкам. Старанна, з усяе сілы цiснуў на педалі, але катамаран мяне не слухаўся. Яго падкідвала ўверх, гайдала, і кіраваў ён не ў той бок, куды мне хацелася. «Няўпраўка нейкая!» — злаваўся я.

Калі на педалі села мажная Люда, катамаран пайшоў роўна і больш упэўнена. Люда з насмешкай паглядзела на мяне. Я сарамліва апусціў вочы на некалькі секунд і ўжо падумаў, што катамаран трэба вярнуць пракатчыку, бо час заканчваўся. І тут жа адзначыў, што весялосці дзяўчатам не прынёс, а толькі сябе паказаў у нявыгадным свеце. «Ну, што ты зробіш?» Пасля катамаранавай прагулкі дзяўчаты яшчэ пабылі крыху на пляжы і пайшлі па сваіх клопатах. Сказалі, што ў магазін. Я прабавіў час за чытаннем мясцовай прэсы, дзе нічога цікавага не знайшоў, потым накіраваўся ў сталоўку. Чарга там была доўгая, і трэба было мець вялікае цярпенне, каб урэшце ўзяць паднос, лыжку, відэлец і потым, некалькі разоў праглынуўшы сліну, сказаць поўнай чырванатварай жанчыне на раздачы:

— Суп! Няма? Тады боршч. Так, з мясам! Катлеты! Колькі? Дзве! Кампот!

Словы гучалі хутка, паказваючы галодны нясцерп.

— Не спяшайцеся! Паспееце яшчэ! — сказала поўная жанчына. Бачна было, што яна нядаўна і добра паабедала і не разумела, куды і чаму так спяшаюцца купіць абед адпачываючыя. «Куды вы так спяшаецеся ўсе?» — пыталіся яе вочы.

Ну што пра сталоўку гаварыць! Перш чым паабедаеш, стрэсаў нахапаешся, як казала мая маці: «Колькі до!..»

Пасля абеду пацягнула на сон, і я пацягнуўся да гары-падгор'я, да дома армянкі. Адразу, як кажуць, забурыўся спаць. На нашым гарышчы, дзякуй богу, анічога не гарэла, акрамя апаленай скуры на целе адпачывальнікаў і нервовых клетак. Мой ложак быў мяккім, прахалодным, жаданым. Аднак у пакоях суседзяў гаманілі, смяяліся, курылі цыгарэты. Словы лезлі ў вушы, дым — у нос, у горла. «Савецкі інтэрнат…» — сумна, раздражнёна адзначыў. Адзін услых загаманіў — астатнія воляй-няволяй павінны слухаць.

Тым не менш сон мяне адолеў, узяў у свае мяккія абдымкі.

Спаў чуйна, чуў, як прыйшлі дзяўчаты. Свежы цёплы пах іх маладых целаў кружыўся па калідоры вясёлай птушкай. Аб нечым шапталі адна адной, уголас не размаўлялі — бачылі, што сплю.

…Мусіць, у той перадвячэрні час многім людзям хацелася быць дома ці там, дзе часова пражываюць. Люда і Воля, прыйшоўшы, таксама засталіся ў сваім пакойчыку. Час ад часу даляталі да мяне іх галасы.

…Так здарылася надвячоркам, што калі прапанаваў Волі схадзіць на праменад удваіх, не адмовілася.

— Толькі доўга не гуляйце, — папрасіла Люда.

Ляжала на ложку ў кароткім, у дробныя цёмныя кветачкі халаціку, утаропіўшы позірк у тоўстую кнігу. «Вечный зов», — прачытаў на вокладцы. «Вечный зов…» — прагучала ўва мне.

Мне падабалася, што ў Волі нетаропкая хада. Задуменная. Пры такой хадзе можна было няспешна аб нечым гаварыць, думаць. Воля хацела купіць кілаграм цукру для гарбаты, хлеба. Да магазіна ішлі няспешна. Яна не спяшалася, а мне падабалася, што не спяшаецца. Распавядаў ёй пра канцэрт аўтара-выканаўцы Талькоўскага з захапленнем, падрабязна. Бачыла, адчувала маё захапленне аўтарскай песняй і толькі згодна прамаўляла да мяне: «Ага, ага…» З яе цішыні, спакою, з яе сусвету выплываў гэты кароткі гук, і я разумеў, што яна мяне чуе і слухае. Слухае ўсёй сваёй душой, чуе кожнай клеткай.

Сонца пякло, нібы гарачым цвіком, мае абпаленыя рукі, шыю, спіну, і гэты цвік упіваўся глыбей, да касцей. Але на душы была мяккая цеплыня… Там было яшчэ адно сонца: лагоднае, непякучае, нястомнае. Да нас звярталіся адзінокія прахожыя: мужчыны з неспакойным бляскам вачэй, падлеткі — прасілі цыгарэту, пыталіся, колькі часу, як знайсці патрэбную вуліцу. Легкавікі ехалі па вуліцы ў той час не так паспешліва, як у былыя дні. Пад падэшвамі нашага абутку шархацеў дробны жвір. Невысокія дрэўцы з разлапістым лісцем зморана ківалі, як рукой у час вітання.

Яна захацела паглядзець на кінаафішы, і мы пасля магазіна пайшлі да так званага кінатэатра.

— Ды я гэтыя фільмы ўжо бачыла, — сказала Воля, прачытаўшы назвы.

— Тут нешта шмат старых фільмаў паказваюць… Як у Маскве, у кінатэатры «паўторнага фільма».

— Так?.. А ты там быў?

— Быў. «Андрэя Рублёва» глядзеў…

— Таркоўскі — рэжысёр глыбокі. Ні з кім не зблытаеш…

— Ён, здаецца, у Італію з'ехаў…

— Напэўна, тут надакучыла.

— Кажуць, яго не разумелі… Перашкоды рабілі.

— Не без гэтага.

— А ты ў якім інстытуце вучылася?

— У інстытуце сувязі…

— А я падумаў, у «ВГИКе»…

— Чаму так падумаў?

— Падумаў, і ўсё… Не магу ўявіць цябе сувязісткай, з інструментам у руках, у розных там правадах капаешся, заблытаешся, упадзеш… А тут начальства — р-раз!.. «А чаго гэта вы, таварыш Оля, упалі ў працоўны час? А ну-тка, дыхніце!..»

Воля глядзела на мяне з усмешкай, твар святлеў.

— Ну ў цябе і фантазія! Сумнавата…

— А ты хапаеш у руку гэтыя дроцікі і пачынаеш выхоўваць гэтых прыліпал.

— Ого! Гэта яны мяне будуць.

— Трэба ж і табе паспрабаваць.

— Паспрабаваць… У мяне работа такая — езджу на вузлы сувязі, гляджу, чакаю выкліку, калі якаясь непаладка — выязджаем.

Зірнуў у Волін твар — сур'ёзны, празаічны, як і той «вузел сувязі», дзе працуе.

— Дык ты інстытут скончыла! — здзівіўся. — Табе ўжо дваццаць два гады!

— А што, я такая старая ўжо?

«Ты будзеш вечна маладой!» — хацелася ўсклікнуць.

— Ды не… Якая ты, такая… маладая зусім. Юная і доўга будзеш юнай.

«Да сарака будзе дваццацігадовай», — зірнуўшы на дзяўчыну, падумаў. У яе паглядзе было святло.

Мы ішлі да дома армянкі. Вецер сціх, пэўна, як і я тры гадзіны таму, недзе спаў. Мо ў гарах, а мо так дзе, на пляжы. З Воляй мне так хацелася жартаваць! І словы жартаў, і сюжэт лёгка нараджаліся, але не мелі яшчэ выхаду, бо выказчык не займеў яшчэ такой сілы. Нешта ўва мне гаварыла, віравала, як вада ў паводкі на вірах нашай рэчкі, але слоўнага афармлення не мела. І я маўчаў. Маўчанне не было нялоўкім. Светлае, цёплае пачуццё ў маім сэрцы не прагла большага выказвання, чым было. А словы ад гэтага пачуцця без выказвання, здавалася, нябачнымі плынямі спяшаліся да сэрца Волі.

Маўчаў. Дробныя каменьчыкі на асфальце дарожкі таксама нешта прамаўлялі. Чуўся іх шорхат, выразны шэпт. Як шэпт бяззубага бадзягі-падлетка. Бязбацькавіча. Ён, гэты ўяўны падлетак, нібыта ўсміхаўся нам і прасіў дваццаць капеек.

«Навошта побач з маімі шчаслівымі хвілінамі гэты бадзяжка?» Зразумеў і ад гэтага разумення сказаў сабе: «Няшчасных прываблiваюць шчаслівыя, светлыя людзі. Мы з табой шчаслівыя, Воля!»

Воля ішла няспешна, спакойна ставіла нагу. Гэтак жа спакойна, вальяжна рабіла яшчэ адзін крок…

Колькі вірылася наша маўчанне? Калі б мы спыніліся, сталі насупраць адно аднаго і глядзелі ў вочы — маўчанне працягвалася б доўга, невядома колькі часу. Маўчанне ў святле, у сонцы ўсмешкі. Маіх вуснаў лёгка крануўся ветрык, як святар мудрай рукой. Казытнуў. Хацеў нешта вясёлае сказаць. І — знік. Цвік спякоты размякчэў, не ўпіваўся ў адкрытыя рукі, шыю. Цвік ператварыўся ў дрожджы.

Я зірнуў на металёвыя весніцы, за якімі пачынаўся двор армянкі. Я іх у гэты момант неўзлюбіў. Навошта яны? Каб мы развіталіся з Воляй? Зараз яна прыйдзе ў двор, і ўсе адпачываючыя пачнуць ёй усміхацца, нешта казаць. Адбіваць увагу ад мяне. А мне хацелася нашай узаемнай цішыні, нашага згоднага ўзаемнага маўчання. Яно саладзейшае за мёд, за ліпеньскае паветра, дух ліпы ў час цвіцення.

— Оля, давай заўтра сходзім у горы.

— У горы?.. А што там?

— Ты ведаеш, я там ужо быў… Там такія камяні гарачыя. Дрэвы тонкія, але такія каменныя… І кветкі ёсць, горныя, задыхаюцца…

— А калі?

— Пасля абеду.

— Пасля абеду? Можна…

Што ж было далей? Можна было з дзяўчатамі зноў піць гарбату, закахана глядзець на Волю, дасылаць ёй плыні закаханасці і нічога пры гэтым не казаць.

Абнадзееoriginally, што заўтра ў гарах я ўсё выкажу Вользе словамі, прыхіну ў прызнанні да сябе, зноў пайшоў у горад паблукаць. Але ці магло быць цікавым тое блуканне аднаму? Адказ не патрэбны.

Наступнай раніцай дзяўчаты зноў паімчалі да мора ў лёгкіх халаціках, з лёгкай сумкай. Я зноў наведаў Сочы, вакзал. Яшчэ раз спраўдзіў, колькі каштуе квіток да Мінска, каб асабліва не патраціцца на розныя глупствы і потым не прасіць Волю пазычыць грошай. Яна, канечне, пазычыла б, але ж мне было б сорамна за сваё безграшоўе.

Час да абеду цягнуўся марудна. Я зноў блукаў па горадзе, па бетоннай набярэжнай. На якары стаяў пафарбаваны ў белы колер карабель, стары і прадаўгаваты, нечым нагадваў акулу з плоскай бакавінай. Памераў крокамі яго даўжыню — каля сотні крокаў! Карабель быў вайсковы, але ўжо несучасны, і называўся «Адмирал Нахимов». Я пашкадаваў стары карабель…

…На станцыю Лоа прыляцеў на электрычцы недзе пасля абеду. Бархатны сезон працягваўся. Яго працягвала спякотнае сонца. Нагрэтае за паўдня паветра зноў нагадвала лазневы дух. Хоць хапай у рукі венік і парся!

Вось і дом армянкі. «Зараз убачу Волю! Яна, пэўна, ужо тут! Мо чакае? Дамовіліся, што недзе каля шаснаццаці гадзін выправімся разам у горы…» Узбег па металёвай лесвіцы наверх, зазірнуў у калідор. На сэрцы пахаладнела: у калідоры недалёка ад майго ложка стаяў накрыты стравамі і пітвом стол. На стале тырчалі дзве цёмныя высокія бутэлькі з моцным напоем. За сталом у адзіноце сядзела Воля і курыла цыгарэту. Пах цыгарэтнага дыму і марскога паветра змяшаўся, быў недарэчным, на ўспрыманне — непрыемным.

Непрыемнае здзіўленне ўвайшло ў мае грудзі, як кавалак бляхі. Гэты халодны выразанак з бляхі ўвайшоў у мае грудзі і там захрас, застаўся. Такі ненавісны!

— Оля, — у здзіве выдыхнуў, — мы ж з табой збіраліся ў горы! — з нянавісцю глядзеў на бутэлькі з віном, халасцяцкую закуску, попел у скручаным з паперы кульку.

Воля зрабіла неглыбокую зацяжку.

— Ды мы тут во сабраліся, вырашылі п-пасядзець… Прысаджвайся… Во табе месца.

«Я думаў, што ты чакаеш мяне ў спартыўным касцюме, з рукзаком, а ты за гэтым п'яным сталом, за сталом п'янкі. Ты такая маладая, прывабная… Такое застолле сярод дня робяць толькі заядлыя выпівохі, у якіх аніякай іншай радасці няма, акрамя як наглытацца гарэлкі», — утвараліся ў маёй галаве сказы. Воля іх не чула. У мяне нібыта не было сілы выказацца. Нібы нехта паклаў вечка на тое месца, адкуль павінны пачуцца словы. Са здзіўленнем, абурэннем глядзеў на Волю і стол.

— О, сусед! — аднекуль выйшла Люда з п'янай ружовасцю на шчоках, носе. Нават шыя зачырванелася. Блакітныя вочы былі вадзяністыя, цяжкія, блудлівыя. — Прысаджвайся, вып'ем, — запрасіла.

Крыўда і боль захліснулі мяне. Мне не толькі не хацелася сесці за стол, а ўзяць ды перакуліць яго, паставіць уверх нагамі. Крыўда тачыла мяне, пякла, і сродкаў пазбавіцца ад яе не было. «Паехаць прэч! Каб не бачыць гэтае застолле, не бачыць п'яную Волю з цыгарэтай між пальцаў. Не бачыць! Пайду адсюль! Паеду!»

Вельмі хутка сабраў сваё адзенне, паклаў у сумку. Калі ішоў з сумкай у руцэ ля Волі, ля стала, сказала, можа, каб неяк паразумецца са мной:

— Ну што, ужо нельга і за сталом пасядзець? Што тут такога?

«Дык ці за такім? З віном, з цыгарэтамі? Гэта што, нармальна?» — хацеў крыкнуць. Пра гэта, мусіць, сказалі мае вочы.

— Ну куды ты ўжо сабраўся? Нельга, ці што, з людзьмі? — пачуў голас Волі ўжо на металёвых сходах.

Я рашуча накіраваўся да станцыі. Цягнік Адлер — Мінск там спыняўся. І абурэнне, і ўзрушэнне ў маіх грудзях, ва ўсёй маёй істоце нагадвала горны абвал… Камяні злосці, нянавісці ляцелі з самай высокай гары ў пыле, гуле праз мае грудзі. «Гэтая Людка нейкая ўся мокрая, несабраная, распусная… На пляжы толькі і зіркала на мужыкоў. Ні сарамлівасці, ні сціпласці. Гандлярка няшчасная. Сама распусная, гарэлку п’е і Волю за сабой цягне!» — лаяў у думках былую суседку.

Чарнела паветра ў курортным гарадку, чорным быў і мой настрой. І чарната доўгі час не пакідала мяне.

У вагоне цягніка падышла правадніца і спытала, ці буду браць пасцель. Груба адказаў:

— Калі трэба — сам прыйду. Што вы да мяне прычапіліся з гэтай пасцеллю?!

Сцэна Вольгінага застолля ўсё прыгадвалася і чарніла мой настрой. Да самай ночы. Пакуль не задрамаў на паліцы вагона.

Потым, прыехаўшы ў Мінск, прыгадваў і прыгадваў Волю, менавіта той момант, калі мы ішлі з магазіна да дома армянкі і маўчалі. Сэрца парывалася туды, да станцыі Лоа, да Волі. Нібыта гэтая сцэна магла паўтарыцца, зноў зрабіць мяне шчаслівым. Так мроілася. Хацелася напісаць у службу знаёмстваў «Камсамолкі», назваць свой адрас, распавесці пра наша з Воляй знаёмства на ўзбярэжжы Чорнага мора… І каб Воля адгукнулася, напісала мне ліст на пакінуты мной у рэдакцыі адрас.

Але я закружыўся ў злоснай віхуры штодзённасці, у віхуры неадступных жыццёвых праблем, клопатаў пра жытло і кавалак хлеба на стале… Так і не напісаў ліст у «Камсамолку». Хаця ў думках пісаў яго кожны дзень…

У Маскве ёсць стары паркава-музейны раён Кускова. Воля неяк распавяла, што недалёка ад таго парку, на шашы, якая мае назву ці Рублёўская, ці Варшаўская, стаіць дом, у адной з кватэр якога жыве яна. Мо Воля была маім, як кажуць, лёсам, шчасцем? Калі яно было спачатку, магло б жыць з намі і далей. Так думаецца.

У шэрым аднастайным побыце нашым ёсць узнёслыя, рамантычныя і шчаслівыя часіны. Навошта ты, Воля, прысутнічала на тым непрыгожым застоллі? Можа, усё было б інакш… Я светла цябе помню, Воля. Станцыю Лоа, дом армянкі і наша шчаслівае маўчанне…

***Люты 2008 г.***



*Мікола Кандратаў нарадзіўся ў 1957 годзе ў в. Замосце Талачынскага раёна Віцебскай вобласці. Скончыў матэматычны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута. Працуе інжынерам-праграмістам. Аўтар паэтычных кніг «Возера Рудакова», «Вершы і зоркі».*

Мікола КАНДРАТАЎ

# КРОПЛІ ДАЖДЖУ

* * *

Ма́е развязка быць простай:
розум з душою памірыцца.
Узрост вымагае прозы,
як дараванай міласці.

На скразняках позняй восені
першым павеяла холадам.
Зоркі ў нябесным возеры —
кроплі застылага волава.

Дзень уладарыў над лёсамі,
ноч плача буйнымі росамі…
Пэўна, для прозы бяскрозавай
мне не хапае цвярозасці.

Бо, як на споведзь да Бога,
кожнай спяшаецца раніцай
сэрца дзяўчынкаю босай —
і не баіцца параніцца.

* * *

Не выплакаць уласнае душы,
што жывіцца з нябеснае крыніцы.
Здаецца, недалёка да мяжы,
а сэрца і не думае спыніцца.

Хаця ўжо быць стамілася са мной
між жорсткасці штодзённай і спагады
у незаўважнай барацьбе зямной,
якую называць мы лёсам рады.

* * *

Над Валожынам воблакі белыя-белыя,
а між іх, аглядаючы свет,

зрэдку храмы і замкаў руіны
ўтравелыя,
Страцім-Лебедзем сонца плыве.

Паглядае й сюды, дзе палацы
люструюцца
праз умоўную рысу сцяны.
Залюстрэччам здаецца зямля
беларуская,
у якім заблудзіліся мы.

* * *

На старт! Мой спрыт
зямных чакае дзён:
што лепей – спрынт
ці, можа, марафон?..

І першы крык
узнёсся да нябёс.
Здаецца, спрынт
мне прапануе лёс.

Жабрак ці прынц —
пастаў душу на кон!
Ратуе спрынт
ад мар пра марафон.

Не выбірай
для сэрца іншы рытм!
Жыццё — не рай,
але й не лабірынт,

не цесны рынг
і не адвечны сон…
Ды ўжо — не спрынт,
яшчэ – не марафон…

## У ЗАЛАТЫ АЛЬБОМ

***Ірыне Андрончык***

А ты выглядаеш княгіняй —
нібыта Венера між зорак —
з ласкавай усмешкай багіні.
Ну, хто табе дасць твае сорак?

Не часта камусьці пад небам
быць выпадзе Львом альбо Львіцай,
як золату ззяць сярод срэбра.
Ну, хто табе дасць твае трыццаць?

Наш зрок да памылак так схільны.
А сэрцу не час памыляцца.
Бо ты ж — маладая жанчына.
Няўжо хто не дасць твае дваццаць?

Хай кажуць, што ўзрост не ўтрымаеш.
Разгадка мне бачыцца простай:
усё ты душою ўспрымаеш.
А душы не маюць узросту.

* * *

***Святлане Длатоўскай***

Любяць сваю пару
сонца, і дождж, і вецер.
І слова — з яго Беларусь
зачацца здольная ў сэрцы.

Апошні штуршок ці рух
для лёсу, як міг датклівы —
і з сэрца твайго Беларусь
свае развінае крылы.

Хістаюцца хай гады
ад жорсткасці да мілосці,
але Беларусь заўжды
сінонімам ёсць прыгажосці.

Яе абароніць ваяр,
жыццё паклаўшы на тое.
Мастак скарыстае свой дар —
прыбраць Беларусь у строі.

Драпежна-ласкавы звер
засне ў ёй без рыку і енку…
Божа, пашлі мне верш
перлінай ёй на сукенку!

* * *

Мы з табой чужыя з раніцы.
Я маўчу —

падзяліцца нават радасцю
не хачу.

Ды і ў радасці гарошына
крыўды ёсць.
Я ў тваім жыцці няпрошаны,
нібы госць.

Я ў сваім стагоддзі згублены,
нібы грош
у тэатры, што без публікі.
Ну і што ж!..

Хай жа горшага не здарыцца
ў немаце.
Бо чужая радасць зайздрасцю
прарасце.

**КРОПЛІ ДАЖДЖУ**

Дождж ад раніцы ідзе
досыць цёплы,
скачуць кроплі па вадзе,
танчаць кроплі.

З паўгадзіны мо стаю
ля таполі —
назіраю, як зямлю
лашчаць кроплі.

Не прымружыць вочы, бо
сню Акропаль,
што знаёміў нас з табой
гукам кропель.

Заблудзіўся наш раман
ў жытнім полі.
Больш Акропаля няма,
толькі кроплі…

Дождж канчаецца, але
так паволі.
На асфальце, як на шкле,
танчаць кроплі.



Алесь КАСКО

# ПРЫВІДНАЯ КАМАНДЗІРОЎКА

*Апавяданне*

***Упершыню я абмінаў бацькоўскі дом,*** пакідаў яго далёка збоку. Дом, але не радзіму: мясціны, куды нарэшце выбраўся, паяднаныя з нашымі аднымі лясамі, усё яшчэ вялікімі, хоць і моцна прарэджанымі, балотамі, на якіх цяпер журавінныя заказнікі, старымі няўезджанымі дарогамі, вузкімі і занадта глейкімі для машын, а для вазоў дык і вельмі прыдатнымі дасюль. Іншая рэч, колькі тых вазоў засталося і каму ў іх сёння ездзіць. За маім жа дзяцінствам аднавяскоўцы даволі часта выпраўляліся туды, у палескія нерушы: паляваць без дазволу і спілоўваць хваіны без вялікай рызыкі, купляць танную скаціну, сватаць цнатлівых і працавітых нявест, мяняць усё на ўсё, часам «дуплятае на прабітае», а то і «гаршчкі на гліну». Людзям, прынамсі, здавалася, што ўсё там лепшае, балазе далекаватае і таямнічае. Гэта я ведаў з расповедаў, бо недарослых у далёкія і неаднадзённыя вандроўкі не бралі. Мала мяне тое засмучала, я прогся ў горад, сядзеў у кніжках, для допісаў у паўфарматную газету мне ставала збіранага школьнікамі, у іх ліку мною, параскіданага трактарнага жалеззя для новых трактароў, нясмелых успамінаў былых франтавікоў і партызанаў ды «подзвігаў» меліяратараў на пачатку наступу на безабаронную і ціхую, як лань, прыгажуню Лань-раку і яе ўзбярэжжы.

Далей за Гарыльчыцы, дзе жыла замужняя сястра, я не бываў ні ў школьніцтве, ні ў студэнцтве. Як і аднагодкаў, лета спакушала прасторамі Крыма, Сібіры, Казахстана. А потым я стала асеў у горадзе. Мае журналісцкія дарогі супадалі з маршрутамі аўтобусаў і тралейбусаў абласнога цэнтра — і вось яны сягнулі ў шырокі, а мо, наадварот, у звужаны лясамі ды балотамі і з таго больш загадкавы, свет!..

Збіраўся я доўга, усё чакаў лета — аднаго, другога, — пакуль мой добры знаёмы, ён родам з тых мясцін, давершыць свой загарадны домік. Кожнага новага лета ён адно пад’юджваў мяне:

— Едзьма! Незвычайны куток. Там ты такой міфалогіі капнеш. І даўняй, і не вельмі.

— А ты, настаўнік, чаму ж дасюль не капнуў? — Ставіўся я недаверліва не так да ягонага сцверджання, як да сумніўнага «едзьма».



*Алесь Каско нарадзіўся ў 1951 годзе ў вёсцы Чудзін Ганцавіцкага раёна. Скончыў Брэсцкі педінстытут, настаўнічаў, працаваў журналістам. Аўтар кніг паэзіі «Скразная лінія», «Набліжэнне», «Час прысутнасці» і інш. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова.*

— Я служка фізікі і астраноміі, навук, якія ўсё ранейшае збольшага растлумачылі. Наперадзе болей загадак, чым сёння і ўчора.... Але я дзеля цябе, па-зямляцку, паеду. Не збаішся зданяў, што і сёння водзяцца ў нашых лясах?

І зноў, лайдак-марнаслоў, адкладваў паездку. Як і на гэты раз, калі я намерыўся асабліва рашуча: пагарбаціўся на ягонай будоўлі, дамогся ў рэдактара камандзіроўкі. Зарадаваўся, калі «сейбіт разумнага» завітаў у сіненькім гарнітуры пад гальштукам... Прыпыніў надоўга будаўніцтва, вызваліўся для паездкі? Не, гэта ён скарыстаў маю дапамогу для кароткачасовага перадыху... У рэшце рэшт да мяне дайшло: ён не проста лайдак, ён баязлівец; баіцца парушыць памяць пра радзіму, дзе ў яго анікога з блізкіх не засталося і дзе, магчыма, усё перамянілася з паверхні да глыбіні. Такая боязь сядзіць у многіх, і ці не таму нас, вясковых, у сталым веку не так цягне дадому, як у юнацтве?

Чым ён падсобіў мне, дык гэта зручнаю — і ў дрыгве, і на пнях не падвядзе, казаў ён, — «Ніваю» ўзамен на час паездкі на мой старэнькі «Фолькс», куплены з трэціх рук, і схемаю майго маршруту, накіданаю ім.

— На гэтую глухую дарогу, — «сейбіт» абвёў чорным алоўкам нейкую паваротку, — не зварочвай. Здань там блукае, ці што. Шмат пра яе гавораць, ва ўсялякім разе, гаварылі ў мае школьныя гады, ды нямногія бачылі... Смяешся? Эйнштэйн і той верыў у неба, а значыцца, і ў пекла! Вернешся, дык раскажаш.

Я падзякаваў за перасцярогу жартам, а ўсур’ёз, у думках, — за інтрыгу, вартую любой вандроўкі.

Такім чынам, я пакінуў родны дом далёка збоку. Калі б заехаў туды, у асірацелае гняздо, там і замкнуў бы маршрут, акрэслены чаканаю авантураю. Далей не пусцілі б, па-першае, бездарожжа ад нядаўніх зацяжных дажджоў на Палессі, па-другое, вяскоўцы, якія збягаюцца са сваімі скаргамі і просьбамі ў кожны мой прыезд, тым болей рэдкі. І памяць затрымала б... Адным словам, замкнуў бы тым, што калісьці адбылося, а не тым, што не здзейснілася. Невядомасць, ад якой так доўга жыў паблізу, вабіла не толькі прадоўжыць, але, найперш, узбагаціць даўнія юначыя ўяўленні і перажыванні.

Гарыльчыцы былі маім першым адпачынкам і начлегам. Ад нечаканасці сястра спачатку знепрытомнела, потым зацалавала мяне, праслязілася:

— Мне, грэшнай, падумалася неяк: мо ўзяць ды памерці, каб вы паз’язджаліся? Ты прыехаў бы?.. Добра, што дачакалася і так. Апаласні рукі ды за стол.

Жыве Ануля ўжо гадоў пяць адна: мужык памёр ад сухотаў, два сыны даўно ў горадзе, прычым далёкім, расійскім. Да сыноў яна пакуль што не збіраецца, хоць тут і радыяцыйная зона. Дакладней, не тут, дзе стаіць яе хата, а за мосцікам. Дзіўнавата: у той канец вёскі ходзяць людзі і ў госці, і на працу механізатарскую і даярскую, але грошай лекавых, ці «дамавінных», як вяскоўцы кажуць, ім не плацяць. Дазіметры важных чыноўнікаў, што разы два наведаліся, паказалі высокую радыяцыю толькі за мосцікам. А ў рачулцы пад ім, а ў надрэчных кустах? Ануля паціснула плячамі, а я адчуў, што да мяне сама сабой плыве журналісцкая тэма.

Уранку я сабраўся намацаць яе больш пэўна. Выйшаў на падворак — і затрымаўся: як шмат тут не даведзенага да ладу. Незавершаны, прыкрыты цэлафанавай «посцілкай» стажок сена, бульбяны палетак амаль некрануты, не сцягнуты з градак пасохлы агуročнік, у старым плоце дзіркі. На зарослай мяжы каля паветкі параскіданыя кругляки дроў. Напэўна, нехта дроў прывёз, нехта папілаваў, а калоць узялася Ануля сама, вунь як няўмела пашчапала чарговы кругляк. Яна не гультайка, не беларучка. Змалку з мамаю на ферме, пасля сямігодкі пайшла рабіць паштаркаю, а затым тэлефаністкаю, пазней — у нянечкі ў сям’ю начальніка пошты. Ад мужа той начальніцы зацяжарыла першым сынам... Я скінуў куртку і ўзяўся за сякеру, балазе

Ганулі дома не было: яшчэ на золку пабегла даіць грамадскі статак, падмяняць, хоць даўно пенсіянерка, адну з даярак, што занядужала.

Каля дроў я забавіўся і старшыню сельвыканкама не заспеў: паклікалі ў раён «пясочыць» за... Я не даслухаў сакратаркі і спытаўся, як знайсці вясковага старасту.

Дзед Рыгор гэтак жа, як сястра, падняў ад няпэўнасці плечукі: хто, дзе і як замервае радыяцыю, ён не ведае, бо дазіметр чалавек з райцэнтра ў яго забраў; сказаў, што няспраўны, стрэлка зашкальвае, а такога быць не можа — павышаны ўзровень адно ў тым канцы вёскі. Забраў прыладу, набытую Рыгорам у Польшчы, — стары ездзіў да меншага брата, які пабраўся з палячкаю гадоў сорак назад, — ды так і не вярнуў, хоць абяцаўся наладзіць.

Што мне параіць было? Даў слова наступным разам прыхапіць, а ўдасца, дык прыехаць і са спецыялістам, пасля пра ўсё напісаць, на што стараста пасміхнуўся: маўляў, выдаю сябе на таго ж чалавека з райцэнтра... Гаворка пажвавела, калі я спытаў пра дарогі, якімі ехаць мушу далей.

— Здань, ці прывід, як хто кажа, напаткаць хочаш? — узяўся далонню за вусы Рыгор. — А смуткі яе, ці яго, ведаюць. Адно плявузгаюць, што нехта бачыў. Праўда, калісьці, — тут дзед скінуў усмешку, — у лесе пад Хоцакам, вёрст за дваццаць адсюль, хаваўся пасля вайны хлопец, што спярша ў партызанах быў, потым у карным батальёне, паляваў на тых самых партызанаў, вёскі паліў. Дык яго міліцыянты злавілі, вадзілі і там, і ў нас, каб людзі апазналі. Мала хто прызнаў яго: цень то быў, а не чалавек, змарнелы і тонкі такі, скура на касцях. От ужо праўда, здань-прывід. Дык жа даўно было, я падшыванцам бегаў яшчэ, а хто цяпер сноўдаецца ў нашых лясах — у галаву не вазьму. Мо страх людскі старэчы, тых, хто вайну таражыў, як я...

— Дасюль страх?.. Што людзі кажуць: як выглядае тая здань, чым яна страх наганяе?

— От бы вы летась прыехалі, адну бабку самі распыталі б. А так што, позна: у жывых ужо няма. Казала — постаць хлапечая, танклявая і высокая, чорныя космы доўгія, да пояса, а замест вачэй спарышамі вугалі гараць. Пры маладых апісвала гэта, дык тыя засмяялі яе: у страха вочы вялікія! Яно так, але я змоўчаў: усяго-ўсялякага набачылася за жыццё, дзяўчом у вайну гарэла ў гумне, праз нейкую нару вылезла... Чаго дзівіцца такой памяці? Ды што скажаш цяперашнім хлапчукам — чаго добрага, самі і настрашылі. А вядома ж, ад чужога шалу і ў тваёй галаве круціцца.

— Вы таго ж маленства, няйнакш. Колькі вам было?

— Гэтулькі, як вайне… Я во пра што падумаў. Даруйце, што здань перад вамі нішчу. Я не адгаворваю. Пакруціцеся сабе па лясных дарогах, іх цяпер збольшага наладзілі, у людзей хоцаўскіх папытайцеся, яны больш ведаюць. Едзьце сабе, калі такая работа ў вас, на тое вы і...

Мусіць, я загаварыў яго. Дзед Рыгор раптам схапіўся за сэрца, абваліўся на ложку да сцяны, прытуліў падбародак да грудзей. Шчасце, падаспела Гануля, шукаючы мяне, акурат зайшла ў Рыгораву хату, і мы прыпаднялі яго, далі вады. Я пабег па машыну.

Фельчарка супакоіла, што з дзедам нічога страшнага не здарылася, часцяком з ім гэтак бывае. Напэўна, дажывае свой век, як і шмат хто ў вёсцы. Няхай, сказала, паляжыць на тапчане пасля ўколу, потым яна сама завязе яго дахаты, муж пад’едзе. Тэлефонаў мала, старыя не ўсе могуць пазваніць, а ў старасты на тым тыдні тэлефон сапсаваўся. «Хаджу па хатах, праведваю дзядоў-бабулек, ды, на ліха, сёння затрымалася, справаздачу ў раён пішу. На аднаго народжанага сем-восем памерлых...»

З сястрою мы папалуднавалі і развіталіся. Даць ёй хоць нейкія грошы — на сена, на дровы — не ўдалося, ад іх яна адмахалася рукамі: я адна, а ў цябе сям’я...

Суцешыў сябе тым, што аддам на зваротным шляху, забыўшыся, — збіраўся махануць дадому іншаю дарогаю, шашою Пінск—Брэст, калі выеду на яе з людскою падказкаю. «Буду ехаць назад, — прамармытаў, — не адмовішся...» Няпэўнасць засмуціла Ганулю.

— Прыедзь як не цяпер, дык хоць калі яшчэ. Ад нудоты тут і праўда можна памерці.

На выездзе з вёскі я спыніў машыну з незаглушаным маторам — аддаць, як мы пішам у газетах, даніну памяці. Або я проста завагаўся? Хат і падворкаў тут мала, яны, бы астраўкі, падзелены запушчанымі сядзібамі. Людзі, няйнакш, пакрысе перабіраюцца на той канец вёскі. Тут павышаная радыяцыя, а ў лесе, які пачынаецца амаль адразу за крайнімі платамі, яна, мабыць, яшчэ большая. Сосны ў першых дзялянках прыкметна маладзейшыя, ніжэйшыя за астатні масіў лесу. Акурат адсюль ішоў, разбушоўваўся пажар, недзе тут гарэў і хлеў з людзьмі. Шмат іх у той дзень карнікам не ўдалося сагнаць, дык многіх паліцаі лавілі з канца лета да позняй восені, некаторых тапілі ў палонках на Лані.

Бяры і пішы вялікі нарыс, кнігу цэлую пра Гарыльчыцы. Аднак за буйны жанр я браўся вельмі рэдка. Як працаваў у газеце? Паехаў ці пайшоў, сустрэўся, пагаманіў — і напісаў. Такая карэспандэнцкая праца. Добра, калі па-хвацку напісаў, закруціў, навізну падаў. Але якая, да д’ябла, навізна можа быць на штодзень? Прыдумляеш, коніка выкідваеш, як папракнуў аднойчы мой добры знаёмы фізік-астраном... Згадаў яго і перастаў вагацца: трэба ж упэўніцца ў палескай легендзе, якая тут і да мяне жыла, і цяпер жыве, няхай сабе мала хто ў яе верыць. А раптам? Вось гэта пачатак быў бы!..

Травяністая дарога, пераплеценая каранямі цёмнага хвойнага лесу, спакушала, цягнула далей і далей ад рэальнасці, бліжэй і бліжэй да таямніцы. На вярсце дзесятай яна раптам павузела і неўзабаве растраілася, прычым наўпраставы шлях быў загароджаны галіністымі кавалкамі дрэў, пакалечаных, відаць, бураломам. Я павярнуў налева, дарога туды падалася шырэйшаю і бралася ўгору. Вяртацца далекавата, дый не па мне: вырашыў дык вырашыў, шукай прыгод на неразумную галаву. Чакаць доўга не давялося. І паўгадзіны не прайшло, як утравелыя каляіны збеглі з узгорка і ўперліся ў даўно неладжаную грэблю. Я вылез з машыны, пашукаў аб’езду: яго не было, балота цягнулася ў абодва бакі. Я выняў з багажніка сякеру і пачаў агаляць камлістыя яліны, кідаць лапістае голле ў найбольш глыбокія яміны ў каляінах. Паспрабаваў праехаць, але абноўленая грэбля заўпарцілася: машына забуксавала, і чым больш я націскаў на газ, тым глыбей асядалі заднія колы. «Ніва» з яе нібыта надзейным пярэднім мостам не магла выкараскацца. Я выключыў матор, каб выйсці ды зірнуць, якой даць ёй рады. Не здолеў. Стома ахінула мяне, упаласць духу канчаткова расслабіла, і я адкінуўся на спінку сядзення.

Прабудзіў грук у фортку праваруч. «Памагаты! Хоць калі ды шанцуе», — першае, што я падумаў, калі ўбачыў за шклом малады, хай сабе вусата-бародкавы твар. Адчыніў дзверцы, і чалавек сеў побач са мною. Быў ён юнаком-падлеткам, вусы і бародка толькі-толькі прабіваліся на твары, гэта напачатку, за апырсканым бурай гразёю шклом, яны падаліся густымі.

— Маё табе шанаванне,— чамусьці на «ты» звярнуўся хлопец, пазіраючы не на мяне, а наперад, у ветравое акно. Павекі нерухомыя, тонкія губы сціснутыя, скошаная на скронь цёмная пасма валасоў гэткая ж застылая. Што ў ягоных вачах, — не відно, але, дай Бог памяці, дзе і калі яго бачыў?

Ягоныя вусны растуліліся і назвалі маю вёску: ён родам адтуль. Мала каго з аднавяскоўцаў-падлеткаў ведаю, але ж і з аблічча ды з густога, як бы вільготнага, голасу не ўгадаю, чый ён.

— З аднаго роду з табой, — ледзь-ледзь павярнуў юнак галаву. Промнік даверу ў ягоных вачах толькі на момант прабіўся скрозь павалоку смутку.

Уголас я пытанняў не задаваў, аднак — дзіва! — ён адказваў на іх. Больш за тое, праз нейкі час я адчуў, што ён навязвае мне сваю волю, змушае думаць і згадваць пра тое, пра што я забыў ці стараўся забыць. І паплылі імгненныя, абрывістыя, але ўпартыя малюнкі, як быццам зараз мая памяць не належала мне.

Першыя школьныя гады. Гуртам, навыперадкі — сустракаць настаўніцу, у вас такая гульня-змаганне: хто дабяжыць найраней, той і паднясе яе падручнікі і сшыткі. Ты паперадзе ўсіх, табе не далася хатняя задачка, табе трэба паддобрыцца... З брамкі перад домам начальніцы пошты выходзіць Ганулья, працягвае штосьці. Хлеб?! Ты не хочаш паказаць перад усімі, што вы такія бедныя, ты абураны, што сястра спыніла, і выбіваеш скібку ў яе з рук на пясок. А ўвечары дома, дзе дзве меншыя сястры і брат, табе не перападае ні долькі хлеба...

Зноў школа, кабінет дырэктара. «Шчыра, шчыра прызнавайся!» І ты называеш сяброў, якія ў нядзелю былі ў царкве і бралі ўдзел у хрэсным ходзе. Як і ты... У піянеры цябе прымаюць, а іх двух — не, яны — белыя вароны і ў класе, і ў школе. Вы назаўжды перастаяце сябраваць.

Студэнцтва. Першая журналісцкая практыка супадае з апафеозам меліярацыі. «Так, можна было пайсці ў абход Лані, — дае інтэрв’ю начальнік гідрасістэмы, — але ў абход значна даражэй, нашмат больш народных грошай». І ты з ім заадно: за ашчаднасць, за «палескія песні бульдозераў», супраць «плакальшчыкаў» па прыродатворным храстве. Пасля і сам пускаеш міжволі слязу, седзячы на беразе роднай, ды ўжо не тваёй ракі...

Затое ты атрымліваеш працу ў вялікай газеце. Аднак пакуль што — перад выбарам пасады. З табою даверліва гутарыць дзіўна паголены і прычасаны мужчына ў акулярах, які да газеты мае вельмі ўскоснае дачыненне. Ты пагаджаешся, а праз месяц з ім сустракаешся зноў і называеш...

— ...Нікога я не называў, я прыйшоў, каб адмовіцца! А яшчэ праз месяц — каб уцячы ў іншую газету!

Сілком, крыкам я абарваў свае-чужыя згадкі. Не адразу сцяміў, дзе я. Са мною ў машыне нікога не было. Я выйшаў і агледзеўся: нікога, бязлюдныя лес і балота. Хаця — стой, нечая постаць мільганула на ўзгорку і знікла за ім. Хутчэй! Я ўскочыў за руль, завёў матор і ўключыў заднюю перадачу. Машына надзіва лёгка скранулася з месца, выбралася з ямін, потым усё роўна як паплыла на паветранай падушцы. На сухім я разварнуў яе, вывеў на ўзгорак, не затрымаўся там, пакаціў па дарозе на Гарыльчыцы і зрэдзь, на калдобінах, лавіў свой позірк у люстэрку над ветравым акном.




Ян ДЛУГАШ

# ГРУНВАЛЬДСКАЯ БІТВА*

## З «ГІСТОРЫІ ПОЛЬШЧЫ»

### ГОД ГАСПОДНІ 1410

**КАРОЛЬ УЛАДЗІСЛАЎ, АДПРАВІЎШЫ ГАНЦА ДА ПАСЛОЎ ВЕНГЕРСКАГА КАРАЛЯ, НАСТОЙВАЕ НА МІРЫ З КРЫЖАКАМІ. НЕ ДАМОГШЫСЯ МІРУ, БО МАГІСТР І КРЫЖАКІ ПРАГНУЦЬ ВАЙНЫ, ЁН ПРЫМАЕ РАШЭННЕ ПЕРАЙСЦІ РАКУ ДРВЕНЦУ, ЯКУЮ ВОРАГІ ТРЫМАЛІ Ў АБАРОНЕ.**

Хоць Уладзіслаў, кароль Польшчы, пасля некалькіх прапаноў міру зараз і сам усе намеры звяртаў на вайну, аднак у той дзень ён пасылае свайго рыцара Пятра Карцбога, шляхетнага мужа герба Карцбог (на якім намаляваны тры карпы), да венгерскіх баронаў, якія знаходзіліся тады недалёка, у лагеры магістра Прусіі, і крыжакоў, патрабуючы ад іх яснага адказу з нагоды магчымасці заключэння міру з магістрам і Ордэнам і пытаючы, ці застаецца якая-небудзь надзея на аднаўленне міру. Той, паводле загаду і наказу караля прыбыўшы ў лагер крыжакоў, з’яўляецца да венгерскіх баронаў і просіць іх даць канчатковы адказ. Тады апошнія прыходзяць да магістра і камандораў і ўсялякімі довадамі падахвочваюць іх да міру. Яны даказваюць ім, што ўмовы міру, прапанаваныя каралём польскім, справядлівыя і ганаровыя, і моцна ўпрошваюць іх не адмаўляцца прыняць мір на справядлівых умовах, пакуль справа не дайшла да бітвы, бо Марс[1] адзін і той жа для абодвух бакоў і зыход вайны яшчэ невядомы. Магістр жа прускі Ульрых фон Юнгінген, выдаліўшыся на таемную раду, запрасіў некалькіх асоб, а менавіта: маршала Ордэна Фрыдрыха Вальрата[2], вялікага камандора Конрада Ліхтэрштэна[3], камандораў — эльбінгскага Вернера Тэцінгера, торуньскага Шварцборга[4], мевенскага графа фон Вендэ[5], няшаўскага Готфрыда Гоцфельда[6], тухольскага Генрыха[7], старагардскага Вільгельма Ніпена[8],

---

* *Працяг. Пачатак у нумарах 1, 2, 3, 4, 5 за 2010 г.*

1 Тут і ў некаторых іншых месцах Длугаш рытарычна карыстаецца імем рымскага бога вайны Марса для выражэння ідэі ваеннага шчасця і ваяўнічага запалу.

2 Фрыдрых Вальрат — Фрыдрых фон Валенрод (гл. № 3/2010, 1394 г., ст. 70, заўв. 1).

3 Ліхтэрштэн — Конрад Ліхтэнштэйн (гл. № 2/2010, 1390 г., ст. 71, заўв. 5).

4 Шварцборг — Альбрэхт фон Шварцбург — у ліпені 1410 г. комтурам Торуня ўжо не быў, а займаў пост інтэнданта Ордэна. Комтурам Торуня быў Іаган фон Зейн, якога Длугаш згадвае ніжэй.

5 Комтурам у Меве быў не Фрыдрых фон Вендэн, а Жыгімонт фон Рамунген (1407—1410).

6 Готфрыд Гоцфельд — комтур нешаўскі ў 1407—1410 гг.

7 Генрых — Генрых фон Швельборн, комтур тухольскі ў 1404—1410 гг.

8 Не Вільгельм, а Эбергард фон Іпінбург (гл. № 4/2010, 1409 г., ст. 75, заўв. 2).

шанзееўскага Мікалая Вільца[1], грудзенскага Вільгельма Эльфекеча[2], энгельсбергскага Бурхарда Вобека, бродніцкага Балдуіна Штольма[3], члухаўскага Арнольда фон Бадэна, астэродскага Печэнгайна[4], шчытнаўскага Альберта фон Эчбара[5], брандэнбургскага Маркварда фон Зальцбаха, торуньскага графа Іагана фон Зейна і іншых, і з імі некаторы час радзіўся пра мір і вайну. А паколькі магістр Ульрых, як і яго камандоры, па пустых забабонах меркаваў, што ніякі вораг ніколі на іх не нападзе і не пераможа (бо яны валодаюць нейкімі мошчамі святых), то ў сваёй гардыні яны схіляліся больш да вайны, чым да міру; і магістр Прусіі даў праз пасрэдніцтва маршала Вальрата венгерскім баронам такі адказ: «Яснавяльможныя мужы, мы не адмаўляліся б падпарадкавацца вашым перакананням і довадам і ўступіць у мірныя перамовы з каралём Польшчы, калі б сам кароль, перш чым варожа ўварвацца ў нашы землі, шукаў міру, знаходзячыся на зямлі свайго каралеўства. Цяпер жа, калі кароль Польшчы дамагаецца міру пасля таго, як ён напаў на землі нашага Ордэна і прычыніў нам пажарамі і рабаваннямі такую цяжкую шкоду, мы лічым ганебным пасля такіх страт і пажараў уступаць з ім у перамовы пра які-небудзь мір; бо з таго часу, як Ордэн наш пасяліўся на гэтых землях, ніхто і ніколі з каралёў і гасудароў, як і сам ён, не ўяўляў для сябе магчымым уварвацца з варожым войскам у землі нашага Ордэна. Таму мы не можам даць сябе схіліць да заключэння міру з названым каралём і не паддадзімся ніякім перакананням, ніякім просьбам і довадам, пакуль не адпомсцім нашым каральным мячом за ўчыненыя нашаму Ордэну спусташэнні і пажары. Такім чынам, нашы рознагалоссі і спрэчкі спыняць не нашы словы, хоць бы вымаўленыя ад імя цэзара, і не пасрэдніцтва якой-небудзь іншай улады, але меч і зброя. Пасля таго як мы бачылі, што спусташаюцца нашы вобласці і гараць нашы хаты, мы загасім нашы пажары варожай крывёй».

Пачуўшы такі напышлівы і здзеклівы адказ, бароны Венгрыі зноў і зноў упрошваюць, угаворваюць і настойваюць, каб пры пасрэдніцтве Жыгімонта, караля рымлян і Венгрыі, крыжакі далей сябе схіліць і прымусіць да перамоў аб заключэнні міру і, суцішыўшы свой запал, не адмаўляліся выпрабаваць любыя сродкі пагаднення. Аднак магістр і камандоры, узбуджаныя неразумным запалам гневу і гордасці, працягвалі настойваць на дадзеным імі, хоць і рэзкім і не адпавядаючым ніякай справядлівасці, адказе. Адзін толькі граф фон Вендэ, камандор мевенскі, сярод гэтулькіх ненавіснікаў пагаднення, пераконваючы скласці мір, сказаў: «Даўно выпрабаваў я на досведзе, што нясе з сабой мір і што — вайна, і мне здаецца лепшым і больш разумным, якія б крыўды і шкоды, прычыненыя як-небудзь каралём Польшчы, ні засталіся неадплачанымі, адкінуўшы жаданне перамогі і помсты, прыйсці да мірных перамоў. Бо часта, нават калі войскі сыходзяцца і гатовыя ўступіць у бой, бывае, што пачынаюцца перамовы і заключаюць мір. І паколькі зыход вайны сумніўны і можа нават усё перавярнуць імклівым наплывам небяспек, я мяркую, што пэўны мір лепш за надзею на перамогу». Незадаволены гэтымі словамі і не быўшы ў сілах стрымаць парыў душы, Вернер Тэцінгер, камандор эльбінгскі, пачаў нападаць на графа фон Вендэ, камандора мевенскага. «З такім станам душы, які ты тут выказваеш, камандор мевенскі, — сказаў ён, — табе падыходзіла заставацца дома пад дахам, бо ты больш прыдатны для дагляду хворых братоў Ордэна, чым для ваенных спраў». Мала зачэплены такой насмешкай, граф Вендэ запярэчыў: «Што да мяне,

[1] Мікалай Вільц — комтур шанзееўскі ў 1399—1410 гг.

[2] Насамрэч Эльфенштэйн. Быў комтурам у 1404—1410 гг.

[3] Балдуін Штольм — Балдуін фон Шталь, комтур бродніцкі ў 1409—1410 гг.

[4] Печэнгайн — Гамрат фон Пінценау, комтур астродскі ў 1410 г.

[5] Альберт фон Эчбар — гэтае імя і комтурства шчытнаўскае невядомы.

то я не вагаўся сумленна і з карысцю выказацца за мір і ў сваёй гаворцы прызнаць, што мір лепш за ўсякую вайну, бо я лічу агідным, каб у нашы дні пралівалася кроў каталіцкая, калі не выпрабаваны мірныя сродкі, якія прапануюцца. І хоць я стаю за мір і больш за ўсё жадаю міру, але калі па Божым патуранні прыйдзецца ўступіць у бой пры варожасці да нас Марса, то я буду ваяваць адважна, як належыць чалавеку высакароднай крыві. Ты ж стаўся прадбачлівей да таго, што і як ты раіш і больш за ўсё глядзі, як бы ты, які так грозна разважае пра вайну ў гэтых сценах, не пусціўся бегчы з хуткай бітвы, падобна зайцу, што напяў на сябе шлем». Затым адзін з баронаў Венгрыі, Сцыборы са Сцыбожыц, перапыніўшы сварку камандораў, пачаў рознымі спосабамі зноў і зноў схіляць да міру, кажучы, што ён стары ваяр, які не раз быў у бітвах і выцерпеў шмат зменлівасцей і выпадковасцей вайны, і што ён разлічвае на сябе, але ва ўсякім разе, пакуль магчыма, не адпрэчвае міру. Але ён атрымаў на гэта ад магістра Прусіі Ульрыха такі адказ: «Ты кажаш, Сцыборы, — сказаў ён, — як паляк: бо мы ведаем, што ты родам з Польшчы, менавіта — з Куяўскай зямлі, таму ты на выгоду і карысць твайго народа пераконваеш і раіш прыняць мір, а мне і Ордэну ніякім чынам прыняць яго нельга».

У гэтай справе ўвачавідкі бачна вялікая загана крыжакоў: яны вызначаліся фанабэрыстасцю і выхваляліся ўладаннем такімі вялікімі сіламі і сродкамі, што лічылі, быццам не знойдзецца на свеце сярод каралёў такога, які мог бы ўраўноўвацца ў вайне і міры з імі; і яны меркавалі, што і ўсе іншыя павінны прызнаваць за імі столькі ж, колькі яны саманадзейна ўявілі пра сябе самі ў сэрцах і думках. У такім сваім асляпленні яны забывалі, што яшчэ не існавала чалавека, усімі прызнанага бездакорным і магутным, якому б не пагражала небяспека нават ад слабога.

Бароны венгерскія, разумеючы, што магістр і яго камандоры па натуры не схільныя прыняць мір нават на справядлівых умовах, адсылаюць назад каралеўскага ганца Пятра Карцбога. Яны паведамляюць Уладзіславу, каралю польскаму, што са свайго боку прыклалі ўсе старанні, здольнасці і намаганні і будуць яшчэ прыкладаць іх, наколькі будзе магчымым; але яны, аднак, яшчэ не атрымалі згоды магістра і яго камандораў на мір, хоць і не пакінулі надзеі яго ўладкаваць; і абяцаюць пасланць заўтра праз іх уласнага ганца паведамленне каралю пра канчатковы намер магістра і крыжакоў. Калі Пётр Карцбог вярнуўся да караля з адказам венгерскіх баронаў, а таксама паведаміў усё тое, што сам ён, Пётр Карцбог, убачыў і разгадаў у войску крыжакоў, то Уладзіслаў, кароль польскі, зразумеў, што ў яго не застаецца больш ніякай надзеі на мір. Бо да гэтага дня як Уладзіслаў, кароль польскі, і Аляксандр, князь літоўскі, так і іх набліжаныя і саветнікі яшчэ жадалі міру і спадзяваліся на яго. Захоўваючы гэту надзею, каралеўскае войска набліжалася да берагоў ракі Дрвенцы і да лагера крыжакоў, каб, калі яшчэ атрымаецца, уступіць у перамовы пра мір, лічачы, што лягчэй будзе дамовіцца пра сродкі да міру, калі войскі таго і другога бакоў будуць размешчаны на процілеглых берагах. Але кароль дзякуючы паведамленню Пятра Карцбога быў папярэджаны і дасведчаны, што магістр Прусіі, зацята стоячы на сваім і не пераносячы нічыёй разумнай рады, адпрэчвае ўсе магчымасці заключыць мір. А таму, што рака Дрвенца па абодвух берагах яе ўмацавана высокім частаколам, так што без бою яе нельга перайсці, а моцнае варожае войска абараняла б такія ўмацаваныя берагі бамбардамі, стрэламі і любымі сродкамі, то ўзнікаў сумнеў, ці варта каралю ісці тым шляхам, якім ён пачаў ісці, і ці трэба пераправіцца, пабудаваўшы масты праз раку Дрвенцу, ці лепш, узяўшы трошкі накасяк, пайсці назад. Нарэшце кароль, паслухаўшыся лепшай і больш разумнай рады, вырашыў ісці назад і пераправіцца праз раку пасуху ля яе вытока, разважыўшы, што больш выгодна (як гэта і аказалася) перанесці невялікае прамаруджанне і цяжар адступлення, чым падвергнуць войска і рыцараў небяспецы весці бой на наступны дзень

у адкрытай бітве, перапраўляючыся праз раку. Ідучы ж назад, уверх па рацэ, войска будзе пазбаўлена таксама ад непатрэбнай працы па навядзенні мастоў. Разумнасць такой разважлівай парады была лёгка прызнана і, нарэшце, выканана.

### КАРОЛЬ УЛАДЗІСЛАЎ АТРЫМЛІВАЕ ПАСЛАННЕ ВЕНГЕРСКАГА КАРАЛЯ ЖЫГІМОНТА ПРА РАЗРЫЎ МІРНЫХ АДНОСІН.

У пятніцу перад святам святой Маргарыты, адзінаццатага ліпеня, каралеўскае войска, выступіўшы па гуку трубы досвіткам, ідзе назад той жа дарогай, па якой прыйшло, і прыбывае на месца сваёй стаянкі каля горада Лютэрберга, дзе стаяла на адпачынку ў мінулую сераду. Адтуль, пакінуўшы справа дарогу, па якой прыйшло з Мазовіі, яно павярнула свой шлях налева і, рухаючыся па пагорыстых месцах, размясцілася ў палатках каля горада Дзялдава ў паселішчы Высокае. І паколькі стомленае доўгім і цяжкім шляхам войска мела патрэбу ў адпачынку, то стаяла ў тым жа лагеры на працягу двух дзён, менавіта пятніцы і суботы. У гэтыя дні да польскага караля Уладзіслава прыбыў Фрыч фон Рэпткі, сілезец, які з'явіўся ад імя венгерскіх баронаў Мікалая і Сцыборыя. Прыведзены на таемную нараду, ён сказаў: «Найсветлы кароль, хоць венгерскія бароны добрасумленна і настойліва рабілі магістру Прусіі і Ордэну пасрэдніцкія рэкамендацыі аб міры, аднак усе іх старанні былі дарэмнымі. Бо магістр Прусіі Ульрых, зaverаблены ў не прадбачаную ім бездань сваёй ганарыстасцю, не прыняў ніякіх справядлівых і разумных прапаноў, але, растаптаўшы тыя і другія, вырашыў трымацца ўнушэння свайго ваяўнічага запалу. Ён не даў суцішыць гэты свой запал ні справядлівасцю, ні па праву, ні па дамове, ні па чыіх-небудзь трацейскіх рашэннях, але дазволіў яму вырашыцца толькі сілай зброі. Але паколькі Жыгімонт, кароль Венгрыі, пасольства якога выконваюць бароны, з'яўляецца ў той жа час намеснікам[1] Рымскай імперыі, то не належыць яму пакідаць у сапраўднай крайнасці магістра і Ордэн крыжакоў, падуладны Рымскай імперыі. З прычыны гэтага па наказу венгерскіх баронаў я прадстаўляю Тваёй Светласці пасланне Жыгімонта, караля венгерскага, якім ён разрывае з Тваёй Светласцю мір, прымаючы бок магістра і Ордэна»[2].

Кароль жа Уладзіслаў, атрымаўшы канчатковы адказ пра тое, што няма надзеі на мір, і пасланне караля венгерскага Жыгімонта аб разрыве адносін, распарадзіўся трымаць тое і другое ў таямніцы пад строгай даверанасцю, каб разрыў з каралём венгерскім Жыгімонтам не дайшоў да рыцараў і, аслабіўшы іх мужнасць, не адхіліў іх сэрцы ад выканання вайсковага абавязку.

Ганец Фрыч даверна даў зразумець каралю Уладзіславу ад імя венгерскіх баронаў, каб той не надаваў ніякага значэння разрыву з венгерскім каралём Жыгімонтам, бо пасланне апошняга пра разрыў набыта магістрам і Ордэнам крыжакоў за вельмі дарагі кошт, менавіта — за сорак тысяч фларынаў, складзены толькі для застрашвання і не будзе мець ніякіх наступстваў. Затым ён заахвочвае караля працягваць распачатае ім, не зважаючы на якое б там ні было застрашванне, і, не адкладаючы, як мага хутчэй змагацца з крыжакамі; бо апошнія сіламі, людзьмі, зброяй і ў любым стаўленні выяўлялі, што яны слабейшыя за яго, так што літасцю Божай кароль

---

[1] У тэксце «вікарыем». Званне вікарыя, г. зн. намесніка, часовага кіраўніка, Жыгімонт насіў з 1396 г., атрымаўшы яго яшчэ пры імператару Вацлаву.

[2] Гэта пасланне Жыгімонта з'яўлялася вынікам яго дамовы з Ордэнам (гл. № 5/2010, ст. 68, заўв. 2). Яно было датавана 21 чэрвеня 1410 г., г. зн. днём выезду паслоў Жыгімонта з Венгрыі, а перададзена імі Уладзіславу-Ягайлу толькі зараз.

атрымае дакладную перамогу. Ён засведчыў, што венгерскія бароны да гэтага дня клапаціліся пра выгаду не магістра і Ордэна, але караля свайго Жыгімонта і сваю ўласную. Гэта паведамленне Фрыча было палічана сумленным і добрасумленным (якім яно і было); бо згаданыя венгерскія бароны былі адпраўлены каралём Жыгімонтам у Прусію не з мэтай заключэння згаданага міру (бо Жыгімонт аддаваў большую перавагу працягу пачатай вайны, чым яе заканчэнню), а для таго, каб хітрымі шляхамі і выдумкамі атрымаць у магістра Ордэна золата, якім, па чутках (якія былі ілжывыя), у іх была напоўнена адна з веж. Такім чынам, паслы адкрыта абвясцілі крыжакам, што вязуць з сабой пасланне Жыгімонта, караля венгерскага, з аб'явай вайны ў абарону магістра і Ордэна супраць польскага караля Уладзіслава. Паслы абвясцілі нават, што атрымалі ад свайго караля Жыгімонта даручэнне і наказ, каб ніякім чынам не прад'яўляць гэтага паслання аб разрыве Уладзіславу, каралю польскаму, да выплаты магістрам і Ордэнам сарака тысяч залатых [фларынаў]. Такім чынам, магістр і Ордэн крыжакоў, разлічваючы, што гэта пасланне пра разрыў будзе мець вялікую сілу і значэнне для поспеху іх справы, пагадзіліся даць за малазначную паперу з аб'явай вайны азначаныя сорак тысяч фларынаў. Палову гэтай сумы магістр даў у сваёй паходнай стаўцы, а астатняе выплаціў тым жа венгерскім баронам у Гданьску. І за такую колькасць золата ён не атрымаў ніякай іншай карысці ні ў сучасным, ні ў будучым, акрамя гэтага паслання пра разрыў, якое, аднак, па наказу венгерскіх баронаў было прад'яўлена каралю не адкрыта, а даверна, так што ніхто з усяго каралеўскага войска, акрамя васьмі саветнікаў, не ведаў, што пасланне з аб'яўленнем вайны было дастаўлена.

### УЛЬРЫХ ФОН ЮНГІНГЕН, МАГІСТР ПРУСІІ, ПРАНІКАЕЦЦА СПАЧАТКУ МАРНАЙ РАДАСЦЮ З ПРЫЧЫНЫ ЎЯЎНЫХ УЦЁКАЎ ПОЛЬСКАГА ВОЙСКА; ЗАТЫМ, АДНАК, УМАЦОЎВАЕ СВАЕ ГАРАДЫ І ВЫСТУПАЕ, КАБ ПАЗМАГАЦЦА З КАРАЛЁМ.

Тады як кароль Уладзіслаў у згаданую пятніцу здзяйсняў зваротны пераход, у лагер магістра прыбыў, абліваючыся потам, пакрыты пылам прускі разведчык, з весткай, што кароль польскі і яго войска адступае і бяжыць. Вельмі ўзрадаваны яго данясеннем, магістр Прусіі Ульрых прывёў яго да венгерскіх баронаў Мікалая і Сцыборыя і сказаў: «Вось чалавек, родам паляк, які быў пасланы на разведку і вярнуўся, даносячы нам, што некалькі дзён шукаў лагер польскага караля, але не мог дасягнуць яго; патрапіўшы ж на месцы іх ранейшых стаянак, ён знайшоў толькі пусты посуд, некалькі пакінутых хворых коней і, звыш таго, кінутыя ядры для бамбард. Рухаючыся затым па слядах войска, ён дайшоў да разгалінавання дарогі, але ў які бок павярнула войска, ён ніяк не мог зразумець. Таму я ўпэўнены, што польскі кароль і яго войска пусціліся наўцёкі, застрашыўшыся маіх сіл і магутнасці, бо адступ звычайна служыць дакладнай прыкметай страху; і я вагаюся, не ведаючы, што мне распачаць пры такіх таемных уцёках майго ворага. Прашу вас, парайце: што мне рабіць? Ці праследаваць беглага ворага, ці заставацца на месцы?» Венгерскія ж бароны, выслухаўшы новае паведамленне разведчыка, разважылі так: «Кінуты посуд, да таго ж пусты, і хворыя коні не з'яўляюцца сапраўднай прыкметай адступу ці ўцёку; бо можна лічыць пазбаўленымі розуму тых, хто вазіў бы з сабой пусты посуд і кульгавых коней. Аднак пакінутыя ядры для бамбард даюць некаторую падставу меркаваць пра раптоўны адступ ці ўцёкі. Справа патрабуе, аднак, глыбейшага і надзейнага расследавання, і не варта адразу прымаць на веру ўцёкі такога вялікага войска». Да гэтага нейкі стары рыцар з войска магістра з адкрытай адвагай дадаў: «Беражыся, магістр, як бы гэтымі ўцёкамі, пра якія нам паведамля-

юць, каралеўскае войска не намыліла табе галаву і як бы ты не адмовіўся ад ілжывага меркавання, якое цябе цешыць, толькі тады, калі зразумееш, што каралеўскае войска ўварвалася ў твае гарады». Гэтыя словы так падзейнічалі на магістра, што ён адразу стаў клапаціцца ўжо не пра праследаванне караля, а пра абарону гарадоў. Выступіўшы са сваім войскам, ён падыходзіць да замка Брацяна і там размяшчае лагер. Сам жа, схаваўшыся з венгерскімі баронамі ў сценах замка, загадвае пабудаваць дванаццаць мастоў праз раку Дрвенцу, па якіх можна было б перавесці яго войска. Адгэтуль з частымі, але патаемнымі прыпынкамі магістр накіроўваецца да лагера ворагаў, поўны саманадзейнасці і пыхі з прычыны гаворак ліслівцаў, якія запэўніваюць яго, што будучая бітва будзе мець жаданы для яго зыход.

### КАРОЛЬ УЛАДЗІСЛАЎ ТАЕМНА РАЗМАЎЛЯЕ З ГАНЦОМ ВЕНГЕРСКІХ ПАСЛОЎ ФРЫЧАМ, ВІНАВАЦІЦЬ КАРАЛЯ ЖЫГІМОНТА Ў ЗАБЫВАННІ ЯГО ДАБРАДЗЕЙСТВАЎ І ЗАТЫМ АСВЯЧАЕ СВАЁ ВОЙСКА ПРЫЧАШЧЭННЕМ ЦЕЛА ГАСПОДНЯ.

У нядзелю, у дзень святой Маргарыты, трынаццатага ліпеня, Уладзіслаў, кароль польскі, па заканчэнні служэння абедні, на месцы сваёй стаянкі каля Дзялдава, у паселішчы Высокім, выклікаўшы ганца венгерскіх баронаў Фрыча на таемную нараду, даў яму наступны адказ: «Ніколі мы не падумалі б, што ў брата нашага Жыгімонта, караля Венгрыі, магла б успыхнуць такая варожасць супраць нас, каб ён павінен быў дзеля крыжакоў парваць з намі, якія злучаны з ім не толькі крывёй і сваяцтвам[1], але і дамовай, і аддаць перавагу нават перад крэўнымі сувязямі праклятаму жаданню золата, забыўшыся пра Бога, забыўшыся пра справядлівасць! Бо ён абяцаў нам іншае праз паслоў і ў лістах, запэўніваючы, што з усялякім стараннем як асабіста, так і праз паслоў будзе весці перамовы пра мір паміж намі і крыжакамі. Бо мы, спадзеючыся на яго каралеўскае слова, міласціва прынялі яго паслоў, Мікалая і Сцыборыя, якія прыбылі ў наша каралеўства, а таксама прыязджалі ў Прусію ў якасці замоўцаў для перамоў аб міры. Мы забяспечылі іх усім неабходным, аднак не заўважаем, каб на ўсё гэта ён адказаў нам таксама шчыра і ласкава. Мы бачым на досведзе, што брат наш, кароль Венгрыі, падшуквае час і зручны выпадак напасці на нас і наша каралеўства і захапіць нашы валадарствы. З зусім іншымі пачуццямі — прыязнасцю і любоўю — ставіліся мы да яго ў яго двухразовай бядзе: у першы раз, калі ён быў пабіты туркамі і было нават невядома, ці ў палоне ён, забіты ці жывы[2]. У другі раз, калі яго ж венгерскія бароны, захапіўшы яго ў палон, выраклі на смерць, а нас абралі, як належала, кіраваць Венгерскім каралеўствам і частымі пасланнямі і пасольствамі настойвалі, каб я мусіў прыбыць і прыняць як мага хутчэй кіраванне Венгерскім каралеўствам; мы ж, зрушыўшы адразу наша войска, выступілі ў Венгрыю, каб вызваліць яго ўсімі нашымі сіламі[3].Такім чынам, ці адказвае ён на нашы

---

[1] Жыгімонт першым шлюбам быў жанаты з Марыяй, сястрой першай жонкі Уладзіслава-Ягайлы, Ядвігі, другім — з Барбарай, сястрой Ганны, другой яго жонкі. Успамінаючы пра дамову, Уладзіслаў мае на ўвазе дамову, заключаную ў 1397 г. на 16 гадоў.

[2] Уладзіслаў-Ягайла ўспамінае крыжовы паход еўрапейскага рыцарства з Жыгімонтам на чале супраць туркаў у 1396 г. Паход быў выкліканы поспехамі турэцкага заваявання і завяршыўся жорсткай паразай пад Нікапалем.

[3] Няўдалы паход супраць туркаў і іншыя ваенныя прадпрыемствы Жыгімонта, якія паглынулі велічэзныя сродкі і нанеслі моцную шкоду краіне, выклікалі ў 1401 г. абурэнне Жыгімонтам у Венгрыі. Стварылася апазіцыя, Жыгімонт быў арыштаваны, былі вылучаны новыя кандыдатуры на пасад. Сярод кандыдатаў фігураваў і Уладзіслаў-Ягайла. Скарыстаўшыся барацьбой, што ўзнікла вакол пасаду, прыхільнікі Жыгімонта, у тым ліку Мікалай дэ Тара і Сцыборы са Сцыбожыц, пры падтрымцы Уладзіслава-Ягайлы дамагліся вызвалення і аднаўлення яго на пасадзе.

дабрадзействы па-рыцарску, у гэтым ды рассудзіць нас Бог і кожнаму з нас дасць па заслугах. Мы ж не баімся яго пагроз і паднімемся на здзяйсненне нашай справядлівай справы, паколькі мы зразумелі, што не засталося больш надзеі на заключэнне міру, хоць мы нават і сёння ўсімі сіламі і імкненнем нашага сэрца гатовыя былі б пагадзіцца на мір, калі б хто-небудзь пажадаў выступіць пасрэднікам. Але, можа быць, толькі міласэрны Бог, сведка нашай пакоры, міралюбнага сэрца і ганарыстасці ворагаў, сам прыме на сябе вядзенне гэтай справы і вырашыць яе зыход па свайму таемнаму намеру». У гэты ж дзень польскі кароль Уладзіслаў і амаль усё польскае войска прынялі святую прычасць цела і крыві Хрыстовай, маючы на ўвазе, што неўзабаве яны сыдуцца з ворагам тварам да твару ў агульнай бітве, як гэта і здарылася. Разумеючы, што міру, да якога ён шмат разоў усяляк імкнуўся, ён не можа дамагчыся, кароль звярнуў усе намеры на вайну, хоць у сілу пакорнасці сваёй душы аддаваў перавагу б міру на справядлівых умовах перад вайной. Пасля таго, як не заставалася ўжо ніякай надзеі на мір, богабаязны і набожны кароль стаў маліцца пра пасланне яму небам поспеху ў бітве і хуткай перамогі над ворагамі.

### ПАЛЯКІ БЯРУЦЬ ПРЫСТУПАМ ГОРАД ДАМБРОЎНА, УМАЦАВАНЫ ПРЫРОДАЙ, УМОВАМІ МЯСЦОВАСЦІ І ВАЕННЫМ МАЙСТЭРСТВАМ.

Адпусціўшы Фрыча, ганца венгерскіх баронаў, кароль Польшчы Уладзіслаў у дзень святой Маргарыты, зладзіўшы абедню, зняўся лагерам з Дзялдава, загадаўшы выступіць дзвюма гадзінамі раней калёсам і абозам, і павярнуў шлях на горад Дамброўна. Гэты горад (які па-нямецку зваўся Гільгенбург) быў акружаны сцяной і вежамі і абмываўся возерам і ракой з іх выгінамі. Кароль размясціў лагер на раўніне амаль за паўмілі ад Дамброўна, над возерам, якое завецца Дамброўскім возерам[1], бо ў той дзень жар сонца быў мацней звычайнага. Пад вечар, калі спякота спала, шмат рыцараў выходзяць з каралеўскага лагера да горада Дамброўна паглядзець на горад і яго размяшчэнне. І паколькі войскі, якія прыйшлі для абароны горада, асцерагаючыся нападу на іх і на горад, выступаюць насустрач, то адразу ўзнікае цяжкая сутычка. Яна разгарэлася так, што польскія рыцары, атрымаўшы верх над ворагамі і прымусіўшы іх бегчы ў горад, затым, сабраўшыся ў вялікай колькасці, кідаюцца без загаду караля на прыступ горада. Горад быў абаронены не толькі высокімі і моцнымі сценамі з вежамі і выступамі вакол, але і сваім месцазнаходжаннем: вялікую частку яго амывала возера, так што горад быў агароджаны яго водамі, а праход у горад па сушы быў малы, цесны і перасечаны глыбокім ровам. У каралеўскім лагеры паднімаецца моцны крык; пачуўшы яго, кароль Уладзіслаў загадае праз вяшчальніка спыніць прыступ горада з асцярогі, што яго рыцары атрымаюць раненні і не змогуць прынесці карысці ў хуткай бітве. Аднак ваяры не зважаюць на каралеўскую забарону і спяшаюцца ўсёй масай на прыступ, бо сам лёс гэтага жадаў. Са свайго боку гараджане ўстойліва супраціўляюцца, адганяючы падступаючых да сцен стрэламі з бамбард і камянямі. Але польскія рыцары ў вялікім ліку кідаюцца ў возера і імкнуцца разбіць і падкапаць сцены горада; другія, прыставіўшы лесвіцы, узбіраюцца па іх і ў самы кароткі час завалодваюць вялікім населеным горадам, поўным усякага дастатку і багаццяў, здабытых за гады доўгага міру, горадам, куды сцякаліся з некалькіх найблізкіх абласцей знаць і просты люд са сваёй маёмасцю і дабром; і ўсімі гэтымі выгодамі авалодваюць пераможцы. Здабычай са згаданага горада ўзбагацілася амаль усё каралеўскае войска, напоўніўшы яшчэ і свае калёсы харчам у незвычайнай колькасці, бо цяжка нават паверыць, колькі маёмасці і харчу

[1] У Длугаша — «Dambrowskye ieszyoro» *(польск.)*.

было ў гэтым горадзе. Яшчэ не ўся здабыча была вывезена, як горад быў падпалены і многія людзі, якія шукалі сховішча ў царкве, загінулі ў полымі, што ўспыхнула. Шмат тысяч палонных абодвух полаў было там узята, прыведзена ў каралеўскі лагер і перададзена рыцарамі каралю польскаму Уладзіславу. Многія, звыш таго, падвергліся разні, і ніхто не пазбег згубы ці палону, акрамя тых, якія ў чоўнах і лодках збеглі па возеры. Тут не назіралася ніякай павагі да ўзросту, ніякага жалю да яго, бо палякі тут не столькі вынікалі праву вайны, колькі, гаруючы пра Дабжанскую зямлю, выпаленую ворагамі, пралівалі сваю нянавісць да крыжакоў.

Пачуўшы з данясенняў разведчыкаў, што польскі кароль Уладзіслаў узяў прыступам і спаліў Дамброўна, а затым вырашыў весці свае войска на Марыенбург, магістр Прусіі Ульрых у моцным гневе вырашыў, што нельга далей адкладваць бітву, а трэба як мага хутчэй уступіць у паядынак рашуча ўсімі сіламі, і рушыў як мог паспешна, каб напасці на караля. Не меншая лютасць палала і ў сэрцах камандораў і крыжакоў, разгневаных няшчасцем, якое выпала на іх долю; бо яны, якія некалі захапілі Памеранію, Куявію і Дабжанскую зямлю і іх замкі, падпарадкаваўшы іх сваёй уладзе, а таксама спаліўшы больш за палову польскага каралеўства, зараз, калі Марс адвярнуўся ад іх, павінны будуць бачыць спусташэнне Прусіі, разбурэнне гарадоў і аблогу Марыенбургскага замка.

### ПОЛЬСКІЯ ВАРТАЎНІЧЫЯ АТРАДЫ ПАД КІРАЎНІЦТВАМ МАЦЕЯ З ВАНСОША СПУСТАШАЮЦЬ ПАМЕРАНІЮ, АЛЕ ЦЕРПЯЦЬ ПАРАЗУ АД КРЫЖАКОЎ.

У той жа дзень Мацей з Вансоша[1], ваявода калішскі і стараста наклоўскі, з атрадамі, пакінутымі яму для абароны межаў, менавіта з усімі рыцарамі, якія стаялі паміж ракой Велнай і Памеранiяй, па-варожаму ўступіў у Памеранскую зямлю і стаў рабіць у ёй рабаванні і спусташэнні. Фогт жа Новай маркі, Міхаэль Кухмейстар, каб перашкодзіць спусташэнню Памераніі, выйшаўшы насустрач ваяводу Мацею, уступае з ім у бой. І хоць польскія рыцары адважна біліся за перамогу, аднак калі згаданы ваявода Мацей (быў ён са шляхетнага роду, герба Тапор) пусціўся наўцёкі, то ўсё астатняе войска, пакінуўшы бітву, разбеглася. У гэтай бітве быў узяты ў палон Яраслаў Івінскі, харунжы пазнанскі, вядомы іспанскі рыцар[2], з роду Гжымаля, разам з многімі іншымі, якія палічылі ўцёкі ганебнымі. Аднак гэта параза была тады захавана ў тайне, і пра яе было даведзена да ведама караля толькі тады, калі ён пасля перамогі абложваў Марыенбургскі замак. І ён здолеў бы пакінуць у тайне гэтую сумную падзею, калі б яе не выдала паланенне рыцара Яраслава.

### КАРОЛЬ УЛАДЗІСЛАЎ АДПУСКАЕ НА ВОЛЮ ЎЗЯТЫХ У ДАМБРОЎНА Ў ПАЛОН, ПАКІНУЎШЫ Ў СЯБЕ САМЫХ ЗНАТНЫХ. ЦУДОЎНЫЯ ЗНАКІ НА НЕБЕ.

Хоць польскі кароль Уладзіслаў вырашыў у панядзелак пасля дня святой Маргарыты, чатырнаццатага ліпеня, перавесці лагер і войска ў наступнае па шляху месца, аднак ён прабыў гэты дзень на той жа стаянцы толькі дзеля таго, каб сабраць

---

[1] Мацей з Вансоша — тое ж, што Мацей з Лабышына (гл. № 4/2010, 1409 г., ст. 79, заўв. 3).

[2] Вядомы іспанскі рыцар — відавочна, Яраслаў Івінскі, як многія іншыя еўрапейскія рыцары, браў удзел у так званай «рэканкісце», барацьбе, якую вялі ўздужэлыя хрысціянскія дзяржавы Іспаніі з арабамі, яе заваёўнікамі, за незалежнасць. Сама барацьба амаль скончылася ў канцы XIII ст. (да 1429 г. пад уладай арабаў заставаўся толькі Гранадскі эмірат), але неабходнасць замацаваць за сабой адваяваныя ў арабаў тэрыторыі, ахоўваць межы ад варожых набегаў яшчэ доўга вымушала Іспанію звяртацца да дапамогі іншаземных рыцараў.

запасы рэчаў і харчу, схаваныя ў каморах і скляпах горада Дамброўна, і распарадзіцца лёсам палонных, узятых у Дамброўна. Такім чынам, пакінуўшы ў палоне братоў-крыжакоў, а таксама знатнейшых з мясцовых мужоў, ён вызваляе з палону ўсіх гараджан, простых людзей, сялян, таксама ўсіх высакародных жанчын і дзяўчат і ўсіх жанчын любога стану і, звыш таго, забяспечвае іх надзейнай аховай, каб хто-небудзь з яго войска не пакрыўдзіў вызваленых мужчын і жанчын, не насмяяўся з іх ці не напаў на іх. Калі дзень ужо схіляўся да захаду, кароль загадаў на наступны дзень абвясціць паход, а рыцарам разысціся па шатрах і адпачываць, каб, падняўшыся да ўзыходу сонца, быць у стане лепш выканаць загады, якія ён распарадзіцца абвясціць. Наступная ноч у каралеўскім лагеры была ціхай і спакойнай; у войску ж крыжакоў яна была іншай, бо моцны вецер, наляцеўшы, зваліў усе намёты далоў; таму крыжакі правялі ноч амаль без сну. Стала вядома таксама, што ў тую ж ноч на месяцы, які свяціў тады поўным кругам, з'явіўся незвычайны знак, прадвяшчаючы перамогу каралю, што даказалі і пацвердзілі падзеі на наступны дзень. Некаторыя рыцары, якія стаялі ўначы на варце, заўважылі, быццам бы на месяцавым крузе некаторы час ішоў жорсткі бой паміж каралём, з аднаго боку, і манахам — з другога і што, нарэшце, манах, пераможаны ўсё ж каралём, быў скінуты з дыска месяца і зрынуўся ўніз. Гэты знак, які стаў вядомым на наступны дзень дзякуючы шматлікім аповедам, пацвярджаў Барталамей, плябан клабуцкі[1] і духоўнік караля, які запэўніваў, што ўласнымі вачамі назіраў гэты знак. Ці быў ён указаннем, якое прадказвала перамогу, ці своеасаблівай паветранай ці якой-небудзь іншай з'явай, што адбылася ў сілу ўтоеных прычын, — для нас незразумела.

Звыш таго, перадавалі паведамленне некалькіх рыцараў з крыжацкага войска, не легкадумнае і не пошлае, але грунтоўнае і важкае, а менавіта — што на наступны дзень на працягу ўсяго часу, пакуль ішла бітва, імі быў бачны над польскім войскам убраны ў біскупскае адзенне шаноўны муж, які багаслаўляў палякаў, якія змагаліся, і ўвесь час падбадзёрваў і абяцаў ім дакладную перамогу[2]. Гэтыя бачанні былі прызнаны цудоўнымі знакамі, што несумнеўна азначалі хуткую перамогу караля.

### КАРОЛЬ УЛАДЗІСЛАЎ НЕ МОЖА АДАРВАЦЦА АД МАЛІТВЫ, ХОЦЬ ВОРАГ АМАЛЬ НАСЯДАЕ.

У аўторак пятнаццатага ліпеня, у дзень рассейвання апосталаў, Уладзіслаў, кароль польскі, вырашыў выслухаць абедню досвіткам на месцы стаянкі, аднак з-за парывістага ветру немагчыма было з такой хуткасцю, як было загадана, ні ўмацаваць, ні нават разгарнуць шацёр для здзяйснення набажэнства, бо як толькі шацёр разгортвалі, ён валіўся. Напярэдадні ўначы быў лівень з громам і маланкай, аднак над лагерам крыжакоў дождж ліў яшчэ мацней, чым над каралеўскім, так што ветрам раскідала амаль усе намёты (прыкмета заўтрашняй паразы); калі ж праяснілася, вецер узмацніўся яшчэ больш. Такім чынам, непагадзь перашкодзіла ўсталяваць капліцу ля каралеўскага шатра, і кароль па радзе вялікага князя Аляксандра зняў-

[1] Барталамей Клабуцкі — дзядзька Яна Длугаша.

[2] Длугаш мае на ўвазе св. Станіслава, аднаго з нацыянальных святых Польшчы. Пры жыцці біскуп кракаўскі, ён браў удзел у апазіцыі феадалаў, незадаволеных палітыкай караля Баляслава II Адважнага (1058—1075), і быў апошнім пакараны смерцю. Пасля кананізаваны.

* *На два абзацы вышэй Длугаш піша: «Наступная ноч у каралеўскім лагеры была ціхай і спакойнай; у войску ж крыжакоў яна была іншай, бо моцны вецер, наляцеўшы, зваліў усе намёты далоў; таму крыжакі правялі ноч амаль без сну...», а тут: «Напярэдадні ўначы быў лівень з громам і маланкай, аднак над лагерам крыжакоў дождж ліў яшчэ мацней, чым над каралеўскім, так што ветрам раскідала амаль усе намёты (прыкмета заўтрашняй паразы)». Гэтым ён супярэчыць самому сабе. Ды і ці магло надвор'е на адлегласці ў некалькі вёрстаў так моцна адрозніваца?*

ся лагерам з-пад горада Дамброўна. Затым, прайшоўшы дзве мілі (тым часам як вакол гарэлі варожыя паселішчы) і выйшаўшы на палі паселішчаў Таненберга і Грунвальда, якія стануць знакамітымі бітвай, якая затым адбылася, ён загадаў размясціць стаянку войска сярод хмызняку і гаёў[1], якіх было мноства ў той мясцовасці, і распарадзіўся змясціць на высокім узгорку над возерам Любенам шацёр капліцы, каб праслухаць набажэнства, пакуль войска зоймецца наладжваннем стаянкі. Тым часам прускі магістр Ульрых фон Юнгінген ужо дасягнуў паселішча Грунвальда, якое ён уславіць сваёй паразай, і знаходзіўся непадалёк, усё яшчэ, аднак, незаўважаны каралеўскімі дазорцамі. І вось, калі нацягнулі шацёр капліцы і кароль спяшаўся на набажэнства, з'яўляецца Ганек з Хелма, рыцар герба Астоя, з весткай, што бачыў за некалькі крокаў варожае войска; на пытанне ж караля, колькі іх, Ганек адказвае, што бачыў толькі адзін з іх сцягоў і адразу прыскакаў паведаміць пра іх прыбыццё. Яшчэ не скончыў ён свой аповед, як прыбыў Дзярслаў Уластоўскі, рыцар герба Окша, і дадаў, што бачыў два сцягі ворага. Не паспеў і гэты скончыць гаворку, як прыбыў трэці, за якім рушылі ўслед чацвёрты, пяты і шосты, даносячы ў адзін голас, што непрыяцельскія шэрагі, ужо гатовыя да бітвы, стаяць блізка. Аднак кароль Уладзіслаў, не збянтэжаны гэткім блізкім і раптоўным з'яўленнем ворагаў, палічыў годным выканаць справу Божую ўперад вайсковай. Увайшоўшы ў капліцу, ён праслухаў з глыбокай павагай дзве абедні, адслужаныя яго духоўнікамі — Барталамеем, святаром клабуцкім, і Яраславам, калішскім плябанам. Молячыся пра дапамогу з неба, ён праслухаў набажэнства больш урачыста і паважна, чым звычайна. Не здавольваючыся гэтым, ён, схіліўшы калені і схіліўшыся на доўгі час у малітве, прасіў цара нябеснага, каб паход быў шчаслівы для яго і яго народа і каб шчаслівай была бітва і хутчэй наступіла перамога над ворагам. І хоць другі правадыр, вялікі князь Літвы, які мог усё што заўгодна перанесці лягчэй, чым прамаруджанне, трывожыў караля Уладзіслава рознымі просьбамі і патрабаваннямі, спачатку праз ганцоў, затым асабіста сам, падахвочваючы гучным голасам, каб той, не клапоцячыся пра набажэнства і малітвы, устаў і спяшаўся на бой, бо варожае войска, казаў ён, гатовае да бітвы, ужо некаторы час стаіць у баявым страі, і будзе небяспечна, калі яно рынецца і нападзе першым; аднак ні просьбы, ні маленні, ні, нарэшце, папярэджанне пра небяспеку не маглі адарваць караля ад набажэнства і малітвы да іх поўнага завяршэння. Варожае прускае войска, якое хоць і саступала ў сіле, магло б атрымаць перамогу або, ва ўсякім разе, прычыніць каралеўскаму войску велізарныя страты, калі б, знаходзячыся пад зброяй і гатовае да бою, неадкладна напала на бяззбройнае войска караля, якое не мела ні распараджэнняў, ні парадку і да таго ж было занятае прыладай лагера. Аднак крыжакі думалі, што каралеўскае войска стаяла сярод гаёў і хмызняку не выпадкова, а наўмысна, каб завабіць іх у засаду; і толькі з-за боязі караля, накіроўваючыся фатальным лёсам, яны ўстрымаліся ад нападу на каралеўскае войска, пакуль усе яго рыцары не з'явіліся ў строй пад свае сцягі. Таму няма нічога дзіўнага ў тым, што набожнаму і добрапрыстойнаму каралю, які ставіў справу Божую вышэй за ўсе перамогі і небяспекі, Бог дараваў хвалебную перамогу, бо вядома, што крыжакі грэбавалі гэтымі абрадамі і ні ў што іх не ставілі.

Мяркуюць, што каралю перад бітвай, падчас бітвы і пасля бітвы спрыялі вятры, якія звярнулі ў твар ворагам свой подых і пыл; так што справядліва да яго можна прыкласці вядомыя вершы паэта Клаўдзіяна:

> О, умілаваны Богам, з табой у саюзе і паветра,
> Бо на гук трубы з'яўляюцца змагацца вятры[2].

[1] У Длугаша «inter arbusta et gaiios» (гл. № 4/2010, 1409 г., ст. 78, заўв. 4).

[2] Клаўдзіян — лацінскі паэт грэчаскага паходжання. Памёр у 404 г. Цытата ўзята з твора Клаўдзіяна «На трэцяе консульства Ганорыя Аўгуста» (ст. 96—98).

**ПЕРАЛІК АТРАДАЎ, СЦЯГОЎ І ГЕРБАЎ ЗЯМЕЛЬ КАРАЛЕЎСТВА І МУЖОЎ, ЯКІЯ ЎДЗЕЛЬНІЧАЛІ Ў ПРУСКАЙ ВАЙНЕ.**

Тым часам як польскі кароль Уладзіслаў упарта працягваў слухаць набажэнства і ўзносіць малітвы[1], усё каралеўскае войска, пабудаванае па атрадах і сцягах — польскае пад камандаваннем Зіндрама з Машковіц, мечніка кракаўскага, літоўскае ж пад камандаваннем аднаго вялікага князя літоўскага Аляксандра, — падышло з дзіўнай хуткасцю і ўстала баявым строем насупраць ворага; і тады як польскае войска заняло левае крыло, літоўскае трымала правае. Але ў такой крайнасці ўсякая хуткасць здавалася павольнай. Было вядома, што польскае войска мела ў гэтай бітве пяцьдзесят сцягоў, якія мы завём харугвамі, складзеных з вядомых і дасведчаных рыцараў, акрамя літоўскіх харугваў, лікам сорак. Першай харугвай была вялікая харугва Кракаўскай зямлі, на сцягу якой быў белы арол, увянчаны каронай з распасцёртымі крыламі, на чырвоным полі. У ёй занялі шэрагі ўсе найслынныя шляхціцы і рыцары Польшчы і ўсе заслужаныя і дасведчаныя ваяры, пераўзыходзячы ўсе іншыя харугвы моцай і лікам. Правадыром яе быў згаданы Зіндрам з Машковіц, а сцяганосцам — рыцар Марцін з Врацімавіц з роду Палукозы. Наперадзе, у яе першым шэрагу, у сілу іх перавагі і заслуг стаялі дзевяць[2] рыцараў, а менавіта: Завіша Чорны з Гарбава, герба Суліма; Фларыян з Карытніц, герба Яліта; Дамарат з Кабылян, герба Гжымаля; Скарбек з Гур, герба Габданк; Павел Злодзей з Біскупіц, герба Несобе; Ян Варшоўскі, герба Наленч; Станіслаў з Харбінавіц, герба Суліма; Якса з Таргавіска, герба Ліс. Другая харугва — Гонча, на сцягу якой былі два жоўтыя[3] крыжы на блакітным полі. Яе вёў Енджэй з Брахоціц, рыцар герба Асорыя (польск. Osoria), а наперадзе яе стаялі пяць рыцараў, а менавіта: Ян Сумік з Набжоз, герба ...[4], які шаснаццаць гадоў служыў у турэцкага султана на пасадзе пашы, Барташ і Яраслаў з Пламікова, герба Помян; Дабеслаў Аквія, герба Венява, і чэх Зыгмунт Піква. Трэцяя харугва — палацавых чыноў[5], мела на сцягу ваяра ў даспехах, які сядзіць на белым кані з узнятым мячом у руцэ, на чырвоным полі. Яе вялі Енджэй Цолек з Жэлехава, герба Цолек[6], і Ян са Спрова, герба Адравонж. У першым яе шэрагу былі наступныя рыцары: Мшчуй са Скшына, герба Лабендзь; Аляксандр Гарайскі, герба Корчак; Мікалай Павала з Тачова, герба Павалаў; Сасін з Выхуча, таксама герба Павалаў. Чацвёртая — святога Георгія, якая мела на сцягу белы крыж на чырвоным полі. Пад ім былі ўсе наёмныя чэхі і маравы, а правадырамі былі чэхі Сокал і Збіславек, сцяганосцам жа быў чэх Ян Сарноўскі, бо кароль Уладзіслаў жадаў аказаць гонар чэшскаму народу. Пятая харугва — зямлі Пазнанскай. На яе

---

[1] Цяжка сказаць, як было ў рэчаіснасці. Малюючы Уладзіслава-Ягайлу пагружаным напярэдадні бою ў бясконцыя малітвы, Длугаш, як мяркуе С. Кучыньскі, мог трымацца традыцыі сваіх польскіх крыніц. У сваёй дыпламатычнай перапісцы палякі заўсёды імкнуліся маляваць караля дбайным хрысціянінам, імкнучыся аспрэчыць заявы Ордэна, які сцвярджаў, што Уладзіслаў-Ягайла і Вітаўт прынялі хрысціянства толькі прытворна (S. Kuczyński. Wielka wojna, стар. 197). Не выключана і іншае. Длугаш мог наўмысна намаляваць Уладзіслава-Ягайлу ў руплівым маленні перад боем, каб абгрунтаваць выкладзены ніжэй свой тэзіс: Грунвальдская перамога была падаравана польскаму каралю Богам ва ўзнагароду за яго набожнасць.

[2] Відавочна, памылка Длугаша, ніжэй ён пералічвае толькі восем рыцараў.

[3] Польск. gończa азначае «якая праследуе». Лат. caeruleus — «сіні», перакладзена тут і ўсюды далей як «жоўты». Чамусьці менавіта гэты тэрмін Длугаш ужывае для пазначэння жоўтага колеру. На гэта паказвае польскі гісторык. К. Гурскі (J. Długosz. Banderia Pruthenorum. Wydał K. Górski, стар. 292—293, заўв. I).

[4] Назва герба ў Длугаша прапушчана.

[5] У тэксце «cubicularium» — уласна «спальнікаў».

[6] Польск. ciołek азначае «цялё».

сцягу быў белы арол без кароны на чырвоным полі. Шостая — зямлі Сандомежскай, якая мела на адной палове сцяга тры шэрыя паласы ці рысы на чырвоным полі, а на другой — сем зорак на блакітным полі. Сёмая, калішская, мела на сцягу бычыную галаву на шахматнай дошцы, упрыгожаную каралеўскім вянком[1]; з ноздраў быка звешвалася круглае колца. Восьмая харугва, зямлі Серадзскай, мела на адной палове сцяга палову белага арла на чырвоным полі, а на другой — палову агністага ільва на белым полі[2]. Дзевятая харугва, зямлі Люблінскай, мела на сцягу аленя з доўгімі рогамі[3] на белым полі. Дзесятая, зямлі Ленчыцкай, мела сцягам палову чорнага арла і палову белага льва на жоўтым полі[4]. Адзінаццатая, зямлі Куяўскай, мела на адной палове сцяга палову чорнага арла на жоўтым полі, на другой — палову белага льва на чырвоным полі[5]. Дванаццатая, зямлі Леапольскай, мела на сцягу жоўтага льва, які як бы ўзыходзіць на скалу, на блакітным полі. Трынаццатая, зямлі Велюньскай, мела на сцягу касую снежна-белую рысу, якая раўнамерна падзяляе чырвонае поле[6]. З прычыны рэдкіх шэрагаў гэтай харугвы кароль для яе папаўнення далучыў да яе наёмных рыцараў з Сілезіі. Чатырнаццатая харугва, зямлі Пшэмысльскай, мела на сцягу жоўтага арла з дзвюма галовамі, павернутымі раўнамерна ў розныя бакі, на блакітным полі. Пятнаццатая, зямлі Дабжанскай, мела на сцягу малюнак старога да сцёгнаў, з галавой, упрыгожанай каронай, і з рогамі, на жоўтым полі. Шаснаццатая харугва, зямлі Холмскай, мела на сцягу белага мядзведзя, які стаіць паміж двума зялёнымі дрэвамі, на чырвоным полі[7]. Семнаццатая, васемнаццатая і дзевятнаццатая — зямлі Падольскай, якая мела тры сцягі, з прычыны шматлікасці свайго насельніцтва. Кожны з іх меў выяву сонца на чырвоным полі[8]. Дваццатая, зямлі Галіцкай, мела на сцягу чорную галку з каронай на галаве на белым полі. Дваццаць першая і дваццаць другая, князя Мазовіі Земавіта, мелі на сцягу белага арла без кароны на чырвоным полі. Дваццаць трэцяя, князя Мазовіі Януша, мела сцяг, падзелены на квадраты белага і чырвонага колеру, размешчаныя крыж-накрыж; з белым арлом на дзвюх з іх і з крумкачом на астатніх дзвюх. Дваццаць чацвёртая, Мікалая Куроўскага, архібіскупа гнезненскага, мела на сцягу раку, адзначаную наверсе крыжом, на чырвоным полі. Дваццаць пятая — Альберта Ястшэмбца, біскупа пазнанскага. На сцягу яе была падкова з крыжом усярэдзіне, на блакітным полі. Правадыром яе быў рыцар Яранд з Брудзева. Дваццаць шостая, Крысціна з Выспы, каштэляна кракаўскага, мела на сцягу мядзведзя, які нясе панну ў кароне, на чырвоным полі[9]. Дваццаць сёмая, Яна Тарноўскага, ваяводы кракаўскага, мела на сцягу серп месяца, які ахоплівае зорку, на блакітным полі. Дваццаць восьмая, Сендзівоя з Вастрарогі, ваяводы пазнанскага, мела на сцягу галаўную павязку, звітую ў круг і перавязаную вузлом пасярэдзіне, з разыходзячыміся канцамі, на чырвоным полі. Дваццаць дзевятая — Мікалая з Міхалова, ваяводы сандомежскага, мела на сцягу белую ружу на чырвоным полі. Трыццатая, Якуба з Канецпаля, ваяводы серадзскага[10], мела на сцягу белую падкову, пярэднім бокам

[1] Шахматная дошка складалася з белых і чырвоных клетак, вянок быў залаты (папраўкі да гербаў дадзены па B. Paprocki. Herby rycerstwa polskiego).

[3] Алень на сцягу меў рогі і, акрамя таго, карону на шыі.

[4] Насамрэч: палову белага арла на чырвоным полі і палову чырвонага льва на белым полі пад адной каронай.

[5] Правільна: палову чорнага льва на жоўтым полі.

[6] Папроцкі апісвае гэты герб інакш: Божае ягня на белым полі.

[7] Трэба: сярод трох зялёных дрэў на зялёным полі.

[8] Правільна: на белым полі.

[9] Па Папроцкаму: чорнага мядзведзя на жоўтым полі.

[10] Якуб з Канецпаля — ваявода серадзскі ў 1394—1430 гг.

апушчаную ўніз і адзначаную крыжом, на чырвоным полі[1]. Трыццаць першая, Яна, інакш Івана, з Абіхава, каштэляна срэмскага, мела на сцягу галаву зубра з вісячым з ноздраў круглым колцам на жоўтым полі. Трыццаць другая, Яна Лігензы з Бабрэка, ваяводы ленчыцкага[2], мела на сцягу малюнак галавы асла на чырвоным полі. Трыццаць трэцяя — Енджэя з Тэнчына, каштэляна войніцкага; на яе сцягу была двухвострая сякера на чырвоным полі. Трыццаць чацвёртая — Збігнева з Бжэзя, маршалка польскага каралеўства; на сцягу яе была львіная галава[3], якая вырыгвае полымя, на блакітным полі. Трыццаць пятая — Пятра Шафранца з Пясковай скалы, кракаўскага падкаморыя. На яе сцягу быў белы конь, падпяразаны чорнай папругай пасярэдзіне, на чырвоным полі. Трыццаць шостая харугва — Клеменса з Машкажова, каштэляна вісліцкага, на яе сцягу былі намаляваны два з паловай жоўтыя крыжы на жоўтым полі[4]. Трыццаць сёмая, Вінцэнта з Гранова, каштэляна срэмскага[5] і старасты Вялікай Польшчы, мела на сцягу серп месяца з зоркай усярэдзіне, на блакітным полі. Трыццаць восьмая, Дабеслава з Аляснiцы, мела на сцягу белы крыж з патройнай рысай у выглядзе W у чацвёртым куце на чырвоным полі. Трыццаць дзевятая, Спытка з Яраслава, мела на сцягу серп месяца з зоркай пасярэдзіне, на блакітным полі. Саракавая, Марціна са Слаўска, мела на сцягу ў верхняй частцы чорнага льва, у ніжняй частцы — чатыры камяні[6], на карычневым полі. Сорак першая, Дабрагоста з Шаматул, мела на сцягу павязку, звітую ў круг і перавязаную пасярэдзіне вузлом, з разыходзячыміся канцамі, на чырвоным полі. Сорак другая, Крысціна з Козеглаў, каштэляна сандзецкага[7], мела на сцягу стралу з падвойнай папярочкай, упрыгожаную крыжом, на чырвоным полі. Сорак трэцяя, Яна Менжыка з Дамбровы[8], мела на сцягу дзвюх рыб, якія завуцца стронгамі, адна на белым полі, другая — на чырвоным. Сорак чацвёртая, Мікалая, падканцлера каралеўства Польскага, мела на сцягу тры трубы на белым полі[9]. Сорак пятая, Мікалая Кміты з Вісніц, мела на сцягу чырвоную раку, упрыгожаную крыжом. Сорак шостая, братоў і рыцараў Грыфаў, мела на сцягу белага грыфа[10] на чырвоным полі. Яе правадыром быў Жыгімонт з Бабова, кракаўскі падсудак[11]. Сорак сёмая, рыцара Заклікі Кажэквіцкага, мела на сцягу белую рысу ў выглядзе падвойнага W, забяспечаную крыжом, на чырвоным полі. Сорак восьмая — братоў і рыцараў Казлярогі, мела сцягам тры дзіды[12], якія перасякаліся на чырвоным полі. Яе правадыром быў Фларыян з Карытніц[13], каштэлян вісліцкі і староста пшэдзецкі. Сорак дзевятая, Яна Енчыкоўца, барона мараўскага, мела на сцягу доўгую белую стралу, разведзеную на канцы, на чырвоным полі, якая ў палякаў завецца Odrowansz; яе правадыром быў Гельм Мараванін, і ў ёй служылі адны маравяне, якіх даслаў у падмогу польскаму каралю Уладзіславу згаданы Ян Енчыковец, памятаючы пра літасці, аказаныя яго бацьку Енчыку каралём Уладзіславам. Пяцідзе-

---

[1] Насамрэч: на блакітным полі.

[2] Ян Лігенза — ваявода ленчыцкі ў 1384—1419 гг.

[3] Ільвіная галава на сцягу была шэрай.

[4] Насамрэч: на блакітным полі.

[5] Насамрэч: каштэляна наклоўскага (гл. № 4/2010, 1408 г., ст. 74, заўв. 3).

[6] Чорны леў на карычневым полі, што як бы ўзняўся з-за белай сцяны. На сцяне — тры жоўтыя камяні.

[7] Крысцін з Козеглаў — каштэлян сандзецкі ў 1386—1417 гг.

[8] Ян Менжык — у 1405—1423 гг. чашнік каралеўства.

[9] Былі намаляваны тры чорныя трубы, на кожнай па чатыры залатыя палоскі.

[10] Грыф з залатой дзюбай і лапамі.

[11] Насамрэч Жыгімонт з Бабова быў кракаўскім падсудкам у 1431—1436 гг.

[12] Тры жоўтыя дзіды.

[13] Фларыян з Карытніц паказаны Длугашам ужо ў першай харугве.

сятая, Гневаша з Далевіц, кракаўскага падстолія[1], мела сцягам белую стралу, разведзеную пасярэдзіне[2] направа і налева, з касым крыжом над скрыжаваннем, на чырвоным полі. У ёй служылі толькі наёмныя рыцары, не з палякаў, а з чэхаў, мараваў і сілезцаў, прыведзеныя памянутым падстоліем Гневашам. Герб жа і шляхетны род, які мае зброю з гэтымі знакамі, носіць у палякаў скажоную ўсечаную назву Стшэгомя; замест чаго варта лепш прамаўляць «тшы гуры», гэта значыць «тры гары», па назве сілезскага горада «Тшыгоры», інакш «Тшэгам», бо ён тады знаходзіўся ў іх валоданні, з-за чаго і носіць назву па свайму паходжанню. Пяцьдзесят першая, Жыгімонта Карыбута, літоўскага князя[3], мела сцягам каня з вершнікам у даспехах на чырвоным полі. Акрамя таго, былі ў літоўскім войску Аляксандра-Вітаўта, вялікага князя Літвы, харугвы, пад якімі стаялі толькі рыцары літоўскія, рускія, самагіцкія і татары. Гэтыя харугвы, аднак, мелі больш рэдкія шэрагі і менш зброі, чым польскія. Конямі яны таксама не маглі зраўняцца з палякамі. Сцягі ж, вызначаныя такім харугвам, былі амаль усе аднолькавыя, бо амаль кожная мела на сцягу ваяра ў даспехах, які сядзіць на сівым, часам чорным, або гнядым, або пярэстым кані з узнятым мячом у выцягнутай руцэ, на чырвоным полі[*]. Толькі дзесяць з іх мелі іншы сцяг і адрозніваліся ад астатніх трыццаці. На іх на чырвоным полі былі намаляваны знакі, якімі Вітаўт звычайна таўраваў сваіх коней, якіх меў мноства. Паколькі гэтыя знакі нельга апісаць як прадметы, іх можна намаляваць такім чынам: [*][4]. Зваліся ж харугвы па імёнах зямель літоўскіх, а менавіта: Трокская, Віленская, Гарадзенская, Ковенская, Лідская, Медніцкая, Смаленская, Полацкая, Віцебская, Кіеўская, Пінская, Наўгародская, Брэсцкая, Ваўкавыская, Драгічынская, Мельніцкая, Крамянецкая, Старадубская. Некаторыя ж насілі назвы па імёнах літоўскіх князёў, якія па наказу князя Вітаўта камандавалі імі, а менавіта: Жыгімонта Карыбута, Лінгвенавіча Сімеона[5], Георгія[6].

### АПІСАННЕ СЦЯГОЎ І АТРАДАЎ КРЫЖАЦКАГА ВОЙСКА[7].

Прускае войска як рыцарскай сілай, так і лікам сцягоў саступала польскаму. Два сцягі, ці харугвы, меў магістр: адну, першую, вялікую, у якой былі ўсе адборныя рыцары; другую — малую. Абедзве мелі сцягам чорны крыж з чорным жа арлом усярэ-

---

[1] Гневаш з Далевіц быў падстоліем у 1410—1426 гг.

[2] Не ўсярэдзіне, а ў канцы.

[3] Жыгімонт Карыбут — пляменнік Уладзіслава-Ягайлы, сын Карыбута-Дзмітрыя (гл. № 1/2010, 1387 г., ст. 102, заўв. 9).

[*] *Герб «Пагоня».*

[4] Так званыя «Гедымінавы слупы» (тры белыя слупы на чырвоным полі). Знак апісваецца па Папроцкаму, бо ў выданні Длугаша перададзены вельмі прыблізна друкарскім знакам.

[5] Так Длугаш запісаў тут імя брата Уладзіслава-Ягайлы, Сямёна-Лінгвена (гл. № 3/2010, 1392 г., ст. 66, заўв. 3).

[6] Цяжка сказаць, каго варта бачыць пад імем Георгія. Звычайна прынята лічыць, што гэта Юры, сын Сямёна-Лінгвена. У апошні час выказана меркаванне, што Длугаш меў на ўвазе ці Юрыя Уладзіміравіча, князя пінскага, ці Юрыя Міхайлавіча, стрыечнага пляменніка Ягайлы і Вітаўта (S. Kuczyński. Wielka wojna, стар. 349).

[7] Апісанне харугваў Ордэна, захопленых пераможцамі ў Грунвальдскай бітве, што ў часы Длугаша яшчэ стаялі ў кафедральным саборы на Вавелі (Кракаў), упершыню было зроблена Длугашам у 1448 г. у асобнай яго працы «Banderia Pruthenorum» («Прускія сцягі») і забяспечана выкананымі па яго заказу малюнкамі (у фарбах) сцягоў. Апісанні ордэнскіх сцягоў у гэтай першай працы Длугаша і ў яго «Гісторыі» далёка не супадаюць. Усе разыходжанні, а таксама ўсе недакладнасці, дапушчаныя Длугашам у апісанні сцягоў, адзначаны ў нататках, якія суправаджаюць новае выданне «Прускіх сцягоў», апублікаванае К. Гурскім (J. Długosz. Banderia Pruthenorum ). Гэтыя нататкі скарыстаны ніжэй.

дзіне[1]. Трэцяя харугва, таксама ўсяго Ордэна, мела сцягам шырокі чорны крыж на белым полі; правадыром быў Фрыдрых фон Валенрод, маршал Прусіі. Чацвёртая, Конрада Белага Контнера, князя алясніцкага[2], мела сцягам чорнага арла на жоўтым полі. З усіх князёў Сілезіі ён адзін са сваімі ваярамі асабіста ўдзельнічаў у бітве, хоць нельга сумнявацца, што амаль усе князі Сілезіі ўдзельнічалі ў ёй жаданнем і спагадай. Пятая, князя Казіміра Шчэцынскага, мела сцягам грыфа на белым полі. Князь таксама асабіста са сваімі ваярамі дапамагаў магістру і крыжакам. Шостая харугва, святога Георгія, мела сцягам чырвоны крыж на белым полі[3]; яе правадыром быў Георг Керцдорф, і яна перад рыцарскай доблесцю аддавала перавагу ўцёкам. Сёмая, біскупа памезанскага[4], мела на сцягу малюнак святога евангеліста Іаана ў выглядзе жоўтага арла паміж двума жоўтымі кіямі; яе вёў Марквард фон Рэшэмбург. Восьмая харугва, біскупа і біскупства самбійскага[5], мела сцягам тры чырвоныя клабукі на белым полі; яе вёў Генрых, граф Камянецкі з Місніі. Дзявятая харугва, біскупа і біскупства кульмскага, інакш рызенбургская, мела на белым сцягу аголены чырвоны меч, перакрыжаваны з чырвоным кіем; яе правадыром быў Дзітрых фон Завембург[6]. Дзесятая харугва, біскупа і біскупства вармійскага[7], інакш гейльбергская, мела верхнюю палову сцяга чырвоную з белым малюнкам ягня Божага, якое трымае над сабой адной нагой маленькі сцяг; з грудзей ягняці кроў струменіцца ў пастаўленую перад ім чару; а другую палову — проста белую. Адзінаццатая харугва, вялікага камандорства, мела сцяг з шырокай белай паласой на чырвоным полі; яе правадыром быў Конрад Ліхтэнштэйн, вялікі камандор. Дванаццатая харугва, горада Кульма, мела на адной палове сцяга белыя хвалі, на другой палове — чырвоныя з даданнем чорнага крыжа і чорнай жа рысы па версе; сцяганосцам яе быў Мікалай па мянушцы Нікш[8], харунжы кульмскі, якога потым магістр крыжакоў Генрых фон Плаўэн, пераемнік Ульрыха фон Юнгінгена, пакараў смерцю, як таго, хто парушыў вернасць. Правадырамі ж былі рыцары Януш Ажэхоўскі і Конрад Рэплоўскі. Трынаццатая харугва, скарбніка Ордэна, мела сцягам белы ключ на чырвоным полі; правадыром яе быў Марэйн, скарбнік крыжакоў[9]. Чатырнаццатая харугва, камандорства і горада Грудзендза, мела сцягам чорную галаву зубра на белым полі; яе правадыром быў Вільгельм Эльфенштэйн, камандор Грудзендза. Пятнаццатая, камандорства і горада Бальгі, мела сцягам чырвонага ваўка на белым полі[10]. Шаснаццатая, камандорства і горада Шанзее, мела сцягам дзвюх чырвоных рыб, выгнутых так, што яны датыкаліся ратамі і хвастамі на белым полі; яе правадыром быў Ніклаш Вільц, камандор

---

[1] На малюнках у «Прускіх сцягах» — чорны з золатам крыж, у цэнтры — залаты шчыт з чорным арлом.

[2] Длугаш памылкова атаясамлівае тут Конрада Белага, князя алясніцкага, з яго братам Конрадам Контнерам, князем концкім (Сілезія). Гл. № 4/2010, 1409 г., ст. 80, заўв. 3.

[3] На малюнку ў «Прускіх сцягах» наадварот: белы крыж на чырвоным полі.

[4] Біскупам памезанскім у 1409—1418 гг. быў Іаан Рэйман.

[5] Біскупам самбійскім быў Генрых фон Зеефельд у 1395—1414 гг.

[6] Называючы гэту харугву яшчэ рызенбургскай, Длугаш памыляецца, таму што г. Рызенбург знаходзіўся на тэрыторыі не Хелмінскага біскупства, а Памезанскага. Прозвішча правадыра было, мабыць, Зоненбург.

[7] Біскупам вармійскім быў у 1401—1417 гг. Генрых фон Фогельзанг.

[8] Мікалай Нікш — Мікалай Рыньскі, паляк па паходжанні. Быў адным з заснавальнікаў і правадыром «Таварыства яшчарак», якое ўзнікла ў 1397 г. у Хелмінскай зямлі і ставіла сваёй мэтай вызваленне Хелмінскай зямлі з-пад улады Ордэна і ўз'яднанне яе з Польшчай. У 1411 г. пакараны смерцю магістрам Ордэна, пра што ніжэй расказвае сам Длугаш.

[9] Марэйн — Томас фон Мергейм, скарбнік Ордэна ў 1407—1410 гг.

[10] Комтурам Бальгі быў Фрыдрых фон Цолерн у 1410—1412 гг.

Шанзее. Семнаццатая харугва, горада Кінсберга, мела сцягам белага льва з жоўтай каронай на галаве на чырвоным полі; над ім пазначаны быў чорны крыж на белым полі; яе правадыром быў віцэ-маршал ці віцэ-камандор кінсбергскі. Васемнаццатая харугва, камандорства Старгардскага, мела на сцягу чатыры квадратныя палі, часткай чорныя, часткай белыя, размешчаныя крыж-накрыж; яе правадыром быў Вільгельм Ніпен, камандор Старгарда[1]. Дзевятнаццатая харугва, камандорства і горада Тухолі, мела на сцягу два палі, чырвонае і белае, падзеленыя кожнае пасярэдзіне прадольнымі чорнымі рысамі; яе правадыром быў Генрых[2], камандор тухольскі, пыха, асляпленне і дзёрзкасць якога дашлі да таго, што, адправіўшыся ў гэты паход, ён загадваў, куды б ён ні ішоў, несці перад сабой два аголеныя мячы. Калі некаторыя сумленныя і сціплыя людзі раілі яму не паводзіць сябе так напышліва, то ён абавязаўся клятвай, што не ўкладзе гэтых мячоў у ножны, пакуль не пафарбуе іх абодва крывёй палякаў. Дваццатая харугва, замка і камандорства няшаўскага, мела сцягам усярэдзіне белае полі, а абапал — чорныя; яе правадыром быў Конрад Гоцфельд[3], камандор няшаўскі. Дваццаць першая харугва, рыцараў і наймітаў з Вестфаліі, мела на полі дзве перакрыжаваныя чырвоныя стралы. Дваццаць другая, фогства і горада Рагозна, мела на белым полі тры ружы на чырвонай касой паласе; яе правадыром быў Фрыдрых Вед, рагозненскі фогт[4]. Дваццаць трэцяя, камандорства і горада Гданьска, мела на сцягу два крыжы: менавіта — адзін чырвоны на белым полі і другі — белы на чырвоным; яе правадыром быў Іаган Шаменфельд, камандор гданьскі[5]. Дваццаць чацвёртая — камандорства і горада Энгельсберга (які па-польску завецца Капшыўна), мела на чырвоным полі малюнак белага анёла з распасцёртымі крыламі і рукамі; яе вёў Бурхард Вобек, камандор энгельсбергскі. Дваццаць пятая, камандорства і горада Бродніцы, мела сцягам чырвонага рагатага аленя на белым полі; яе правадыром быў Балдуін Штол[6], камандор бродніцкі. Дваццаць шостая, замка Браціяна і горада Нова Мяста, мела сцягам тры карычневыя аленевы рогі, злучаныя ў круг на белым полі; яе правадыром быў Іаган фон Рэдэрэ, фогт браціянскі. Дваццаць сёмая, горада Брунсберга, мела сцягам два крыжы, адзін — белы на чорным полі, другі — чорны на белым. Дваццаць восьмая, наёмных рыцараў, мела сцягам дзве перакрыжаваныя стралы: адну завостраную, другую ж без жалезнага ляза, а толькі з тронкам; тая і другая — чырвоныя на белым полі. Дваццаць дзевятая, наёмных рыцараў, мела сцягам белага ваўка на чырвоным полі. У яе ўваходзілі швейцарскія ваяры, якія прыйшлі на дапамогу магістру прускаму і Ордэну ўласным утрыманнем. Трыццатая, камандорства і горада Ласіна, інакш Лешкена, мела сцяг у тры палі: верхняе — чырвонае, ніжняе — чорнае, а сярэдняе — белае; вёў яе Генрых Кушэчке, фогт ласінскі[7]. Трыццаць першая, камандорства і горада Члухава, мела на сцягу ў верхняй частцы, на чырвоным полі, малюнак белага ягняці Божага, якое трымае над сабой адной нагой белы маленькі сцяг; з грудзей яго струменіцца кроў у чару; а ў ніжняй частцы — толькі белае поле; вёў яе Арнольд

[1] Вільгельм Ніпен — гл. вышэй, ст. 78, заўв. 8.

[2] Генрых фон Швельборн — гл. вышэй, ст. 78, заўв. 7.

[3] Насамрэч Готфрыд фон Гоцфельд — гл. вышэй, ст. 78, заўв. 6.

[4] Сапраўднае імя правадыра харугвы было Фрыдрых фон Вендэн, фогт у Рагозна ў 1407—1410 гг.

[5] У «Прускіх сцягах» гэты сцяг прыпісаны Эльблонгу. Прозвішча начальніка харугвы было Шэнфельд, быў комтурам у Гданьску ў 1407—1410 гг.

[6] Балдуін Штол — гл. вышэй, ст. 79, заўв. 3.

[7] Правільнае імя фогта было Конрад фон Кунсек. Длугаш няправільна прыводзіць назву горада, атаясамліваючы Лешкен (Ляскі) на Жулавах, дзе менавіта была рэзідэнцыя гэтага фогта, і Ласін, горад, які адносіўся да комтурства Рагозіна.

фон Бадэн, камандор члухаўскі. Трыццаць другая, горада Бартэштэйна, мела сцягам белую сякеру на чорным полі. Трыццаць трэцяя, камандорства і горада Астэроды; яе сцяг складалі чатыры квадратныя палі, менавіта — белыя і чырвоныя, размешчаныя крыж-накрыж; яе вёў Пенчэнгаун, астэродскі камандор[1]. Трыццаць чацвёртая, рыцараў Кульмскай зямлі, мела на сцягу чырвоныя і белыя хвалі з чорным крыжом над імі; яе вёў граф Іаган фон Зэйн, камандор торуньскі. Трыццаць пятая, камандорства і горада Эльбінга, мела на сцягу два белыя крыжы, адзін у верхняй частцы, другі — у ніжняй, на чырвоным полі[2]; вёў яе Вернер Тэцінгер, камандор эльбінгскі. Трыццаць шостая, іншаземных рыцараў з ніжняй Нямеччыны, мела сцягам шырокую чорную касую паласу на белым полі. Трыццаць сёмая, камандорства і горада Торуня, мела на сцягу замак з трыма чырвонымі вежамі і чорнымі варотамі з дзвюма адкрытымі жоўтымі створкамі на белым полі; вёў яе віцэ-камандор торуньскі. Трыццаць восьмая, сабраная з рыцараў, якія прыбылі з Рэйна, мела сцягам касую шырокую чорную рысу на белым полі. Трыццаць дзевятая, горада Гнева, інакш, панямецку, Меве, якую вёў Іаган граф фон Вендэ, камандор гнеўскі[3]. Яго падручнымі былі жыхары і гараджане Гнеўскай акругі. Яна была набрана з рыцараў, якія прыбылі з Франконіі; на яе сцягу былі дзве белыя скрыжаваныя стралы на чырвоным полі, адна завостраная, другая без жалезнага ляза, толькі з тронкам. Саракавая, горада Свента Сякірка, па-нямецку Хейльгебейт, мела сцягам на чорным полі белую сякіру. Сорак першая, камандорства і горада Брунсвіка, мела сцягам на блакітным полі чырвонага льва з белымі палосамі ў трох месцах, менавіта — на грудзях, жываце і на адной назе, і з жоўтай каронай на галаве[4]. Сорак другая, камандорства і горада Гданьска, мела ў верхняй частцы сцяга чырвоны крыж на белым полі, у ніжняй — белы крыж на чырвоным полі; правадыром яе быў віцэ-камандор гданьскі[5]. Сорак трэцяя, якая складалася з рыцараў з Місніі, мела ў верхняй частцы сцяга белы крыж на чырвоным полі, а ў ніжняй — чырвоны крыж на белым полі. Сорак чацвёртая, камандорства і горада Шчытна, мела сцяг, падзелены накасяк на белае і чырвонае поле; вёў яе Альберт фон Эчбар, камандор Шчытна, інакш Артэльсбурга. Сорак пятая, камандорства і горада Рагнеты, мела сцягам тры чырвоныя клабукі на белым полі; яе вёў граф Фрыдрых фон Цолерн, камандор Рагнеты[6]. Сорак шостая, горада Кніпава, мела ў верхняй частцы сцяга чырвоную карону на белым полі, а ў ніжняй частцы — белы крыж на чырвоным полі[7]. Сорак сёмая, якая складалася з лівонцаў, мела сцяг у тры палі: верхняе — светла-блакітнае, пасярэдзіне — белае і ніжняе — чырвонае. Сорак восьмая, фогтства і горада Тчэва, мела сцягам чатыры белыя і чорныя палі, што чаргаваліся накшталт частаколу; яе вёў Мацiяс фон Беберах, тчэўскі фогт[8]. Сорак дзевятая, горада Вялікага Альштына, інакш Мельзак, мела сцяг з трох палёў: угары — чорнае, пасярэдзіне — белае і ніжняе —

---

[1] Пенчэнгаун — гл. вышэй, ст. 79, заўв. 4.

[2] У «Прускіх сцягах» гэты сцяг прыпісаны атраду горада Гданьска з бургамістрам на чале. У «Гісторыі» ён не згадваецца.

[3] Імя графа фон Вендэна было Фрыдрых. Як вышэй паказана (гл. ст. 78, заўв. 5). комтурам у Меве ён не быў.

[4] Такога горада і комтурства ў Пruскай зямлі не было. Каму насамрэч належаў гэты сцяг, не ўсталявана.

[5] У «Прускіх сцягах» гэты сцяг прыпісаны Эльблонгу.

[6] Фрыдрых фон Цолерн быў комтурам Рагнеты ў 1402—1407 гг. У 1410 г. комтурам у ёй быў Гельфрых фон Дразе.

[7] У «Прускіх сцягах» гэты сцяг аднесены да горада Кенігсберга, інакш Крулеўца, а сцяг атрада горада Кнейпгофа (Кніпавы) наогул не адзначаны.

[8] Мацiяс фон Беберах, дакладней Мацiяс фон Беберн, быў фогтам у Тчэве ў 1402—1410 гг.

чырвонае[1]. Пяцідзесятая харугва, наёмных рыцараў, мела сцяг з чатырма квадратнымі палямі, двума блакітнымі і двума чырвонымі, размешчанымі крыж-накрыж. Пяцьдзесят першая, камандорства і горада Брандэнбурга, мела сцягам чырвонага арла на полі; яе вёў Марквард фон Зальцбах, камандор брандэнбургскі. Харугва ж камандорства і горада Свеца, сцяг якой складаўся толькі з белых і чырвоных палёў, размешчаных крыж-накрыж, не ўдзельнічала ў гэтай бітве, бо камандор свеценскі Генрых фон Плаўэн з усімі мясцовымі ваярамі і рыцарамі Свеценскага камандорства быў пакінуты на месцы, каб абараняць Памеранскую зямлю ад нападу і спусташэння, якога асцерагаліся з боку Януша Бжазаглавага з замка Быдгашча, так што камандор свеценскі са сваёй харугвай і ваярамі не змог прыняць удзелу ў бітве.

### ПАДКАНЦЛЕР ПАПРОКАМІ ЎТРЫМЛІВАЕ ЧЭХАЎ АД АДПАДЗЕННЯ.

У гэты дзень трыста чэхаў-наёмнікаў без згоды і без ведама караля сышлі былі з каралеўскага лагера, невядома, ці са страху, ці падкупленыя ворагамі. Сустрэўшы іх сыходзячымі, Мікалай, падканцлер Польскага каралеўства, што рухаўся за каралеўскім лагерам, на пытанне, куды яны накіроўваюцца і па якой прычыне сыходзяць, атрымаў адказ, што кароль не робіць ім выплату выслужанага жалавання. «Я ведаю, — сказаў падканцлер, — што кароль Уладзіслаў шчодра заплаціў усё, што вы выслужылі, і нават больш, чым вы выслужылі, так што заахвоціла вас да вашага цяперашняга сыходу не крыўда, на якую вы павінны былі б жаліцца першым чынам каралю і яго саветнікам, але страх і маладушнасць, калі вы даведаліся, што ў караля сёння будзе бітва з ворагамі». Гэты рэзкі папрок так моцна закрануў і абразіў чэхаў, што яны пакінулі думку пра сыход і, вярнуўшыся ў пакінуты імі каралеўскі лагер, неўзабаве паспяшаліся на бітву, каб разам з каралеўскімі рыцарамі ўступіць у сутычку з ворагамі.

### КАРОЛЬ УЛАДЗІСЛАЎ, УЗЫШОЎШЫ НА ЎЗГОРАК, АГЛЯДАЕ ВАРОЖАЕ ВОЙСКА І АДСЫЛАЕ Ў АБОЗНЫ ЛАГЕР НЯЗДОЛЬНЫХ ДА БІТВЫ.

Скончыўшы цалкам свае малітвы, Уладзіслаў, кароль польскі, які стаміўся ад просьбаў і крыкаў ужо не толькі вялікага князя Літвы Аляксандра, але і сваіх рыцараў, што заклікалі яго ўзброіцца на бітву, устае з каленяў, апранае ўзбраенне, апрануўшыся з галавы да ног у бліскучыя даспехі. Тут яго абступаюць рыцары і новымі, яшчэ больш гучнымі крыкамі патрабуюць хутчэй падаць знак да бітвы, бо нішто не здавалася ім досыць хуткім. Хоць як польскае, так і літоўскае войскі, пабудаваныя ў баявым парадку, выйшлі на бой і варожыя сілы стаялі насупраць, на адлегласці не больш за палёт стралы, пры зброі і гатовыя да бою, і хоць паміж імі завязваліся ўжо папярэднія сутычкі ў асобных паядынках, аднак палякі лічылі, што не рыцарская справа ўступіць у бой з ворагам, пакуль кароль не падаў знаку.

Польскія рыцары непахісна вырашылі перамагчы ці памерці. Прускае ж войска не валодала такой цвёрдасцю духу, бо складалася з мешаніны ваяроў розных моў і народнасцей і, акрамя таго, з натоўпу рамеснікаў, слуг і абознай прыслугі, бескарысных на вайне.

Такім чынам, кароль, апрануўшы даспехі, сеў на каня і без усякіх каралеўскіх

[1] Длугаш памылкова аб'ядноўвае два розныя гарады: Альштын (у крыжакоў Аленштэйн), названы ім Вялікім, у адрозненне ад меншага, Альштынка, і Мелізназак (польск. Пененжна). Апісаны тут Длугашам сцяг ніводнаму з гэтых гарадоў не належыць.

знакаў (за выключэннем таго, што перад ім неслі сцяг малога памеру з вышытым на ім белым арлом) узышоў на высокі ўзгорак, каб агледзець варожае войска. Узышоўшы на вяршыню, якая знаходзілася паміж двума гаямі, дзе была шырокая паляна, адкуль лёгка можна было цалкам агледзець ворагаў, кароль, ацэньваючы хутчэй на вока, чым разумным разлікам, свае і варожыя сілы, прыходзіць то да радасных, то да сумных для сябе прадбачанняў. Нагледзеўшыся ўдосталь на колькасць варожага войска, ён спусціўся з узгорка і падперазаў мноства палякаў рыцарскім поясам[1], распальваючы ў іх кароткай, але важкай гаворкай баявы запал і навучаючы кожнага абавязку гонару. Затым кароль, як быў, на кані, ізноў здзейсніў спавяданне грахоў Мікалаю, падканцлеру Польскага каралеўства[2]. Затым, змяніўшы каня, ён сеў на моцнага і вынослівага, абранага з тысяч, каня, рудаватай, інакш czisawy[3], масці, з маленькай і вузкай лысінкай на лбе, і запатрабаваў шлем. Узяўшы яго і трымаючы ў руках, ён загадаў Мікалаю, падканцлеру каралеўства Польскага, з усімі святарамі і натарыямі і іншым натоўпам невайсковых людзей, бескарысных у бітве, ісці ў абоз і чакаць яго прыбыцця, якое адбудзецца пасля таго, як войска будзе пастроена. Бо па таемным і разумным меркаванні было вырашана, каб кароль не падвяргаў сябе небяспецы бітвы, трымаючыся ў абозе і лагеры. І вось, выконваючы рашэнне сваіх саветнікаў, Уладзіслаў, кароль польскі, загадаў падканцлеру Мікалаю адправіцца ў лагер, падаючы надзею, што і сам туды прыбудзе, каб не быць вымушаным самому, калі б ён не падаў надзеі, што і сам рушыць услед за ім, па патрабаванню саветнікаў выдаліцца да абозу.

***Каментарыі Л. В. Разумоўскай, Б. В. Казанскага, А. П. Вашчанкі.***
***Пераклад Аляксандра ВАШЧАНКІ.***

***Працяг будзе.***

---

[1] Выпрацаваны на працягу шэрага стагоддзяў рытуал, якім суправаджалася прысвячэнне ў рыцары, быў вельмі складаным. Кандыдату ў рыцары ўручалі зброю, затым яго апяразвалі мячом, падвязвалі яму шпоры, наносілі лёгкі ўдар і г. д. У паходным становішчы кароль абмежаваў абрад прысвячэння толькі яго асноўным элементам — апаясваннем, прычым толькі поясам, без мяча.

[2] Падканцлер Мікалай Тромба быў духоўнай асобай, кракаўскім канонікам (гл. № 3/2010, 1404 г., ст. 74, заўв. 9).

[3] Польск. czisawy (cisawy) азначае «рудаваты», «гняды».




# ЧЭРВЕНЬ

**3**
*75 гадоў з дня нараджэння (1935) Зуёнка Васіля Васільевіча, беларускага паэта, перакладчыка, літаратуразнаўца, крытыка.*

**3**
*70 гадоў з дня нараджэння (1940) Каляды Андрэя Андрэевіча, беларускага літаратуразнаўца, тэатразнаўца, педагога, заснавальніка і кіраўніка Мінскага народнага літаратурнага тэатра «Жывое слова».*

**5**
*100 гадоў з дня нараджэння Піваварава Зямы Раманавіча (1910—1937), беларускага паэта, перакладчыка.*

**6**
*60 гадоў з дня нараджэння (1950) Дударава Аляксея Ануфрыевіча, беларускага драматурга, празаіка, заслужанага дзеяча мастацтваў Рэспублікі Беларусь.*

**8**
*115 гадоў з дня нараджэння Дварчаніна Ігната Сымонавіча (1895—1937), беларускага літаратуразнаўца, паэта, публіцыста, грамадскага дзеяча.*

**9**
*50 гадоў з часу стварэння (1960) Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва, навукова-даследчай установы, якая займаецца зборам, захаваннем, вывучэннем і навуковым выкарыстаннем дакументальных помнікаў літаратуры і мастацтва.*

**10**
*70 гадоў з дня нараджэння Хадановіча Ігара Піліпавіча (1940—1966), беларускага празаіка, паэта.*

**13**
*105 гадоў з дня нараджэння Шапіры Лазара Львовіча (1905—1991), беларускага празаіка.*

**14**
*75 гадоў з дня нараджэння Леткі Івана Антонавіча (1935—1999), беларускага паэта.*

**15**
*70 гадоў з дня нараджэння Варановіча Адольфа Усцінавіча (1940—2001), беларускага празаіка.*

**17**
*95 гадоў з дня нараджэння Кавалёва Дзмітрыя Міхайлавіча (1915—1977), беларускага і рускага паэта і перакладчыка.*

**24**
*110 гадоў з дня нараджэння Чорнага Кузьмы (сапр. Раманоўскі Мікалай Карлавіч; 1900—1944), беларускага празаіка, драматурга, публіцыста.*

**25**
*110 гадоў з дня нараджэння Целеша Міколы Яфімавіча (1900 — пасля 1976), беларускага празаіка, публіцыста, перакладчыка.*

**25**
*105 гадоў з дня нараджэння Броўкі Петруся (Пятра Усцінавіча; 1905—1980), беларускага паэта, празаіка, перакладчыка, грамадскага дзеяча, народнага паэта БССР, заслужанага дзеяча навукі БССР.*

**27**
*100 гадоў з дня нараджэння Кучара Алеся (Айзіка Евелевіча; 1910—1996), беларускага крытыка і драматурга.*

**27**
*85 гадоў з дня нараджэння (1925) Арабей Лідзіі Львоўны, беларускага празаіка, літаратуразнаўца.*

* * *

*120 гадоў таму нарадзіўся Краўцоў Макар (сапр. Косцевіч Макар Мацвеевіч; 1890—1939(?)), беларускі паэт, перакладчык, крытык, публіцыст.*

Вера ЛЯШУК

# ТАКІМ ЗАХАВАЎСЯ Ў МАЁЙ ПАМЯЦІ



**Уладзімір Андрэевіч КАЛЕСНІК** прыехаў у Брэст у 1954 годзе, пасля закрыцця Бабруйскага настаўніцкага інстытута. Тады ж я паступіла на першы курс аддзялення рускай мовы і літаратуры Брэсцкага педінстытута. Пазнаёмілася з Уладзімірам Андрэевічам фактычна завочна. Беларускую літаратуру ў нас чытала тагачасная загадчыца гэтай кафедры. Свой прадмет не ведала, адрознівалася артадаксальным поглядам на развіццё нацыянальнага мастацкага слова. Аналагічны курс на аддзяленні беларускай мовы і літаратуры чытаў Уладзімір Андрэевіч. Аднакурснікі хвалілі яго заняткі, і мне захацелася падрыхтавацца да экзамену па лекцыях гэтага выкладчыка, канспект якіх я ўзяла ў адной са сваіх сяброўак. Гэты канспект фактычна і адкрыў мне беларускую дакастрычніцкую літаратуру (так тады іменаваўся гэты курс айчыннага мастацкага слова)...

Студэнцкае радыё даносіла, што Калеснік быў вельмі патрабавальны і справядлівы ў ацэнцы ведаў, але запальчывы, рэзкі і нават бесцырымонны з навучэнцамі. У студэнтаў рускага аддзялення нярэдкімі былі канфлікты з загадчыцай кафедры беларускай літаратуры. Яна не хавала сваіх антысеміцкіх поглядаў. Да дзяўчат-яўрэек ставілася тэндэнцыйна і выразна заніжала ім адзнакі на экзаменах. Тады справядлівасці шукалі ў Калесніка. Ён на той час працаваў старшым выкладчыкам кафедры беларускай літаратуры. Уладзімір Андрэевіч прымаў пераэкзаменоўку толькі пры ўмове, калі меўся адпаведны дакумент з дэканата, а часам яшчэ і з парткома. У такіх сітуацыях быў асабліва патрабавальным. Я не помню выпадку, каб нехта атрымаў «выдатна». Вышэйшы бал, якім ён ацэньваў веды студэнтаў, якія былі пакрыўджаны яго загадчыцай і прэтэндавалі на «выдатна», быў «добра».

На той час на факультэце мовы і літаратуры ў Брэсцкім педінстытуце сабралася шмат маладых выкладчыкаў-філолагаў. Яны прыходзілі на танцы, прыглядаліся да дзяўчат-студэнтак. Увага, бясспрэчна, была ўзаемная. Уладзімір Андрэевіч прыхільнасцю маіх аднакурсніц не карыстаўся, і гэта не дзіўна. Быў ён худы, бледны, з тонкай выцягнутай шыяй. На яго твары хіба што вылучаўся і запамінаўся высокі лоб. Вопратку насіў сціплую і строгую. Быў заўсёды ў касцюме шэрага колеру. Мы ніколі не бачылі яго, як іншых выкладчыкаў, з урадавымі ўзнагародамі, нават не ведалі, што гэты выкладчык быў адным з арганізатараў партызанскага руху на Навагрудчыне. Не ведалі мы таксама і таго, што ён цяжка хварэў.

Я на той час была камсамольскай актывісткай. Неяк Уладзімір Андрэевіч затрымаў мяне на калідоры і прапанаваў дапамагчы ў арганізацыі культурна-масавай працы. Гэта мне падалося дзіўным, бо наша пакаленне студэнтаў вызначалася грамадскай актыўнасцю, самастойнасцю і незалежнасцю. Мне тады нават не хапіла выхаванасці падзякаваць выкладчыку за жаданне дапамагчы. Здзівіла хіба што фраза: «Мы, выкладчыцкая моладзь, гатовы дапамагчы і падтрымаць…» Выходзіла, што Уладзімір Андрэевіч гаварыў не толькі ад сябе. Тады я крыху іранічна ўспрыняла далучэнне выкладчыкам самога сябе да моладзі, а быў ён сапраўды маладым, меў усяго крыху больш за трыццаць гадоў.

Гэтая цікавасць да пазааўдыторнай працы са студэнтамі была вызначальнай у Калесніка ў гады майго студэнцтва і пазней, калі ён ужо ўзначальваў кафедру беларускай літаратуры. Мы заўсёды бачылі яго ў першым радзе актавай залы інстытута, дзе ладзіліся вечарыны, ставіліся спектаклі. Уладзімір Андрэевіч ніколі не быў пасіўным гледачом. Пасля вечарыны абавязкова падыходзіў да ўдзельнікаў імпрэзы, дзяліўся сваімі ўражаннямі, ацэньваў літаратурны матэрыял, пакладзены ў яе аснову. Тады ўсё ж такі ў арганізацыі пазааўдыторнай працы вялі рэй студэнты рускага аддзялення. Яны напачатку родную літаратуру ведалі слаба, ды і рэабілітацыя беларускіх мастакоў слова, выдатных твораў была яшчэ наперадзе, таму нацыянальны матэрыял займаў у нашай самадзейнасці сціплае месца. Гэта Уладзіміру Андрэевічу не падабалася, абурала абсалютнае няведанне беларускай гісторыі, асабліва гісторыі змагання ў былой Заходняй Беларусі. Прыгадваецца, як ён скептычна паставіўся да верша Мусы Джаліля «Снежная баба», прачытанага мною на вечарыне «О любви немало песен сложено», падкрэсліўшы, што твор не вызначаецца арыгінальнасцю лірычнага сюжэта, і тут жа назваў шэраг беларускіх вершаў па-мастацку дасканалых, якія б маглі ўпрыгожыць праграму імпрэзы.

Свае ўражанні Уладзімір Андрэевіч заўсёды (тады і пазней) выказваў эмацыянальна і нават экспрэсіўна. Дыскусіраваць з ім было цяжка ў тым ліку і па гэтай прычыне. Былі і іншыя: велізарная розніца ў кампетэнтнасці, прафесіяналізме. Я заўсёды адчувала мяжу, якая вызначалася тым, што Уладзімір Андрэевіч быў настаўнікам. Маё пакаленне яшчэ ўсведамляла павагу і аўтарытэт педагога ў нашых у сваёй большасці вясковых бацькоў, і мы не дазвалялі сабе парушаць гэтую традыцыю.

Пасля вечарыны, прысвечанай гадавіне камсамола Беларусі, ведаючы, што яе сцэнарый складала ў асноўным я, спытаў, чаму абыдзены подзвіг камсамольцаў Заходняй Беларусі, чаму нават не была згадана Вера Харужая. Я паставіла свайму настаўніку сустрэчнае пытанне: а хто яна такая, гэтая Харужая, што гераічнага ў яе жыцці? Уладзімір Андрэевіч гнеўна кінуў мне яшчэ адно пытанне: «Як? Ты нічога не ведаеш пра Харужую?» — і рашуча пашыбаваў у выкладчыцкую. Затое не толькі для нас, але і для яго сапраўдным святам быў спектакль па п’есе Янкі Купалы «Паўлінка», пастаўлены студэнтамі не толькі па ўласнай ініцыятыве, але і самастойна. Рэжысёр, акцёры, мастакі-афарміцелі, музыкі былі студэнты. Спектакль удаўся. Калеснік прыйшоў за кулісы, віншаваў з поспехам, нікому не рабіў заўваг і нават сфатаграфаваўся з намі на ўспамін. Адзначу, што на спектаклі прысутнічалі і іншыя выкладчыкі, але толькі Уладзімір Андрэевіч прыйшоў да нас, каб раздзяліць нашу радасць.

У 1956 годзе былі аб’яднаны два аддзяленні ў адзін факультэт мовы і літаратуры шырокага профілю. Былым студэнтам рускага аддзялення тэрмінова чыталіся курсы па беларусазнаўству. Тады і прыйшоў да нас Уладзімір Андрэевіч ужо як выкладчык. Чытаў нам беларускі фальклор, вёў практыкум выразнага чытання, кіраваў практыкай. Мы ўжо слухалі курс рускай народнай творчасці, паспяхова здалі экзамены па гэтай дысцыпліне і наіўна думалі, што ўсё ведаем. Лекцыі Калесніка напачатку не слухалі, не вялі канспектаў, пра што вельмі хутка моцна пашкадавалі. Я і цяпер добра помню свой канфуз на першых практычных занятках па тэме «Класікі марксізму-ленінізму пра вусную народную творчасць», калі на прапанову выкладчыка раскрыць адно з пытанняў спрабавала абмежавацца агульнымі фразамі, а чула няўмольнае настаўніцкае патрабаванне: «Канкрэтней! Як сказана ў першакрыніцы?» Я, выдатніца, ленінскі стыпендыят, была зусім бездапаможнай. Першыя практычныя занятКі

па фальклору ў Калесніка былі добрым урокам, думаю, не толькі для мяне.

Пазней я зразумела, што Уладзімір Андрэевіч ніколі не дазваляў ні сабе, ні студэнтам, якіх вучыў, ведаць матэрыял прыблізна, выказвацца без важкіх аргументаў, а дамагаўся, каб разважалі аргументавана, з веданнем навуковых крыніц па праблеме, каб згаджаліся ці аспрэчвалі іх аўтараў, каб выяўлялі сваю пазіцыю. Яго лекцыі былі ўзорам выкладу матэрыялу. У. А. Калеснік ніколі не рабіў так званых лірычных адступленняў, не звязаных з тэмай заняткаў. У той самы час ён надзвычай часта тэарэтычныя высновы па фальклоры ілюстраваў прыкладамі песень, казак, прыказак, галашэнняў, легендаў, запісаных студэнтамі, ці маімі аднакурснікамі з былога беларускага аддзялення, ці старэйшымі на год-два, якіх мы ведалі. Ён настойліва заахвочваў нас збіраць і запісваць фальклор у сваіх вёсках і ў наваколлі. Фактычна Уладзімір Андрэевіч быў піянерам разгортвання краязнаўчай працы на Берасцейшчыне ў пасляваенны перыяд, рыхтуючы нас, заўтрашніх настаўнікаў беларускай і рускай славеснасці, да разгортвання краязнаўчай працы ў школе.

Паказальным і нечаканым для нас, студэнтаў 1954—1959 гг., было тое, што наш выкладчык заўсёды называў прозвішча, імя таго, хто, калі, дзе запісаў фальклорны твор. З аднаго боку, гэта выхоўвала ў студэнтаў культуру запісу вуснай народнай творчасці, а з другога — уздымала У. А. Калесніка ў нашых вачах (тады для нас асабліва гэта было важным, пра што неаднойчы абгаворвалася ў студэнцкім асяроддзі), бо выходзіла, што ён не прысвойваў тое, што сабрана студэнтамі. Гэта, мусіць, было выклікана тым, што асобныя выкладчыкі-моваведы даручалі нам знаходзіць у мастацкіх творах сказы з прыкладамі на тое ці іншае правіла арфаграфіі ці пунктуацыі, пазней выкарыстоўвалі гэтыя прыклады ў сваіх артыкулах, на занятках, але ніколі не называліся тыя, хто дапамагаў гэтым выкладчыкам у зборы ілюстрацыйнага матэрыялу. На практычных занятках па фальклоры, на экзамене ў запале спробы палемізаваць са сваім настаўнікам мы выкарыстоўвалі свае творы ў якасці доказу, і нярэдка Уладзімір Андрэевіч прасіў паўтарыць песню, прыказку, загадку, фрагмент казкі, каб запісаць іх. Гэта разбурала тую сцяну, якая існавала паміж выкладчыкам і студэнтамі. Было прыемна ўсведамляць, што мы таксама нечым узбагачаем свайго такога дасведчанага, кампетэнтнага настаўніка.

Адразу адзначу, што Уладзімір Андрэевіч строга прыпыняў спробы асобных студэнтаў займець з ім фамільярныя стасункі, нікому не дазваляў пераступіць мяжу, якая, на яго думку, павінна быць паміж тымі, хто вучыць і хто вучыцца. Беларускі фальклор даўся нашаму курсу, які традыцыйна здаваў экзамены на «добра» і «выдатна», цяжка. Толькі веды двух з больш за семдзесят студэнтаў былі ацэнены У. А. Калеснікам вышэйшым балам. Калі ён прыйшоў да нас весці курс выразнага чытання, то легкаважна ўспрыняць выкладчыка ўжо ніхто не рызыкнуў. Заняткі па гэтай дысцыпліне помняць, мусіць, усе вучні Уладзіміра Андрэевіча. Колькі і якіх на гэтых занятках кіпела, віравала пачуццяў! Выкліканы, аднак, яны былі зусім не ўспрыманнем аўдыторыяй мастацкіх твораў, а адносінамі выкладчыка да вершаў, урыўкаў прозы, якія мы выбіралі для чытання, ад якасці распрацаванай намі партытуры і яе ўвасаблення. Справа ў тым, што вершы грамадзянскай, інтымнай, пейзажнай, філасофскай лірыкі, творы іншых жанраў трэба было выбраць кожнаму студэнту самастойна. Пералікаў тут у нас хапала. Важкія прычыны, бясспрэчна, былі, хоць іх наш настаўнік не хацеў улічваць. Зборнікаў беларускіх аўтараў было мала. У тых, што мы знаходзілі ў бібліятэках, былі змешчаны вершы — палітычныя дэкларацыі, якія не з'яўляліся не толькі набыткам нацыянальнай літаратуры, але і набыткам асобных пісьменнікаў, нават айчынных класікаў. Трэба адзначыць, што наша філалагічная культура таксама павінна была быць лепшай. Але, на жаль, такой не была. Нярэдка выбіраліся для чытання творы нізкай мастацкай якасці, хапала недакладнасцей у вызначэнні тэмы і ідэі лірычнага верша. А што ўжо казаць пра перадачу пафасу твора, пра выяўленне свайго чытацкага «я». Уладзімір Андрэевіч для нас не шкадаваў ацэначных эпітэтаў. «Невукі з усяго Палесся!» — ці не самы лагодны з іх. Зразумела, што ў такой сітуацыі не абыходзілася без канфліктаў, тым больш што для многіх студэнтаў нашага курса чытанне выкладчыка тады не здавалася ўзорным. Канфлікты былі бурнымі. З тымі, хто настойліва імкнуўся адстаяць

сваю няслушную пазіцыю, расправа была рашучай: «За дзверы!» Па-іншаму паводзіў сябе наш настаўнік, калі нехта з дзяўчат пачынаў плакаць. Ён губляўся, ніякавеў, шукаў прымірэння. Пазней гэтую адметнасць Уладзіміра Андрэевіча некаторыя мае аднакурсніцы ўзялі на сваё ўзбраенне, каб атрымаць жаданы плюс у сшытку выкладчыка, у якім ён фіксаваў нашы поспехі і пралікі.

Кіруючы практыкай студэнтаў, Уладзімір Андрэевіч даваў ім шырокую прастору для самастойнасці: прыводзіў групу ў школу, знаёміў іх з кіраўніцтвам, з настаўнікамі беларускай мовы і літаратуры. А перад тым ён абавязкова наведваўся ў бібліятэку, цікавіўся кніжным фондам увогуле і па нацыянальным прыгожым пісьменстве, наяўнымі перыядычнымі выданнямі ў прыватнасці, даваў свае рэкамендацыі студэнтам, як лепш выкарыстаць кніжныя набыткі, і далікатна гаварыў кіраўніцтву школы, чым пажадана папоўніць кніжны фонд, што б спрыяла больш паспяховаму праходжанню практыкі студэнтаў. З дырэкцыяй, з настаўнікамі быў надзвычай карэктным і стрыманым. Я не помню выпадку, каб Уладзімір Андрэевіч дапамагаў камусьці з нас распрацаваць канспект урока, хоць наяўнасць неабходнай дакументацыі ў кожнага студэнта заўсёды правяраў. Прысутнічаючы на залікавых уроках, пры іх разборы быў зычлівы да студэнтаў, думкі настаўнікаў слухаў уважліва, але не заўсёды іх улічваў пры выстаўленні адзнакі як за асобны ўрок, так і за практыку ў цэлым. Абавязковым было яго патрабаванне правесці масавае пазакласнае мерапрыемства па беларускай літаратуры, каб яно стала своеасаблівай падзеяй у школе. Дырэкцыя спачатку ўспрымала гэтае мерапрыемства як абавязковы кампанент практыкі. Калі ж прыходзіў са студэнтамі іншы кіраўнік, то і ад гэтых студэнтаў чакалі аналагічнай працы. Нярэдка такога мерапрыемства не было. Згадвалі У. А. Калесніка і прасілі, каб менавіта ён прыходзіў са студэнтамі да іх у школу.

Уладзімір Андрэевіч умеў цаніць талент, у чым бы ён ні праяўляўся: талент спевака, танцора, музыканта, грамадскага дзеяча, чытальніка, акцёра, арганізатара творчасці школьнай моладзі, але асаблівай яго прыхільнасцю, клопатам, апекай карысталіся тыя, хто спрабаваў свае сілы ў паэзіі. Тых сваіх выхаванцаў, хто быў адораны талентам, помніў і падтрымліваў па мажлівасці і пасля заканчэння імі інстытута. Калі я працавала настаўніцай у школе, запрашаў і мяне на факультэт для ўдзелу ў літаратурных вечарынах. Пасля школьнай рэформы канца 1950-х гг. у вобласці актывізавалася ўвага да літаратурнай творчасці вучняў, праводзіліся конкурсы на лепшы мастацкі твор. У. А. Калеснік нязменна ўзначальваў абласное журы. Сярод іншых лепшых аўтараў адзначаліся і мае вучні. Некаторыя іх вершы рэкамендаваліся ў друк. Хвалюючым было і засталося для мяне, што згадвалася і маё імя як іх кіраўніка і натхняльніка.

У кастрычніку 1963 года я вярнулася ў сваю альма-матэр ужо ў якасці выкладчыка на кафедру беларускай літаратуры, якую на той час узначальваў У. А. Калеснік. З таго часу і да самай яго смерці працавала побач. Адразу адзначу, што паміж мною і Уладзімірам Андрэевічам заўсёды існавала дыстанцыя, якая павінна быць ва ўзаемаадносінах настаўніка і вучня, кіраўніка і падначаленага. Я не была тым чалавекам, каму Уладзімір Андрэевіч раскрываў свой свет, дзяліўся патаемнымі думкамі. Мае ўспаміны народжаны назіраннямі за ім як кіраўніком, як выкладчыкам, як навукоўцам, як арганізатарам пазааўдыторнай працы са студэнтамі з пазіцыі ўжо не навучэнкі, а калегі.

Кафедра, на якую я была выбрана па конкурсе, да таго складалася з трох чалавек. Я была чацвёртай. У калектыў уваходзіла цяжка. Нялёгка давалася распрацоўка курсаў, якія былі даручаны мне кафедрай. Нагрузка была вялікай (да паўтары тысячы гадзін) і стракатай. Галоўнае заключалася ў тым, што мне было дыскамфортна ў гэтым невялікім калектыве. Уладзіміра Андрэевіча па першым часе я проста баялася. Пройдуць гады, сплывуць дзесяцігоддзі, мы на нейкі час памяняемся ролямі, бо мне давядзецца працаваць і дэканам факультэта, і загадчыцай кафедры беларускага літаратуразнаўства, а той дыскамфорт, які я адчувала на пачатку сваёй працы побач з Уладзімірам Андрэевічам, не знік. Ён быў выкліканы многімі прычынамі. На мяне, ды і на іншых сяброў кафедры, загадчык глядзеў як на былых студэнтаў, дазваляў сабе быць нястрыманым, непрадказальным, не скупіўся на зняважлівыя ацэнкі нашых прац. Справа тут, напэўна, у тым, што равеснікі Уладзіміра Андрэевіча па той ці іншай

прычыне пакінулі кафедру. Яна папаўнялася нядаўнімі выпускнікамі філалагічных ВНУ рэспублікі, якія мелі за плячыма ў сваёй большасці невялікі вопыт працы ў школе.

Уладзімір Андрэевіч не бачыў у сябрах кафедры роўных сабе па навуковай кампетэнтнасці і таленце, не ўспрымаў як партнёраў. Яго ж самога прырода надзяліла надзвычай шчодра. У. А. Калеснік быў вядомы шырокай аўдыторыі як даследчык літаратуры і як пісьменнік — аўтар ці сааўтар дакументальных кніг. А між тым ён быў выдатным фатографам. Большасць фотаздымкаў у кнізе «Я з вогненнай вёскі» належыць менавіта яму. Сумесна з Янкам Брылём быў створаны альбом «Між тых палёў», прысвечаны мясцінам Адама Міцкевіча на Навагрудчыне. Украінскае выданне нарыса У. Караткевіча «Зямля пад белымі крыламі» таксама праілюстравана Уладзімірам Андрэевічам. У аўдыторыі яго імя ў Брэсцкім універсітэце экспануюцца жывапісныя палотны, разьбярскія працы, створаныя ім. Увогуле, Уладзімір Андрэевіч меў залатыя рукі. Усё, што рабіў, вызначалася эстэтычным густам, прычым вучоны і пісьменнік не цураўся ніякай працы. На летніку пабудаваў казачны домік, пасадзіў садок, вёў агарод, ведаў біяграфію кожнага каліва і ахвотна з захапленнем расказваў пра ўсё, што там расло. Для вучонага, як мне думаецца, гэта мела зусім не эканамічнае, нават не экалагічнае значэнне, а эстэтычнае, было вяртаннем у вясковую маладосць з яе паўсядзённымі клопатамі. Быў мой настаўнік заўзятым грыбніком і рыбаком. Не чужымі былі яму і паляўнічыя захапленні.

Усюды і ва ўсім Уладзімір Андрэевіч быў першым і лепшым, але, як мне здавалася, хацеў яшчэ быць адзіным. Пералічваць тое, у чым ён быў першым і лепшым у Брэсце, можна доўга: адзіны, чыя творчасць была адзначана Дзяржаўнай прэміяй БССР, першы выйшаў да замежнага чытача, першы асэнсаваў гісторыю літаратуры Берасцейшчыны, першы прафесар на філфаку… Дадамо, што У. А. Калеснік быў у рэспубліцы адным з аўтарытэтнейшых даследчыкаў заходнебеларускай літаратуры, творчасці Максіма Танка, Янкі Брыля, Янкі Купалы, Францішка Скарыны, Міколы Гусоўскага і інш. Яго аўтарытэт на факультэце, ва універсітэце, сярод творчай інтэлігенцыі, настаўніцтва вобласці быў не проста вялікім, а велізарным. І тым не менш у яго псаваўся настрой, калі, скажам, у грыбах некаму пашэнціла больш за яго. У. А. Калеснік не супрацьстаяў і не мог супрацьстаяць прыліву на філалагічныя кафедры маладых выкладчыкаў, якія, хто з большым, а хто з меншым поспехам, даследавалі нацыянальную літаратуру, але не быў іх папулярызатарам. Ён усё зрабіў, каб выкладчыкі кафедры не былі аўтарамі энцыклапедычнага слоўніка «Янка Купала». Адгукнуўшыся на просьбу Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР дапамагчы ў стварэнні гэтага выдання, вымушаны былі адмовіцца ад узятых артыкулаў. Абмеркаванне іх на кафедры з боку загадчыка праводзілася незычліва, нават зняважліва для аўтараў. Не У. А. Калеснік, а Адам Мальдзіс прапанаваў уключыць у «Бібліяграфічны слоўнік» імёны А. А. Майсейчыка, Г. М. Малажай, В. Я. Ляшук, толькі трох прадстаўнікоў новай генерацыі даследчыкаў мастацкага слова з Брэста. Таму мне думаецца, што асноўнай прычынай, па якой Уладзімір Андрэевіч не прыняў заманлівых прапаноў пераехаць у сталіцу, з’яўлялася немажлівасць быць там першым і адзіным. Незадоўга да смерці ён напісаў артыкул пад характэрнай назвай «Тут жыць можна», у якім паказаў плюсы і мінусы жыцця творчай асобы ў правінцыі.

Працаваць на кафедры пад кіраўніцтвам У. А. Калесніка было няпроста, хоць цікава і павучальна. Ён сістэматычна наведваў лекцыі сваіх падначаленых, планаваў адкрытыя заняткі, ставіў на абмеркаванне іх тэксты. У яго быў тоўсты сшытак у чорнай цыратовай вокладцы. З ім наведваў нашы лекцыі. Калі мы бачылі гэты сшытак у яго руках, то не скажу, што ў нас падымаўся настрой. Было тут і звычайнае хваляванне, быў і страх, аднак калі твае заняткі былі ўхвалены, то перажыванні кампенсаваліся ўпэўненасцю: працуеш на адпаведным узроўні. Скідак на маладосць Уладзімір Андрэевіч не рабіў. Калі лекцыя адпавядала патрабаванням, што ставіліся да яе ў ВНУ, то прысутнічаў толькі на першай гадзіне. Пры абмеркаванні сцісла акрэсліваў тое, што спадабалася, і вызначаў перспектыву працы над тэмай. Што ён занатоўваў у тым чорным сшытку — невядома, аднак ставіўся да яго беражліва, вельмі ўжо не хацеў, каб ён трапіў у чужыя рукі. Аднойчы, збіраючыся да некага на заняткі, дастаў з партфеля чорны сшытак і паклаў

яго на столік перад люстрам. Нехта з жанчын неўзнарок прыкрыў яго шапкай. Шукалі той сшытак усе і ўсюды. На дапамогу з дому была выклікана Зося Міхайлаўна (жонка Уладзіміра Андрэевіча. — **В. Л.**), якая адзіная магла яго супакоіць. Радаваўся, як дзіця, калі сшытак знайшоўся, калі высветлілася, што на яго ніхто не пасягаў, што шапку ў той дзень проста не было дзе павесіць.

Я была адзінай жанчынай, абранай на кафедру беларускай літаратуры, калі ёй загадваў У. А. Калеснік. Ён аддаваў перавагу мужчынам, у іх выбары часта памыляўся. Нярэдка на кафедру траплялі выпадковыя людзі, якія на ёй доўга не затрымліваліся. Я трымалася, хоць загадчык не хацеў разумець, што я не толькі сябар кафедры, а яшчэ жонка і маці. Нараджэнне мною дзяцей не ўхваляў. Я не мела дэкрэтнага адпачынку пасля нараджэння старэйшага. Пасля таго як Уладзімір Андрэевіч не рэкамендаваў у друк мой артыкул у адзіны ў 1960-я гг. «Брэсцкі веснік» на той падставе, што ў сувязі з цяжкай хваробай малодшага не прыйшла на кафедру, каб там яго агучыць (перад гэтым той артыкул быў прачытаны і ўхвалены ім самім), ніколі не прасіла палёгкі ў сувязі з частай яго хваробай. Я рэдка калі гаварыла Уладзіміру Андрэевічу пра свае сямейныя праблемы, бо не спадзявалася на паразуменне. Калі першынцу было два гады, я папрасіла загадчыка адпусціць мяне з пасяджэння кафедры ці перанесці яго на іншы дзень. Адмовіў, хоць ведаў, што ў маёй кватэры мяне чакалі госці. У мяне склалася ўражанне, што Уладзімір Андрэевіч не надаваў належнага значэння сямейнаму выхаванню дзяцей, клопатам пра іх. Калі ён даведаўся, што я збіраюся ў чарговы дэкрэтны адпачынак, паставіў мяне перад выбарам: або прыярытэт за справамі кафедры, або сямейныя клопаты. Я не зрабіла выбару, а імкнулася спалучыць тое і другое.

Тым не менш, паўтаруся, працаваць на кафедры было цікава. Уладзімір Андрэевіч належаў да цэльных натур. Ён ніколі нічога не рабіў фармальна. Таму любое пасяджэнне кафедры (а яно цягнулася доўга) было для мяне добрай школай, не выклікала пачуцця дарма патрачанага часу. Вярталася з кафедры з адчуваннем, што нечым абагацілася, нешта адкрыла для сябе ці то ў літаратуры і літаратуразнаўстве, ці то ў людзях. Пры абмеркаванні лекцый ці іх тэкстаў загадчык акцэнтаваў увагу на прынцыповых пытаннях, заўвагі рабіў навукова абгрунтаваныя, часам папраўляў занадта прыдзірлівых калег, не ўступаючы з імі ў адкрытую палеміку. У той самы час яго заключнае слова было дыскусійным па сваёй сутнасці.

Пры планаванні працы на год У. А. Калеснік скідак сабе не рабіў: не зніжаў нагрузку, праводзіў адкрытыя лекцыі, прыносіў на абмеркаванне свае даследаванні. Для адкрытых лекцый выбіраў праблемы, над якімі працаваў. Таму яны заўсёды ўражвалі навізной асэнсаванага матэрыялу, былі ўзорнымі і паказальнымі для падначаленых па кампазіцыі, па культуры мовы, па ўменні трымаць увагу аўдыторыі.

На факультэт прыходзіў у строгім касцюме, у чысцюткіх адпрасаваных сарочках, у наваксаваных ботах. Зімой насіў паліто з каракулевым каўняром і з гэтага ж футра шапку-стаўбунок, традыцыйную (мяркуючы па фотавыявах нашаніўскага перыяду) для беларускага інтэлігента. Вясной і восенню на галаве Уладзіміра Андрэевіча быў нязменны шэры берэт. Увогуле, ён аддаваў у адзенні перавагу шэраму колеру, хоць сарочкі любіў блакітных адценняў.

Вялікая роля загадчыкам кафедры надавалася навуковай працы. На абмеркаванне выносіліся планавыя тэмы сяброў кафедры, а таксама даследаванні самога Уладзіміра Андрэевіча. Думаецца, што, выносячы на наша абмеркаванне свае працы, ён не разлічваў на плённасць для яго самога нашых выказванняў. Напэўна, нашаму кіраўніку было нецікава з намі, бо мы толькі станавіліся навукоўцамі, а ён ужо быў прызнаным аўтарытэтам не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі. З часам сітуацыя пачала мяняцца. Расла філалагічная культура сяброў кафедры. Яны ўжо і самі мелі пэўныя навуковыя набыткі, свой погляд на асобныя аспекты праблем, якія даследаваў наш кіраўнік. Заўважу, што ён асабліва раўніва аберагаў свае навуковыя дзялянкі. Яму чамусьці здавалася, што хто б ні спрабаваў асэнсоўваць творчасць пісьменніка, якога вывучаў наш загадчык, паўтараў сказанае ім. Уладзімір Андрэевіч як бы забываў сваё любімае выслоўе: абнародаваная думка з часам становіцца навуковай аксіёмай. Першае абмеркаванне, калі сябры кафедры выказалі яму шэраг прыватных і прынцыповых заўваг, было ўспрынята нашым настаўнікам хва-

равіта, але пазней сітуацыя набыла дзелавы характар. Да заўваг сваіх вучняў ставіўся спакойна і ў сваёй большасці ўлічваў пры дапрацоўцы.

Пры абмеркаванні навуковых прац сваіх падначаленых Уладзімір Андрэевіч ставіўся да іх з высокай патрабавальнасцю. Выказваўся часам надзвычай з'едліва, іншы раз разбіраў сказ за сказам, адзначаючы стылёвыя хібы, і ў той самы час не даваў агульнай ацэнкі напісанаму. Уладзімір Андрэевіч не ўлічваў, што кожны навуковец праходзіць час сталення, што сябры кафедры нават не прайшлі праз стацыянарную аспірантуру. Не адразу і яго прызнавалі бездакорным аўтарытэтам. Неяк знаны вучоны прыгадваў, што нейкі час адразу па прыездзе ў Брэст яго не заўсёды публікавала абласная газета «Зара», хоць беларускамоўнаму яе варыянту тады яўна бракавала арыгінальных матэрыялаў.

Адметнасць кіраўніцтва навуковымі працамі сваіх падначаленых у У. А. Калесніка заключалася яшчэ і ў тым, што ён не дазваляў пасылаць у друк, на навуковыя канферэнцыі матэрыялы, калі сам не прачытае іх і не ўхваліць. Чытаў скрупулёзна, правіў, удасканальваў напісанае, пакідаў на палях пытальнікі, клічнікі, а часам і з'едлівыя заўвагі. Гэта была добрая школа для пачаткоўцаў. Па сённяшнім маім разуменні, Уладзімір Андрэевіч, з аднаго боку, засцерагаў нас ад псеўданавукі, выхоўваў перакананне, што не трэба спяшацца выносіць у друк толькі што напісанае, неабходна шліфаваць тэкст, каб думка была выказана выразна, а з другога — ставіў занадта высокую планку, якая пачаткоўцам была не па сіле. Адных сяброў кафедры гэта актывізавала, другіх — прыгнятала. Адзначу таксама, што ацэнка напісанага не была лагодненькай і часам выказвалася вельмі рэзка. Пазней, калі сябры кафедры набылі навуковую сталасць, гэта стрымлівала іх творчую актыўнасць і інтэнсіўнасць навуковых даследванняў, пазбаўляла арыгінальнасці ў іх самавыяўленні.

У. А. Калеснік не належаў да ліку тых кіраўнікоў, хто дапамагаў сваім падначаленым прабіцца ў друк, затое заўсёды прыязджаў да іх на абарону кандыдацкіх дысертацый, што было для іх вялікай маральнай падтрымкай. Скрупулёзнае чытанне навуковых матэрыялаў сваіх падначаленых патрабавала шмат часу. Нярэдкімі былі выпадкі, калі пасылаць матэрыял на канферэнцыю было ўжо позна. Затрымліваў і разгляд на кафедры падрыхтаваных дысертацый. Першы варыянт маёй кандыдацкай працы, абмеркаванне якой было запланавана на верасень, прачытаў толькі ў лютым.

Тым не менш уплыў Уладзіміра Андрэевіча на навуковае сталенне сяброў кафедры быў значным. Ён актывізаваў іх творчы рост сваёй асобай, месцам у навуковым свеце, інтэнсіўнасцю і плённасцю працы. Уладзімір Андрэевіч часам для нас быў калі не казырнай картай, то візітоўкай. Прыгадваецца, як аднойчы ў час экскурсіі па літаратурных мясцінах я з групай студэнтаў прыехала на начлег у інтэрнат мінскага пединстытута. Чалавек, які абяцаў арганізаваць нам начлег, свайго слова не стрымаў. Нас выручылі студэнты, калі даведаліся, што мы з кафедры Калесніка. Таму я, ды, напэўна, не толькі я, у складаных арганізацыйных сітуацыях прыкрывалася яго імем. Я заўсёды потым гаварыла яму пра такія сітуацыі. Уладзімір Андрэевіч у адказ толькі весела пасміхаўся, чым як бы падахвочваў на аналагічныя крокі ў далейшым.

У актывізацыі творчага росту сяброў кафедры значнае месца належала і іншым фактарам. Некаторыя з нас не былі пазбаўлены амбіцыйнасці, імкнення да самасцвярджэння, жадання пераканаць настаўніка, што нечага вартыя. Калі ў адпаведнасці з тагачасным палажэннем У. А. Калеснік па ўзросце не мог больш загадваць кафедрай, калі я яго замяніла на гэтай пасадзе, стала вызначаць перспектыву навуковай дзейнасці свайго калектыву і спынілася на тэме «Літаратурная Берасцейшчына», былы загадчык мяне не падтрымаў. Ён імкнуўся пераканаць выкладчыкаў, што ім такую тэму не адужаць, а мне няма з кім працаваць. На шчасце, ён памыліўся. Праца «Літаратурная Берасцейшчына» была напісана. Я і мой сааўтар Г. М. Снітко прысвяцілі яе свайму настаўніку У. А. Калесніку як першаму гісторыку літаратуры краю. Праца вытрымала ўжо два выданні.

Як ніхто на факультэце, Уладзімір Андрэевіч надаваў выключнае значэнне ў станаўленні духоўнага свету студэнтаў пазааўдыторнай працы. Ён заклаў на кафедры такія моцныя ў гэтым плане традыцыі, што і па сёння яны жывуць і развіваюцца. Любімымі формамі працы загадчыка кафед-

ры са студэнтамі былі сустрэчы з пісьменнікамі, літаратурныя дыспуты, экскурсіі па літаратурных мясцінах, развіццё пісьменніцкіх талентаў. Ён радаваўся, падтрымліваў, прапагандаваў таго студэнта, якога Бог адарыў паэтычным талентам, клапаціўся, каб напісанае пачаткоўцамі не знікла, і выдаваў рукапісны літаратурны альманах «Маладыя галасы». На відным месцы на кафедры доўгі час вісеў стэнд «Яны надрукаваліся». Паказальна, што Уладзімір Андрэевіч сам падбіраў да ствараемых стэндаў матэрыял, вызначаў кампазіцыю, рабіў фотаздымкі. Часам арганізоўваў конкурс на арыгінальны, дасціпны, дакладны подпіс пад фотаздымкам, як, скажам, да стэнда «Шляхамі паэтаў і герояў», прысвечанага вынікам экскурсіі. На гэта не шкадаваў часу і заседжваўся са студэнтамі да глыбокага вечара.

Тыя, хто пісаў вершы, карысталіся асаблівай прыхільнасцю У. А. Калесніка. Цяпер літаратуры Берасцейшчыны належыць годнае месца ў айчынным прыгожым пісьменстве, і ў гэтым яго вялікая заслуга. Пасля смерці Уладзіміра Андрэевіча ніхто не рызыкнуў яго замяніць, бо пакуль не знайшоўся такі чалавек, які стаў бы годным яго пераемнікам. Тут не спрацоўвае выслоўе «Святое месца пустым не бывае». Аказваецца, бывае… Не кожны бацька так клапоціцца пра сваіх дзяцей, як Уладзімір Андрэевіч пра тых, хто быў адораны пісьменніцкім талентам, паэтычным найперш. Ён апекаваўся маладымі творцамі, не зніжаючы патрабавальнасці да напісанага імі, ставячы непераадольны заслон графаманству, усяму таму, што было па-за літаратурай. У гасціннай хаце Калеснікаў маладыя паэты знаходзілі і матэрыяльную, і маральную дапамогу. Ён імкнуўся падтрымаць паэтаў з Берасцейшчыны пры іх уступленні ў Саюз пісьменнікаў БССР, ездзіў на пасяджэнні прыёмнай камісіі, папулярызаваў іх творчасць у друку.

Увогуле, Уладзімір Андрэевіч умеў радавацца новаму паэтычнаму таленту ў беларускай паэзіі. Калі быў апублікаваны верш Дануты Бічэль-Загнетавай «Роднае слова», ён праз Аляксея Карпюка знайшоў маладую аўтарку, каб выказаць сваё захапленне яе творам. Заняты шматлікімі клопатамі, Уладзімір Андрэевіч спецыяльна паехаў у Бярозу, знайшоў будаўнічую пляцоўку, дзе тады працавала Зінаіда Дудзюк, каб пазнаёміцца, бо яна апублікавала цікавую падборку вершаў у абласным друку, каб падтрымаць яе, каб не згінуў талент. Уладзімір Андрэевіч сябраваў з Нінай Мацяш, падтрымліваў творчыя намаганні Міколы Арахоўскага. Прайшоўшы праз пекла вайны, страціўшы шмат сяброў, Уладзімір Андрэевіч надзвычай балюча ўспрымаў смерць сваіх равеснікаў: ці то пісьменнікаў, ці то сяброў па партызанскім змаганні. Заўсёды пакідаў самыя пільныя справы, каб праводзіць у дарогу, з якой не вяртаюцца, і сказаць развітальнае слова. Мне прыгадваецца, як балюча перанёс Уладзімір Андрэевіч смерць Васіля Праскурава. Па вяртанні з пахавання шукаў суразмоўцу, з кім можна было б пагаварыць пра чалавека, хто прыехаў на Берасцейскае Палессе і верай і праўдай служыў яму.

Дзякуючы Уладзіміру Андрэевічу студэнты і выкладчыкі Брэсцкага універсітэта змаглі сустрэцца з многімі беларускімі пісьменнікамі: Васілём Быкавым, Нілам Гілевічам, Янам Чыквіным, Анатолем Кудраўцом, Аляксеем Карпюком, Анатолем Вярцінскім і многімі-многімі іншымі. Неаднойчы наведваліся ў Брэст Янка Брыль і Уладзімір Караткевіч. Уладзімір Андрэевіч фактычна быў сватам апошняга. Валянціна Браніславаўна, якая працавала ў нашым інстытуце на кафедры КПСС, прысутнічала на адной з сустрэч з аўтарам «Каласоў пад сярпом тваім» і была запрошана на неафіцыйную частку імпрэзы, якая традыцыйна праводзілася на кватэры ў Калеснікаў (тады яны жылі ў доме на рагу вуліц Машэрава і Леніна). Калі Валянціна Браніславаўна пачала збірацца дадому, гаспадар не проста прапанаваў, а настойліва дамагаўся, каб Караткевіч правёў яе. З гэтага ўсё і пачалося, а закончылася, як вядома, іх шлюбам.

Сустрэчы з пісьменнікамі У. А. Калеснік праводзіў па-рознаму. Нязменным было яго грунтоўнае ўступнае слова, у якім вызначалася творчая індывідуальнасць госця, яго месца ў літаратуры. Калі мерапрыемства было прымеркавана да выхаду асобнага зборніка ці твора, то акрэсліваў іх адметнасць у творчай спадчыне аўтара, акцэнтаваў увагу аўдыторыі на некаторых праблемах і адметнасцях іх вырашэння. Уладзімір Андрэевіч ніколі не дазваляў сабе з'явіцца на сустрэчу з пісьменнікам непадрыхтаваным. Яго ўступнае слова заўсёды ўражвала

навізной, цікавымі назіраннямі і свежымі высновамі. Невыпадкова пазней яно магло быць апублікавана як рэцэнзія ці стаць часткай артыкула без істотных змен.

Далей Уладзімір Андрэевіч запрашаў выказацца выкладчыкаў і студэнтаў. У яго заўсёды быў невялікі спіс тых, хто пачне абмеркаванне, якому кожны раз імкнуўся надаць праблемны характар. Выступленне кожнага ўважліва слухаў, вылучаў у прамоўленым праблему, засяроджваў на ёй увагу аўдыторыі і запрашаў прысутных да яе абмеркавання. Наступны, хто браў слова, часам як бы не чуючы папярэдняга выступоўцы, пачынаў гаварыць пра іншыя праблемы, якія ўсхвалявалі яго найперш. Вядучы сустрэчы імкнуўся ўжо ўключыць аўдыторыю ў некалькі праблем. Асобнымі рэплікамі, лагоднай усмешкай Уладзімір Андрэевіч заахвочваў студэнтаў не баяцца выказвацца. У рэшце рэшт яму ўдавалася ўключыць прысутных у абмеркаванне. На такіх сустрэчах быў цярплівы да максімалізму моладзі, часам абсалютнага неразумення некаторымі прысутнымі твора, хоць і не прымаў гэтага і даваў зразумець астатнім, што хацеў бы ад іх пачуць ацэнку кур'ёзных, а іншы раз бязглуздых меркаванняў. Ён не цярпеў пустаслоўя, фамільярнасці. Тады лагоднасць імгненна знікала.

Госці-пісьменнікі ў сваёй большасці з павагай ставіліся да студэнцкіх ацэнак іх творчасці і твораў, былі цярпімымі да юначага запалу, нястрыманасці. На маёй памяці выключэннем была сустрэча з І. П. Шамякіным у сувязі з выхадам яго рамана «Сэрца на далоні». Паміж студэнтамі і пісьменнікам завязалася палеміка. Адзін з іх выказаў абгрунтаванае меркаванне, што брыгада камуністычнай працы і сам брыгадзір Тарас у творы намаляваны непераканаўча. Іван Пятровіч не здолеў паважліва паставіцца да думкі студэнта, абарваў на паўслове. Нават стаў зневажаць аўдыторыю, запальчыва гаворачы, што гэтая сустрэча яму як творцу нічога не дае, што ён шкадуе дарма патрачанага часу. І. П. Шамякін нават параўнаў выказванні студэнтаў з меркаваннямі афіцэрскіх жанок пры абмеркаванні рамана «Сэрца на далоні» ў воінскіх часцях. Гэта выклікала абурэнне залы. Яна загудзела, падтрымліваючы свайго сябра, Уладзімір Андрэевіч спадзяваўся зняць канфлікт, кінуўшы рэпліку: «Іван Пятровіч, трэба, напэўна, прыслухацца да калектыўнай думкі моладзі пра маладых герояў твора». Зала ўзарвалася апладысментамі. Госць супакоіўся.

Здавалася, далей сустрэча пойдзе ў звычлівай атмасферы. Пасыпаліся пытанні, звязаныя з перапрацоўкай мастакамі слова сваіх твораў у сувязі з развянчаннем культу асобы Сталіна. У іх ліку было пытанне, адрасаванае І. П. Шамякіну. Нехта спытаўся, што канкрэтна ён змяніў у рамане «Глыбокая плынь». Пісьменнік гаварыў, што большасць творцаў проста слова «Сталін» замяняла на «Ленін». Што датычыць рамана «Глыбокая плынь», то яму фактычна нічога і мяняць не трэба было: ён проста апусціў эпізод, у якім апісвалася, як партызаны з заміраннем сэрца слухалі прамову правадыра. Тут з залы папрасілі ўдакладніць: «У якой меры названы вамі эпізод у першай рэдакцыі рамана «Глыбокая плынь» адпавядаў рэальнасці, выяўляў сапраўдныя адносіны партызанаў да Сталіна?» Пісьменнік пачаў гаварыць пра ўсенародную любоў да правадыра. Тут У. А. Калеснік не стрываў. Спачатку спакойна спытаў: «Адкуль у вас, не партызана, такая інфармацыя?» Пераканаўчага адказу аўдыторыя не пачула. Паміж двума ўдзельнікамі вайны пачалася такая слоўная перапалка, калі не вельмі выбіраюцца словы. Здавалася, што яны вось-вось счэпяцца ў бойцы. Першым узяў сябе ў рукі Уладзімір Андрэевіч і пастараўся закончыць сутычку жартам, што менавіта так былыя партызаны дамагаюцца праўдзівага адлюстравання іх змагання ў мастацкай літаратуры. Пасля гэтага інцыдэнта ў зале не аказалася ахвотнікаў ні задаваць госцю пытанні, ні выказваць свае ўражанні пра раман «Сэрца на далоні».

Уладзімір Андрэевіч пазбягаў аднастайнасці ў правядзенні сустрэч з пісьменнікамі. Часам ён даручаў сябрам кафедры сабраць ад студэнтаў пытанні, адказы на якія яны хацелі б пачуць ад госця імпрэзы. Звычайна іх было вельмі многа. Ён знаёміўся з імі, адразу адсейваў паўторы, аб'ядноўваў іх у праблемна-тэматычныя блокі і перадаваў госцю. Гэта зусім не выключала, што не магло быць з залы спантанных пытанняў. Такая рэакцыя аўдыторыі ўхвалялася вядучым.

Пасля сустрэчы з пісьменнікам вялікай грамадой кіраваліся на кватэру да Калеснікаў,

дзе Зося Міхайлаўна рыхтавала багаты на пачастункі стол. Уладзімір Андрэевіч займаў месца гаспадара. Прамаўляліся тосты, гучалі песні і вершы, вялася зацікаўленая гаворка пра літаратуру, прыгадваліся розныя здарэнні, якія адбываліся з гасцямі і гаспадаром у грыбах, на рыбалцы, на паляванні. Не было такога застолля ў хаце Калеснікаў, каб не гучаў тост гаспадара: «За здрове пенькных пань пораз першы». Былі яшчэ другі, і трэці, і… Заседжваліся часам доўга, бо ў гасціннай сям'і Калеснікаў пачувалася нязмушана, было цікава. Адзначу, што ў такіх застоллях ніколі не вяліся размовы на палітычныя тэмы, не абмяркоўваліся дзеянні ні мясцовых, ні цэнтральных улад.

Уладзімір Андрэевіч быў заснавальнікам краязнаўчай працы на філалагічным факультэце. Любімым відам яе для загадчыка кафедры былі экскурсіі па літаратурных мясцінах рэспублікі з заездам у Вільню. Праца ў гэтым напрамку актывізавалася, калі канчалася палітычная адліга сярэдзіны мінулага стагоддзя. У нашай рэспубліцы пачалося вынішчэнне ўсяго беларускага. Факультэт рыхтаваў настаўнікаў шырокага профілю, але па беларускай мове і літаратуры ім не было дзе працаваць: мова ў школе не вывучалася, а з літаратурай пажадана было знаёміць школьнікаў на рускай мове. Літаратурныя экскурсіі спрыялі патрыятычнаму выхаванню студэнтаў і ішлі ў рэчышчы закона «Аб сувязі школы з жыццём і практыкай камуністычнага будаўніцтва». Калі я прыйшла на кафедру, маршрут экскурсіі, распрацаваны Уладзімірам Андрэевічам, быў ужо добра апрабаваны. Непасрэдна яна пачыналася з Наваградчыны. Аглядалі міцкевічаўскія мясціны: Завоссе, Туганавічы, камень «Філарэтаў», возера Свіцязь, Наваградак, часам наведваліся ў Варончу, дзівіліся з унікальных помнікаў на мясцовых могілках, знаёміліся з краязнаўчым музеем у Валеўскай школе. Затым былі Коласавы мясціны: Стоўбцы, Акінчыцы; Смольня, Мікалаеўшчына, Нёман. Трэці дзень прысвячаўся Мінску. З раніцы наступнага кіраваліся да мясцін, асвечаных вялікім Купалам: Радашковічы, Вязынка, а затым праз Смаргонь — на Ашмяншчыну да Францішка Багушэвіча. З Жупранаў рукой падаць да Вільні, дзе аглядалі Лукішскую плошчу з надмагільнымі плітамі Каліноўскаму і Серакоўскаму, наведваліся ў бібліятэкі мясцовага універсітэта і Урублеўскага, захапляліся касцёламі святой Ганны, Пятра і Паўла, Вострай Брамай, падымаліся на гару Гедыміна. Вярталіся з Вільні праз Гарадзеншчыну, абавязкова спыняліся ў Астрыно ля помніка Цётцы. У Гародні ішлі ў мясцовае аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі і траплялі пад апеку Аляксея Карпюка, цудоўнага знаўцы горада. Домік і помнік Элізе Ажэшцы, Стары і Новы замкі, Каложа, дом, дзе жыла сям'я Адама Багдановіча і дзе прайшлі першыя гады жыцця яго знакамітага сына, — аб'екты нашага агляду.

Хоць экскурсія іменавалася літаратурнай, але фактычна была комплекснай, бо аб'ектамі агляду былі мясціны, звязаныя не толькі з імёнамі пісьменнікаў, але і з помнікамі дойлідства, з нацыянальнымі героямі, з гераікай і трагедыяй Вялікай Айчыннай вайны: Калдычава, Пірчупіс, Гастэла, беларускія старадрукі і рэдкія выданні пачатку мінулага стагоддзя. Уладзімір Андрэевіч распрацаваў маршрут экскурсіі такім чынам, каб студэнты маглі замацаваць веды па чытаемых курсах у ВНУ, каб ім адкрылася багацце і самабытнасць нацыянальнай культуры, каб пераканаліся, што мы, беларусы, не спазніліся ў Еўропе выйсці на шлях культурнага развіцця, што ў многім апярэдзілі Літву, а ў нечым і Расію, што наша зямля ў сілу пэўных гістарычных варункаў была «калыскай дум і натхнення» для тых творцаў, хто пісаў па-польску.

Экскурсаводам (за выключэннем тых сітуацый, калі наведваліся ў музей ці бібліятэку) быў Уладзімір Андрэевіч. У нязмушаных, пазбаўленых афіцыёзу сітуацыях выразна выяўляліся многія яго якасці, якія былі прыглушанымі і не такімі відавочнымі ў інстытуце. Вынікала, што наш настаўнік цудоўна ведае Беларусь і Вільню. Ён ніколі ні ў кога не пытаў, як трапіць да той мясціны, якую хацеў паказаць студэнтам. Да шафёраў ставіўся з павагай, але не дапускаў з іх боку фамільярнасці ў зносінах з сабой. Кіроўцы не пратэставалі, калі трэба было адхіліцца ад маршруту, акрэсленага ў пуцёўцы. Калі такія адхіленні былі значнымі, сам аплачваў перарасход паліва. Быў наш экскурсавод лёгкім на хаду. Той, хто хацеў яго чуць, подбегам спяшаўся за ім. Па-добраму ўражвала яго неперабарлівасць у побыце і харчаванні: начаваў разам са студэнтамі

ў школьных спартыўных залах на матах, часам на ўскрайку лесу пад адкрытым небам на яловых лапках, прыкрытых коўдрамі, якія заўсёды браліся з сабой (тады пра спальныя мяшкі нават марыць не даводзілася), на нейкіх напаўразбураных турысцкіх базах на беразе Віліі. Уладзімір Андрэевіч заўсёды харчаваўся разам са студэнтамі ў раённых ці вясковых сталоўках, а ў Мінску і Вільні — на фабрыках-кухнях.

Традыцыйна па дарозе дадому, мінуўшы Бераставіцу, дзе добра атаварваліся харчамі (гэты раённы цэнтр вызначаўся багаццем прадуктаў, у тым ліку мясцовай мясной кулінарыі і печыва), наладжвалася сумеснае застолле. Праходзіла яно звычайна весела, бо прыгадваліся розныя кур'ёзныя сітуацыі, у якія траплялі ў час экскурсіі. Студэнты былі больш натуральнымі і ў той самы час паводзілі сябе карэктна.

Уладзімір Андрэевіч быў цудоўным экскурсаводам, умеў паказаць аб'ект агляду і хораша расказаць пра яго, ілюструючы аповед чытаннем мастацкіх твораў на памяць. Калі дазваляла надвор'е, любіў у Туганавічах сесці на ўзгорку, раскрыць томік Адама Міцкевіча з «Панам Тадэвушам» і пачытаць урывак пра Сапліцава ў арыгінале. Усе сядалі вакол яго паўкругам і ўважліва слухалі, як хораша гучыць у вуснах настаўніка мастацкае слова вялікага рамантыка. У час экскурсіі па Наваградчыне, у самім раённым цэнтры прыгадваў гады навучання ў мясцовай польскай гімназіі, імкненне выявіць сябе ў маляванні і ў сталярнай справе, не дазволіць навучэнцам-палякам прынізіць сваю чалавечую і нацыянальную годнасць. Ён ганарыўся сваім краем, нязменна падкрэсліваў хараство мясцовых краявідаў, працавітасць, незалежнасць, сілу духу сваіх землякоў. Прыгадваецца, як сапсаваўся ў яго настрой, калі я дакладвала яму пра вынікі экскурсіі (у другой палове мінулага стагоддзя гэта быў ужо мой абавязак), што самае прыкрае ўражанне пакінуў Наваградак. Настрой сапсавалі алкаголікі, якія з самай раніцы запаланілі мястэчка: крычалі, сварыліся, кідаліся адзін на аднаго з кулакамі. «Што робіцца з народам?! І за такі кароткі час….» — прамовіў хутчэй сам сабе і не стаў далей слухаць маю справаздачу.

Уражвала мяне і студэнтаў і тое, што ў многіх мясцінах, якія мы наведвалі, былі ў нашага настаўніка цудоўныя сябры, ды яшчэ якія! Па музеі ў Валеўцы, на возера Свіцязь нас суправаджаў і праводзіў экскурсію І. Петруковіч — аднакурснік Уладзіміра Андрэевіча, цудоўны знаўца свайго краю і творчасці Адама Міцкевіча. Ён вызначаўся дасціпнасцю, тонкім гумарам, часам незласліва падколваў нашага кіраўніка, а той успрымаў гэтыя падколванні як належнае, што, на маю думку, было не характэрна для апошняга. У Гародні, як гаварылася вышэй, на нас не шкадаваў свайго часу Аляксей Карпюк. А ў бібліятэцы Віленскага універсітэта яго работнік, знаёмячы нас з рэдкай кнігай, заўсёды падкрэсліваў, што робіць гэта выключна з сяброўскіх стасункаў з Уладзімірам Андрэевічам. Дадамо, што ў ліку сяброў яго былі Янка Брыль і Фёдар Янкоўскі.

Уладзімір Андрэевіч быў членам КПСС. Партыйнай дысцыпліны трымаўся строга. Неяк студэнты ў маёй прысутнасці спыталі яго: «Чаму Янка Брыль не камуніст?» У адказ пачулі лаканічнае: «Каб мець магчымасць і ў высокіх кабінетах агрызнуцца». Такога сабе Уладзімір Андрэевіч не дазваляў нават тады, калі ўзначальваў партыйную арганізацыю педінстытута. Назіраючы за ім у час размоў у райкаме ці гаркаме КПСС з нейкім партыйным чыноўнікам, часам думалася, што гэта не той Уладзімір Андрэевіч, якога мы ведалі: быў выключна стрыманым, незвычайна далікатным. На партыйных сходах выступаў рэдка, хоць аўдыторыя яго заўсёды слухала з вялікай увагай. Звычайна цярпліва маўчаў, думаючы пра сваё, далёкае ад таго, што нудліва лілося з трыбуны. На адным з такіх сходаў мне давялося сядзець побач са сваім загадчыкам. Раптам, павярнуўшыся да мяне, ён спытаў: «Вера, як у вас лаюць карову, калі яна ўбілася ў шкоду?» Пытанне прагучала вельмі ўжо нечакана. Я была ў свой час пастушкай з прыстойным стажам, назвала два-тры кленічы і змоўкла. Хітравата пасміхаючыся, мой настаўнік сыпаў і сыпаў свае, згадаў больш за дзесяць. Сёння, успамінаючы гэты эпізод, думаецца, што так ратаваўся слынны вучоны і педагог ад марнавання часу, ад гаварыльні, якая гадзінамі лілася з трыбун «дзеля галачкі». Мне ж тады ў актавай зале нашага корпуса быў дадзены добры ўрок: вось як трэба ведаць мову, каб нешта рабіць у літара-

туры. Заўважу таксама, што я не помню выпадку, калі працавала дэканам ці загадчыкам кафедры, каб Уладзімір Андрэевіч, ад'язджаючы з Брэста на дзень-два, не папярэдзіў, бо лічыў гэта маральнай нормай паўнавартаснай дзейнасці працоўнага калектыву. Размоў на палітычныя тэмы на кафедры, у прыватных размовах пазбягаў. Негатыўных ацэнак дзейнасці ўлад я ад Уладзіміра Андрэевіча ніколі не чула.

На філфаку доўгі час працавалі дзве кафедры літаратуры: беларускага і рускага і замежнага мастацкага слова. Тым не менш калі ў Брэст прыязджалі пісьменнікі з Расіі, з іншых саюзных рэспублік СССР, замежныя творцы, суправаджаць іх у крэпасць, у Белавежскую пушчу, прадстаўляць іх шматлікім і разнастайным аўдыторыям даручалі толькі У. А. Калесніку. Як вынік гэтай нялёгкай працы быў зроблены ім стэнд «Пісьменнікі — госці Брэстчыны». Наш загадчык кафедры быў (калі можна так сказаць) навуковым кансультантам і дарадцам сакратара гаркама партыі горада Брэста ў час яго паездкі ва Украіну ў сувязі з пяцідзесяцігоддзем УССР і кампартыі гэтай рэспублікі. Папулярнасць і аўтарытэт Уладзіміра Андрэевіча сярод інтэлігенцыі вобласці былі такія вялікія, што ён атрымаў мянушку — Калеснік-Брэсцкі. Многія мае землякі вельмі ўжо здзіўляліся, калі даведваліся, што ён родам з Гарадзеншчыны. Нягледзячы на ўсё гэта і тое, пра што гаварылася вышэй, ён ні разу не быў абраны нават дэпутатам мясцовых саветаў, хоць мог бы годна прадстаўляць вобласць у Вярхоўным Савеце рэспублікі. Я заўважала, што яму было непрыемна прысутнічаць на сходах, калі вылучаліся ў дэпутаты яго вучні, вядомыя толькі як добрыя выкладчыкі на факультэце.

У чым прычына? Тое, пра што я скажу ніжэй, усяго здагадкі, але небеспадстаўныя. У гады майго студэнцтва непасрэдны кіраўнік Калесніка, пра якую гаварылася вышэй, на нейкім форуме на згадку некага, што яе падначалены Уладзімір Андрэевіч быў партызанам, з'едліва заўважыла: «Яшчэ трэба праверыць, якімі ляснымі сцежкамі і з якой мэтай ён там хадзіў». Студэнты цішком адзін аднаму перадавалі, што Калесніка выклікалі ў адпаведныя органы па даносе яго загадчыцы кафедры, што яе трэба асцерагацца.

Хутчэй за ўсё, яго кандыдатура ў якасці дэпутата не ўхвалялася адпаведнымі органамі. Паказальным, на маю думку, для разумення сутнасці Уладзіміра Андрэевіча з'яўляецца такі факт, звязаны з гэтай жанчынай. Дзесьці ў пачатку васьмідзесятых гадоў мінулага стагоддзя яна з'яўляецца на факультэце і пытаецца пра Калесніка. Я тады яе ўспрыняла як злавесны прывід мінулага. Была гэтая ўжо састарэлая жанчына з тым самым каўняром з чорна-бурай лісы на плячах і абсалютна такіх, якія насіла тады, ботах. Прысутныя былі заінтрыгаваныя. Я праінфармавала іх, хто яна такая. Тая папрасіла ў сакратаркі тэлефон Калеснікаў, набрала адпаведны нумар. Мы зразумелі, што яна была запрошана на сустрэчу. Ніхто не спяшаўся дадому. Усім карцела даведацца, якая ў гэтай жанчыны пільная патрэба да Уладзіміра Андрэевіча. Чакалі яго з нецярпеннем, бо ведалі, што вось-вось прыйдзе: быў у раскладзе. Высветлілася, што яна прыехала ў Брэст шукаць сабе працу, бо на апошнім месцы ў Пярмі яе не абралі па конкурсе, а да пенсіі засталося ўсяго менш як два гады. Уладзімір Андрэевіч са спачуваннем заўважыў: «Шкада, што ў нас няма гадзін. Трэба было б дапамагчы». Мы дружна ў адзін голас выпалілі: «Ніколі! І ні пры якіх умовах!» Гэта было такое моцнае агульнае перакананне, што нікога не стрымаў няпісаны закон кафедры: кадравыя пытанні вырашае толькі загадчык. У іншай сітуацыі ён нікому не дазволіў бы парушыць гэтае правіла, а тут толькі здзіўлена пахітаў галавой.

Я помню толькі два выпадкі, калі Уладзімір Андрэевіч з прадстаўнікамі ўлад стаяў па розныя бакі барыкад. На другі дзень па вяртанні з Мінска пасля стварэння аб'яднання «Мартыролаг Беларусі», у ліку арганізатараў якога быў і У. А. Калеснік, адбылася яго сустрэча з інстытуцкім калектывам.

Я не ведаю, хто быў яе ініцыятарам. Сустрэча праходзіла ў невялічкай аўдыторыі, дзе традыцыйна ладзіліся пасяджэнні Вучонага савета. Людзей сабралася шмат. Былі забіты ўсе праходы, стаялі ля парога і адразу за парогам. Прысутнічалі партыйныя і савецкія чыноўнікі горада і вобласці самага высокага рангу. У час інфармацыі Уладзіміра Андрэевіча пра мэты аб'яднання яны не давалі яму выказацца, імкнуліся

пераканаць аўдыторыю, што прамоўцам называюцца завышаныя лічбы рэпрэсіраваных, што сфальсіфікавана інфармацыя пра час і колькасць рэабілітаваных. Упершыню мне давялося пачуць, як абурана пратэставала супраць чыноўнікаў аўдыторыя. Пачалі браць слова педагогі, чые сваякі таксама пацярпелі ад беззаконня, ім беспаспяхова спрабавалі пярэчыць асобныя выкладчыкі так званых грамадскіх кафедраў. Некаторыя выступоўцы патрабавалі ад улад спыніць русіфікацыю Беларусі. Уладзімір Андрэевіч быў увесь наструнены, але трымаўся годна, аргументавана і кампетэнтна адказваў часам і на правакацыйныя пытанні, выяўляў сваю перакананасць у неабходнасці аб'яднання «Мартыролаг Беларусі» дзеля праўды гісторыі, дзеля ачышчэння грамадства праз асуджэнне палітыкі вынішчэння іншадумцаў.

У час дэмакратызацыі грамадства нарэшце знізу быў вылучаны кадыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета Беларусі. Яго падтрымлівала дэмакратычна настроеная частка выбаршчыкаў. Яна, аднак, не магла супрацьстаяць добра арганізаванай наменклатурнай частцы сходу, якая правяла свайго кандыдата і зарэгістравала яго.

А між тым здароўе Уладзіміра Андрэевіча рэзка пагоршылася. Ён працаваў да апошняга дня свайго жыцця. Цяжка хворы, прыходзіў на факультэт, іншы раз трымаўся за сцяну, каб не ўпасці. Працаваў і дома, і ў бальніцы над аўтабіяграфічнай кнігай «Доўг памяці». Намаганнямі кафедры беларускага літаратуразнаўства, факультэта, пры падтрымцы рэктарата Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта яна была выдадзена ўжо пасля смерці аўтара.

Развітацца з Калеснікам-Брэсцкім сабралася ці не ўся творчая інтэлігенцыя горада, шмат настаўнікаў з вобласці. З Мінска прыехала прадстаўнічая дэлегацыя пісьменнікаў на чале з Нілам Гілевічам. Прыняло ўдзел у пахаванні і ў грамадзянскай паніхідзе кіраўніцтва горада. Праводзілі ў апошнюю дарогу таго, хто самааддана служыў краю, з якім звязаў свой лёс сын Гарадзеншчыны, годна.

Асаблівасць успамінаў — у іх суб'ектыўнасці. У гэтым жанры надзвычай выразна выяўляецца асоба мемуарыста. Кладучы на паперу ўласныя радкі пра свайго настаўніка, я помніла народнае: пра памерлых альбо толькі станоўчае, альбо нічога. Больш за дзесяць гадоў пасля смерці Уладзіміра Андрэевіча далі мне права на тое, каб прыгадаць яго без хрэстаматыйнага глянцу, паказаць па мажлівасці чалавекам, якому нішто чужым не было. У якой меры мне гэта ўдалося, меркаваць чытачу.

Максім КЛІМКОВІЧ

# СТАРЫЯ ЛЮДЗІ РАСКАЗВАЮЦЬ, або ПРАЎДА Ў ДЭТАЛЯХ*

***Менавіта дэталі прымушаюць паверыць, што так і было насамрэч. Іх немагчыма падрабіць. Так, не прыдумаеш ветэрана на Вайсковых могілках у Мінску, які нетаропка ідзе ўздоўж салдацкіх магіл і на кожную пліту моўчкі кладзе па цыгарэце. Яго трэба сустрэць і ўбачыць.***

***У кожнага была свая вайна. Свае асабістыя страты, пакуты, расстанні і сустрэчы. Кожны зведаў, убачыў на ўласныя вочы толькі яе частку. Вайна, убачаная вачыма цывільных жанчын, дзяўчат, пражытая ў эвакуацыі, таксама вайна, вартая ўвагі і памяці.***

***Я запісаў пачутае раней ад сваёй бабулі Марыі Язэпаўны Клімковіч, распытаў маці — Маю Міхайлаўну Клімковіч, сустрэўся з Рагнедай Мікалаеўнай Раманоўскай (дачкой Кузьмы Чорнага). Яна і мая маці сябравалі яшчэ з «да вайны». Іх успаміны пра тое, як складаўся лёс пісьменніцкіх сем'яў, — толькі маленькія кавалкі мазаікі вайны.***

### Успамінае Мая Міхайлаўна (дачка Міхася Клімковіча):

У чэрвені 1941-га я адпачывала ў пісьменніцкім Доме творчасці, тады ён месціўся недалёка ад Мар'інай Горкі. Мне было чатырнаццаць гадоў. Нашто за мной прыглядаць? Самастойная. Чакала: маці ці бацька прыедуць у адзін з выхадных.

Калі пачалася вайна, ніхто з нашых адразу не ведаў, што рабіць. Ехаць у Мінск? З аднаго боку, лічылася, што ваяваць будзем толькі на варожай тэрыторыі. З другога, ехаць у Мінск — рухацца насустрач вайне. Проста чакалі і практычна не ведалі, што робіцца вакол. З Мінска на папутках дабраліся Пятрусь Броўка, Віталь Вольскі, Алесь Кучар, іх сем'і былі ў Доме творчасці, сказалі, што ўсім трэба выбірацца на ўсход. Немцы ўжо падыходзілі да Мінска, а пад Мар'інай Горкай бачылі нямецкі дэсант. Толькі ж як выбрацца? Кінуліся на станцыю, цягнікі ідуць і не спыняюцца. Але там стаяла райкамаўская грузавая машына. У кузаве сядзелі цёткі, ехаць далей яны не маглі — скончыўся бензін. А ў нашым доме творчасці бензін быў — цэлая бочка. Як бы сказалі сёння, наладзілі «бартэр». Мы запраўляем машыну — яны забіраюць пісьменнікаў і іх сем'і. Сталі закідваць у кузаў матрацы і коўдры, каб можна было сесці з малымі дзецьмі і закрыцца ад ветру. Але дырэктар пачаў адбіраць, крычаць, што не дазволіць марнаваць казённыя рэчы. Ён, маўляў, матэрыяльна адказны. Тады Віталь Вольскі выхапіў пісталет і прыгразіў, каб адступіўся, бо застрэліць. Падзейнічала.

Калі мы ехалі, дарогу некалькі разоў абстрэльвалі з самалётаў. Але наш вадзіцель паспяваў заганяць машыну ў лес, пад дрэвы. Ніхто з нашых не пацярпеў. Нарэшце дабраліся да нейкага буйнога чыгуначнага вузла. Ну, а адтуль ужо цягніком паехалі.

### Успамінае Рагнеда Мікалаеўна (дачка Кузьмы Чорнага):

І вось мы з бацькам, маці разам з другімі бежанцамі ідзём ад самага Мінска на ўсход. Пасля сустрэчы з нямецкім дэсантам пад

* Заканчэнне. Пачатак у № 5 за 2010 г.



*Мінск. Плошча Свабоды, лета 1941 г.*

Мар'інай Горкай нам зноў пашанцавала. Пешкі ад вайны мы б не ўцяклі. Дабраліся да станцыі. Нейкім чынам нам удалося сесці на адзін з цягнікоў, і мы паехалі. Цэлую ноч чыгункай дабіраліся да Горак.

Так нарэшце мы апынуліся ў Саратаве. Мама пайшла ў мясцовы аддзел Саюза пісьменнікаў нейкай рады шукаць. А куды яшчэ пойдзеш? І сустрэла там Віталя Вольскага! Той расказаў ёй, як ён і другія пісьменнікі з сем'ямі выбіраліся з Дома творчасці. Так мы далучыліся ў эвакуацыі да сваёй беларускай кампаніі. Па першым часе мясцовыя ўлады ўсіх нас размясцілі ў вёсцы пад Саратавам. Броўчыха ж падалася да роднага дзядзькі, які жыў у Алма-Аце. Тады адпісала нам ужо з Казахстана, каб перабіраліся туды. Бо там цёпла, і тамтэйшы Саюз пісьменнікаў можа нам дапамагчы. Мы ўсе параіліся і паехалі. Але ж да Алма-Аты так і не дабраліся, бо ў дарозе здарылася няшчасце. На адным з прыпынкаў заходзіць да нас у вагон Алік — Артур Вольскі — і кажа: «Бядуля памёр».

**М. М.:**

Гэта здарылася не вельмі далёка ад Уральска. Я ехала ў адным вагоне са Змітраком Бядулем і яго сям'ёй: маці, жонкай і двума дзецьмі. Тады на кожнай станцыі можна было набраць кіпеню, чаю згатаваць, круп запарыць. А цягнікі ішлі без аніякага раскладу, невядома, дзе спыніцца, калі кранецца.

Бядуля выскачыў з чайнікам па кіпень, адышоў даволі далёка. І тут яму здалося, што наш цягнік крануўся, хаця насамрэч пайшоў суседні. Бядуля кінуўся назад. Ну, як ён там мог бегчы, хворы на сэрца чалавек? Падбег ужо зусім слабы, давялося нават дапамагчы яму падняцца ў вагон. Ён зайшоў, паваліўся. І ўсё, няма яго. Што рабіць?

**Р. М.:**

Дарослыя ведалі, ва Уральску атабарыўся БДТ-2. Тамтэйшыя ўлады рады былі прытуліць знакаміты Віцебскі тэатр, бо ў горадзе меўся добры тэатральны будынак, а сваёй трупы не было. Вось нашы пісьменнікі і вырашылі ехаць да Уральска, да сваіх. Артысты дапамаглі б годна пахаваць Бядулю. Так і зрабілі. Я на пахаванне не трапіла, засталася за няньку Куляшовых дзяцей. Тыя былі яшчэ зусім малыя. Ну, а потым тэатралы адгаварылі нас ехаць у Алма-Ату. Жылі мы ў людзей па горадзе, хто ў каго. Памятаю, пасярод хаты стаяў слуп — дрэва без кары, каля сцяны печка. Паміж печкай і дзвярыма ложак. На ім спалі гаспадыня з дачкой. А мы з мамай на тапчане.

Ва Уральску мой бацька працаваў у рэдакцыі мясцовай газеты. Наша пісьменніцкае начальства сказала, маўляў, усё добра, уладкаваліся, сядзіце тут. Самі ж лахі пад пахі — і падаліся ў Маскву, бо там знаходзіліся ў эвакуацыі ЦК і Савет міністраў БССР. Пры ЦК была арганізаваная «Група друку». Выходзілі: газета «Савецкая Беларусь», тады яшчэ на беларускай мове; сатырычныя выданні «Раздавім фашысцкую гадзіну», «Партызанская дубіна». На радыё стварылі беларускую рэдакцыю, спадзяваліся, што яе перадачы пачуюць на акупаванай тэрыторыі ці хаця б у партызанскіх атрадах. Так што працы творчым людзям хапала. Тату і яшчэ некалькіх нашых пісьменнікаў адклікалі ў Маскву. А я засталася з мамай.

**М. М.:**

У эвакуацыі па першым часе мной апекавалася Крапівіха. Ва Уральску пасялілі нас да адной татарскай артысткі. Гаспадыня пакінула за сабой невялічкі пакойчык. А

мы ўсе разам жылі з Бядулевай маці, яго ўдавой і дзецьмі ў прахадным пакоі. Спала я на стале. Падсцілала паліто, другім накрывалася. У нагах — печка. Дзверы паміж пакоямі нанач не зачынялі, каб ішло цяпло. Аднойчы, калі не магла заснуць, то ўбачыла, як гаспадыня надзела нацыянальны татарскі строй, маністы з манет і доўга глядзелася ў люстэрка. Моцна мяне ўразіла.

Ну, а крыху пазней у Чыстапалі маскоўскія пісьменнікі арганізавалі Дом-інтэрнат для дзяцей творчай інтэлігенцыі, для тых, хто апынуўся без бацькоў. Я трапіла туды і адразу адчула сябе недарэкай. Хоць вучылася на выдатна, іграла на фартэпіяна, шмат чытала. Аднак ніякіх асаблівых талентаў у мяне не было. А ў тым асяродку падабраліся не абы-якія дзеці, яны ўмелі здзіўляць. Нас вучылі настаўнікі, але ж больш за ўсё мы вучылі адзін аднаго: музыцы, тэхніцы, замежным мовам, літаратуры, тэатральнаму мастацтву... Мы ставілі спектаклі, ладзілі канцэрты, да якіх самі пісалі і тэксты.

Так, будучаму піяністу Станіславу Нейгаўзу (да вайны ён выхоўваўся ў сям'і свайго айчыма Барыса Пастэрнака) дазвалялася рэпетаваць пасля адбою. А мы з дзяўчатамі паціху прабіраліся ў актавую залу і слухалі. Стась злаваўся, бо вельмі не любіў, калі «глядзяць пад руку». Аднойчы прыехала камісія праслухаць яго для конкурсу, а мы, дзяўчаты, стаіліся за кулісамі. Капрызлівы чатырнаццацігадовы піяніст заўважыў нас, але не стаў усчынаць вэрхал. Нейгаўз віртуозна выканаў п'есу, якую адолеў бы не кожны дарослы прафесіянал. Складанасць заключалася ў тым, што колькі разоў трэба было імгненна пераносіць рукі з аднаго боку клавіятуры на другі і граць у шалёным тэмпе. Стась не толькі пераносіў рукі, ён яшчэ паспяваў круціць і паказваць нам дулі.

Каб больш не злаваць яго, мая сяброўка Святлана Шкапская таемна падключыла кавалкам дроту дынамікі ў зале да радыёпрыёмніка ў нашым пакоі. Дынамікі працавалі, як мікрафоны, і з таго часу мы маглі слухаць рэпетыцыі Станіслава Нейгаўза, лежачы ў ложках.

**Р. М.:**

У Маскве пры Савеце міністраў БССР існавала група, якая «для гісторыі» збірала матэрыялы пра ход вайны. Плён той працы — сённяшні музей Вялікай Айчыннай вайны. Тата, як дачуўся, што гэтай групе патрэбна машыністка, якая добра ведае беларускую мову, кінуўся да іх: «Мая жонка ўмее друкаваць». Да вайны мама працавала машыністкай у рэдакцыі газеты, там мае бацькі і пазнаёміліся.

Так 26 чэрвеня 1942 года мы з мамай трапілі ў Маскву. Пасялілі нас у гатэлі «Масква». Там уся беларуская дыяспара жыла, таксама ўкраінцы, літоўцы... Відаць, і прадстаўнікі іншых нацыянальнасцей, але ж я з імі не сутыкалася. З фронту часам людзі прыязджалі.

Праз два дні пасля нашага прыезду загінуў Купала. Тады я чула, ды і потым не адзін раз пісалі, што побач з Купалам у той дзень, калі ён зваліўся ў пралёт, бачылі нейкую жанчыну. Нібыта ніхто не ведаў, хто яна такая! Ведалі. Але ўсе, хто бачыў яе, давалі падпіску «о неразглашении». А што значыла ў тыя часы «разгласить», самі разумееце. Гэта жанчына — Ларыса Александроўская. У яе былі асаблівыя адносіны з першым сакратаром ЦК КПБ Панамарэнкам, таму з людзей і ўзялі падпіску. Я лічу, гібель Купалы — трагічная выпадковасць. Служачыя гатэля расказалі, што пару гадоў да гэтага нейкі хлопчык таксама зваліўся ў лесвічны пралёт. Там сапраўды вельмі нізкія парэнчы. Забіваць Янку Купалу ў 42-м годзе не мела ніякага сэнсу. Наадварот, тады ён быў вель



*Я. Колас, Я. Купала, П. Броўка, З. Бядуля. Масква, 1939 г.*



*М. Клімковіч. Мінск, канец 1940-х гадоў.*

мі патрэбны савецкай уладзе. Вось прыклад. Майго тату выклікалі ў ЦК і сказалі: «Трэба, каб Купала звярнуўся да беларускага народа, але ён цяпер у такім прыгнечаным стане, што не здольны нешта напісаць. Напішыце яму вы». І «Кліч да беларускага народа» напісаў бацька. Гэты «Кліч» вісіць на сцяне ў музеі Купалы. Не рукапіс, вядома, а друкаваны тэкст. Арыгінал у мяне дома ў папцы пад тэлевізарам захоўваецца. Потым, калі я працавала ў музеі, Купаліха мне сама сказала: «Я ведаю, што гэта дзядзька Кузьма напісаў. Але ж хай вісіць, хай вісіць». Гэта ў яе такая манера была, часам паўтарала апошні сказ два разы.

### З успамінаў Марыі Язэпаўны (жонкі Міхася Клімковіча):

Міхасю давялося выбірацца з Каўнаса, куды ён напярэдадні вайны паехаў на сустрэчу з літоўскімі пісьменнікамі. Ішоў праз Літву і акупаваную Беларусь не адзін, вывеў і рускую пісьменніцу, у якой знаёмыя жылі ў Мінску. Ісці было вельмі небяспечна. Немцы яшчэ не лютавалі, а вось узброеныя літоўцы паўсюдна лавілі і расстрэльвалі камуністаў. Ратавала тое, што муж закапаў свае дакументы і добра ведаў польскую мову, крыху — літоўскую. Выдаваў сябе за настаўніка з Віленшчыны, казаў, што іх цягнік разбамбілі і цяпер ён вяртаецца дахаты з жонкай.

У Мінску я напісала на сцяне нашага Дома спецыялістаў, куды сыходжу з малой дачкой. Тады ўсе так рабілі. Сцены дамоў спрэс былі спісаныя пасланнямі мінчан. Спадзявалася, Міхась вернецца ў горад і прачытае. Ён і знайшоў мяне ў сваіх бацькоў на Барысаўшчыне. Хаваўся на гарышчы хаты, пісаў п’есу пра Барбару Радзівіл, а я працавала ў вясковай школе настаўніцай. Потым нехта данёс немцам, хто ён такі. Нас папярэдзілі. Партызаны пераправілі яго ў Маскву, у іх лясны аэрадром быў. А я з малой дачкой засталася чакаць у атрадзе, калі будзе вольнае месца на самалёце, як яны казалі, «з Вялікай Зямлі», бо ў першую чаргу вывозілі параненых.

Жывём, чакаем. І тут неяк у атрадзе з’явіўся немец. Апрануты быў у цывільнае: шаўковая кашуля ў бубачкі, чорныя штаны, на баку сумка з паперамі. Увечары ён сядзеў разам з партызанамі каля вогнішча, граў ім на губным гармоніку. Агонь раскладалі пад густымі елкамі, і дым слаўся па лесе, паміж дрэваў, не ішоў угару. Гэта каб нас ворагі не ўбачылі. Я здзівілася — хто такі? Падсела да вогнішча, крыху нямецкую мову ведала. Ён сказаў мне, што служыў у штабе, ненавідзіць нацыстаў. Нейкім чынам звязаўся з партызанамі, дамовіўся з імі. Выкраў дакументы і свядома перайшоў на наш бок. Як я зразумела, дакументы былі вельмі важнымі, іх нават камандзір атрада не бачыў. Іначай чаму перабежчык пастаянна насіў іх пры сабе ў сумцы? Відаць, дамоўленасць была, што ён асабіста перадасць іх некаму ў штабе партызанскага руху ў Маскве. Заўтра ноччу мусіў прыляцець самалёт. Пры мне немцу абяцалі, што ім ён і паляціць. Мы са Святланай пайшлі спаць. А на раніцу гляджу, на адным з партызанаў ужо шаўковая кашуля ў бубачкі, на другім штаны, трэці на губным гармоніку спрабуе граць. А ў камандзіра тая самая сумка з нямецкімі дакументамі на баку вісіць. Я спыталася: «А дзе той нямецкі афіцэр?» Камандзір зірнуў на мяне, як на дурніцу, уздыхнуў і сказаў, маўляў, у самалёце, які прыляціць, будзе толькі адно вольнае месца. Так што ляцець на ім мог або немец, або я з малой дачкой. Больш мне распытваць ужо не хацелася. Стала страшна.

З вечара партызаны расцягнулі карчы, што знарок расклалі раней на лясным аэрадроме, падрыхтавалі вогнішчы. Уначы, як па рацыі атрымалі паведамленне, што самалёт ужо блізка, толькі тады запалілі агонь. Ён і сеў. Вогнішчы адразу ж вадой залілі.

Прывезлі зброю, медыкаменты, сышла група вайскоўцаў. На борт забралі параненых. Малых дзяцей таксама вывозілі. Паляцеў з намі і камандзір атрада з сумкай нямецкага афіцэра. Відаць, вырашыў падаць камандаванню ўсё так, нібыта дакументы партызаны самі ў баі захапілі. Але я старалася пра тое не думаць, баялася, што не возьмуць з сабой.

Ляцелі ў поўнай цемры. Унізе ані агеньчыка. Светламаскіроўка. Раптам знізу — пражэктары. І тут мы бачым: з аднаго і другога боку ад нас — па знішчальніку. Людзі ў крык, дзеці спалохаліся, плачуць. Адзін з пілотаў нам патлумачыў, што мы ўжо лінію фронту пераляцелі, і гэта савецкія знішчальнікі, яны нас будуць на аэрадром заводзіць. Тады супакоіліся ўжо. Неўзабаве і селі дзесьці пад Масквой. Там нас аўтобус чакаў і ў горад павёз.

**М. М.:**

Бацька, як толькі трапіў у Маскву, парупіўся, каб забраць мяне з Чыстапаля да сябе. Здарылася так, што прыехала я ў той самы дзень, калі следам за бацькам прыляцела на самалёце з акупаванай Беларусі і мая маці з сястрычкай Святланай. Усе і сустрэліся. Потым мы гэты дзень святкавалі штогод.

Раскажу з тагачаснага беларускага маскоўскага побыту два эпізоды. У гатэлі разам з намі жыў і легендарны Дзед Талаш. Яго запрашалі выступаць на радыё, гутаркі з ім друкавалі ў газетах. Сталічнае жыццё і слава яго абсалютна не бянтэжылі. Знешне ён заставаўся самім сабой, вясковых звычак не кінуў. Дзед Талаш у саматканым споднім выходзіў з гатэля, сядаў на лаўку, як на прызбу, і паліў люльку. Увесь у белым, сівы дзед сядзеў, задуменна пускаў дым і прэзентаваў сабой партызанскую Беларусь. Гэта было вельмі натуральна, а аўтарытэт Дзед Талаш меў такі, што ніхто так і не наважыўся зрабіць яму заўвагу.

Памятаю, як пайшла мая сястрычка Святлана ў першы клас. Вяртаецца заплаканая, кажушок расшпілены. Пытаемся: што здарылася? Сказала, што ў школу больш не пойдзе, бо там дзеці злыя. Высветлілася, пасля заняткаў яна іх папрасіла ў гардэробе: «Калі ласка, зашпіліце мне гузікі!» Тыя, апроч слова «мне», нічога не зразумелі і разышліся. Вядома ж, дома мы гаварылі па-беларуску, а першы год вайны Святлана пражыла ў вёсцы. Што і ведала па-руску, тое забылася. Але нічога, мову хутка вывучыла, першы клас закончыла на адны пяцёркі.

**Р. М.:**

24 верасня 1944 года мы з бацькам і маці вярнуліся ў вызвалены Мінск. Першы час жылі ў Саюзе пісьменнікаў — двухпавярховы драўляны дом месціўся насупраць увахода ў Чырвоны касцёл. На другім паверсе жыў старшыня — Міхась Лынькоў, адзін, без сям'і. А ўнізе былі чатыры пакоі. У адным з іх, маленечкім, пасялілі і нас. Мы жылі без мэблі, літаральна на падлозе. Калі Лынькоў на пару дзён з'ехаў у камандзіроўку, то пусціў да сябе тату, каб паспаў на ложку. Праз месяц нам далі два пакоі ў вялікай кватэры. Гэтага дома ўжо няма, ён стаяў на пачатку сённяшняй плошчы Незалежнасці, Савецкая вуліца ўпіналася ў яго.

А неўзабаве здарылася бяда. Бацька ў той дзень вярнуся дахаты ўзрушаны, нечым моцна расстроены. У кабінеце ён запісаў свае апошнія словы ў дзённіку, потым выйшаў да нас з мамай. Я сядзела за сталом і чытала Шолам-Алейхема. Бацька нешта хацеў сказаць нам, але прамовіць так і не здолеў. Ён яшчэ ў Маскве перажыў інсульт. Побач з намі рамантавалі кватэру для аднаго з сакратароў ЦК. Татава сястра пабегла прасіць, каб там перасталі грукаць — чалавек памірае. Ды дзе ж яны спыняцца! Так, пад гэты грукат, тата і памёр.

*У той дзень, калі я здымаў гэтыя апошнія радкі тэксту з дыктафона, услухоўваўся ў дасканала-гарадскую мову дачкі Кузьмы Чорнага, яе не стала. Рагнеда Мікалаеўна пайшла з жыцця 14 мая 2010 года.*

*На Вайсковых могілках у Мінску ёсць «пісьменніцкая выспа». Там пахаваныя мае дзед Міхась, бабуля Марыя і цётка Святлана. Гэта ёй у 1943-м маскоўскія першакласнікі не здагадаліся зашпіліць гузікі на кажушку. Побач магілы Кузьмы Чорнага, Паўлюка Труса, Валянціна Таўлая, Веры Лютавай, Алеся Ліпнёвага, Алеся Гурло. На другім канцы могілак за дрэвамі і пахаваннямі чырвонаармейцаў, якія вызвалялі Мінск, спачываюць Янка Купала, Якуб Колас і іх жонкі. Далёка-далёка ад сваіх сяброў і паплечнікаў пахаваны Зміцер Бядуля.*

***Вечная ім памяць.***

*З краязнаўчага блакнота*

Алесь КАРЛЮКЕВІЧ

# ПУХАВІЦКІЯ СУСТРЭЧЫ

Шукаючы старонкі памяці пра сваіх землякоў-пухавічан, часта набываю для сябе зусім нечаканыя знаёмствы. Як быццам паўсюль, куды толькі мяне лёс не заносіў, жывуць ці жылі мае землякі альбо тыя, хто спрычыніўся да нашай старонкі. І мне ўжо дзіўна становіцца, калі ў кароткай камандзіроўцы, прыкладам, у Баку, мяне не спаткае нейкая вестачка, згадка пра Пухавіччыну. Бо выпадкі былі такія!.. З даўняй памяці згадаю хаця б некаторыя.

Працую першы год у рэдакцыі салдацкай «шматтыражкі» у Ашхабадзе. Адчыняюцца дзверы ў службовы пакой. Заходзіць курсант з чырвонымі пагонамі. Адразу да мяне: «Вы з Пухавіч?..» Ды не, кажу, з Зацітавай Слабады. А курсант не разгубіўся: «У мяне ж бабуля жыве ў Зацітавай Слабадзе…» Так пазнаёміўся з Аляксандрам Бізюком, які цяпер, пэўна, палкоўнік ужо… У Ашхабадзе некалькі разоў пісаў пра Героя Савецкага Саюза Івана Васільевіча Багданава. Ведаў, што ён вызваляў Бабруйск. Не мог не папытацца і пра Пухавічы, пра тое, ці трапляла яму па дарозе наша мястэчка. Мо і суседнюю вёску Зацітава Слабада вызваляў… «Дык ты з Пухавіч? А чаго маўчаў раней? У мяне ж там сястра стрыечная жыве… А вось у вайну праз вашу вёску мы не праходзілі…»

Шукаючы «сваю Пухавіччыну» па свеце, у старым друку і архівах, праз розных знаёмых і незнаёмых, адкрыў для сябе многіх цікавых людзей. Пра некаторых з іх і збіраюся распавесці.

## З КАГОРТЫ ПЕРШАПРАХОДЦАЎ

Неяк зусім выпала з кантэксту гісторыі Пухавіччыны імя Льва Стронгіна. А між тым, асоба цікавая, і шкада, што лёс яго да канца не вывучаны. У судакрананні з гэтай забытай постаццю можна было б узнавіць многія фрагменты ў гісторыі беларускай літаратуры, яўрэйскай літаратуры ў Беларусі і ўвогуле ў Савецкім Саюзе. Дазволю болей падрабязна спыніцца на разглядзе гэтай цікавай асобы ці, дакладней, хаця б звярну ўвагу на тыя факты, што ўдалося сабраць у дачыненні да Льва Стронгіна…

Менавіта ён з'яўляецца адным з першых арганізатараў выдавецкай, паліграфічнай справы ў Савецкай Беларусі. Нарадзіўся Леў Стронгін у мястэчку Пухавічы. У 1929—1933 гг. займаў пасаду дырэктара Белдзяржвыдавецтва. Да яго кіраўніком галоўнай па тым часе вытворчай кніжнай установы працаваў знакаміты Зміцер Жылуновіч, як пісьменнік вядомы пад псеўданімам Цішка Гартны.

Захаваліся ўспаміны нашага земляка пра Мінск і ваколіцы губернскага горада ў 1918 годзе — з часоў акупацыі Беларусі нямецкімі кайзераўскімі войскамі. «Год 1918-ы… Усяго 100 дзён давялося працоўным Мінска карыстацца здабыткамі Вялікага Кастрычніка. Зрыў брэсцкіх перамоў даў магчымасць кайзераўскім генералам абвясціць стан перамір'я з Расіяй завершаным, і 18 лютага яны ўзнавілі ваенныя дзеянні. 21 лютага 1918 года германскія войскі занялі Мінск», — так пачынае Л. Стронгін успаміны «У падполлі», надрукаваныя ў калектыўным зборніку «Праўда стагоддзя» (Мінск, 1970 год).

З першых дзён акупацыі кайзераўцы пачалі праводзіць палітыку прыгнёту і тэрору. У Мінску з часоў Першай сусветнай вайны знаходзіліся многія склады тылавых устаноў Заходняга фронту. Працавала і прамысловасць. Зладжанасцю вызначалася і сістэма прыватнага гандлю. Кайзераўцы распачалі мэтанакіраванае рабаванне. З навакольных вёсак звозілі хлеб, сала, прыганялі коней, скаціну. Наладжвалі аблавы, лавілі людзей

на вуліцах, трымалі іх за калючым дротам пад адкрытым небам. Затым адпраўлялі ў Германію на прымусовыя работы. У свае маёнткі вярталіся гаспадары. Па іх даносах кайзераўскія салдаты расстрэльвалі ўсіх, у кім падазравалі бальшавікоў ці тых, хто ім спачуваў.

На пачатку сакавіка на мінскую кватэру да Стронгіна завітаў Іван Чэкалінскі. Ён паведаміў, што ў горадзе створаны падпольны камітэт партыі. Даў адрас. На другі дзень Леў Ізраілевіч сустрэўся з падпольшчыкамі Б. Вайцэсам, Ш. Ходашам і А. Крыніцкім (Бампі). Пазней у склад камітэта ўвойдуць А. Славінскі (так, гэта ў яго гонар названа адна з мінскіх вуліц), Э. Русецкі і Л. Стронгін. Нашаму земляку даручылі выпуск лістовак, адозваў. У распараджэнні камітэта меўся шапіраграф, які належаў Г. Мусіну. У гадавіну звяржэння царызму была выдадзена першая лістоўка мінскіх падпольшчыкаў.



*Леў Стронгін.*

З успамінаў Л. Стронгіна: «Але ці многа можна надрукаваць на шапіраграфе? Таму камітэт даручыў мне наступную лістоўку выдаць друкарскім спосабам. Усе друкарні Мінска я ведаў наперагік, і мне няцяжка было знайсці, дзе аддрукаваць лістоўкі. Я прыйшоў у адну з іх, гаспадара якой я ведаў. Ён быў хворы — ляжаў, разбіты паралічам, сям’я жыла ў бядоце. Павітаўшыся з жонкай, сказаў, што мне патрэбна набраць і аддрукаваць праграмкі для кінатэатра «Гігант», за адпаведную, зразумела, плату. Яна пагадзілася. Друкарня знаходзілася ў кватэры гаспадара, якая складалася з двух пакояў з падвалам. Плоская друкарская машына і нажная «амерыканка» стаялі ў падвале, касы былі наверсе, у адным з пакояў. Я хутка набраў тэкст, выправіў карэктуру і, спусціўшыся ўніз, пачаў друкаваць.

Пасля таго, як тры тысячы экземпляраў адозвы былі гатовыя, я рассыпаў набор, праверыў, каб нідзе не засталося адбіткаў тэксту, паклаў лістоўкі ў загадзя падрыхтаваную карзіну з гароднінай і выйшаў на вуліцу. Ужо сцямнела. Ва ўмоўленым месцы мяне чакаў А. Крыніцкі, з ім была дзяўчына, член партыі, Сасновіч. Перадаў ім карзіну, пасля чаго, пажадаўшы адно аднаму ўдачы, мы разышліся…»

З’яўленне лістовак выклікала перапалох. Стронгін на некаторы час ад’язджае ў Шацк. Там сустракаецца з сябрамі, разам з якімі ўдзельнічаў у лютаўскіх падзеях 1917 года ў Шацку: Славінскім, Шацілоўскім (малодшым), Вайнманам, Кантаровічамі іншымі. Большасць з іх — дэмабілізаваныя салдаты Першай сусветнай… Леў Стронгін выкладае перад сябрамі і паплечнікамі па рэвалюцыйных пераўтварэннях заданне Мінскага падпольнага камітэта — разгортваць партызанскі рух супраць кайзераўцаў у навакольных вёсках.

У другой палове красавіка 1918 года падпольны камітэт прымае рашэнне стварыць нелегальную друкарню. Выкананне даручэння ўскладваецца на Стронгіна. Месцам для друкарні выбіраецца ў Мінску дом з сядзібай Чэкалінскага — па вуліцы Даўгабродскай, якая ў той час была гарадской ускраінай. Дом знаходзіўся ў садзе, побач — агарод, у двары — розныя гаспадарчыя памяшканні, склеп. Словам, месца, якое спрыяла канспірацыі. Засталося знайсці абсталяванне. Падпольшчыкі набываюць невялікую друкарскую машынку — так званую «бастонку». Яе выкарыстоўвалі для друку візітных картак, аптэчных сігнатурак, меню і другіх дробных друкаваных вырабаў. Лістоўкі атрымліваліся маленькія, на палову стандартнага ліста. Але і гэта задавальняла падпольшчыкаў. Заставаўся яшчэ адзін клопат — раздабыць шрыфт. Вырашылі, што трэба выпраўляцца ў Савецкую Расію. Перайшоўшы пад легендай рабочага друкарні, якая эвакуіравалася ў Расію, дэмаркацыйную лінію на станцыі Орша-таварная, Стронгін выязджае ў Смаленск. Там сустракаецца з былым

галоўнакамандуючым Заходнім фронтам, старшынёю Паўночна-Заходняга абласнога камітэта партыі, адным з арганізатараў Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Мінску А. Ф. Мясніковым. Расказаў Стронгін і пра работу падпольнага камітэта, і пра складанасці з друкарняй. А. Мяснікоў піша ліст у рэдакцыю «Правды» і камандзіруе Стронгіна ў Маскву. «На аснове гэтага ліста, — успамінае наш зямляк, — камісар друкарні газеты «Правда» Фрэйман выдаў мне вярстаткі, гранкі, невялікую колькасць фарбы. Акрамя таго, ён узброіў мяне некаторай агітацыйнай літаратурай. Вярнуўся ў Смаленск. Пры садзейнічанні Мяснікова атрымаў у мясцовай друкарні болей двух пачак новенькага тэкставага шрыфту. Мяснікоў уручыў мне шыфраваныя дырэктывы для Мінскага камітэта, і я скіраваў у зваротны шлях…»

Назад, у Мінск, падпольшчык вяртаўся нелегальна, пераходзіў мяжу як звычайны кантрабандыст.

Сур'ёзнае ўладкаванне друкарні дапамагло вырашыць многія задачы. Своечасовае выданне лістовак спрыяла рэвалюцыйнай рабоце ў горадзе і навакольных паселішчах. З друкарні лістоўкі і адозвы пераносіліся ў канспіратыўныя раздатачныя пункты. Яны знаходзіліся ў фатаграфічнай майстэрні Мішкіна ў Серпухаўскім завулку, у кааператыве «Рабочы будаўнік» на Школьнай вуліцы і ў іншых месцах. Тамсама раздаваліся і газеты і літаратура, якія паступалі з Масквы і Смаленска. Былі арганізаваны ланцужкі, па якіх «прадукцыя» друкарні, агітацыйныя матэрыялы траплялі ў самыя аддаленыя куточкі Мінскай губерні.

Задумалі падпольшчыкі і выданне сваёй газеты. Яшчэ ў ліпені 1918 года першая падпольная канферэнцыя бальшавікоў Мінскага раёна запісала ў сваім рашэнні: «Канферэнцыя ўхваляе мяркуемае Мінскім камітэтам выданне друкаванага органа, які лічыць адным з самых дзейсных агітацыйных і арганізацыйных сродкаў партыі». Але ж друкарская машынка «бастонка» была параўнальна малога памеру. Яе габарытаў хапала для друку лістовак. Давялося прыладжваць газету да магчымага фармату «бастонкі». Тыраж вызначылі ў 5 тысяч экземпляраў. Значыць, улічваючы фармат лістоўкі, патрэбна было надрукаваць 30 тысяч адбіткаў. Загаловачны, досыць буйны шрыфт Стронгін выкраў у друкарні Форынай. «Подпольная правда» (пабачыў свет толькі адзін нумар) пазначана 12 кастрычніка, хаця і надрукавана была крыху раней.

Надрукавалі мінскія падпольшчыкі ў сваёй друкарні і некалькі адозваў да нямецкіх салдат. У гэтай працы бальшавікам дапамагалі нямецкія салдаты Ракаў і Мевіус, якіх з Масквы накіраваў Якаў Свярдлоў. Яны ў час Першай сусветнай патрапілі ў палон і актыўна працавалі ў створаным па ініцыятыве Свярдлова Рэвалюцыйным савеце германскіх войск Усходняга фронту. Яны разгарнулі досыць вялікую работу сярод кайзераўскіх войск у Мінску ў апошні перыяд акупацыі.

Рэвалюцыя, якая адбылася ў Германіі, істотна аслабіла акупацыйны рэжым. Падпольшчыкі пачалі раздаваць лістоўкі прама на вуліцах. У канцы лістапада падпольшчыкі пачынаюць працаваць адкрыта, адкідаючы ўбок канспірацыю. З навакольных вёсак у Мінск былі сцягнуты партызанскія атрады, каб сфарміраваць баявую дружыну дзеля аховы горада. Была надрукавана пад кіраўніцтвам нашага земляка і першая Савецкая Канстытуцыя, якую прынялі ў ліпені 1918 года на V Усерасійскім з'ездзе Саветаў.

10 снежня 1918 года Чырвоная Армія поўнасцю вызваліла Мінск ад нямецкіх акупантаў. Таварышы Стронгіна былі прызначаны на адказныя пасады. Славінскі ўзначаліў наркамат унутраных спраў. Ходаша выбралі старшынёю Цэнтральнага бюро прафсаюзаў. Крыніцкі стаў наркомам працы. 15 снежня 1918 года Стронгіна прызначаюць камісарам усіх друкарняў Мінска і губерні (фактычна — міністр друку!). А 22 снежня наш зямляк узначальвае спецыяльна створаны Камітэт па друку, займаецца нацыяналізацыяй усіх прыватных друкарняў горада. На іх аснове была створана паліграфічная база Савецкай Беларусі.

Як жа склаўся далейшы лёс Льва Ізраілевіча Стронгіна? У 1930-я гады ўраджэнец мястэчка Пухавічы пераязджае ў Маскву. Працуе ў выдавецтве, якое займаецца выпускам яўрэйскай літаратуры. 30 сакавіка 1948 года яго, старога бальшавіка, дырэктара выдавецтва «Дэр эмес», члена прэзідыума Яўрэйскага антыфашысцкага камітэта, арыштоўваюць. Ва ўспамінах аднаго з яўрэйскіх паэтаў захавалася наступная згадка: «…У гэтага маўклівага «праста-

людзіна», былога яўрэйскага наборшчыка, было вялікае сэрца, напоўненае любоўю да яўрэйскага слова і яўрэйскіх пісьменнікаў. Расказваюць, што калі яго дапытвалі на Лубянцы, следчы, стоячы над ім, збітым у горкі яблык, пахваліўся:

— Ваш «паэт» Леў Квітко боты мне аблізваў!..

Стронгін павольна, са стогнам падняўся, і, выплюнуўшы разам з крывёю выбітыя зубы, прамовіў:

— Чым хвалішся, гаўно! Квітко быў, ёсць і назаўсёды застанецца вялікім паэтам. А цябе, нікчэмнасць, ніводзін сабака не ўспомніць…

Яго білі да смерці, але не дабілі — толькі лёгкія адбілі. З лагера яго акціравалі як інваліда, і ён памёр года праз паўтара пасля «вызвалення».

…У Маскве і зараз жыве і працуе сын выдаўца-пухавічаніна — Варлен Львовіч Стронгін (нарадзіўся 16 снежня 1932 года). Ён з’яўляецца аўтарам многіх кніг: «Сталін і ясназоркі Месінг», «Праўда пра Керанскага», «Тайны жаночых дасье», «Каханне Міхаіла Булгакава», «Астрог і воля Лідзіі Русланавай», «Валерый Абадзінскі: адлучэнне ад песні», «Савелій Крамараў»… Ці ведае што ён з пухавіцкай біяграфіі бацькі, ці ведае што з гісторыі пухавіцкіх Стронгіных?..

## З ГОРАДА НА НЯВЕ

Пухавіцкі край падараваў свету, Айчыне нямала зорак у галіне медыцыны. Нядаўна высокай навуковай адзнакай уганараваны доктар медыцынскіх навук Арнольд Смяновіч. Прысуджэнне яму звання акадэміка Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі сталася сапраўднай падзеяй у навуковым жыцці ўсяе нашай краіны. Арнольд Фёдаравіч — выпускнік Пухавіцкай сярэдняй школы.

У вёсцы Навасёлкі нарадзіўся доктар медыцынскіх навук Уладзімір Вікенцьевіч Бабук (1897—1977). Выпускнік Талькаўскай СШ — кандыдат медыцынскіх навук Мікалай Рыгоравіч Баёк. Гэтую ж школу ў 1941 годзе скончыў і кандыдат медыцынскіх навук Міхаіл Міхайлавіч Ляйкоўскі. У Мар’інай Горцы нарадзіўся доктар медыцынскіх навук Аляксандр Мікалаевіч Гайдукевіч (1938—1998). Родам з вёскі Яснаўка — доктар медыцынскіх навук Аркадзь Сцяпанавіч Крук. У 1947 годзе скончыў 7 класаў Сінчанскай сямігадовай школы Эмануіл Вікенцьевіч Луцэвіч, які абараніў доктарскую дысертацыю па медыцыне, з’яўляецца членам-карэспандэнтам Акадэміі навук Расіі. Доктар медыцынскіх навук Уладзімір Ільіч Савіч, які нарадзіўся ў вёсцы Яснаўка, доўгі час загадваў кафедрай у Мінскім мединстытуце. У гэтай жа славутай ВНУ амаль паўвека выкладаў ураджэнец Пухавіч кандыдат медыцынскіх навук Уладзімір Сцяпанавіч Сянчук. З Рыбцоў — доктар медыцынскіх навук Іван Аляксандравіч Чахоўскі. Такі навукова-медыцынскі свет, які складаецца з нашых землякоў!.. Пра іх, руплівых хірургаў, стаматолагаў, артапедаў, спецыялістаў у галіне санітарыі і гігіены, — падрабязныя расповеды ў гісторыка-дакументальнай хроніцы Пухавіцкага раёна «Памяць».

У шэрагі ўжо вядомыя хацелася б дадаць яшчэ адно імя… Выпускніком Рудзенскай сярэдняй школы з’яўляецца доктар медыцынскіх навук Леанід Іосіфавіч Балашэвіч. Ён — з кагорты тых урачоў-выратавальнікаў, якія многім вярнулі зрок у санкт-пецярбургскай клініцы «Мікрахірургія вока імя С. Фёдарава», якая месціцца ў горадзе на Няве па вуліцы Яраслава Гашака, дом 21. Як жа складваліся жыццёвыя сцежкі-дарожкі нашага земляка перш чым ён стаў дырэктарам гэтай паважанай у свеце медыцынскай установы?..

Нарадзіўся Балашэвіч у Рагачове 6 лютага 1937 года. Неўзабаве бацькоў (яны абодва працавалі аграномамі ) перавялі пад Мінск, у Заслаўе. Вялікая Айчынная раскідала сям’ю ў розныя бакі Беларусі. Пасля заканчэння вайны Балашэвічы сабраліся ў Рудзенску. Тут Леанід скончыў сярэднюю школу. І паступіў у прэстыжную па ўсіх часах ВНУ — Ваенна-медыцынскую марскую акадэмію. Пасля заканчэння патрапіў на службу ўрачом на атамную падлодку, якая базіравалася на Камчатцы. Следам былі гады складанай і напружанай работы і службы ў шпіталях Ціхаакіянскага і Паўночнага флатоў. У 1974 годзе Леанід Іосіфавіч абараніў кандыдацкую дысертацыю. Некаторы час выкладаў у Ваенна-медыцынскай акадэміі. Займаўся і практычнай работай. Выканаў болей як 3 тысячы аперацый на воку. З цягам часу доктар медыцынскіх навук Л. Балашэвіч быў

абраны загадчыкам кафедры афтальмалогіі Санкт-Пецярбургскай акадэміі паслядыпломнай адукацыі. Паралельна працаваў намеснікам дырэктара, а пасля і дырэктарам клінікі «Мікрахірургія вока імя С. Фёдарава».

Калегі, адзначаючы высокі ўнёсак Леаніда Іосіфавіча ў навуку, абралі Балашэвіча правадзейным членам Лазернай акадэміі навук Расійскай Федэрацыі. Наш зямляк прымаў удзел у стварэнні першых расійскіх аргонавых і паўправадніковых лазераў і выкарыстанні іх для лячэння зроку. Пасля засвоіў тэхналогіі амерыканскіх медыцынскіх лазераў, якія распрацавала фірма «Carl Zeiss Medites», і паспяхова іх выкарыстоўвае. Леанід Балашэвіч — член Міжнароднай акадэміі інфарматызацыі, акадэмік Расійскай акадэміі прыродазнаўчых навук. Вучоны напісаў болей як 180 навуковых артыкулаў, дзве манаграфіі, шэраг падручнікаў па афтальмалогіі.

— Леанід Іосіфавіч, — расказвае доктар гістарычных навук супрацоўнік Расійскай нацыянальнай бібліятэкі ў Санкт-Пецярбургу Мікалай Нікалаеў, — дасведчаны і адукаваны чалавек не толькі ў спецыяльных дысцыплінах, якія маюць дачыненне да яго прафесіі, а ўвогуле ўяўляе сабою яркую, багатую на веды, здольную да шырокага мыслення асобу. І невыпадкова, што Балашэвіча абралі членам вялікай чытацкай рады Расійскай нацыянальнай бібліятэкі. Ганарыцца Леанід Іосіфавіч і тым, што доўгі час быў лечачым урачом акадэміка Дзмітрыя Сяргеевіча Ліхачова, даследчыка старажытнарускай літаратуры, неўміручага мастацкага помніка «Слова пра паход Ігаравы». З тых стасункаў засталося шмат кніг, якія вялікі вучоны з удзячнасцю падпісаў таленавітаму доктару.

Санкт-Пецярбург — той прычал, што прывабіў, захапіў нашага земляка Леаніда Балашэвіча. Нява — рака яго жыцця. Будзем жа спадзявацца, што ў памяці колішняга рудзенскага падлетка — і рудзенская, пухавіцкая Пціч, яе пакручастыя берагі, яе стромкая плынь.

## ПРАФЕСАР З «СОНЕЧНЫХ ПУХАВІЧ»

Па-ранейшаму — мястэчка, а цяпер вёска Пухавічы — з паселішчаў імянітых, багатых на самую розную гісторыю. Пухавічы — гэта і розных гадоў легенды, былі-бывальцы. А колькі тут цікавых людзей!.. Адны нарадзіліся і ў вырай далёкі знакамітасцямі паляцелі. Другія прыехалі сюды на ўсё сваё жыццё і лёсамі сваімі ўпрыгожылі лёс паселішча. З 1940—1950-х гадоў адметнасцю Пухавіч сталі настаўніцкія сем'і . Калі муж і жонка — настаўнікі, калі працуюць разам, а калі следам у настаўніцтва ідуць яшчэ і дзеці іх, то хіба гэта не прыгожа?! Хіба гэта не выхоўвае астатніх?.. Вось і ў лісце да мяне наш зямляк з Санкт-Пецярбурга Мікалай Сяргеевіч Лабуш (нарадзіўся ў Пухавічах 7 верасня 1951 года) шмат піша пра настаўнікаў. Згадвае Рыгора Яфімавіча Пазняка, Надзею Сцяпанаўну Усцінаву, Вольгу Іванаўну Бялугіну, Рыгора Іванавіча Гуло… Пералік можа быць шмат даўжэйшым. Але ў дадзеным выпадку хацелася б расказаць пра самога Мікалая Лабуша, хлопца з «сонечных Пухавіч». Так, у саміх пухавічан было такое рамантычнае вызначэнне — «сонечныя Пухавічы».

Мястэчка, здараецца, і зараз лічаць нейкімі «Нью-Васюкамі». У аднаго з беларускіх пісьменнікаў і кніжка ёсць з такой назвай — «Ганна з Пухавіч». А як мне падаецца, пазнаёміўшыся з лёсамі, падобнымі да пражытага, здабытага Мікалаем Лабушам, можна і ганарыцца Пухавічамі.

Дык хто ж ён — наш зямляк, чыя бацькоўская хата (бацькоў ужо, праўда, няма: час забраў іх у вечнасць) і зараз вокнамі выходзіць на пухавіцкую вуліцу Кастрычніцкую?.. Прафесар кафедры міжнароднай журналістыкі факультэта журналістыкі Санкт-Пецярбургскага дзяржаўнага універсітэта. Доктар палітычных навук. Кандыдат філасофскіх навук. У 1973 годзе закончыў Кіеўскае вышэйшае ваенна-марское палітычнае вучылішча. Сем гадоў служыў афіцэрам на караблях Паўночнага флоту. У 1983 годзе з залатым медалём закончыў педагагічны факультэт Ваенна-палітычнай акадэміі. Залаты медаль атрымліваў разам з другім беларусам — палітработнікам, двойчы Героем Савецкага Саюза лётчыкам-касманаўтам Пятром Ільічом Клімуком.

У 1983—1985 гадах Мікалай Сяргеевіч працуе выкладчыкам у Вышэйшым ваенна-марскім інжынерным вучылішчы імя Ф. Э. Дзяржынскага (цяпер — Санкт-Пецярбургскі ваенна-марскі інжынерны інстытут). Следам — вучоба ў ад'юнкту-

ры Ваенна-марской акадэміі. У тыя гады М. Лабуш актыўна працуе над дысертацыяй, якую ў 1988 годзе паспяхова абараняе на філасофскім факультэце Ленінградскага універсітэта. У 1987—1992 гадах малады вучоны працуе ў Ваенна-марской акадэміі выкладчыкам. А ў 1993 годзе кандыдата філасофскіх навук запрашаюць узначаліць кафедру грамадскіх навук Вышэйшага ваенна-марскога вучылішча імя М. В. Фрунзе (цяпер Марскі корпус Пятра Вялікага — Санкт-Пецярбургскі ваенна-марскі інстытут). На пасадзе начальніка і служыў ваенна-марскі навуковец да 2001 года. Тады зволіўся са службы ў званні капітана I рангу. У тым жа годзе быў адзначаны ганаровым званнем «Заслужаны ваенны спецыяліст Расійскай Федэрацыі». У 1998 годзе яшчэ адна падзея ў жыцці нашага земляка — Мікалай Сяргеевіч абараняе дысертацыю «Сілавы механізм дзяржавы і грамадства (палітыка-сацыялагічны аналіз)» на годнасць доктара палітычных навук.

Абараняе доктарскую дысертацыю, між іншым, на філасофскім факультэце цяпер ужо Санкт-Пецярбургскага універсітэта. З 2001 года Мікалай Лабуш — прафесар кафедры міжнароднай журналістыкі ва універсітэце, які і яго вывеў на шырокія навуковыя прасторы. Распрацаваў і чытае Мікалай Сяргеевіч аўтарскія курсы па праблемах інфармацыйнай і нацыянальнай бяспекі, масмедыйных тэхналогій, рэгулявання палітычных канфліктаў. Вучоны ўвайшоў у склад спецыялізаваных саветаў па прысуджэнні вучоных ступеняў журналісцкага, сацыяльна-палітычнага і педагагічнага профілю. Пад яго кіраўніцтвам ажыццяўляюцца работы па напісанні дыпломных сачыненняў і дысертацыйных даследаванняў аспірантамі і студэнтамі філасофскага факультэта і факультэта журналістыкі. Чытае Мікалай Сяргеевіч спецыяльныя дысцыпліны таксама ў Санкт-Пецярбургскім ваенна-марскім інстытуце, у філіяле Расійскага гуманітарнага дзяржаўнага універсітэта. Акрамя таго, Мікалай Сяргеевіч — прафесар кафедры канфліктагогіі філасофскага факультэта СпбДУ, дзе кіруе магістэрскай праграмай «Палітычная канфліктагогія», распрацоўвае і чытае спецкурсы. Наўздзіў багатая і шматаблічная творчая прастора ў нашага земляка!..

Хаця сам вучоны лічыць іначай. Неаднойчы чуў ад Мікалая Сяргеевіча:

— У навуцы мая біяграфія не такая важкая, як здаецца па афіцыйных званнях…

Канечне ж, толькі сціпласць прымушае вучонага так гаварыць. І навуковыя ступені, і тысячы гадзін выкладчыцкай работы, і сотні публікацый — усё гэта гаворыць толькі на карысць вялікага творчага плёну. Магчыма, у значнай ступені аснова, фундамент сённяшніх здабыткаў — у тых, 1960-х, школьных гадах… Вось што гаворыць з нагоды такога майго меркавання сам Мікалай Сяргеевіч:

— У 9—10 класе школа для мяне і маіх сяброў была домам родным. Пасля ўрокаў (а абедалі ж мы ў школьнай сталовай за 20-25 капеек) — процьма спраў. Рыхтавалі лялечны спектакль (я маляваў дэкарацыі), канцэрт (па суботах не толькі, не проста танцы, а канцэрт з танцамі), КВЗы, афармлялі музей. Арганізоўвалі збор макулатуры і металалому. Выпускалі насценную газету, радыёгазету… Мажліва, з таго часу і прыцягненне да гуманітарнай сферы… Дахаты вярталіся ў 17-18 гадзін. Ды ўрокі ўсё ж паспявалі зрабіць.

…Штогод Мікалай Сяргеевіч наведваецца ў Беларусь, у Пухавічы. Вяртаецца да тых вуліц і завулачкаў, па якіх блукае і там, у Санкт-Пецярбургу. Там — толькі ў думках ці сне. У Беларусі, хаця ўжо колькі гадоў як пайшлі з жыцця маці і бацька, — дзве сястры, брат, родзічы жонкі. За Беларуссю, за тым, што дзеецца ў нас, стараецца сачыць па тэлебачанні. Напрыканцы размовы пытаюся, што заўважна адрознівае Беларусь ад іншай постсавецкай прасторы, якая і цяпер прафесару з «сонечных Пухавіч» добра знаёмая. Вучоны адказвае:

— Адрозненняў шмат. Адразу ж — у параўнанні з Расіяй найперш — кідаецца ў вочы важкі пазітыў: стабільнасць, дэкрыміналізацыя абстаноўкі, добрыя чалавечыя адносіны, захаванне высокіх маральна-этычных нормаў, гістарычных традыцый, догляд і парадак на дарогах, у гарадах, пасёлках… Усё гэта вабіць і не можа не прыцягваць.

## «РУДЗЕНСК ЗРАБІЎ МЯНЕ ПІСЬМЕННІКАМ…»

Быў час, што з дня ў дзень, з раніцы ў раніцу мы сустракаліся з Мікалаем Старадымавым у адным рабочым пакоі. Тысячы кіламетраў, што аддзялялі мяне ад



*Мікалай Старадымаў (злева) з родзічамі ў Хатыні.*

бацькоўскага дому ў Зацітавай Слабадзе, а яго — ад роднай Украіны, дзе жылі блізкія людзі, нікому з нас не здаваліся вялікай адлегласцю. Была адзіная краіна, ніхто не лічыў Ашхабад, Туркменістан, дзе мы з Міколам служылі ў рэдакцыі салдацкай шматтыражкі «За Родину», чужой краінай. Хіба што, адтурбоціўшыся дзень, вярталіся дахаты і праз звычайную будзёншчыну ўспаміналі ў сям'і дом, свае беларускія ці ўкраінскія сцежкі. А пасля зноў — на працу, на палігон, у камандзіроўкі, да герояў сваіх нарысаў, рэпартажаў, карэспандэнцый… І Мікола, і я шмат тады пісалі. Не толькі для роднай салдацкай «дывізіёнкі», але і ў акруговую газету «Фрунзевец», у туркменскія рэспубліканскія газеты і часопісы. Героі жылі побач з намі… Франтавікі, якія вызвалялі Беларусь у Вялікую Айчынную… Афіцэры, якія прайшлі баявую школу ў Афганістане. І сам Мікола прыехаў да нас у калектыў, маючы за плячыма афганскі досвед… Але пра што мы амаль не гаварылі, дык гэта пра Пухавіччыну. Так вось здарылася, што «пухавіцкую» частку біяграфіі свайго туркестанскага таварыша, рускага пісьменніка М. Старадымава, які жыве і працуе цяпер у Маскве, я высвятляю толькі зараз. Так адбылося мо яшчэ і таму, што тады мы былі на самым пачатку літаратурных, журналісцкіх дарог… Ды і таму, што разам служылі ўсё ж не дужа працяглы адрэзак часу. Прыехаў Мікола ў Ашхабад у 1987 годзе. А ўжо ў красавіку 1988 года мяне накіравалі да новага месца вайсковай службы…

Дык што ж яднае майго таварыша з пухавіцкай старонкай?.. Расказвае Мікалай Аляксандравіч: «…У мяне бацька быў афіцэрам. І ранняе дзяцінства маё праходзіла ў гарнізонах. Самыя першыя ўспаміны (мне было паўтара года): танкі ідуць па «танкавай дарозе», зусім недалёка ад нашага дома ў беларускай Мар'інай Горцы… І на футбольнае поле садзіцца верталёт — тады пакуль што дзіўная машына… Адпаведна, і кола зносін было зразумелае — салдаты і афіцэры, бацькавы паплечнікі па службе, іх жонкі, іх дзеці… І таму ў гэтых умовах родзічы маёй маці былі як пэўнае акно ў іншы свет! Дзед Пеця (Пётр Яўсеевіч Лобач) і бабуля Лена (Алена Ігнатаўна Лобач) жылі ў пасёлку Рудзенск, што пад Мінскам. Туды мы з братам прыязджалі на канікулы. Адрас нашых дзядулі і бабулі — вуліца Горкага, дом 22/20. Неяк і жылі мы там цэлы год, калі бацьку перавялі да новага месца службы. А на тым самым новым месцы ў нас не было жылля. Пётр Яўсеевіч Лобач быў надзіва добрым чалавекам. Ласкі асаблівай і сюсюкання мы з братам ад яго не бачылі і не чулі. Але зыходзіла ад дзядулі нейкая асаблівая, прыцягальная дабрыня. Я проста маліўся на дзеда. На ўсё жыццё ён застаўся для мяне незаменным узорам чалавека сумленнага... У традыцыях Беларусі была павага да ветэранаў. І памятаю, што да дзеда ставіліся як да чалавека заслужанага. І торф прывозілі, і дах неяк дапамаглі адрамантаваць, і з сенам для каровы падтрымалі… Бо дзед быў інвалід, прайшоў усю вайну.

Да Вялікай Айчыннай вайны дзед Пеця займаў нейкую пасаду ў сельсавеце. Быў камуністам. Калі пачалася вайна, ніхто і падумаць не мог, што так хутка прыйдзе акупацыя. Каманду на эвакуацыю дзед Пеця атрымаў на трэці ці чацвёрты дзень вайны. Трэба было яму эвакуіраваць калгасны ста-

так кароў. Сваім, зразумела, ходам. Між тым, карова не чалавек, доўга яна хутка ісці не можа. Ёй патрэбен нармальны адпачынак. Прыблізна на трэці дзень эвакуацыі стала зразумела, што далёка адысці не ўдасца. Было прынята рашэнне статак знішчыць. Па законах мірнага часу, канечне ж, дурное і зусім няправільнае рашэнне. Але ж тады была вайна. І, відавочна, кіраваліся логікай: «Каб каровы, іх мяса не засталіся ворагу!..»

Цяпер ужо, з вышыні часу, калі ўспамінаю пра «дзядулеў» калгасны статак 1941 года, перад вачыма ўсплываюць карціны з Афганістана, Чачні… Мне столькі разоў даводзілася бачыць, як паміраe параненая скаціна, альбо заўважаць разварочаных усімі часткамі свайго цела авечак, кароў, коз… Колькі наглядзеўся на гэтых выпадковых ахвяр вайны! Яны траплялі на міны, аказваліся мішэнямі артылерыйскіх абстрэлаў, а здаралася, гінулі таму, што салдаты, якія маяліся ад няма чаго рабіць, абіралі іх мішэнямі!.. Іншы раз у некаторых кароў ці авечак была выразана пячонка ці яшчэ лепшы кавалак, астатняе ж было кінута на спажыву сабакам ці крумкачам…

Пасля няўдалай эвакуацыі мой дзед аказаўся ў партызанскім атрадзе. Позняй восенню захварэў на запаленне лёгкіх. Вывезлі на самалёце на Вялікую Зямлю. Падлячыўся. І ўжо аказаўся ў траншэях абаронцаў Масквы, там, дзе ішлі самыя цяжкія баі. Цікавы знак праз дзесяцігодзі мне падрыхтавала гісторыя. У 1980—1985 гадах я служыў у Кізыл-Арваце (Туркменія) ў 58-й Рослаўльскай мотастралковай дывізіі. Дык вось, адзін з палкоў гэтага злучэння ў час бітвы пад Масквою аказаўся ў акружэнні і амаль цалкам загінуў. Праз лінію фронта прарвалася ўсяго некалькі чалавек. Мой дзед суправаджаў у штаб палка аднаго з акружэнцаў з гэтага палка…

Пасля быў зноў шпіталь. Дзеда хацелі камісаваць. Аднак ён зноў дамогся, каб адправілі на фронт. У 1943 годзе пад Ленінградам патрапіў пад абстрэл нямецкага мінамёта. І тады атрымаў цяжкія знявечанні. Выжыў, ды толькі да канца дзён не працавала ў яго адна рука, застаўся з таго бою з пакалечанай, на адно вуха страціў слых. Вярнуўся дадому пасля вызвалення Беларусі. І, нягледзячы на стан здароўя, амаль да канца жыцця працаваў… Бабуля Лена была проста выдатнай апавядальніцай. У грамадзянскую вайну яна аказалася ў дзіцячым доме. Іншы раз расказвала, як галадалі, як елі што толькі давядзецца… Неяк была ў Башкірыі, знайшлі мёртвага вярблюда, па ім чарвякі поўзаюць, а елі — куды падзенешся… Апавяданні свае пачынала звычайна так: «Фактам дзела…» Гэта ў яе прыказка такая… І кніг чытала. Гавораць, што вясковыя людзі кнігі не чыталі, стэрэатып такі, што ўсе былі непісьменныя. Не, аказваецца, чыталі… Колькі помню — заўсёды працавалі. Агарод трымалі вялікі. За Рудзенскам поле бульбяное. Там і дрэвы пладовыя, кусты ягадныя. Карову трымалі, дзед спрабаваў пчол разводзіць. Толькі нешта ў яго не атрымалася.

Адпаведна, і мы працавалі, калі прыязджалі. Канечне ж, болей бегалі і гулялі (гойсалі, па выказванні бабулі). Але калі што трэба было рабіць, то рабілі. І зямлю капалі, не цаліну, зразумела, а зямлю рыхлую, агародную… І дровы пілілі, калолі, жука каларадскага збіралі, ліпавую квецень… І бульбу капалі, яблыкі-ягады збіралі. З таго часу ў мяне вялікая павага да сельскага люду, які працуе на нас, гараджан. З таго часу пераканаsucceeded, што дабрабыт у вяскоўцаў залежыць ад таго, як яны напрацуюць…»

Пагадзіцеся, дастаткова цікавы ўспамін. Магчыма, стараючыся ў сваёй мастацкай прозе ствараць партрэты нашых сучаснікаў, рускі пісьменнік М. Старадымаў трымае перад вачыма рудзенскіх, пухавіцкіх, мар'інагорскіх руплівіцаў ад зямлі…

Апошні раз Мікалай Аляксандравіч наведваўся ў Рудзенск у 2003 годзе…

У размовах са мною, у лістах, якія даслаў з Масквы, расказвае пра тое, што першыя свае літаратурныя спробы зрабіў менавіта ў Рудзенску, як вучыўся ў чацвёртым класе мясцовай школы. «Тады я пісаў фантастычную аповесць, ішлі першыя палёты ў космас, усе марылі пра прафесію касманаўта, згадвае ён. — І аповесць, наколькі я памятаю, была пабудавана на маіх касмічных фантазіях. Адзін раз на тыдзень я чытаў сваю аповесць у класе. Пэўна, на гадзінах палітінфармацыі ці яшчэ якіх-небудзь выхаваўчых мерапрыемствах… Калі ўжо дарослым прыязджаў у Рудзенск, то шмат хто з маіх сяброў маленства ўспамінаў пра мяне ў звязку з памяццю пра тую фантастычную аповесць… А яшчэ маю цягу да літаратурнай творчасці падтрымлівала ўся бела-

руская, рудзенская радня… Гэта, відаць, на ўзроўні нейкай падсвядомасці і не магло не паўплываць на выбар пісьменніцкай скіраванасці ў маім жыцці…»

А зараз — некаторыя ўдакладненні да жыццёвай і творчай біяграфіі М. Старадымава. Нарадзіўся Мікалай Аляксандравіч 24 лютага 1956 года ў Дрэздэне, дзе бацька служыў у складзе Групы савецкіх войск у Германіі. У 1973 годзе закончыў сярэднюю школу ў Жытоміры. У 1974-м паступіў у Данецкае вышэйшае ваенна-палітычнае вучылішча інжынерных войск і войск сувязі на аддзяленне інжынерных войск. Закончыў навучальную ўстанову з чырвоным дыпломам у 1978 годзе. Быў размеркаваны ў ваенна-будаўнічыя войскі. Прымаў удзел у будаўніцтве дома адпачынку «Русь» і падмаскоўнага цэнтра адпачынку касманаўтаў. Восенню 1980 года накіраваны ў Афганістан. Але ў штабе Чырванасцяжнай Туркестанскай ваеннай акругі ў Ташкенце адбылося пераразмеркаванне — на пасаду карэспандэнта-арганізатара 58-й гвардзейскай мотастралковай дывізіі ў горад Кізыл-Арват (Туркменія). Пасля там жа займаў пасаду адказнага сакратара шматтыражкі. У 1985 годзе яго накіравалі адказным сакратаром газеты «Гвардеец» 5-й гвардзейскай мотастралковай дывізіі ў Афганістан. У 1987 годзе Мікалай Аляксандравіч вярнуўся ў Туркестанскую акругу. Тут, у Ашхабадзе, у рэдакцыі газеты «За Родину», мы з ім сустрэліся і пазнаёміліся. Мікалай актыўна друкаваўся ў туркменскіх газетах і часопісах. Тут пабачылі свет першыя яго мастацкія творы — дзіцячыя апавяданні пра Афганістан у калектыўным зборніку выдавецтва «Магарыф». Сярод знаёмцаў ваеннага журналіста былі туркменскія публіцысты і пісьменнікі Уладзімір Грачоў, Уладзімір Пу, Касым Нурбадаў, Азат Рахманаў, Альберт Палякоўскі, Аляксандр Гоўберг, Худайберды Дзіванкуліеў і інш.

У 1989 годзе маёра М. Старадымава прызначаюць пастаянным карэспандэнтам газеты Чырванасцяжнай Туркестанскай ваеннай акругі «Фрунзевец» (у час Вялікай Айчыннай вайны сярод аўтараў выдання быў народны паэт Беларусі Якуб Колас) па Туркменістане. У 1991 годзе вопытны ваенны газетчык паступае ў Ваенна-палітычную акадэмію імя У. І. Леніна на рэдактарскае аддзяленне. Закончыўшы акадэмію, працуе ў газеце «Красная звезда» — карэспандэнтам, намеснікам рэдактара адзела. У 1998—2001 гг. Старадымаў — супрацоўнік Цэнтра грамадскіх сувязяў ФСБ Расіі. У 2001 годзе Мікалай Аляксандравіч звальняецца ў запас у званні палкоўніка. Па завяршэнні вайсковай кар'еры працуе ў часопісе «Воинское братство», газетах «Континент», «Президент», «Энергетика». Зараз — у часопісе «Боевое братство». Акрамя таго, што ўдзельнічаў у вайне ў Афганістане, — яшчэ і самы непасрэдны сведка і ўдзельнік падзей на Паўночным Каўказе, куды неаднойчы выязджаў у службовыя камандзіроўкі. Узнагароджаны ордэнамі «За службу Радзіме ва Узброеных сілах СССР» III ступені, ордэнам «За ваенныя заслугі», медалём Суворава. Журналісцкая работа Старадымава адзначана прэміяй Саюза журналістаў Расіі за 1995 год у намінацыі «За працу ў гарачых кропках». Старадымаў — лаўрэат літаратурных прэмій імя Аляксандра Грыбаедава і Уладзіміра Карпава, а таксама «Залатое пяро Русі». Аўтар 12 арыгінальных кніг. А гэта раманы і аповесці «Смяротны прысуд», «Кіднепінг па-руску», «Забіць, каб выжыць», «След мсціўца», «Споведзь самазабойцы», «Кроў з душы не змываецца», «Зульфагар», «Браток, пакінь пакурыць!», «Геній смерці»… Некаторыя з іх яшчэ і перавыдаваліся, прыходзілі да чытача і два, і тры, і нават чатыры разы. З нядаўніх кніг — «Баявы дзённік Афганскай вайны». Першая дакументальная аповесць Старадымава была надрукавана ў 1988 у ашхабадскім часопісе «Юность» («Яшлык») — «Тры вайны — і ўсё жыццё», прысвечаная лёсу туркмена, палкоўніка Савецкай Арміі Алі Абасава.

…Такія вось сустрэчы, знаёмствы, адкрыцці. Кожнае з іх прыносіла асалоду. А ў многіх быў і працяг. Калі ўжо дапісваліся гэтыя радкі, складваўся гэты нарыс, удалося адшукаць у Маскве сына Льва Стронгіна — Варлена Львовіча, пісьменніка і акцёра, чалавека, які і сам памятае, дзе радзіма яго бацькі. Зараз мы лістуемся з Варленам Львовічам і дамовіліся нават сустрэцца. Але гэта ўжо, відаць, асобная гісторыя…



Ірына КЛІМКОВІЧ

# МАГІСТРЫ СВАЁЙ СПРАВЫ

***Ужо 25 гадоў у Беларусі ў другую нядзелю чэрвеня штогод адзначаецца Дзень лёгкай прамысловасці. Дзякуючы яе працаўнікам, іх новым тэхналагічным дасягненням і дызайнерскім знаходкам мы маем магчымасць набываць якасныя рэчы айчыннай вытворчасці. У першую чаргу адзенне і абутак. Як ні круці, а сустракаюць нас па адзенні. На прадпрыемствах швачкі, краўцы, шаўцы занятыя пачэснай і патрэбнай для людзей справай — шыюць адзенне і робяць абутак. Наш выгляд залежыць ад іх прафесійнай дасведчанасці і мастацкага густу. Майстрамі не нараджаюцца, імі становяцца. Для гэтага трэба вучыцца і пераймаць досвед у спецыяльных навучальных установах. Падобных у Беларусі нямала. Сёння мы наведаем адну з іх — Мінскі прафесійна-тэхнічны каледж лёгкай прамысловасці.***

***Але спачатку крыху гісторыі.***

## «ЛЮДЗІ ДОБРЫЯ, АСЕЛЫЯ, ПАРАДАК І ЗГОДУ МІЛУЮЧЫЯ...»

Пачынаючы з XIII стагоддзя ў нашай старажытнай дзяржаве — Вялікім княстве Літоўскім — з неверагоднай хуткасцю растуць гарады і мястэчкі, з’яўляюцца буйныя гандлёвыя рынкі, адбываецца бурнае развіццё рамеснай вытворчасці. Ужо ў другой палове XVI ст. большая частка насельніцтва беларускіх гарадоў — рамеснікі і іх сем’і. У тагачасных дакументах згадваецца больш за 100 розных прафесій і спецыяльнасцей. Тады ж рамеснікі аб’ядноўваюцца ў цэхі, іх яшчэ называлі брацтвамі. У цэх звычайна ўваходзіла каля 60—100 рамеснікаў, часцей за ўсё аднаго веравызнання, адной ці блізкіх спецыяльнасцей. Цэхавая сістэма, арганізаваная паводле Магдэбургскага права, абараняла вытворцаў ад канкурэнцыі з боку саматужных і іншагародніх рамеснікаў, пакупнікам і заказчыкам гарантавала якасць гатовых вырабаў.

Старажытны Мінск здавён славіўся працавітымі людзьмі, выдатнымі майстрамі. Помнікі матэрыяльнай культуры, выяўленыя археолагамі падчас раскопак, сведчаць пра высокі ўзровень тагачасных рамеснікаў. У XVI стагоддзі ў Мінску існавалі асобныя цэхі шаўцоў і краўцоў, цэх «рамёслаў кушнерскага, чапніцкага і балтушніцкага». Першы аб’ядноўваў майстроў, якія рабілі абутак. Краўцы шылі адзенне з тканіны, балтушнікі апрацоўвалі скуры, кушняры і чапнікі рабілі з іх адзенне і галаўныя ўборы.

Нягледзячы на розныя спецыяльнасці, паводле якіх рамеснікі аб’ядноўваліся, унутраны лад усіх цэхаў быў прыкладна аднолькавы. У цэх бралі «людзей добрых, аселых, парадак і згоду мілуючых, месту прысеглых». Вышэйшую прыступку іерархічнай лесвіцы ў рамесніцкім брацтве займалі майстры. Яны мелі ва ўласнасці прылады працы і майстэрні, дасканала валодалі прафесіяй. Само слова «майстра» паходзіць ад лацінскага «magister». Так у Старажытным Рыме называлі дасведчаных, таленавітых людзей, якія перадавалі свае веды вучням. Пазней тэрмін «magister» стаў тытулам — навуковай ступенню. Да нас гэтае слова прый-



*Шавецкі варштат, медзярыт пачатку XIX ст.*

шло праз нямецкую мову, дзе яно гучала як «мейстцер», і трансфармавалася ў беларускае «майстра». У цяперашнім разуменні гэта спецыяліст, які дасягнуў вышынь у сваёй прафесіі, яму пад сілу самая складаная праца. Дарэчы, слова «цэх» таксама паходзіць ад нямецкага «zeche», што азначае «знак» або «сцяг». У статуце цэхавага брацтва прадугледжвалася наяўнасць не толькі пячаткі, але і цэхавай харугвы — сцяга. Кожнае брацтва фундавала ў касцёле ці царкве адпаведныя алтары, перад якімі для «братчыкаў» служылі набажэнствы. Са сваімі харугвамі рамеснікі павінны былі браць удзел у святочных хрэсных хадах, урачыстасцях, жалобных працэсіях. Падчас вайны цэх станавіўся атрадам і абараняў уласнай зброяй адведзены яму кавалак гарадскіх умацаванняў.

З ліку майстроў тэрмінам на год выбіраўся кіраўнік цэха — стараста, ці цэхмістр. Да прыкладу, у мінскім цэху шаўцоў выбары праходзілі «на свята рымскае біскупа Мікалая». Цэхавыя прывілеі, грошы і архіў зберагаліся ў скрынцы, якая захоўвалася ў цэхмістра. Пасля новых выбараў яе разам з ключамі і цэхавай пячаткай на сходзе перадавалі новаабранаму цэхмістру. На пячатцы мінскага цэха шаўцоў выява прылад працы: амбуса, капыла і нажа — рантовай зрэзкі. Захавалася цэхавая харугва, што належала мінскім краўцам. З аднаго боку на ёй выявы святых заступнікаў Казьмы і Дзям’яна, а з другога — цэхавыя сімвалы. Мінскі цэх краўцоў аб’ядноўваў і майстроў іншых, сумежных спецыяльнасцей, якія з-за малой колькасці не мелі магчымасці стварыць свае ўласныя арганізацыі. У яго ўваходзілі панчошнікі, суконнікі, пэўны час ткачы і фарберы, якія фарбавалі палатно ці гатовыя вырабы.

Следам за майстрамі ў іерархіі ішлі таварышы, або чаляднікі. Так называліся рамеснікі, якія паспяхова скончылі першасны курс навучання, але не мелі сваіх прылад працы і ўласных майстэрняў. Іх яшчэ называлі малодшымі братамі. Таварыш мусіў быць вольным чалавекам і адпрацаваць у майстра тры гады. Працоўны дзень пачынаўся а пятай гадзіне зранку, з перапынкам на двухгадзінны абед, і цягнуўся да восьмай вечара. На ўсё тое, што чаляднік паспяваў зрабіць пасля азначанага часу, яго гаспадар не прэтэндаваў. Каб быць прынятым у цэх, таварыш пісьмова або вуснымі сведчаннямі мусіў пацвердзіць сваю прафесійную адукацыю і, адпаведна звычаю, выправіцца ў вандроўку для праходжання ў іншагародніх майстроў «таварыскай службы». Вандроўка працягвалася ад аднаго да трох гадоў. Мінчукі, каб набыць досвед, звычайна выпраўляліся ў Вільню, Львоў, Кракаў, Люблін, Варшаву, украінскі Яраслаўль. Да мінскіх майстроў таксама прыязджалі чаляднікі з іншых гарадоў, з-за мяжы. У такім выпадку таварышу дазвалялася ўзяць сабе памочніка ці перакладчыка. Разлік з апошнім ён рабіў са сваёй уласнай кішэні. Для тых, хто па якіх-небудзь прычынах не мог выправіцца ў вандроўку, рабілася выключэнне. Такія таварышы павінны былі выплаціць на карысць цэхавай скрынкі трыццаць злотых. Пасля праходжання «таварыскай службы» як вандроўныя, так і мясцовыя кандыдаты дапускаліся да іспытаў, што праходзілі ў прысутнасці камісіі — майстроў цэха. Старэйшыя браты назіралі за тым, як дыпламанты робяць «штуку». Так звалася «дыпломная праца» на званне майстра. Ад тых, хто вучыўся на шаўца, патрабавалася сшыць колькі пар абутку ў прысутнасці майстроў. У Францыі такая праца мела назву «шэдэўр». У нас жа апроч назвы «штука» ў канцы XVII — пачатку XVIII ст. ужывалася яшчэ і слова «майстэрчык», або «міструшка». Пасля іспытаў таварыш ладзіў застолле для калегаў і атрымліваў званне майстра.

Найніжэйшая прыступка ў цэху — вучні, або «хлопцы». У доме майстра яны былі служкамі, бясплатнымі і бяспраўнымі. Тэрмін вучнёўства ў розных рамёствах складаў ад трох да пяці гадоў. Так, у «шавец-

кую навуку» бралі юнакоў ва ўзросце 14-15 гадоў. За час вучобы хлопец рыхтаваўся да абавязкаў чаляднікa-таварыша. Майстру дазвалялася трымаць толькі аднаго вучня. Той абавязваўся быць паслухмяным, ставіцца да настаўніка з павагай, не спрачацца з ім падчас працы і без дазволу не пакідаць майстра. Калі ж такое здаралася, ніхто з астатніх майстроў не меў права ўзяць такога вучня да сябе на вучобу. Тое ж тычылася і таварышаў. Не ратавалі і ўцёкі ў іншы горад. Следам за ўцекачом слалі цэхавы ліст, каб яму не давалі там ані прытулку, ані працы. Але існаваў законны шлях скараціць тэрмін навучання. Пры добрых поспехах у навуцы «хлопец», які жадаў хутчэй зрабіцца чаляднікам, мог сплаціць у цэхавую скарбонку трыццаць злотых.

Вучні і чаляднікі харчаваліся з аднаго гаршчка ў сям'і майстра. Заробак спрытнага таварыша, як прадугледжвалася статутам 1609 года, мусіў складаць роўна тры літоўскія грошы за тыдзень — не больш і не менш. Гэта кошт адной курыцы-нясушкі, або шасцідзесяці качаноў капусты, ці паловы бочкі свежых агуркоў. Певень, ці качка, або кумпяк каштавалі тады два грошы.

Цэхавыя арганізацыі строга сачылі за якасцю вырабаў, рэгулявалі зносіны паміж сабой, дапамагалі ўдовам і сіротам сваіх памерлых калег. Акрамя таго, цэхі мелі ўласны суд, які разбіраў унутрыцэхавыя правінонасці і спрэчкі, а таксама сваю сістэму законаў і правілаў. Калі хто-небудзь парушаў правілы гандлю альбо вытворчасці (напрыклад, закупляў сыравіну не ў мінскіх купцоў ці не вытрымліваў стандарты якасці), тады вырабы канфіскаваліся і перадаваліся на патрэбы шпіталяў для ўбогіх. Шавец, «каторы на злодзействе альбо... іншым злым і непачцівым учынку быў пайманы», караўся выключэннем з цэха. На яго накладалася забарона ўвогуле займацца рамяством.

Вось так у мінулыя часы ў нашай краіне навучаліся майстэрству вырабу абутку і адзення. Так было раней. А як цяпер становяцца краўцамі і шаўцамі?

## АДЗІНЫ Ў СВАІМ РОДЗЕ

У наш час мінскія майстры па вырабе абутку і рэчаў са скуры, ці, як яны сябе самі называюць, — скургалантарэйшчыкі, таксама займаюць важнае месца ў эканоміцы



*Майстэрня абутніка сёння.*

сталіцы і ўсёй Беларусі. Цяперашні Мінскі прафесійна-тэхнічны каледж лёгкай прамысловасці першапачаткова называўся вучылішчам № 11 абутнікоў. Вучылішча было адчынена на восьмы дзень пасля вызвалення Мінска — 11 ліпеня 1944 года. А ў 1950 годзе навучальная ўстанова злілася з абутковай фабрыкай, тады яна насіла імя Лазара Кагановіча, зрабілася яе структурнай часткай, дзе рыхтавалі прафесійныя фабрычныя кадры. Пазней на аснове той фабрыкі быў створаны магутны канцэрн — Мінскае абутковае аб'яднанне «Прамень», больш вядомае за часамі існавання СССР па сваёй рускамоўнай назве «Луч». Вось ужо 60 гадоў навучальная ўстанова ідзе поруч са сваім галаўным прадпрыемствам. Штогод выпускнікі каледжа папаўняюць шэрагі яго працаўнікоў. Гісторыя абутковай фабрыкі — гэта і гісторыя каледжа.

Першая ў краіне механічная фабрыка па вытворчасці абутку з'явілася ў Мінску ў 1925 годзе. А ўжо ў 1940 годзе па вытворчасці абутку на душу насельніцтва Беларусь выйшла на трэцяе месца ў СССР, саступіўшы толькі РСФСР і Грузіі. Падчас Другой сусветнай вайны прадпрыемствы абутковай прамысловасці былі цалкам разбураны. Таму ў пасляваенны час давялося фактычна наноў ствараць скураную і абутковую прамысловасці.

На працягу шасцідзесяці шасці гадоў, якія існуе навучальная ўстанова, у ёй не мяняўся профіль падрыхтоўкі навучэнцаў, тут заўсёды рыхтавалі абутнікоў і кадры для лёгкай прамысловасці. Сёння каледж забяспечвае тры накірункі — абутковы, скургалантарэйны і швейны. Яго выпускнікі працуюць на прадпрыемствах, якія



*Дырэктар каледжа*
*Святлана Пятроўна Максімовіч.*

ўтварыліся на аснове канцэрна «Прамень»: «Оціка», «Чаўляр», «Сівельга». Чаму так здарылася? Асартымент мяняецца вельмі хутка, а невялікія прадпрыемствы прасцей арыентаваць на запыты пэўнага пакупніка. Супрацоўнічаюць з каледжам і скургалантарэйныя прадпрыемствы: «Галантэя» і «Матыёлі»; швейныя: «Элема», «Грацыя», «Юстына» і «Мілавіца».

На ўзроўні прафесійна-тэхнічнай адукацыі ў каледжы рыхтуюць зацяжчыкаў і зборшчыкаў абутку, кантралёраў вырабаў, паўфабрыкатаў і матэрыялаў; пашыўшчыкаў скураных вырабаў; швачак, тэрмаапрацоўшчыкаў швейных вырабаў, індывідуальных прадпрымальнікаў. Апошнія сем гадоў у навучальнай установе ўведзены і ўзровень сярэдне-спецыяльнай адукацыі. Тыя навучэнцы, якія атрымалі рабочую спецыяльнасць, могуць паступіць на скарочаны тэрмін і атрымаць спецыялізацыю тэхнолагаў вырабаў. Сёлета вырашылі распачаць завочнае навучанне — бюджэтнае і платнае.

Дзяржава клапоціцца і пра тых дзяцей, у якіх ёсць асаблівасці псіхафізічнага развіцця. Ім таксама трэба ўладкавацца ў жыцці, адчуць сябе паўнапраўнымі грамадзянамі. У каледжы навучаецца тры групы дзяцей з асаблівасцямі развіцця. Такія выпускнікі атрымліваюць прафесіі швачак або зборшчыкаў абутку.

Мінскі каледж лёгкай прамысловасці ў сваім родзе адзіны ва ўсёй краіне. Толькі з яго сцен выходзяць тыя, хто стане на паток і будзе выпускаць гатовую прадукцыю. Так, у падобнай па профілі сталічнай навучальнай установе — тэхнікуме-прадпрыемстве тэхналогіі і дызайну ў лёгкай прамысловасці не вядзецца падрыхтоўка па рабочых спецыяльнасцях.

У каледж паступаюць без іспытаў, па конкурсе сярэдняга бала атэстата. Навучэнцы штодзень забяспечаны аднаразовым бясплатным харчаваннем, а сіроты і дзеці з малазабяспечаных сем'яў — трохразовым плюс усялякія сацыяльныя пакеты. Апроч гэтага, усім выпускнікам гарантуюцца працаўладкаванне і добры заробак. Дасягаецца гэта тым, што на вучобу не бяруць лішніх навучэнцаў, выконваюцца заяўкі прадпрыемстваў, куды пасля заканчэння вучобы і пойдуць на працу выхаванцы. Каледж падпісаў дамову на скарочаны тэрмін навучання з Віцебскім дзяржаўным тэхналагічным універсітэтам. Той, хто паспяхова прайшоў узровень сярэдне-спецыяльнай адукацыі ў каледжы, цяпер зможа паступіць адразу на трэці курс універсітэта.

Сёння ў каледжы 20 вучэбных аўдыторый, 2 камп'ютэрныя класы, 4 майстэрні: дзве па вырабе абутку, скургалантарэйная і швейная. У майстэрнях каледжа сучасная тэхніка, якая адпавядае абсталяванню паспяховых прадпрыемстваў лёгкай прамысловасці.

Плённая праца каледжа немагчымая без адданай працы педагогаў. А працуюць тут дасведчаныя майстры і выкладчыкі.

## ВЯНОК ПОСПЕХАЎ І ДАСЯГНЕННЯЎ

Праца педагагічнага калектыву каледжа лёгкай прамысловасці заўсёды грунтавалася на добрых традыцыях, закладзеных яго заснавальнікамі. З улікам сучасных патрабаванняў працягвае іх і цяперашні дырэктар каледжа **Святлана Пятроўна Максімовіч**. Нягледзячы на тое, што пасаду яна займае ўсяго паўтара года, Святлана Пятроўна спецыфіку лёгкай прамысловасці ведае дасканала, працуе ў сістэме прафтэхадукацыі з 1983 года. Яна прайшла прафесійны шлях ад навучэнца 11-га вучылішча тэкстыльшчыкаў на камвольным камбінаце да дырэктара каледжа. А паміж былі і дваццацітрохгадовая праца ў родным 11-м вучылішчы, і вучоба ў тэхнікуме лёгкай прамысловасці, а потым і ў педуніверсітэце. Святлана Пятроўна ў пачатку свайго прафесійнага росту спецыялізавалася па швейным і тэкстыльным накірунках, але засвоіла потым і абутковы, і скургаланта-

рэйны. Тым больш што арганізацыя сістэмы навучання дзяцей у структуры прафтэхадукацыі ў нашай краіне адзіная.

Дапамагаюць дырэктару ў яе нялёгкай працы і клопатах калегі. За вучэбную працу ў каледжы адказвае **Святлана Уладзіміраўна Шанталусава,** за вучэбна-вытворчую — **Ірына Дзмітрыеўна Чарнільшчыкава**, за вучэбна-выхаваўчую — **Тамара Міхайлаўна Луцук**.

Тамара Міхайлаўна, выпускніца філалагічнага факультэта БДУ, працуе тут з 1980 года. Выкладала як рускую мову і літаратуру, так і беларускую, працавала бібліятэкарам. Яе праца не адзін раз адзначалася граматамі і ўзнагародамі, а вучні Тамары Міхайлаўны паспяхова выступалі на рэспубліканскай алімпіядзе па беларускай мове і літаратуры. Тамары Міхайлаўне прыемна, што навучэнцы, іх праблемы, радасці і турботы — усё праходзіць праз яе кабінет. Яна заўсёды ў цэнтры падзей, ніводнае мерапрыемства — ні святочнае, ні паўсядзённае — не адбываецца без яе ўдзелу.

А мерапрыемстваў тут шмат. Так, у самым пачатку навучальнага года, на Дзень настаўніка, ладзіцца конкурс «Залатая восень». Навічкі прапануюць свае першыя працы: мастацкія эскізы і замалёўкі, мадэлі адзення і абутку. Наступны конкурс носіць назву «Зімовыя цуды», ён прысвечаны афармленню інтэр'ера каледжа да Новага года. Фае і калідоры навучальнай установы ўпрыгожваюць цудоўнымі мастацкімі вырабамі навучэнцаў, зробленымі з падручных матэрыялаў. Паўсюль валадарыць дух творчасці і натхнення. Дарэчы, сцены ўстановы на працягу ўсяго года радуюць вока наведвальнікаў, педагогаў і саміх дзяцей цудоўнымі, па-майстэрску зробленымі творамі. Штогод каледж удзельнічае ў рэспубліканскім конкурсе «Беларускі вянок». Навучэнцам прафтэхадукацыі ўсёй краіны штораз задаецца новая тэма, і яны спаборнічаюць у паказе сваіх прафесійных вырабаў. Лепшыя з іх выстаўляюцца ў Рэспубліканскім доме творчасці. Сярод іх нязменна прысутнічаюць працы і навучэнцаў каледжа.

Па ўсім горадзе час ад часу праводзяцца выставы-продажы рэчаў, зробленых рукамі навучэнцаў і іх настаўнікаў — кіраўнікоў гурткоў тэхнічнай творчасці. Такіх гурткоў у каледжы сем. Кожны мае сваю назву і спецыялізацыю. Гэта дапамагае навучэнцам лягчэй авалодаць будучай прафесіяй. Так, у гуртку швейнікаў пад назвай «Шык» ствараюць камплекты абрусаў, упрыгожаных карункамі і машыннай вышыўкай. У другім гуртку займаюцца шыццём з лапікаў. Самі распрацоўваюць і шыюць нескладаныя мадэлі адзення: шорты, блузкі, топікі... Яшчэ ў гуртках вучацца вышываць ручнікі ў нацыянальным стылі. Выкладчык беларускай мовы і літаратуры **Марына Рыгораўна Шкляр** разам са сваімі вучнямі падрыхтавала творчую даследчую працу па беларускіх ручніках, дзе звярнула ўвагу на непаўторныя ўзоры вышыўкі ў розных рэгіёнах Беларусі. Дзякуючы гэтаму даследаванню дзеці пазнаёміліся з асаблівасцямі нацыянальнай вышыўкі, спрабавалі самі аднавіць некаторыя ўзоры. Іх працы ўдзельнічалі ў конкурсе «Беларускі вянок». Лепшай прызнана праца **Яўгеніі Сапегі.** Яна выканала складанае заданне, паказала высокае майстэрства і якасць выканання. У гуртку «Раскройшчык» вучацца раскройваць і апрацоўваць скуру. Кіраўнік гуртка, майстра вытворчага навучання **Зінаіда Сцяпанаўна Ляўко** славіцца тым, што не толькі раскройвае, але і ўласнаручна шые пантофлі, якія на гарадскіх кірмашах карыстаюцца асаблівым попытам. На кірмашах разыходзяцца і вырабы навучэнцаў каледжа: касметычкі, дамскія і дарожныя сумачкі, пляцакі, футаралы для акуляраў, бірулькі для ключоў, вышываныя сурвэткі, пасцельная бялізна. Дарэчы, усе пералічаныя вырабы можна не толькі набыць праз дзяржаўныя прадпрыемствы, установы, але і замовіць прыватным чынам. Дзеці за сваю працу ў гуртках, майстэрнях і падчас праходжання вытворчай практыкі атрымліваюць някепскі заробак, да 700—800 тысяч рублёў. Чвэрць ад заробку ідзе на раз-



*Майстэрня швачак.*



*Гурток «Чараўніца» і ягоныя мадэлі.*

віццё матэрыяльнай базы каледжа, а тры чвэрці застаюцца самім навучэнцам. Так, летась навучальная ўстанова пры дапамозе такой пазабюджэтнай дзейнасці атрымала на свае патрэбы дадатковыя 250 млн. рублёў.

## МАЙСТРЫ XXI СТАГОДДЗЯ

Безумоўна, жыццё каледжа, навучальны і вытворчы працэсы, выставы і конкурсы не маглі б адбыцца ці здзейсніцца, калі б гэтым не апекаваліся майстры вытворчага навучання. Яны — усюдыісныя, без іх нічога не зрушыцца! Дзякуючы ім навучэнцы з першага курса спасцігаюць у майстэрнях каледжа прафесію, вучацца хутка і якасна працаваць. Абутнікі і зборшчыкі абутку засвойваюць нескладаныя аперацыі першага разраду — робяць самыя простыя швы і строчкі, прашываюць вусцілкі, якія потым у абутковых прадпрыемствах устаўляюцца ў чаравікі ці боты. Тыя, хто вучыцца на швачак, ужо ў другім паўгоддзі на першым курсе робяць гатовую прадукцыю: пасцельную бялізну, кухонныя прылады, спецвопратку — тое, што замовіла галаўное прадпрыемства і што закладзена ў тэматычны план навучальнай установы. Скургалантарэйшчыкі на першым курсе вучацца раскройваць і апрацоўваць дэталі сумак, касметычак, футаралаў для акуляраў. На другім курсе навучэнцы каледжа праходзяць вытворчую практыку ўжо непасрэдна на прадпрыемствах, дзе становяцца на паток разам з рабочымі і выконваюць больш складаныя аперацыі другога або трэцяга разраду. На трэцім курсе тэрмін вытворчай практыкі — 22 тыдні. Вучні каледжа трапляюць у тую брыгаду на вытворчасці, у якой будуць працаваць пасля заканчэння вучобы. Тут ім даводзіцца стопрацэнтная норма выпрацоўкі, яны маюць справу з аперацыямі, што адпавядаюць трэцяму або чацвёртаму разраду. І канечне, вытворчая практыка не абыходзіцца без настаўнікаў — майстроў вытворчага навучання. Яны кантралююць працу вучняў, даюць парады, выпраўляюць памылкі.

Без майстроў-настаўнікаў не абыходзяцца і выпускныя іспыты навучэнцаў. Каб паспяхова скончыць каледж і атрымаць някепскі разрад, а калі і самыя высокія — пяты і шосты, будучым спецыялістам трэба зрабіць пробную працу. Да прыкладу, скургалантарэйшчыкам — пашыць сумку. Для гэтага ім даводзіцца выканаць аперацыі, што па складанасці адпавядаюць разрадам ад першага да чацвёртага. Будучы абутнік за пэўны час мусіць выканаць норму — апрацаваць колькі пар абутку. У залежнасці ад мадэлі на выраб адной пары патрабуецца ад 60 да 100 аперацый, а за змену па канвееры можа прайсці да пяці розных мадэляў. Прыёмная камісія, якая складаецца з кіраўнікоў прадпрыемства і каледжа, з майстроў навучальнай установы і вытворчага ўчастка, сочыць за працэсам вырабу або сумкі, або абутку, або за пашывам адзення. Улічваюць і якасць, і прыёмы працы, і скарыстаны час, задаюць пытанні па тэхналогіі і абсталяванні. Нарэшце, выстаўляюць адзнаку, і майстра цэха рэкамендуе прысвоіць навучэнцу той ці іншы разрад. Але гэта яшчэ не ўсё. Пасля пробнай працы трэба яшчэ здаць выпускны кваліфікацыйны іспыт. Выпускнікі пішуць пісьмовую працу па сваёй спецыяльнасці, абараняюць яе, атрымліваюць адзнаку, ім прысвойваецца разрад, і тады яны накіроўваюцца на тое прадпрыемства, дзе праходзілі практыку.

Зразумела, чым вышэйшы разрад надаецца выпускніку каледжа, тым больш гонару і радасці ў ягонага настаўніка — майстра вытворчага навучання. Гэта ж адзнака і яго працы! У гэтым упэўнена старэйшы майстра навучальнай установы **Алена Рыгораўна Шыла**. Яна арганізуе ўсю працу вучэбных майстэрняў. Сама прыйшла сюды вучыцца ў 1977 годзе. Пасля выдатнай вучобы і працы на прадпрыемстве вырашыла стаць майстрам вытворчага навучання. Працавала

загадчыцай аддзялення ўзроўню сярэдне-спецыяльнай і прафесійна-тэхнічнай адукацыі. Да гэтага загадвала майстэрняй па індывідуальным пашыве абутку, якая раней існавала ў сценах навучальнай установы. Намаганнямі Алены Рыгораўны там сабраліся лепшыя абутнікі. Яны маглі зрабіць любы абутак, таму майстэрня была вельмі папулярнай сярод мінчан. Але з-за таго, што пачалі арганізоўвацца механічныя абутковыя прадпрыемствы, майстэрня зрабілася нерэнтабельнай, яе зачынілі. Мінуў час, і стала зразумела, што без майстроў па індывідуальным пашыве абутку не пражывеш. Усім нам даводзілася чуць выраз «нестандартная нага». Як кажуць спецыялісты, дзвюх аднолькавых пар ног не знойдзеш. А машыны, якія цяпер шыюць абутак па камп’ютэрнай праграме, не ўлічваюць анатамічных асаблівасцей. Цяпер Алену Рыгораўну папрасілі аднавіць закінутую справу, зноў вырашылі стварыць майстэрню, дзе б да кожнага кліента ставіліся індывідуальна. Але ж трэба яшчэ выгадаваць адпаведных майстроў. Вось сёлета і набралі спецыяльную групу. Хлопцы і дзяўчаты ўжо заканчваюць першы курс.

У каледжы шмат настаўнікаў, якія працуюць тут даўно. Гэта **Міра Міхайлаўна Бухал**, **Галіна Міхайлаўна Макась**, **Віктар Мікалаевіч Бернацкі**, **Альбіна Яўгеньеўна Маршчакіна**, **Наталля Пятроўна Гумінская**, **Іван Вацлававіч Нефядовіч**, **Марыя Генрыхаўна Андрэева**, **Раіса Канстанцінаўна Вашына**, **Тамара Іванаўна Праліч**, **Ірына Мікалаеўна Івароўская**, **Алена Андрэеўна Лагвіненка**, **Марына Пятроўна Завадская**...

Трыццаць гадоў працуе тут і майстра вытворчага навучання **Вольга Уладзіміраўна Мінькова.** Яе прафесійны досвед і педагагічнае пачуццё дапамаглі выхаваць не адно пакаленне абутнікаў. Сёлета яна прызнана лепшай у сваёй навучальнай установе. Вольга Уладзіміраўна брала ўдзел у складаным і адказным конкурсе «Майстра года», які праводзіцца раз на пяць гадоў, вызначае пераможцу сярод майстроў ПТВ і каледжаў краіны. Конкурс падзяляецца на некалькі этапаў. Першы праводзіцца ў межах асобнай навучальнай установы. Пасля пераможца трапляе на гарадскі конкурс, які таксама складаецца з некалькіх. Цягам конкурсу майстры, а гэта і банкаўскія работнікі, і будаўнікі, і кулінары,



*Прэзентацыя беларускага ручніка.*

і цырульнікі, паказваюць сваё прафесійнае майстэрства, праводзяць майстар-класы, дзеляцца асабістым досведам з калегамі, пацвярджаюць атрыманы раней разрад і званне майстра. Вольга Уладзіміраўна з годнасцю прайшла ўсе этапы спаборніцтваў і пацвердзіла высокі статус майстра XXI стагоддзя. Яна шчыра адданая працы, ганарыцца поспехамі сваіх выхаванцаў і кажа, што прыходзіць у каледж як на свята. Вольга Уладзіміраўна ўпэўнена: дзеці, якія навучаюцца тут, нават тыя, на каго ў школе не звярталі асаблівай увагі, раскрываюць у сценах каледжа свае таленты, рэалізуюць творчыя і прафесійныя здольнасці. Адбываецца гэта, лічыць яна, дзякуючы майстрам, тым людзям, якія працуюць побач з навучэнцамі.

***Праца беларускіх шаўцоў і краўцоў ва ўсе часы дадавала нашаму народу прыгажосці. І хаця шмат змянілася ў плане тэхналогій з XVI ст. да нашых дзён, аднак ранейшым засталося адказнае стаўленне гэтых людзей да вынікаў сваёй працы. І цяпер, і раней, каб стаць сапраўдным майстрам — кваліфікаваным прафесіяналам, які можа сваімі рукамі зрабіць якаснае адзенне і абутак, трэба вучыцца ў такіх самых майстроў, сапраўдных магістраў сваёй справы, якім пад сілу самая складаная праца. Як і раней, сённяшнія «падмайстэр’і», каб атрымаць ганаровае званне і прызнанне ў прафесіі, павінны ў прысутнасці старэйшых майстроў зрабіць «штуку». Майстра заўсёды застаецца майстрам, нягледзячы на час.***

Дар'я ГУШТЫН

# ТУРЫСТЫЧНЫЯ БАГАЦЦІ БЕЛАРУСІ

***Напярэдадні адпачынкаў і летніх вандровак як ніколі хочацца пагаварыць пра турызм у Беларусі. Якія накірункі развіваюцца найлепш? У чым адметнасць нашай краіны? Чаму нам трэба павучыцца ў суседзяў? І як прэзентаваць сябе для турыстаў з усяго свету? Пра гэта і іншае разважаем у праекце «Турыстычная Беларусь».***

## ГОНАР КРАІНЫ — ПРЫРОДА

На карце Беларусі дамінуюць два асноўныя колеры — зялёны і блакітны. Гэта край лясоў і воднай роўнядзі. У Беларусі каля 20 тысяч рэк і 10 тысяч азёр. Хуткасць плыні рэк невысокая. Яны захавалі першародную прыгажосць і хараство. Ціхі плёскат вады і шолах дрэў ствараюць ідэальныя ўмовы для адпачынку ў гармоніі з прыродай. Лясы Беларусі вельмі маляўнічыя. Імі пакрыта каля 36 працэнтаў тэрыторыі. Лес, лес і лес на шматлікія дзесяткі кіламетраў — вось што дзівіць чалавека, які ўпершыню прыехаў у Беларусь. Гонар нашай краіны — нацыянальныя паркі і запаведнікі, кожны з якіх унікальны. Менавіта дзякуючы асаблівасцям прыроды найбольш паспяховым лічыцца экааграгатурызм, які, дарэчы, актыўна развіваецца ў нашай краіне.

## ЭКААГРАТУРЫЗМ

У хуткім часе сельскаму турызму ў Беларусі споўніцца тры гады. Хоць, папраўдзе, у спантаннай форме ён існаваў у нас спрадвеку. Ідэя развіцця сельскага турызму ў Беларусі, можна сказаць, была навідавоку. Нягледзячы на тое, што наша краіна – адзіная ў Еўропе, дзе няма ні мора, ні гор, у нас ёсць значны патэнцыял для развіцця гэтага віда турызму.

Увогуле ў свеце назіраецца зварот ад масавага турызму да больш змястоўных відаў вандровак. На змену тром S (sun, sea, sand — сонца, мора, пясок) прыходзяць тры L (landscape, lore, leisure — пейзаж, традыцыі, вольны час). І тут нашай краіне ёсць што прапанаваць — лірычныя, часта пастаральныя пейзажы, унікальныя нацыянальныя паркі, традыцыйныя рамёствы і здабычы, па-экалагічнаму чыстыя прадукты і, галоўнае, гасціннасць і шчодрасць беларускай душы.

## АСАБЛІВАСЦІ БЕЛАРУСКАЙ СЯДЗІБЫ

Беларускія сельскія сядзібы непаўторныя. Яны не заўсёды дасканалыя, але заўсёды індывідуальныя. Яны адлюстроўваюць густ і характар гаспадара. Больш за 50 сельскіх сядзіб ужо прымаюць турыстаў. Яны ўсе бясконца розныя: старадаўнія, сучасныя, камфортныя і спартанскія.

Ёсць сядзібы-катэджы, якія гатовыя задаволіць самых патрабавальных турыстаў (сядзібы «Над Нёманам», «Прылучкі», «Марцінавы гусак»). Ёсць сядзібы на базе вясковых хат, якія паступова паляпшаюцца і прыстасоўваюцца да новай дзейнасці (сядзібы «Круг сяброў», «Кралова хата»). Ёсць лецішчы адпачынку ў вёсках (сядзібы «Грэчкі», «Вербле», «Омневічы»). Усе яны размешчаны ў вельмі маляўнічых месцах — на берагах вадаёмаў ці ў лесе.

Кожная сядзіба унікальная. Напрыклад, у «Зарачанах», што непадалёк ад Мінска, гаспадары пры аздабленні хат выкарысталі ўсе сямейныя рарытэты. Тут можна ўбачыць і старыя фотаздымкі, і збаны, і тканыя дываны. А ў зале стаіць нямецкае фартэпіяна — фамільная рэліквія. Для гасцей створаны ўсе ўмовы: узімку можна катацца на каньках і лыжах, а ўлетку плаваць і займацца рыбалоўствам.

Аднойчы адчуўшы радасць яднання з прыродай і душэўнасць беларускіх гаспадароў, хочацца вяртацца сюды зноў і зноў. Няважна, які маршрут для вандравання па нашай краіне будзе абраны. Кожная мясціна цікавая па-свойму.

Трэба сказаць, што экааграгатурызм для жыхароў вёсак — гэта дадатковы заробак

і магчымасць палепшыць сваё жыццё. Для мясцовых улад і рэгіёна — прыток дадатковых сродкаў, развіццё інфраструктуры, стварэнне новых працоўных месцаў. Для краіны ў цэлым — магчымасць развіцця турызму за межамі гарадоў, дзе цалкам адсутнічаюць гасцініцы. Ну, а для турыстаў — магчымасць недарагога адпачынку ў экалагічна чыстым асяроддзі.

## А ШТО Ў СУСЕДЗЯЎ?

Мы апошняя краіна ў Еўропе, якая стала на шлях развіцця сельскага турызму. З аднаго боку, гэта добра. Перад намі маса прыкладаў і мадэляў развіцця. З іншага боку — мы апошнія. А значыць, каб дагнаць іншыя краіны, нам трэба працаваць вельмі шмат. Напрыклад, у Літве і Польшчы — а гэтыя краіны нашыя галоўныя канкурэнты ў экаагратурызме — сядзібы маюцца ледзь не ў кожнай вёсцы. Там актыўна развіваюцца веласіпедныя маршруты па ўсёй краіне, таму невялікія хаткі, што раскіданы па ўсім краі, могуць штодзень прымаць турыстаў. Цікава, што хоць знешне гэтыя хаткі вельмі падобныя да старых, але ў іх наладжаны ўсе камунікацыі. І сувязь са знешнім светам праз Інтэрнет працуе бесперапынна. Акрамя таго, маюцца канферэнц-залы, дзе могуць праходзіць семінары, канферэнцыі і трэнінгі. І гэта досыць запатрабавана. Па-ранейшаму балючым застаецца пытанне прыцягнення замежных турыстаў з Еўрасаюза ў беларускія сядзібы. На жаль, сёння віза ў нашу краіну каштуе досыць дорага, у той час як перасякаючы мяжу Літвы ці Польшчы, немец і італьянец не плацяць нічога.

## НАШЫ ТУРЫСТЫ

За адно паўгоддзе Беларусь наведваюць каля 2,67 мільёна замежнікаў. Але большасць прыезджых не карыстаецца паслугамі беларускіх тураператараў, ды і пакінулі грошай замежныя турысты ў нашай краіне на парадак менш, чым у Літве ці Латвіі. Намеснік міністра спорту і турызму Чэслаў Шульга ў інтэрв’ю неаднаразова адзначаў, што трэба ствараць новыя ўмовы для турыстаў, якія прыязджаюць у нашу краіну. Па яго словах, да ўжо традыцыйных аб’ектаў (санаторыяў, прафілакторыяў, баз адпачынку і аграсядзіб) павінны дадацца забаўляльныя курорты з буйнымі гасцінічнымі комплексамі і набярэжнымі. Пакуль жа забаўляльных цэнтраў відавочна недастаткова. Стымулам могуць стаць і трансмежныя туры, якія праходзяць адразу праз некалькі краін, уключаючы Беларусь. Праўда, любыя маштабныя ідэі патрабуюць амбіцыйных фундатараў.

## СТВАРЭННЕ ІМІДЖУ КРАІНЫ

Для прыцягнення замежных турыстаў у Беларусь трэба яшчэ не адзін год працаваць над стварэннем іміджу краіны. Цікава, што зараз спантанна развіваецца маладзёжны турызм. Існуе цэлы накірунак, які называецца каўчсёрфінг. У перакладзе з англійскай мовы гэта значыць адпачынак па абмене. Замежнікі прыязджаюць у Беларусь да людзей, з якімі пазнаёміліся праз Інтэрнет. Гэтым яны эканомяць свае грошы і ва ўдзячнасць запрашаюць да сябе таксама гасцей з усяго свету. Атрымліваецца свайго роду калазварот вандроўнікаў. Даведацца пра Беларусь замежныя турысты могуць таксама дзякуючы новай хвалі посткросінгу, калі беларусы дасылаюць паштоўкі з выявамі сваёй краіны людзям з усяго свету. Вядомая акцыя, калі сотні нашых суайчыннікаў у адзін дзень адправілі паштоўкі ў амерыканскі горад Касцюшка, названы ў гонар нашага славутага земляка, каб пазнаёміць амерыканцаў з еўрапейскай краінай Беларуссю. Як бачым, у развіцці турызму кожны можа зрабіць штосьці добрае. Хтосьці можа аддаць перавагу адпачынку на Свіцязі замест Чорнага мора, а хтосьці — запрасіць да сябе ў аграсядзібу. Галоўнае, каб мы заставаліся гасціннымі і адкрытымі для турыстаў, як тое было спакон вякоў.

► ***ЦІКАВА ВЕДАЦЬ***

## ХТО БОЛЬШ ЗА УСІХ ТРАЦІЦЬ НА ТУРЫЗМ?

***85 мільярдаў долараў — гэта агульная сума грашовых сродкаў, выдаткаваных немцамі на турызм сёлета. Нягледзячы на фінансавы крызіс, немцы не адмаўляюцца ад замежных паездак і не збіраюцца траціць на іх менш грошай, а нават наадварот. Гэта тлумачыцца тым, што падчас фінансавага крызісу больш сіл марнуецца на працу, у выніку чаго чалавек больш схільны да стрэсавых сітуацый і яму неабходна больш адпачываць.***

Алесь МАРЦІНОВІЧ

# ВЫПРАМЕНЬВАЎ СВЯТЛО ДУХОЎНАСЦІ

## ПАМІЖ ДВУХ АГНЁЎ

Адам Дамінікавіч і ўраднік, які суправаджаў Сузіна разам з шасцю казакамі, спадзяваліся, што казах, узяты імі ў якасці праваднікa, дапаможа хутка знайсці тое месца, дзе знаходзілася качэўе султана Бай-Мухамеда Айчувакова. Аднак дарога туды аказалася няблізкай, таму і заняла цэлы дзень. А да ўсяго не абышлося без таго непрадбачанага, што загадзя прыняць пад увагу немагчыма..

Праваднік, як хутка ўпэўніліся, слаба ведаў гэтую мясцовасць, а казахі, якія трапляліся на іх шляху, варожа ставіліся да казакоў, таму не толькі не даводзілася разлічваць на традыцыйную гасціннасць тамашняга люду, гатовага падзяліцца нават з выпадковым падарожнікам самым апошнім, а і часам развітвацца з імі, пракаўтнуўшы горкі кавалак крыўды.

Калі ж у адным з аулаў Адам Дамінікавіч папрасіў кумысу, які ўрачы прапісалі яму піць як адзіны сродак для папраўкі здароўя, казахі, да якіх звярнуўся, робячы выгляд, што ім не хацелася б адмаўляць добраму чалавеку, ды нічога не зробіш — дапамагчы няма ніякай магчымасці, ледзь не ў адзін голас загаласілі:

— Кумыс джок! Джок кумыс!

Сузін паспеў ужо крыху вывучыць казахскую мову, ва ўсякім разе найбольш хадавыя выразы яе ведаў, таму лёгка здагадаўся, пра што ішла гаворка: «Кумысу няма. Няма кумысу». Пасля пачутага толькі ўсміхнуўся. Ды не скептычна, а быццам неяк вінавата з-за таго, што прымусіў гэтых добрых людзей хлусіць — поруч з аулам пасвіліся ўкормленыя кабылы. А яшчэ роспачна сказаў:

— Няма дык няма.

Казахі сарамліва адвялі вочы, ніякавата адчуваў сябе і праваднік, але Адам Дамінікавіч не стаў настойваць на сваім, бо даўно паспеў вывучыць традыцыі мясцовага насельніцтва і ведаў, што калі казахаў хтосьці пакрыўдзіў, марна ўгаворваць, усё адно ніколі не паставяцца да таго з павагай, а часам гэтую затоеную крыўду гатовы перанесці і на ягонага сапляменніка. Да казакоў жа ў іх было менавіта такое стаўленне, бо тыя неаднойчы, выконваючы загад начальства, у стэпе наводзілі парадак, пры гэтым дзейнічаючы ваяўніча, не шкадуючы тых, хто выказваў якое-небудзь непаслушэнства. Падзеі ж апошнім часам разгортваліся так, што рускаму царызму давялося ўмяшацца ў звыклае жыццё качэўнікаў, кіруючыся сваімі захопніцкімі інтарэсамі.

На поўдзень ад так званай Арэнбургскай лініі, куды быў накіраваны ў камандзіроўку Сузін, здаўна качавалі нашчадкі старадаўніх кіргізскіх родаў (кіргізамі ў той час называлі і казахаў), асноўным заняткам якіх з’яўлялася жывёлагадоўля, а паколькі для шматлікіх статкаў патрабавалася вялікая колькасць корму, то і даводзілася пастаянна перамяшчацца з месца на месца. Аднак на змену знаходжання ўплывала не толькі гэта, а і жаданне няўхільна захоўваць традыцыі, што перадаваліся з пакалення ў пакаленне.

Паколькі ў казахскіх ханствах, якія былі невялікімі, але шматлікімі, захавалася кіраванне па родах, дык кожны род альбо аул меў свой шлях перамяшчэння, які штогод праходзіў звычайна з поўначы на поўдзень, а потым — у зваротным накірунку. І так працягвалася не адно стагоддзе, за выключэннем толькі зімовых месяцаў, калі спыняліся там, дзе напаткала сцюжа і маразы. У гліняных зямлянках знаходзіліся да таго часу, пакуль снег не пачынаў раставаць, і тады, сабраўшы свае няхітрыя пажыткі, разам са статкамі рухаліся ў іншае месца.

Казахская народнасць была неаднародная па сваім складзе. У яе ўваходзіла тры групы плямёнаў ці, па-мясцоваму, тры жузы: Старэйшы, Сярэдні і Малодшы — на чале з ханамі, а тыя ажыццяўлялі сваю ўладу праз султанаў. Малодшы жуз якраз і знаходзіўся на тэрыторыі, па якой цяпер рухаўся са сваім суправаджэннем Сузін. Паездку Адама Дамінікавіча і падштурхнулі рапарты султанаў заходняй і сярэдняй часткі гэтага жуза Бай-Мухамеда Айчувакова і Журсупа Нураліева, што паступілі ў жніўні 1832 года ў Пагранічную камісію, у якой Сузін і служыў.

Казахі апынуліся як бы паміж двух агнёў. З аднаго боку яны адчувалі на сабе націск хівійскіх ханаў, а з другога свае пазіцыі імкнулася ўмацаваць Расія, якая паступова распаўсюджвала на гэты край уласныя парадкі, а таму ў 1824 годзе царскі ўрад адмяніў у Малодшым жузе ўладу ханаў і падзяліў яго на тры часткі на чале з султанамі, якія з гэтага моманту былі па сутнасці неабмежаваны ў сваіх дзеяннях, у той жа час як раней улада іх з'яўлялася слабай, бо панавала свайго роду «феадальная дэмакратыя».

Змены, ажыццёўленыя царскім урадам, прывялі і да таго, што быў адхінуты родавы прынцып кіравання. Малодшы жуз падзяліўся на 32 дыстанцыі, на чале якіх ставіліся прызначаныя, а не выбраныя начальнікі, якія знаходзіліся ў падначаленні султанаў, а да кожнага султана прыкамандзіроўваліся па дзвесце казакоў.

Паклапацілася Расія і аб умацаванні паўночна-ўсходняга ўзбярэжжа Каспійскага мора, куды да заліва Мёртвы Култук адправілася экспедыцыя пад кіраўніцтвам падарожніка і прыродазнаўцы Грыгорыя Карэліна. Высадзіўшыся ў Туманных гарах каля скалы Кізілташ, яна, дэталёва абследаваўшы гэтую мясцовасць, прыйшла да высновы, што якраз тут неабходна ўзвесці ўмацаванне, якое і было пабудавана ў 1834 годзе і стала называцца Нова-Аляксандраўскім. Апошняе, безумоўна, выклікала абурэнне ў хівінскага хана, і той, баючыся нападу, нават загадаў узбекам карміць коней для паходу, але хутка астудзіў свой пыл.

Сузін і павінен быў высветліць, як да падобных змен у іхнім жыцці ставяцца самі казахі, а таксама яму важна было ведаць настрой мясцовых султанаў.



*Паплечнікі Адама Сузіна.*

## «БЕЛЫ НЕКТАР» — ЛЕПШЫЯ ЛЕКІ

...— Няма дык няма, — паўтарыў Сузін і лёгкім рыўком апынуўся ў сядле.

Прыкладу Адама Дамінікавіча паследавалі ягоныя спадарожнікі.

Толькі пад вечар, калі паказалася стужка ракі, якую праваднік назваў Чунгуртай, а паглядзеўшы на карту, Сузін упэўніўся, што гэта Утва, а на другім беразе яе пабачылі некалькі аулаў, сумнення не заставалася: падарожжа блізіцца да завяршэння. Пераправіўшыся праз Утву, накіраваліся туды, дзе размяшчаліся белыя юрты казацкіх афіцэраў, якія і знаходзіліся пры султане. Не паспелі павітацца з імі, як убачылі самога Бай-Мухамеда. А што паблізу і сапраўды паказаўся султан, сумнення не заставалася.

Насустрач упэўнена, з пачуццём уласнай годнасці крочыў рослы чалавек, апрануты ў блакітны халат і ў зялёных саф'янавых ботах. Сузін яшчэ паспеў заўважыць, што невялікая барановая шапка ў яго была надзета паверх шаўковай цюбецейкі. Як і не прайшло міма позірку і тое, што гэты чалавек схільны да паўнаты.

Бай-Мухамед някепска размаўляў па-руску. Назваўшы сябе, а таксама таго, хто знаходзіўся з ім поруч — гэта быў султанаў сваяк Махмуд, Бай-Мухамед, — як таго і патрабавалі казахскія звычаі, пачаў падрабязна распытваць падарожнікаў пра іхняе жыццё, аднак мэтай прыезду не цікавіўся, і запрасіў да сябе ў юрту. Калі пад’ехалі да яе, султан, на здзіўленне Сузіна, зноў паціснуў яму руку і павёў туды, дзе для іх абодвух загадзя былі пастаўлены дзве раскладныя табурэткі.

Усеўшыся на адну з іх, а другую прапанаваўшы Адаму Дамінікавічу, Бай-Мухамед зноў пачаў высвятляць некаторыя моманты ягонага жыцця-быцця, робячы гэта тактоўна і ненавязліва, а казахі, размясціўшыся поруч на разасланых дыванах, уважліва іх слухалі, не ўмешваючыся ў размову. Але і гэтым разам гаворка, хоць і працягвалася даўгавата, так і не кранулася тэмы, звязанай з наведваннем Сузіным уладанняў Бай-Мухамеда.

Сам Адам Дамінікавіч таксама пра многае распытваў, аднак не спяшаўся падыходзіць да галоўнага пытання, бо ведаў ужо, што казахі асабліва цэняць таго чалавека, які не навязвае ўласны пункт гледжання, не выстаўляе напаказ тое, што прывяло яго да іх. Пацікавіўся здароўем блізкіх султана і яго самога, тым, як ідуць справы ў жузе. Неўпрыкмет размова зайшла пра надвор’е і шмат пра што іншае, што, на першы погляд, мае агульны характар, а тым не менш так ці інакш уплывае на жыццё чалавека і, пэўна, на ягоны настрой.

Нарэшце Бай-Мухамед запрасіў да сябе ў юрту, што была ўпрыгожана насценным арнаментным лямцам, а дол яе ўсцілалі дываны з таго ж лямцу, на белай паверхні якога вылучаліся вышытыя ўзоры з чорнай і чырвонай шэрсці. А яшчэ насупраць дзвярэй ля сцяны стаяла шмат куфраў, ляжалі падушкі і скураныя матрацы, былі нагрувашчаны розныя цюкі — таксама, відаць, з нейкім багаццем, а магчыма, і тым рыштункам, што спатрэбіцца ў дарозе, калі давядзецца пераязджаць у новае качэўе.

Паспеў заўважыць Адам Дамінікавіч і тое, што справа ад увахода, за палатнянай, крыху адхінутай фіранкай за нечаканымі гасцямі з цікаўнасцю назіраюць жанчына і некалькі дзяўчат, час ад часу «страляючы» ў іхні бок сваімі чорнымі вачыма. Няйначай, гэта была султаніха і яе дочкі, але Бай-Мухамед не стаў прадстаўляць іх, хоць, паводле казахскіх звычаяў, мясцовыя жанчыны маглі паводзіць сябе больш свабодна і не закрывалі пры мужчынах твар, а Сузін палічыў нетактоўным распытваць, хто гэта. Толькі зразумеў, што, бадай, нарэшце настаў час паведаміць Бай-Мухамеду, з якой мэтай ён завітаў у гэтыя краі.

— У мяне, ваша ханская міласць, ёсць даручэнне з Арэнбурга.

Па вачах султана было прыкметна, што яму хочацца як мага хутчэй даведацца, што гэта за даручэнне, але ён стрымаў цікаўнасць і не прамовіў ні слова. Не спяшаўся раскрываць карты і Сузін:

— Думаю, лепш будзе, калі пагаворым пра гэтае даручэнне пасля таго, як я з дарогі крыху адпачну. Самі разумееце — шлях няблізкі, і ўвесь час у сядле. — І зноў паспяшаўся запэўніць султана, наколькі яму прыемна знаёмства з ім, а пасля запытаўся:

— Вы не супраць, калі пажыву некалькі дзён у вашым ауле?

— Калі ласка, — замітусіўся Бай-Мухамед, — заўсёды да вашых паслуг. Дзе вы знойдзеце такое свежае паветра, — адчувалася, што пры гэтым ён не толькі прытрымліваецца казахскага этыкету, а і сапраўды гаворыць шчыра, радуючыся, што напаткаў такога госця.

— Свежае паветра — гэта добра, — пагадзіўся Адам Дамінікавіч, — але ўрачы рэкамендавалі мне папіць кумысу.

Пачуўшы пра кумыс, Бай-Мухамед яшчэ больш ажывіўся:

— Абавязкова будзе кумыс. Колькі пажадаеце.

Паглядзеў на Сузіна з хітраватым прыжмурам сваіх вузкаватых вачэй:

— А вам урач казаў, што лепш за ўсё есці пры лячэнні кумысам?

— Раіў есці найперш свежую бараніну.

— А якую — не казаў?

— Скажу шчыра: я так і не пацікавіўся. Ды бараніна, я думаю, ёсць бараніна...

— Не кажыце так. Не кожная падыдзе, — праявіў дасведчанасць Бай-Мухамед, — але бараніна пазней будзе, пасля таго, як да кумысу прывыкнеце.

— Да кумысу трэба прывыкаць? — здзівіўся Адам Дамінікавіч. — Дык яго я неаднойчы піў...

— Значыць, вам проста пашанцавала. Паверце мне: кумыс, калі ім няўмела карыстацца, і нашкодзіць можа.

— Пра гэта і падумаць не мог.

— Кумыс напачатку шкодны ў вялікай колькасці, таму і трэба праяўляць пры яго ўжыванні пэўную асцярогу.

Бай-Мухамед, відаць, закрануў сваю любімую тэму, таму аб вартасцях кумысу, аб яго прыгатаванні і правільным ужыванні гатовы быў гаварыць бясконца.

Сузін пачаў лавіць сябе на думцы, што гэтая гаворка яму ўжо надакучыла і ён падтрымлівае яе толькі з-за звычайнай ветлівасці. Хацелася крыху папіць кумысу і да вечара паспаць, бо пад вечар, як даведаўся ад свайго субяседніка, павінен прыехаць яго сябра султан Ірцен Каратаеў, у гонар якога будзе наладжаны пышны прыём. Вядома, з удзелам Сузіна.

У гэты момант адзін з цюленгутаў, слуг султана, шчыраваў над налітым у вялікую скураную місу «белым нектарам», як яго называлі казахі. Узяўшы драўляную лыжку, старанна ўзбоўтваў яго, бо за час, калі праходзіла закваска кабылінага малака, сыроватка паспела аддзяліцца ад асноўнай масы. Нарэшце цюленгут з’явіўся перад Адамам Дамінікавічам з падносам, на якім стаяў посуд з кумысам і шклянкі. Напоўніўшы іх, першую паднёс Сузіну, але той не прыгубіў яе, а прапанаваў Бай-Мухамеду. Султану падобны знак павагі спадабаўся, і ён, выпіўшы кумыс, аддаў шклянку Адаму Дамінікавічу:

— Цяпер ваша чарга, мой шаноўны госць.

Сузін з задавальненнем асушыў яе і паглядзеў на султана, не ведаючы, як паводзіць сябе далей. Быў не супраць таго, каб выпіць яшчэ некалькі шклянак, ды яго спыняла папярэджанне, што да кумысу неабходна прывыкаць паступова.

Бай-Мухамед зразумеў прычыну ягонай нерашучасці, усміхнуўся:

— Не бойцеся, гэта такі кумыс, што не нашкодзіць вашаму здароўю.

Узрадаваны Сузін спыніўся толькі пасля таго, як у посудзе не засталося ні кроплі гэтага напітку.

— А цяпер, калі ласка, адпачніце, — нарэшце прапанаваў Бай-Мухамед і загадаў цюленгуту: — Праводзь майго дарагога госця.

Той адвёў яго ў асобную юрту, якая, па ўсім відаць, і выкарыстоўвалася для падобных мэт. Сузін, здарожаны за дзень, прылёг на кашму. Аднак ці то пасцель аказалася для яго нязвыклай, ці то стомленасць прывяла да нервовага перанапружання, заснуў не адразу, як спадзяваўся. Дый спаць доўга не змог, бо быў разбуджаны тым жа цюленгутам, які і праводзіў яго сюды:

— Султан запрашае вас на чай.

Хацелася адмовіцца, але адмовіцца — значыць выказаць непавагу.

Акрамя Бай-Мухамеда на шклянку чаю сабраліся блізкія султану людзі. Але гэты напітак адрозніваўся ад таго, які ён прывык піць. Замест цукру ў чай дабаўлялі густа ўзбітую смятанку і падавалі спецыяльна звараныя ў сале кавалачкі кіслага цеста, якія называліся баурсакі. Падобны напітак яму не асабліва спадабаўся, аднак пастараўся зрабіць выгляд, што п’е яго з задавальненнем, і яшчэ падзякаваў за атрыманую найвялікшую асалоду, пасля чаго Бай-Мухамед застаўся задаволены і паабяцаў, што да вечара яго больш ніхто не патрывожыць.

І слова сваё стрымаў.

## З ДОБРЫМІ ЛЮДЗЬМІ ЗАЎСЁДЫ ХОРАША

Сузіна паклікалі не адразу па прыездзе сябра султана Ірцена Каратаева, якога чакалі, а толькі тады, калі пачынаўся прыём у гонар яго, на які запрасілі і Адама Дамінікавіча. Бай-Мухамед, даючы зразумець, што абодва госці для яго аднолькава шаноўныя, пасадзіў іх поруч з сабой, пры гэтым Каратаеў знаходзіўся справа. Адам Дамінікавіч здзівіўся, калі даведаўся, што ў султанаву юрту пачалі свабодна заходзіць не толькі запрошаныя, а і тыя, хто сам па сабе выказаў падобнае жаданне. Усе яны здароўкаліся з Бай-Мухамедам, пры гэтым паводзячы сябе з султанам як роўныя. Праўда, садзіліся паўкругам, адпаведна свайму сацыяльнаму статусу.

Толькі гэта і нагадвала аб тым, што тыя, хто сабраўся разам, розняцца па маёмасным стане. А вось заходзіць да сябе ў юрту ў час прыёму султан не мог забараніць нікому. Аднак простыя казахі, звяртаючыся да Бай-Мухамеда, называлі яго не па імені, а «таксыр». Калі віталі султана ці за нешта былі яму асабліва ўдзячныя, прыкладалі абедзве рукі да грудзей і прамаўлялі: «Алдзіяр».

Гасцей, як падлічыў Адам Дамінікавіч,




*Тут іх дапытвалі.*

сабралася каля сарака чалавек, таму для абслугоўвання іх запрасілі некалькі цюленгутаў, якія частаванне пачалі з кумысу, што лічыўся самым галоўным не толькі асвяжальным, а і алкагольным напіткам. Падносілі яго ва ўмяшчальных фарфоравых піялах, а з іх ужо налівалі ў шклянкі.

За кумысам падалі моцны чай, адной шклянкі якога ставала, каб атрымаць зарад бадзёрасці. На гэтым выпіўка, калі можна так назваць тое, што адбывалася, скончылася. Перад гасцямі з'явіліся тазы з вадой для мыцця рук. Падобнае было не лішне, бо ўсе збіраліся есці мясныя стравы, а летнім часам ужыванне іх з-за гарачыні выклікае пэўную небяспеку. Асаблівай гігіены патрабаваў бешбармак, што ў перакладзе азначае «пяць пальцаў», а менавіта так называлася спецыяльна падрыхтаванае мяса — вялізныя кавалкі тушы барана, звараныя ў булёне, — а бралася яно для ежы часцей рукамі, якія запускаліся ў агульны посуд.

Частаванне мяснымі стравамі пачалося з нарэзанай тонкімі кавалачкамі пячонкі, адваранай з салам барана. Была таксама сыравэнджаная каўбаса з каніны — так званыя казы, смажанка з той жа пячонкі, лёгкага і мяса, па-мясцоваму — куардак. І толькі пасля гэтага ўсім прапанавалі бешбармак.

Каратаеў як галоўны госць атрымаў галаву, але не стаў яе есці, а, адрэзаўшы вушы, перадаў іх маладым мужчынам. Гэтаксама адразаў і раздаваў невялікія кавалачкі мяса. Да трапезы запрашаліся і госці, якія сядзелі воддаль ад святочнага стала. Бай-Мухамед і Каратаеў у знак павагі не проста частавалі іх, а, калі тыя падпаўзалі на каленях, самі клалі ім мяса ў рот. Паколькі гэта быў надзіва сытны пачастунак, яго запівалі моцным булёнам — саршой, які цюленгуты прынеслі ў аб'ёмных піялах…

Спяшаўся ў адведзеную для яго юрту позна, калі стэп паспела ахіліць сваім крылом прахалода, а на начным небе запаліліся дзесяткі зорак. Падыходзячы да юрты, пастаяў ля ўвахода ў яе некаторы час. Людская гамонка пакрысе сціхла, і неўзабаве ў наваколлі запанавала нейкая надзіва адчувальная цішыня, гатовая цалкам праглынуць, растварыць у сабе ўсё жывое. Яе парушала толькі цвырканне конікаў у траве ды незадаволенасць кабыліц, якія адганялі ад сябе назойлівых жарабят. А след месяца, што выглядаў з-за лёгкіх хмар, здавалася, гатовы быў сарвацца з неба, каб апынуцца ўнізе, там, дзе, не ведаючы людской ласкі, стаяў густы травастой, каб крануцца яго сваім лязом і пачаць жаць сцябліну за сцяблінай. Дзесьці і на радзіме хутка пачнуць наліваццa сокам травы, чакаючы сенакосу.

### ФІЛАМАТ НУМАР ТРЫ

Першы раз пабачыў свет 10 студзеня 1800 года. Маёнтак Кулігоўшчына, які належаў ягоным бацькам капітану Дамініку і Аўгінні Сузіным, знаходзіўся недалёк ад Брэста і адносіўся да Кобрынскага павета Гродзенскай губерні (сёння аднайменны раён на Брэстчыне, а месца былога маёнтка ля вёскі Босяч). Скончыўшы ў 1819 годзе Гродзенскую гімназію, паступіў у Віленскі універсітэт, дзе стаў актыўным філаматам (з'яўляўся сакратаром тайнага зялёнага, інакш — матэматычнага іх саюза).

Паспеў закончыць вучобу і нават атрымаць вучоную ступень магістра філасофіі, як вясной 1823 года пачаўся арышт удзельнікаў гэтага рэвалюцыйнага руху. Сузін не толькі быў сярод першых, хто трапіў за краты, а і праходзіў пад нумарам 3 як адзін з самых небяспечных «дзяржаўных злачынцаў». Адпаведна і пакаранне было суровым і максімальным, што прымянялася на гэтым працэсе. 14 жніўня 1824 года ён быў прыгавораны да ссылкі ў

Арэнбургскую губерню, прытым паўгода павінен быў знаходзіцца ў турме.

Карыстаўся вялікім аўтарытэтам сярод сяброў па змаганні. З павагай да яго ставіўся і Адам Міцкевіч. Праўда, ён скончыў Віленскі універсітэт у год паступлення туды Адама, аднак гэта не перашкодзіла ім знаходзіцца ў прыязных адносінах. Дый Міцкевіч пасля універсітэта, як вядома, настаўнічаў у Коўне, а таму мог часта наведвацца ў Вільню. Удзельнічаючы з 1817 года ў стварэнні і дзейнасці тайных патрыятычных арганізацый філаматаў і філарэтаў, ён не парываў з імі сувязь і падчас настаўніцтва. І таксама трапіў у поле зроку паліцыі, а з лістапада 1823 года па красавік 1824-га знаходзіўся пад арыштам.

Калі іхнія шляхі разышліся (25 кастрычніка 1824 года паэт быў сасланы), Міцкевіч двойчы звяртаўся да вобліку таварыша па барацьбе. Пад уласным прозвішчам філамат нумар 3 праходзіць, па-першае, у трэцяй частцы паэмы «Дзяды», дзе ў ходзе следства сустрэўся са сваімі паплечнікамі, а таксама ў вершы-імправізацыі «Адаму Сузіну». Гэтая частка паэмы пісалася ўжо ў 1832 годзе, а верш з’явіўся ў 1824-м, калі настаў момант развітання.

Паэма неаднойчы друкавалася ў перакладзе на рускую мову, а нядаўна дзякуючы Кастусю Цвірку з’явіўся і яе беларускамоўны варыянт, таму яна добра вядома чытачам, чаго не скажаш пра верш «Адаму Сузіну», што мае падзагаловак «Імправізацыя». Думаецца, яго нялішне прывесці цалкам:

І ты сёння ўспомніўся музе,
Сябар наш любы, наш брат.
Дык п’ём за цябе ўсе мы, Сузін —
Будзь жа здаровы, віват!

Глядзіць ён у вочы ўсім прама,
Творыць у свеце свой свет.
Партрэт гэта, брацці Адама,
Сузіна вабны партрэт.

Яго не пужаюць аковы
І невыцерпнасць пакут.
На ўсё ён быў, Сузін, гатовы
За філарэцкі статут.

Мы ведалі болей за тузін
Смелых у жудасны час,
Ды змог так цярпець толькі Сузін,
Мужны з наймужнейшых у нас.

***(Пераклад Кастуся Цвіркі)***

Трапіў Сузін у турму Орскай крэпасці, якая пры заснаванні ў 1734 годзе называлася Арэнбургскай і знаходзілася ля вытокаў ракі Оры. Пазней крэпасць двойчы пераносілі, пакуль не заклалі на пастаянным месцы. Тая ж, што засталася ля ракі, пачала называцца Орскай, а горад — Орскам, у якім пасля вызвалення з крэпасці Сузін і працягваў адбываць пакаранне, а ў сакавіку 1829 года атрымаў дазвол на пераезд у Арэнбург. Спачатку жыў разам з Занам і атрымаў пасаду пазаштатнага чыноўніка ў Арэнбургскай памежнай камісіі. З’яўляўся некаторы час казначэем, потым быў пераведзены ў архіварыусы. З 1832 года працаваў бухгалтарам.

Восенню 1833 года Адам Дамінікавіч зноў трапіў пад падазрэнне і разам з Занам, Я. Віткевічам і В. Івашкевічам па даносе быў арыштаваны і абвінавачаны ў змове і спробе захопу Арэнбурга пры дапамозе салдат з мясцовага гарнізона, сярод якіх знаходзілася нямала тых, каго ў свой час рэпрэсіравалі і выслалі.

Абвінавачванні Сузіну прад’явілі сур’ёзныя, і пакаранне яго магло чакаць самае строгае, аднак ягоную віну не даказалі, таму неўзабаве вызвалілі з-пад варты, і ён змог працягваць службу на ранейшай пасадзе. А пасля і накіравалі ў камандзіроўку, якая настолькі была багатая на шматлікія назіранні, што Адам Дамінікавіч па ходзе знаёмства з жыццём казахаў пачаў рабіць запісы, якія пазней, у 1871 годзе, апублікаваў у некалькіх нумарах варшаўскага часопіса «Kronika Rodzinna» («Сямейная хроніка»). Гэтыя мемуары Сузіна сталі цікавай крыніцай для вывучэння побыту і традыцый казахаў у першай палове XIX стагоддзя. Багатыя яны і на асабістыя назіранні, што тычацца стасункаў з пэўнымі людзьмі, у першую чаргу з тагачаснымі правіцелямі, а таксама прыцягваюць увагу апісанні прыроды.

## ШТО НІ НАРОД, СВАЯ АДМЕТНАСЦЬ

Назаўтра Сузін сказаў Бай-Мухамеду:

— Я б хацеў пазнаёміцца з насельнікамі іншых аулаў, а яны ж па-руску не разумеюць, — Адам Дамінікавіч усміхнуўся, — я, на жаль, так і не вывучыў дасканала казахскую мову. Таму хачу ў вас папрасіць перакладчыка.

— Будзе перакладчык.

— Але я спачатку пахаджу адзін.

— Як пажадаеце.

Прыхапіў з сабой паходную сумку, узяў планшэты, таму што планаваў сабраць рэдкія, характэрныя менавіта для гэтых мясцін, кветкі і травы для гербарыя. Але доўга адзін не хадзіў, бо зразумеў, што, адмовіўшыся на пэўны час ад перакладчыка, даў прамашку. Як называлася тая ці іншая кветка, трава — сам не ведаў, а казахі, якіх напаткоўваў, патлумачыць не маглі — не даходзіла, пра што пытаецца.

Давялося вяртацца за перакладчыкам. Пасля гэтага справа зрушылася з месца. У сумку Сузіна траплялі ўсё новыя і новыя экземпляры, а заадно шмат размаўляў з мясцовымі насельнікамі. Тыя ж, відаць, таму, што быў адзін, аказаліся гасціннымі, ахвотна запрашалі яго ў свае жыллё, паказвалі розныя рэчы і тлумачылі іх прызначэнне.

Пільную ўвагу звярнуў Адам Дамінікавіч і на апратку казахаў.

Мужчыны ў асноўным насілі шырокія белыя кашулі, карысталіся таксама, у залежнасці ад надвор'я, безрукаўкамі і кафтанамі, а ўніз надзявалі шырокія шаравары. Галовы ж іх пакрывалі спічастыя шапкі з лямцу.

А вось жанчыны, як даведаўся, па сутнасці карысталіся той апраткай, што і султаніха з яе дочкамі: на іх былі каляровыя сукенкі з баваўнянай тканіны, аксамітавыя камізэлькі, а таксама, як і ў мужчын, шаравары — з той толькі розніцай, што калашыны іх не звісалі свабодна, а былі сабраны ля шчыкалаткі. На нагах жа былі ічыгі — мяккія боцікі. Як і знатныя жанчыны, яны значную ўвагу надавалі ўпрыгожванням. Іх галаўныя ўборы, як правіла, заканчваліся пер'ямі філіна. Карысталіся дарагімі пацеркамі, завушніцамі, бранзалетамі.

На працягу некалькіх дзён Сузін знаёміўся з ауламі, размешчанымі ўздоўж ракі Утвы, і іх насельнікамі, папаўняючы свае блакноты запісамі. Гэта былі не толькі занатоўкі аб побыце казахаў, а і асобныя выразы, прыказкі і прымаўкі.

Калі ж Бай-Мухамед разам са сваім аулам і казакамі, якія суправаджалі яго, накіраваўся ў новае качэўе, што знаходзілася далей на паўднёвы ўсход, Адам Дамінікавіч паехаў з імі. Разам пазней перабраліся і ў мясцовасць Булдурты, размешчаную за пятнаццаць кіламетраў ад азёрнага фарпоста памежнай лініі.

Знаходжанне там таксама дазволіла папоўніць свае запісы цікавымі і значнымі назіраннямі. І не толькі пачэрпнутымі асабіста, а і з расказаў тых людзей, якія наведваліся да Бай-Мухамеда. Дый казахі пачалі ахвотна запрашаць Сузіна да сябе.

Аднак нямала дало яму і знаёмства з пісьмаводам султана Мінчырака Багданавым. Татарын па нацыянальнасці, ён не толькі з павагай ставіўся да мясцовага фальклору. Добра ведаючы татарскія і башкірскія песні, якія высока цаніў, быў перакананы, што параўнанне з казахскімі не на карысць ім. А наколькі мілагучныя казахскія песні, Адам Дамінікавіч пераканаўся ў час аднаго з вяселляў, на якое паехаў разам з султанам Манбетам.

Але перш чым пачуць песні, з задавальненнем пазнаёміўся з маладымі. Жаніх расказаў гасцям пра мясцовыя звычаі, звязаныя з пасагам. Як падалося Сузіну, яны былі куды больш дэмакратычнымі, чым у яго на радзіме, бо хоць і патрабавалі немалых выдаткаў, аднак для гэтага адводзіўся значны перыяд. У прыватнасці, згаданы жаніх са сваёй нявестай абручыўся яшчэ сем гадоў назад. Паступова змог выплаціць калым, што складаўся з сарака баранаў, пяці коней, некалькіх кароў і двух вярблюдаў.

Бацька жаніха перад тым, як гуляць вяселле, для сваіх гасцей — султана Манбета і Сузіна — наладзіў яшчэ і асобны прыём. Ён запомніўся Адаму Дамінікавічу найперш тым, што ў гэты час два маладыя казахі па чарзе спявалі, выклікаючы ў прысутных ажыўленне, якое нярэдка заканчвалася смехам. Відаць, яны наладзілі сабой так званы айтыс, калі некалькі атынаў, спаборнічаючы між сабой, лёгка імправізуюць, даючы хуткі і належны вершаваны адказ саперніку. Сузін адзначыў для сябе, што падобны паэтычны паядынак у чымсьці блізкі дыялогам пастухоў у эклогах Вергілія.

А ў час самога вяселля Адам Дамінікавіч адкрыў для сябе ўсё хараство казахскіх музычных інструментаў, ігра на якіх таксама суправаджалася пастаяннымі імправізацыямі, і хоць пра змест іх мог толькі здагадвацца, але атрымліваў задавальненне ад чароўнай музыкі. Назаўтра ж з Манбетам трапіў яшчэ ў адзін аул, дзе ў сувязі з вяселлем ладзіліся спартыўныя спаборніцтвы. Чаго толькі там не пабачыў!

Захапляльнае відовішча выклікала байга — спецыяльныя скачкі на загадзя вызначаны прыз.

Нямала балельшчыкаў сабралася паглядзець на курэс, калі двое сілачоў на працягу доўгага часу імкнуліся адзін аднаго паваліць на зямлю, а ў кожнага з іх знаходзіліся свае прыхільнікі, падбадзёрваючы іх дружнымі воклічамі ці выказваючы незадавальненне, калі нешта не атрымлівалася.

А пачаўся сайыс, як большасць сабралася менавіта ў гэтым месцы, дзе двое седакоў што ёсць моцы спаборнічалі, каму ўдасца ўтрымацца ў сядле.

Нечым падобным на сайыс быў кокпар. Толькі гэтым разам наезнікі не стараліся адзін аднаго зваліць з сядла, а кожны імкнуўся вырваць з рук саперніка забітае казляня.

Любімай жа забаўкай моладзі ў час спаборніцтваў нязменна заставалася гульня «кыз-куу», што ў перакладзе азначае «дагані дзяўчыну». Пачуўшы пра яе, Сузін нават пашкадаваў, што не з'яўляецца ліхім наезнікам, дый узрост ужо немалады, затое разам з іншымі з задавальненнем сачыў, як несліся навыперадкі на конях дзяўчына і юнак.

Калі ёй удавалася абагнаць хлопца, дык біла яго бізуном. Аднак падобнае адбывалася рэдка, хоць дзяўчаты і ўпэўнена трымаліся ў сядле. Юнакі стараліся яшчэ не толькі таму, што, стаўшы пераможанымі, выглядалі ў вачах суайчыннікаў не лепшым чынам. Заахвочвала іх, што той, хто абганяў дзяўчыну, мог прылюдна пацалаваць яе, а сярод наезніц знаходзіліся і такія ганарліўкі, якія ў іншых абставінах нават не падпускалі хлопцаў да сябе. У час «кыз-куу» і з'яўлялася, бадай, адзіная магчымасць дабіцца свайго.

Былі ў Сузіна і іншыя, не менш уражвальныя сустрэчы, але не пра ўсе расказаў. Прынамсі, тое, што прапанаваў у друк, заканчваецца згадкамі пра вяселле, на якім прысутнічаў, пра спаборніцтвы, што адбываліся тады.

## ГОДНАЕ ЖЫЦЦЁ, ГОДНАЕ ЗАВЯРШЭННЕ

Вярнуўшыся ж у Арэнбург, працягваў службу ў Памежнай камісіі, з нецярпеннем чакаючы таго дня, калі можна будзе выехаць з ссылкі. Дазвол атрымаў летам 1837 года. А паколькі асабліва не было куды падавацца, успомніў пра Кароля Хадкевіча, з якім паспеў пасябраваць, а Зан не толькі сябраваў з ім, а і перапісваўся.

Граф Кароль Хадкевіч быў арыштаваны па падазрэнні ва ўдзеле ў паўстанні 1830—1831 гадоў. І хоць гэта не было даказана, ён правёў у Арэнбургскай крэпасці каля 14 месяцаў. Бацька Кароля быў вядомым хімікам, валодаў шэрагам багатых маёнткаў, у тым ліку Турцом пад Наваградкам і часткай Петрыкава, удзельнічаў у паўстанні пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі. Даведаўшыся, што Сузін можа пакінуць месца ссылкі, Кароль Хадкевіч прапанаваў яму прыехаць жыць да сябе ў маёнтак Млынаў на Валыні.

Гэтую прапанову Адам Дамінікавіч прыняў з задальненнем і са студзеня 1838 года ў Млынаве стаў гувернёрам графавых пляменнікаў. Аднак выхаваннем іх займаўся нядоўга, бо 20 ліпеня 1837 года быў зноў арыштаваны.

Сузіна прывезлі ў горад Луцк, што знаходзіўся непадалёку ад Млынава, а адтуль пераправілі ў Кіеўскую крэпасць. Яшчэ праз некаторы час ён паўстаў у Вільні перад следчай камісіяй, створанай па справе падпольнай дэмакратычнай арганізацыі «Саюз польскага народа», на чале якой быў Шымон Канарскі. Хоць камісія ніякіх доказаў віны Адама Дамінікавіча не знайшла, на свабоду ён не быў адпушчаны, а мусіў працягваць сядзець у казематах Кіеўскай крэпасці. Толькі 5 лютага 1839 года быў вызвалены з-пад арышту і адпраўлены ў Млынаў, дзе працягваў знаходзіцца пад паліцэйскім наглядам.

У Млынаве жыў да 1841 года, пасля чаго пераехаў у Вільню, а адтуль — у Варшаву, дзе і памёр 11 снежня 1879 года. Звестак пра ягонае жыццё ў гэты перыяд амаль няма. Нічога канкрэтнага не змог сказаць і Валянцін Грыцкевіч, які па сутнасці першым і вярнуў імя Сузіна з небыцця.

Дый таго, што дайшло да нас, дастаткова, каб гаварыць пра яго не толькі як пра рэвалюцыянера, а і як пра падарожніка, даследчыка-натураліста, а ў пэўнай ступені і этнографа. «Светлаю верай сагрэты» ў лепшае жыццё, ён і сам выпраменьваў святло духоўнасці і вялікай маральнасці.

# ЛІТАРАТУРНЫЯ МЯСЦІНЫ БЕЛАРУСІ*

## КАПЫЛЬСКІ РАЁН

**Вёска Лугавая** (да 1964 г. Свінка) Слабада-Кучынскага сельсавета

**Гурскага Антона** (н. 14.1.1936), беларускага фалькларыста, літаратара, радзіма. Скончыў Мінскі педінстытут (1959). З 1959 г. — у Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Нацыянальнай АН Беларусі. Аўтар кніг «Зімовая паэзія беларусаў» (1980), «З любоўю да народа» (1989), «Тайны народнай песні» (1994), складальнік тамоў збору «Беларуская народная творчасць», зборнікаў фальклору. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1986).

**Гурскага Мікалая** (4.6.1905—5.7.1972), мовазнаўца, асветніка, радзіма. Скончыў Мінскі педінстытут (1937). Настаўнічаў, выкладаў у БДУ, з 1944 — у Мінскім педінстытуце. Аўтар «Параўнальнай граматыкі рускай і беларускай моў» (1962; 2-е выд. 1972). Сааўтар шэрага падручнікаў і дапаможнікаў для сярэдніх і вышэйшых навучальных устаноў.

**Сташэўскага Васіля** (23.3.1895—8.9.1938), пісьменніка, радзіма. Скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю (1914), Мінскі настаўніцкі інстытут (1924). З 1920 г. працаваў сакратаром Нясвіжскага павятовага ваенкамата, загадчыкам беларускага пададдзела Мінскага павятовага аддзела народнай асветы, выкладчыкам, адказным сакратаром літаратурнага аб'яднання «Маладняк» (з 1927) і «Полымя» (з 1929), у 1928—1929 гг. — у газеце «Савецкая Беларусь». Друкаваўся з 1925 г. Выступаў у паэзіі, прозе, драматургіі. Выйшлі зборнікі яго нарысаў «Па сонечным шляху» (1930), «Гаворыць Асінстан...» (1930), «Каласіцца зямля» (1932), аповесці «Пад местачковым месяцам» (1931), «Шуміць Бярэзінка» (1933), п'есы «Архангелы з крэсаў» (1929), «Віхор» (1930). У 1937 г. незаконна арыштаваны і прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Рэабілітаваны 8 чэрвеня 1957 г.

**Вёска Мурыны,** да 1961 г. у Капыльскім сельсавеце

**Дубовіка Міколы** (28.7.1905—30.10.1928), паэта, радзіма. З беднай сялянскай сям'і. У 1923 г. скончыў агульнаадукацыйныя курсы і паступіў у БДУ. Некалькі разоў даводзілася кідаць вучобу, таму ён доўга заставаўся студэнтам 2-га курса. Затым служыў у Чырвонай Арміі. У час купання з ротай студэнтаў-чырвонаармейцаў у Бярэзіне пад Бабруйскам утапіўся. Пахаваны на брацкім могільніку бліз Бабруйска. Друкаваўся з 1925 г. Аўтар паэтычных твораў у часопісах.

**Вёска Пясочнае** Слабада-Кучынскага сельсавета

**Астрэйкі Анатоля** [у сапр. Астрэйкі Акіма; псеўд. Сымон Баравы, Анатоль Востры, Рыгор Вядомы, Рыгор Жорсткі, Я. Зорны, Якім Зорны, Якім Пясоцкі, крыпт. П.; 11(24).7.1911—23.8.1978], паэта, перакладчыка, радзіма. Нарадзіўся ў беднай сялянскай сям'і. Скончыў Пясоцкую сямігодку, двухгадовыя курсы пры Мінскім белпедтэхнікуме (1930). У 1930—1932 гг. працаваў у газеце «Чырвоная Полаччына». У 1932—1934 гг. вучыўся на

* Працяг. Пачатак у № 10—12 за 2007 г., № 1—12 за 2008 г., № 1—10, 12 за 2009 г., № 1—5 за 2010 г.

літфаку Мінскага педінстытута. Да Вялікай Айчыннай вайны працаваў у рэдакцыях раённых газет «Ленінскі прызыў» (Орша), «Ленінскі шлях» (Горкі), у рэспубліканскіх часопісах «Калгаснік Беларусі», «Напагатове», газеце «Літаратура і мастацтва», выкладаў на рабфаку пры Горацкай сельгасакадэміі. Друкаваўся з 1928 г. Першы зборнік — «Слава жыццю» (1940). У час Вялікай Айчыннай вайны — адказны сакратар сатырычнай газеты-плаката «Раздавім фашысцкую гадзіну». Двойчы (1942 і 1943) па заданню БШПР накіроўваўся ў варожы тыл. У 1943 г. друкарня падпольнай слуцкай газеты «Народны мсцівец» надрукавала зборнік вершаў Астрэйкі «Слуцкі пояс» (перавыд. 1964). У 1946—1948 гг. — старшыня Гродзенскага аддзялення СП БССР, затым адказны сакратар часопіса «Вожык». Пасля вайны выйшлі зборнікі «Крамлёўскія зоры» (1945), «Добры дзень» (1948), «Зямля мая» (1952), «Песня дружбы» (1956), «Сэрца насцеж» (1965), «Цвіціце, верасы» (1975), «Ураджай цяпла» (1978), Зямная Случчына» (1977), «Памяць дарог» (1980). На словы Астрэйкі напісаны папулярныя песні «Ой бацька мой, Нёман», «Песня пра Заслонава», «Шоўкавыя травы», «Песня мінаеўцаў». Аўтар твораў для дзяцей («Прыгоды дзеда Міхеда», 1956, дап. выд. 1959) і інш. Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках. Родныя мясціны паэт апявае ў шэрагу вершаў, сярод якіх — «Я родам з-пад Капыля», «Усё мне тут дарага», «Родны край», «У родных мясцінах». З верша «Край мой родны»:

Куток мой мілы, край мой родны,
Маё жыццё і мой ты шлях!
Якая дзіўная лагоднасць
На рэках і тваіх палях.

**Русака Адама** (24.5.1904—21.3.1987), паэта-песенніка, радзіма. У 1914 г. скончыў мясцовую пачатковую школу. Выпускнік Ленінградскай кансерваторыі (1934). Працаваў салістам аркестра Ленінградскага Малога опернага тэатра (1932—1949), Беларускай дзяржаўнай філармоніі (1949—1959). З 1959 г. — пенсіянер рэспубліканскага значэння. Друкаваўся з 1927 г. Першы зборнік — «На родных палетках» (падрыхтаваны ў 1940, выдадзены ў 1946). Аўтар кніг «Песні і вершы» (1951), «Песні» (1954), «Пад голас баяна» (1957), «Толькі з табою» (1960), «Звонкія крыніцы» (1965), «Закрасуйся, Нёман» (1978), «Засцілайце сталы» (1984), «Дружбакі» (1987), «Песні на словы А. Русака» (1980), кніг вершаў для дзяцей «У Буслаўцы» (1967), «Добра ведаю ўрок» (1981). Аўтар вядомых песень «Бывайце здаровы», «Бульба», «Лясная песня», «Мой край», «Толькі з табою», «Люблю лугі квяцістыя!», «Дзе ты, зорка мая?» і інш. Пахаваны ў роднай вёсцы. Імем паэта названа вуліца, яно ж увекавечана на мемарыяльнай дошцы.

З верша «На радзіме»:

Стой, шафёр, спыні ты машыну,
Б’ецца сэрца, аж дух заняло...
Выйду я, пастаю тут часіну,
Я ўжо роднае бачу сяло...
Быў разлучан з сялом да адчаю,
Так дарогі ляглі ў жыцці,
А дарога да роднага краю
Не магла для мяне зарасці.
Першы смутак, кахання усмешкі,
Тут звінела мая весялосць,
Я ступіў на юнацкія сцежкі,
Я вярнуўся ў сваю маладосць...

У аўтабіяграфіі паэта (у кн. «Засцілайце сталы». Мінск, 1984. С. 209) чытаем: «З усходняй стараны Пясочнага, на беразе невялікай рачулкі Баранаўкі, на якой стаіць млын, як бы нейкім хвастом працягнулася вуліца. Яе пясочынцы так і празвалі: «Воўчы хвост». На самым канцы гэтай вуліцы ў чужой Хлёркавай хаце і нарадзіўся 24 мая (11 мая старога стылю) 1904 года. Пазней бацька адкупіў гэтую хату ў пясоцкага селяніна Хлёркі».

**Вёска Рулёва**, знішчана фашыстамі разам з жыхарамі. Была ў неіснуючым цяпер Пясочанскім сельсавеце

**Афяроўскага Аляксандра** (н. 1.5.1937), паэта, радзіма. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт (1969). Працаваў на Беларускім тэлебачанні, у Беларускім тэлеграфным агенцтве, Белкаапсаюзе, выдавецтвах «Універсітэцкае», «Юнацтва». Аўтар дакументальнай аповесці «Святло паўночнага ззяння» (1988), зборніка гумару «Ноч з Юзікам» (1994), кнігі вершаў для дзяцей «Заапарк» (1994), раманаў «Двое на тонкім лёдзе» (1998), «Феафанія» (2001), а таксама кніг «Таямніцы народнай медыцыны» (1993), «Яблыка» (1995), рамана «Анэлін хутар» (2007).

**Маёнтак Рымя**, не існуе, цяпер тэрыторыя вёскі Дусаеўшчына Капыльскага сельсавета

**Падгорскага-Аколава Леанарда** (21.12.1891—4.1.1957), польскага паэта і літаратуразнаўца, радзіма. Вучыўся ў Львоўскім універсітэце. У 1912 г. у Львове выйшаў першы зборнік яго паэзіі «Сонечная ўсмешка». З 1922 г. — у Варшаве. Аўтар даследавання «Міцкевічаўскія рэаліі» (т. 1, 1952; т. 2, 1955) пра міцкевічаўскія мясціны ў Беларусі. Родным прасторам прысвяціў зборнік «Беларусь» (Вільня, 1924). Вось радкі з яго ў перакладзе:

Адна мне ўцеха тут — з пагорка
Вачыма ўпіцца не ў Акропаль.
А ў той, што муціць позірк горка, —
У мой, замглелы доллю, Копыль.

**Маёнтак Савічы** Вялікараёўскага сельсавета

Тут гаспадарыў рэфарматар, мецэнат, мемуарыст Эдвард Вайніловіч, ураджэнец в. Сляпянка (цяпер у межах Мінска). Паводле яго ўспамінаў («Наша слова», 2007, 14 лістапада) у Савічах былі архіў і бібліятэка ў 5 тыс. тамоў. Разрабавана ў час рэвалюцыі, знішчана. Савічы апісаны ва ўспамінах Вайніловіча, выдадзеных у 1929 г. у Быдгашчы на польскай мове. Другая частка засталася ў рукапісе, перакладаецца на беларускую мову.

**Вёска Скабін** Капыльскага сельсавета

**Міхальчука Сяргея** (14.8.1925—20.7.1995), пісьменніка, радзіма. Скончыў БДУ (1951). З 1951 г. працаваў у выдавецтвах «Беларусь», «Мастацкая літаратура» (1972—1980). Друкаваўся з 1949 г. Пісаў для дзяцей. Аўтар аповесці «Сто прыгод за адзін дзень» (1963), зборнікаў апавяданняў «Паштальён, шырэй крок!» (1968), «Зялёны лісточак» (1974), «Першы след» (1985). На беларускую мову перакладаў з рускай, польскай, украінскай моў.

**Пасёлак Скіп'ёва** (да 1966 г.) Цімкавіцкага сельсавета

**Бельскі Аляксандр,** паэт, ураджэнец в. *Цімкавічы* гэтага ж раёна, памяці **Чорнага Кузьмы** прысвяціў верш «Скіп'ёўскі лес». У ім ёсць радкі:

П'яніць чабор. І медуніца
Панесла свой гарачы пах.
І сэрца, быццам бы крыніца,
Мацней забілася ў грудзях.
І як усё тут люба, міла,
Дзе нарадзіўся, вырас я.
Шумі ж прыветна, лес Скіп'ёўскі,
Цвіці, як сад, зямля мая!

**Скіп'ёўскі лес**

Сапраўды існуе каля пас. Скіп'ёва. Аб ім пісаў Кузьма Чорны ў сваім рамане «Скіп'ёўскі лес».

***Дзмітрый КРЫВАШЭЙ, Адам МАЛЬДЗІС***

***Працяг у наступным нумары.***